Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР**

**У НУМАРЫ:**

✲

**Вершы Петруся Макаля, Пятра Прыходзькі, Артура Вольскага, Ніла Гілевіча, Юрася Свіркі, Уладзіміра Паўлава, Сяргея Грахоўскага, Язэпа Пушчы, Івана Сіпакова, Лявона Яўменава.**

✲

**Апавяданні Усевалада Краўчанкі, Івана Навуменкі, Васіля Быкава, Івана Пташнікава.**

✲

**Артыкулы Тараса Хадкевіча, Міхаіла Шкляра, Міколы Дастанкі, Міколы Марушкевіча і Уладзіміра Маяровіча, Давіда Фактаровіча, Льва Смілавіцкага, Паўла Кавалёва.**

✲

**Нарысы Янкі Брыля, Сцяпана Кухарава.**

✲

**Выступленні дзеячоў навукі, культуры, камсамольскіх работнікаў.**

**12 (70)**

**Снежань.**

**1958.**

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 12 000 экз. Цана 4 руб.

АТ 08114. Здадзена ў набор 1.XI.58 г. Падпісана да друку 13.XII. 58 г. Заказ 611.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

# НАСУСТРАЧ КАМУНІЗМУ

Пройдзе час, непазнавальна зменіцца аблічча зямлі, іншымі стануць людзі, але вялікія справы чалавека эпохі нараджэння сацыялізма будуць вечна жыць у памяці людзей. І ў далёкім заўтра чалавецтва ўззянні славы будзе заўсёды стаяць гордая і мужная фігура таго, хто стаяў ля калыскі светлае зары жыцця, хто ў баях і працы адваёўваў шчасце простых людзей усяго свету.

З часу векапомных кастрычніцкіх падзей прайшоў 41 год. Выраслі пакаленні людзей, шчасліваму лёсу якіх невядома, што такое эксплуатацыя, бяспраўе, прыгнёт. Наш малады сучаснік прывык да таго, што вечарамі над нашымі гарадамі і сёламі разгараецца зарыва электрычных агнёў, што ў пакоі па вечарах свеціцца экран тэлевізара, што вакол нашай планеты лятае другі Месяц — спадарожнік, пасланы ў сусветную прастору савецкімі людзьмі. Усё гэта для нас проста і звычайна, і нам часам здаецца, што заўсёды было гэтак.

Але не, дарагі сябар. Так было не заўсёды. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі Расійская імперыя ў сваім эканамічным развіцці адставала ад капіталістычных краін на 50—100 год. І мы павінны былі не толькі ліквідаваць гэты разрыў — мы павінны былі ўзяць больш высокія тэмпы развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Тады Савецкі Саюз быў адзінай краінай сацыялізма, і яму трэба было стаць мацнейшым за капіталістычныя краіны. І савецкі народ пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі пачаў вялікую бітву з капіталізмам.

Усёй магутнай індустрыі капіталістычнага свету савецкія людзі маглі супрацьпаставіць тады толькі лапату і тачку ды свае мазолістыя працавітыя рукі, якія толькі што трымалі вінтоўку. Але ў нашых савецкіх людзей была такая перавага, якою не маглі пахваліцца ворагі сацыялізма, — гэта бязмежная, непахісная вера ў будучыню, вера ў перамогу сацыялізма, гатоўнасць аддаць усе свае сілы за перамогу справы Леніна, справы Камуністычнай партыі.

А цяпер, праз сорак адзін год, усяму свету відаць велізарныя поспехі нашай краіны. Нават нашы ворагі з зайздрасцю гавораць пра іх. Былая лапцюжная Русь стала найвялікшай дзяржавай свету — краінай першакласнай індустрыі, перадавой сельскай гаспадаркі, высокай культуры і навукі.

Усё, што намі дасягнута, — гэта толькі адзін з этапаў нашага руху да камунізма. Цяпер савецкі народ знаходзіцца напярэдадні новых гістарычных падзей. 27 студзеня 1959 года ў сталіцы нашай Радзімы Маскве адкрыецца XXI нечарговы з'езд КПСС, які абмяркуе кантрольныя лічбы развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1959—1965 гады. Яны апублікаваны ўжо для ўсенароднага абмеркавання. Дарагі таварыш! Учытайся ў радкі гэтага выдатнага партыйнага дакумента! Лічбы новай сямігодкі — гэта ажыццяўленне шматвяковай мары чалавецтва аб сапраўдным шчасці. Выкананне сямігадовага плана дазволіць нашай прамысловасці і сельскай гаспадарцы вырашыць задачу значнага павышэння жыццёвага ўзроўню працоўных і стварэння ў нашай краіне багацця матэрыяльных каштоўнасцей, неабходных «для забеспячэння **поўнага** дабрабыту і свабоднага **ўсебаковага** развіцця **ўсіх** членаў грамадства» (У. *І.* Ленін). А на працягу бліжэйшых 15 год у нашай краіне, як адзначаецца ў тэзісах даклада М. С. Хрушчова на XXI з'ездзе КПСС, будзе створана матэрыяльна-тэхнічная база камунізма.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі намеціў у 1965 годзе выплаўляць чыгуну 65—70 млн тон, сталі 86—91 млн тон, выпускаць пракату 65—70 млн тон, здабываць таварнай жалезнай руды 150—160 млн тон, давесці здабычу вугалю да 596—609 млн тон, павялічыць выпрацоўку электраэнергіі ў 2—2,2 раза.

Многа гэта ці мала?

Каб адказаць на гэтае пытанне, параўнаем такія лічбы: у 1959—1965 гг. трэба пабудаваць новыя магутнасці па вытворчасці чыгуну на 24—30 млн тон супраць 16,1 млн тон, уведзеных у 1952—1958 гг. і супраць 11,7 млн тон, уведзеных у строй за ўсе гады першай і другой пяцігодак.

Валавая прадукцыя ў галіне вытворчасці сродкаў вытворчасці ўзрасце ў

1965 г. у параўнанні з цяперашняй на 85—88 працэнтаў. Амаль што ўдвая!

Усенароднай задачы стварэння матэрыяльных багаццяў у нашай краіне будзе падпарадкавана і работа працаўнікоў сацыялістычных палёў. Аб'ём валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі намячаецца павялічыць у 1,7 раза. Мы не толькі дагонім Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці мяса, малака і масла на душу насельніцтва, але і перагонім іх.

Новыя гарызонты, новыя далі адкрывае перад табой партыя, дарагі таварыш! За плячамі маладога пакалення нашай краіны — слаўныя традыцыі. Саракагадовы шлях камсамола — гэта шлях працоўнай славы. Даўно пасівелі галовы ў тых камсамольцаў, якія запальвалі першыя агні на берагах Амура, ля Дняпроўскіх парогаў, у катлаванах БелДРЭСа. Сталі здабыткам гісторыі працоўныя подзвігі юнакоў і дзяўчат, якія аднаўлялі разбураную ў гады Вялікай Айчыннай вайны народную гаспадарку краіны, ставілі першыя палаткі ў Сляпянскім бары, дзе цяпер узвышаюцца карпусы Мінскага трактарнага завода, аднаўлялі разбураныя Сталінград і Севастопаль. Старажыламі ўжо называюць і піянераў асваення цаліны.

А цяпер Радзіма зноў кліча на новыя подзвігі.

Безумоўна, цяпер нам лягчэй будаваць, чым раней. Успомніце хаця б, як будаваліся мінскі трактарны і аўтамабільны заводы. Гэта былі аб'екты, якія патрабавалі вялікай увагі з боку ўсёй машынабудаўнічай прамысловасці Савецкага Саюза. З таго часу прайшло не так многа год. Беларускі аўтазавод у Жодзіне вырас неяк проста, непрыкметна, і адтуль ужо выйшлі на дарогі краіны дваццаціпяцітонныя самазвалы — самыя магутныя ў Еўропе. А Васілевіцкая ДРЭС? Увесь свет ведаў аб будаўніцтве Днепрагэса — яго называлі пробным каменем магутнасці Савецкага Саюза. А вось праз 20 з невялікім год у самай глыбіні Палесся ствараецца энергавузел магутнасцю ў многа тысяч кілават. І гэта ўжо лічыцца звычайнай падзеяй на фоне гіганцкага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе.

І ўсё ж, безумоўна, праграма стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма патрабуе самаадданай працы моладзі. Без упартай працы не прыходзіць ніводная перамога. Высокія тэмпы развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі немагчымы без працоўнага энтузіязму, без умення працаваць і жыць па-камуністычнаму.

Працаваць па-камуністычнаму — гэта значыць глядзець на сваю працу з дзяржаўнага пункту погляду, добра ведаць і выконваць даручаную справу, змагацца за эканомію кожнага грама сыравіны, кожнага кілавата энергіі, за зберажэнне кожнага кілаграма збожжа; гэта значыць быць дапытлівым, шукаць шляхоў павышэння прадукцыйнасці працы; гэта значыць быць непрымірымым да недысцыплінаванасці і бескультур'я ў рабоце. Вялікая школа камуністычнага выхавання, якую праходзяць юнакі і дзяўчаты ў камсамоле, дае выдатныя вынікі. Хіба гэта не сапраўды гаспадарскія камуністычныя адносіны да справы — шматтысячныя ўклады маладых станкабудаўнікоў і трактарабудаўнікоў у камсамольскую скарбонку? Зберажэнне адыходаў металу, памяншэнне допускаў пры апрацоўцы дэталей, строгі кантроль за работай электраматораў і многае іншае — гэта ж усё новыя рэзервы вытворчасці.

Здаецца, простай была рацыяналізатарская прапанова камсамольца Мікалая Сакіркіна — прымяніць новыя падшыпнікі да пракатных станаў. А эканомія каляровых металаў ад гэтай рацыяналізатарскай прапановы атрымоўваецца значная — больш чым на 100 тысяч рублёў. Але справа не толькі ў гэтых ста тысячах, не толькі ў тым, што прадпрыемства атрымае дадаткова дэфіцытны матэрыял. Справа ў тым, што Мікалай Сакіркін паказвае прыклад камуністычных адносін да працы. А хіба кожны з камсамольцаў не можа адшукаць на сваім участку работы магчымасці ўнесці свой уклад у агульную справу? Безумоўна, можа! Трэба толькі ясна ўявіць сабе значэнне клопатаў усіх і кожнага пра народнае дабро ды як найлепш вывучыць сваю справу.

Яркія характары, моцныя натуры праяўляюцца ў вялікіх справах. Хто б мог падумаць, што Люба Бельская, простая вясковая дзяўчына з саўгаса «Савічы» Брагінскага раёна, стане гераіняй? Праўда, геройства яе на першы погляд непрыкметнае. Мы прывыклі лічыць героем толькі таго, хто робіць подзвіг, рызыкуючы жыццём. А Люба знайшла месца для подзвігу ў працы. Яна разам са сваімі сяброўкамі вырасціла ўраджай кукурузы па 1 760 цэнтнераў з гектара на плошчы 9 гектараў. Такіх ураджаяў кукурузы не бачылі дасюль у Беларусі — ды і не толькі ў Беларусі! І вырасціць такі ўраджай не вельмі лёгка! «Каралеве палёў» трэба было нямала пакланяцца; ад гэтых паклонаў часам спіну цяжка было разагнуць. Але ж затое якую радасць прынесла праца Любе і яе сяброўкам!

Людзей, якія знайшлі шчасце ў працы, у нашай краіне многа. Але часам здараецца яшчэ сустрэць сярод нашай моладзі белаgive... 



ладзі беларучку, гультая, які цураецца працы. Такі чысцюля пагардліва глядзіць на людзей, якія сваёю працай множаць багацце краіны. І пры першай жа цяжкасці апускае рукі, пачынае ныць і скуголіць. Найлепшы шлях, каб зрабіць такога гультая чалавекам, — гэта праца.

Удзел усёй моладзі ў працы, выхаванне ў падрастаючага пакалення любві да працы — задача вялікай дзяржаўнай важнасці. У праекце тэзісаў па пытанню аб умацаванні школы з жыццём і аб далейшым развіцці сістэмы народнай асветы ў краіне, прынятым на пленуме ЦК КПСС 12 лістапада 1958 года, прадугледжваецца рад важных мер па працоўнаму выхаванню моладзі. Толькі ў агульнай справе на карысць грамадства чалавек набывае сапраўдную жыццёвую загартоўку, і толькі той, хто стварае матэрыяльныя багацці, прыносіць карысць людзям, можа па праву называць сябе грамадзянінам краіны сацыялізма.

Паглядзіце, якія цудоўныя маладыя працаўнікі растуць у Хонаўскай сярэдняй школе Магілёўскага раёна! 500 тысяч рублёў даходу прынесла калгасам у гэтае лета вучнёўская вытворчая брыгада школы!

З кожным днём усё шырэйшым становіцца наш крок у будучыню, усё ясней відаць сонечныя вяршыні камунізма. Дык будзем жа працаваць так, каб з кожным днём, з кожным часам набліжаць гэтую прамяністую будучыню!

Пятрусь **МАКАЛЬ**

## ІЛЬІЧ ПАДПІСВАЕ ДЭКРЭТ

На вуліцах сціхае завіруха,
І снег рыпіць пад ботамі салдат.
А з захаду —
Дакучліва і глуха —
Даносіцца
Хрыпаты гул гармат.
У кабінеце — Ленін.
Ён узрушан.
Якія весткі кожны дзень нясе!
Ён ведае:
Настане час —
І рушаць
Пад сцяг чырвоны пралетары ўсе.
Пакет — распакаваны — на абрусе...
Пачаставаўшы чаем пасланца,
Ён маніфест працоўных Беларусі
Перачытаў яшчэ раз да канца.
— Наш лёс
З Масквою зліты назаўсёды,
Мы ў новы свет
Ідзём плячо к плячу!..
Магутны голас цэлага народа
Чуваць
У кабінеце
Ільічу.
Ён рэзкім рухам адхінае штору,
Імкліва падышоўшы да акна.
І вось ужо далёкая прастора,
Як на далоні,
Леніну відна.
Ён бачыць гарапашніка за вёскай,
Што над сахой



Згінаецца дугой —
Адной нагой ступіўшы на палоску,
Не ведае,
Куды ступіць другой.
І выпрастаўся раптам —
І ступае
Бязбоязна,
Угневаны бядак:
— Стапчу цябе я ўшчэнт,
Мяжа скупая,
Што мне жыццё абгарадзіла так!

І прагай волі запалалі вочы,
І пальцы самі цягнуцца к курку.
І, як салдат узброены,
Рабочы
Працягвае аратаму руку.
... А ў шыбу ўжо зірнуў прамень ласкавы.
І вось Ільіч
Падпісвае дэкрэт.
Аб нараджэнні новае дзяржавы
Даведаецца сёння цэлы свет!

Пятро **ПРЫХОДЗЬКА**

## МАЯ БЕЛАРУСЬ



Мая Беларусь!
Прыдняпроўе, Палессе,
Прасторы шырокіх палёў,
Краіна сардэчнай купалаўскай песні
І пільных салдацкіх пастоў.

Ад хат саламяных да светлых палацаў
Расла ты у працы, ў баях,
Краіна майго залатога юнацтва,
Любімая маці мая.

Люблю твае нівы, бары на світанні,
Ізноў пакланіцца хачу
Тым сцежкам, якімі ішоў на змаганне,
Калі я твой заклік пачуў.

Жылі мы заўсёды вялікім імкненнем,
Адзінаю, дружнай сям'ёй.
Прайшлі праз віхуры байцоў пакаленні,
Ў магутны ўступаючы строй.

Ты ў бітвах цяжкіх нам залечвала раны,
Ад куль засланяла ў бары.
А сёння былыя твае партызаны
У Індыю шлюць трактары.

З мільёнамі ў свеце ты нас парадніла,
Раскрыла нам скарбы зямлі,
Героям дала ты гастэлавы крылы,
Каб вечна з табою жылі.

Мая Беларусь!
Ты — наш гонар і слава,
Наш подзвіг, святло нашых зор.
І вечна мужнець табе ў роднай дзяржаве,
Як роўнай між роўных сясцёр.

Тарас ХАДКЕВІЧ

# КРАСУЙ, БЕЛАРУСЬ!

Беларусь у куце
Ў хаце сваёй села, —
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае смела.

**Я. Купала.** «Безназоўнае».

Чырвоны сцяг з сярпом і молатам, аздоблены нацыянальным арнаментам і зялёнай паласой, горда развяваецца над велічным Домам Урада ў Мінску. Гэта Дзяржаўны сцяг Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, адной з пятнаццаці братніх рэспублік вялікага Савецкага Саюза, сімвал незалежнасці і волі, атрыманай беларускім народам упершыню ў яго шматвяковай гісторыі сорак год таму назад з рук Савецкай улады і Камуністычнай партыі. Сонечнае ззянне гэтага сцяга разліваецца над зямлёй, ад блакітных асвейскіх азёр на поўначы да глыбінь лясного і балоцістага Палесся, ад быстраплыннай ракі Сож на ўсходзе да Заходняга Буга.

Беларусь! Вымаўляючы гэтае роднае слова, мы перш за ўсё ўяўляем яе сённяшняе аблічча. Перад намі ўстаюць гарады, адбудаваныя на руінах і папялішчах, — з прыгожымі, светлымі будынкамі, шырокімі вуліцамі і плошчамі, з карпусамі заводаў і фабрык на ўскраінах, новабудоўлі ў розных кутках рэспублікі, новыя калгасныя сядзібы ў зяляніне садоў, прасторныя палеткі, на якіх ад ранняй вясны да позняй восені гудуць машыны; мы ўяўляем багатую і разнастайную прыроду рэспублікі — з палявымі далямі і густымі ляснымі нетрамі, з хвалістымі ўзгоркамі і нізінамі, з яркім блакітам шматлікіх азёр і рэк, з імклівымі стрэламі дарог і пакручастымі прасёлкамі.

Якой бы парой года мы ні ехалі па Беларусі, — узімку, калі снегавое покрыва скрадвае абрысы ўзгоркаў і лагчын, у марознай смузе ледзь відаць сінеючыя ў далечыні лясы і раскінутыя ў неабдымным снегавым прасторы паселішчы; або ўлетку, калі най-

больш яркай здаецца азёрная і рачная сінява, калі наліваюцца пладамі сады ля калгасных сядзіб, каласяцца жытнёвыя масівы, блакітным морам разліты ў квецені ільны, шумяць пад цёплым ветрам бярозавыя гаі на ўзгорках, — мы заўсёды заўважаем вакол нешта новае, свежае, што радуе позірк і сэрца. Новае ў краявідах, якія змяняюцца ў працэсе пераўтварэння прыроды савецкім чалавекам, у гарадах і вёсках, што адбудоўваюцца і прыгажэюць з году ў год, у саміх людзях, якія ў стваральнай працы набываюць новыя якасці.

Мы бачым сённяшнюю сацыялістычную рэчаіснасць рэспублікі і не можам не думаць, асабліва ў такія ўрачыстыя дні, якія мы перажываем цяпер, адзначаючы слаўнае саракагоддзе Савецкай Беларусі, аб тым, як, якім шляхам, дзякуючы чаму ўсё гэта зроблена і здабыта.

Стагоддзямі гібела Беларусь у цісках сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. Так склаўся яе гістарычны лёс, што рабавалі яе ў даўнія часы чужаземныя і «свае» феадалы; капіталісты і памешчыкі ў эпоху капіталізма няшчадна эксплуатавалі працоўны люд, трымалі яго ў цемры і невуцтве, транжырылі і знішчалі прыродныя багацці; спусташальныя войны праходзілі па гэтай зямлі, наносячы ёй раны, якія ў тых змрочных умовах цяжка было залячыць. І хоць народ ніколі не мірыўся з прыгнётам, гісторыя захавала шмат старонак гераічнай барацьбы супраць прыгнятальнікаў, сілы доўгі час былі няроўныя; вызваленне прышло пазней, калі ўзнік і ўзмацнеў рабочы клас Расіі і створаная вялікім Леніным партыя бальшавікоў павяла працоўных на штурм капіталізма.

Занядбанай ускраінай, паўкалоніяй царскай Расіі, краем лясоў і балот, галечы і жабрацтва была Беларусь у дарэвалюцыйны час. Падарожнікі, якія наведвалі яе ў другой палове мінулага і ў пачатку гэтага стагоддзя, пакінулі нямала запісаў, у якіх выказвалі здзіўленне, а часам і адкрытае абурэнне тым, што ім даводзілася ўбачавідкі бачыць. Адзін з іх пісаў, напрыклад, што ведае шмат «забытых богам» куткоў, але такога закінутага, такога беднага краю, як Беларусь, ён яшчэ не бачыў: другі прыводзіў у запісах такі факт прыніжанасці чалавечай годнасці, які гучыць цяпер як сумны анекдот: праязджаючы глухім Палессем, падарожнік убачыў аброслага валасамі, апранутага ў брудныя лахманы чалавека, што выйшаў на дарогу. «Што ты за чалавек?» — запыталіся ў яго. — «Я не чалавек, я паляшук», — пачуўся адказ.

Наша пакаленне, якое нарадзілася напярэдадні рэвалюцыі або пасля яе, не перанесла, вядома, і не памятае жахаў прыгнёту, што выносілі на сваіх спінах нашы бацькі, дзяды і прадзеды — сяляне-гарапашнікі, бяздольныя батракі ў памешчыкаў і кулакоў, рабочыя гарбарняў, лесапільняў, бровараў, цагельняў, гут і іншых прадпрыемстваў, якія належалі крывасмокам-капіталістам. Але з успамінаў старэйшых, з запісаў відавочнікаў, з літаратурных крыніц мы можам выразна ўявіць, якім цяжкім, змрочным, поўным гора і нягод было ў той далёкі час жыццё працоўнага чалавека ў горадзе і ў вёсцы, якую эксплуатацыю, якое прыніжэнне вымушаны быў цярпець ён і як нарастаў пратэст у масах і часта вырываўся адкрытым змаганнем супраць несправядлівасці.

Мы можам уявіць тагачасную Беларусь з жабрацкімі вёскамі, ад якіх цягнуліся вузкія, парэзаныя быльняговымі межамі, палоскі сялянскай зямлі, з маёнткамі памешчыкаў, што валодалі вялізнымі зямельнымі абшарамі ў тысячы і дзесяткі тысяч гектараў, з захалуснымі гарадамі, дзе цэрквы, касцёлы, карчма замянялі школы і іншыя культурныя ўстановы для народа, з мястэчкамі, што танулі ў непралазнай гразі, з паўсаматужнымі, закурадымленымі прамысловымі прадпрыемствамі. Хапала зямлі ў краіне, але



яна належала не тым, хто на ёй працаваў, і селянін-працаўнік задыхаўся ад беззямелля. Хапала прыродных багаццяў, каб узнімаць эканоміку краіны, але яны знаходзіліся ў руках кучкі эксплуататараў, і тыя па-варварску выкарыстоўвалі іх, гэтыя багацці, для ўласнай нажывы.

Вялікі Кастрычнік адкрыў новую эру ў гісторыі чалавецтва. Рабочы клас Расіі, падтрыманы працоўным сялянствам, пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў першым у свеце скінуў у 1917 годзе ўладу капіталістаў і памешчыкаў. Працоўныя Беларусі плячо ў плячо з рускім рабочым класам змагаліся за перамогу Кастрычніка і грудзьмі адстойвалі яе ад знешняй і ўнутранай контррэвалюцыі. Для беларускага народа, як і для другіх народаў, што насялялі былую Расійскую імперыю, Кастрычнік азначаў карэнны паварот у яго гісторыі — вызваленне ад спрадвечнага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, магчымасць стаць сапраўдным гаспадаром сваёй зямлі і яе багаццяў, будаваць новае, светлае жыццё ў цеснай братняй садружнасці з усімі народамі, вызваленымі рэвалюцыяй.

Кастрычніцкай рэвалюцыі, Савецкай уладзе, мудрай ленінскай нацыянальнай палітыцы Камуністычнай партыі абавязан беларускі народ утварэннем сваёй дзяржаўнасці. Ніякіх іншых шляхоў да самастойнасці і волі ў яго не было. Абвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі 1 студзеня 1919 года з'явілася гістарычнай падзеяй, значэнне якой цяжка ацаніць і ў сэнсе захавання беларусаў як народа, і ў сэнсе ўзняцця іх нацыянальнай годнасці, і ў сэнсе будучыні краіны. Будучыню ж, светлую і шчаслівую, ясна паказвала працоўным і ўпэўнена вяла да яе загартаваная ў баях, узброеная перадавой марксісцка-ленінскай тэорыяй слаўная Камуністычная партыя.

Знішчыўшы эксплуатацыю чалавека чалавекам і нацыянальную няроўнасць паміж народамі, Кастрычніцкая рэвалюцыя разнявоіла скутыя на працягу стагоддзяў такія магутныя творчыя сілы народных мас, аб якіх калісьці маглі толькі марыць лепшыя розумы чалавецтва. Калі працоўны чалавек адчуў, што ён гаспадар свайго жыцця, свайго лёсу, што яму належаць багацці, створаныя яго рукамі, што ўсё, што ён робіць цяпер, робіць для сябе, для такіх жа, як сам, людзей і для шчасця сваіх нашчадкаў, у яго паявілася невычэрпальная энергія, гарачая прага да стваральнай працы, да ведаў, да авалодання вышынямі культуры. А новыя ўмовы жыцця без прыгнёту і прыгнятальнікаў далі ўсе магчымасці для праяўлення самых разнастайных творчых сіл і здольнасцей.

Гэтым якраз у вялікай меры вытлумачваецца той небывала шпаркі рух наперад у развіцці новай, сацыялістычнай эканомікі і культуры, які назіраўся ў краіне Саветаў ад першых жа год пасля перамогі рэвалюцыі, наглядаецца цяпер і які выклікаў і выклікае здзіўленне і зайздрасць нават у лютых ворагаў нашага ладу ў капіталістычным лагеры. Яркім прыкладам таго, што прынесла Савецкая ўлада разняволеным рэвалюцыяй народам і якія перспектывы адкрыла перад імі, з'яўляецца наша Беларусь.

Буржуазныя літаратары прыпісвалі ў свой час беларусу такія рысы, нібыта ўласцівыя яго нацыянальнаму характару, як празмерная мяккасць, пасіўнасць, няздольнасць да рашучых дзеянняў. Яны «забывалі» пры гэтым шматлікія гістарычныя факты барацьбы працоўных Беларусі супраць «сваіх» і чужых прыгнятальнікаў, не заўважалі, што, нягледзячы на шматвяковы жорсткі прыгнёт, беларускі народ захаваў сваю мову, свае звычаі, збярог у народных масах і развіваў асновы нацыянальнай культуры. Сапраўдныя якасці нацыянальнага характару беларусаў — любоў да свабоды, працавітасць, мужнасць, імкненне да перабудовы жыцця на аснове сацыяльнай роўнасці паміж

людзьмі — асабліва ярка праявіліся з перамогай Вялікага Кастрычніка.

Пры дапамозе братніх савецкіх народаў, і ў першую чаргу старэйшага брата — вялікага рускага народа, беларускі народ, ідучы па шляху, паказанаму партыяй, за кароткі прамежак часу ліквідаваў спрадвечную эканамічную адсталасць свайго краю, змяніў аблічча сваёй зямлі, пакрыўшы яе густой сеткай заводаў, фабрык, электрастанцый, вывеў з адсталасці, перабудаваўшы на сацыялістычны лад, сельскую гаспадарку, стварыў новую, сацыялістычную па зместу і нацыянальную па форме культуру. Адышлі ў нябыт жабрацтва, галеча, невуцтва. Роўная сярод роўных у братняй сям'і савецкіх рэспублік, Беларусь ператварылася ў квітнеючую індустрыяльна-калгасную рэспубліку, рэспубліку з высока развітай перадавой культурай.

Але гэтыя поспехі — вынік заваёў Кастрычніцкай рэвалюцыі — працяглы час не былі здабыткамі ўсяго беларускага народа. У Заходняй Беларусі, гвалтоўна захопленай панскай Польшчай у гады грамадзянскай вайны і іншаземнай інтэрвенцыі, дваццаць год яшчэ панавалі тыя ж парадкі, што і ва ўсёй Беларусі да рэвалюцыі: паны і капіталісты бязлітасна рабавалі і прыгняталі працоўны народ. Толькі ў 1939 годзе Заходнюю Беларусь вызваліла з-пад акупацыі гераічная Савецкая Армія. У канцы таго ж года адбылася другая па гістарычнай важнасці пасля ўтварэння БССР падзея ў жыцці Беларусі — уз'яднанне беларускага народа ў адзінай Савецкай сацыялістычнай дзяржаве. З гэтага часу ўсе беларускія землі былі аб'яднаны поўнасцю і назаўсёды пад сцягам БССР.

Пазнаўшы волю, радасць стваральнай працы, з году ў год павышаючы матэрыяльны і культурны ўзровень свайго жыцця, беларускі народ, цесна згуртаваны вакол роднай Камуністычнай партыі, быў гатовы адстойваць свае заваёвы да апошняй кроплі крыві, і калі ў 1941 годзе на Радзіму сацыялізма вераломна напалі гітлераўскія полчышчы, ён разам з другімі братнімі народамі сцяной устаў на барацьбу з захопнікамі. Слава аб самаадданым гераізме беларусаў і на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскіх баях абляцела ўвесь свет. Беларусь, часова захопленая фашысцкімі акупантамі, стала краінай класічнай партызанскай барацьбы: пад нагамі ворага гарэла зямля, ён не знаў тут спакою ні ўзімку, ні ўлетку, ні ўдзень, ні ўначы.

Адгрымела кананада баёў. Савецкая Армія, у якой увасоблены нязломны дух, воля і магутнасць савецкага народа, разграміла фашысцкую навалач, здабыўшы сусветна-гістарычную перамогу. Але цяжкімі і глыбокімі былі раны, нанесеныя нашай Радзіме вайной. Беларусь ляжала ў руінах і папялішчах, фашысцкія акупанты разграбілі, разбурылі, спалілі амаль усё, што стварыў беларускі народ за даваенныя гады. Рэспубліку трэба было адбудоўваць занава, і тут, як і ў даваенны час, як і ў гады вайны, на дапамогу беларускаму народу прышлі братнія народы. Вялікая дружба народаў СССР, створаная і сцэментаваная партыяй, выратавала Беларусь ад закабалення іншаземнымі захопнікамі ў час вайны, яна ж дапамагла Беларусі падняцца з руін і папялішчаў у пасляваенныя гады.

Мы памятаем, як з першых жа дзён вызвалення рэспублікі ад акупантаў расчышчаліся ад руін пляцоўкі для новабудоўляў у гарадах, закладваліся падмуркі новых буйных прадпрыемстваў, будынкаў культурных устаноў, жылых дамоў, як разгортвалася жыллёвае і гаспадарчае будаўніцтва ў разбуранай вёсцы. З розных канцоў савецкай краіны ішлі ў Беларусь эшалоны з металам і вугалем, станкамі і абсталяваннем, будаўнічымі матэрыяламі, прадуктамі харчавання, таварамі першай неабходнасці. У вёску прыбывалі трактары, розны сельскагаспадарчы інвентар, рабочая жывёла. На беларускія будоўлі ехалі партыі спецыялістаў. Лепшыя савецкія архітэктары і інжынеры ўдзельнічалі ў распрацоўцы праектаў аднаўлення і рэканструкцыі беларускіх гарадоў.



Месяц за месяцам, год за годам, штодзённа адчуваючы шчодрую, бескарыслівую дапамогу братніх народаў і нястомныя клопаты Урада і Цэнтральнага Камітэта КПСС, пераадольваючы непазбежныя цяжкасці аднаўленчага перыяду, беларускі народ залечваў раны, якія нанесла рэспубліцы вайна. Не толькі залечваў, аднаўляў разбуранае, але і будаваў занава, ствараў новае, чаго не было раней у Беларусі, — новыя гарады і калгасныя вёскі, новыя прадпрыемствы, новыя галіны прамысловасці, новыя культурныя каштоўнасці. Будаваў і ствараў з такім жа гераізмам, як ваяваў, калі над ім навісла смяртэльная пагроза фашысцкага заняволення. Знявечаная ў вайну Беларусь пераўтваралася нябачанымі тэмпамі.

Цяпер, калі мы святкуем саракагоддзе нашай рэспублікі, мы з гордасцю азіраемся на пройдзены шлях, падсумоўваем нашы сённяшнія здабыткі і са светлай верай і ўпэўненасцю глядзім у будучыню. Мы ганарымся вялізнымі поспехамі, якія дасягнула рэспубліка ва ўсіх галінах эканомікі і культуры і асабліва ў развіцці прамысловасці — асновы асноў эканамічнага ўздыму краіны. Калісьці беларускі паэт Паўлюк Трус у паэме, прысвечанай дзесяцігоддзю Кастрычніцкай рэвалюцыі, з гарачай марай запытваў, звяртаючыся да роднай Беларусі: «Край палёў... О, край, калі ты станеш краем фабрык дымных і мацын?..» Як бы адказваючы на гэта Паўлюку Трусу, сучасны беларускі паэт Кастусь Кірэенка з поўнай падставай піша:

На завіце маю Рэспубліку
Краінай цёмных лясоў!
Паглядзіце —
Над ёю свецяцца
Агні заводскіх карпусоў.

Не завіце маю рэспубліку
Краінай ціхіх далін!
Паслухайце —
Як грымяць над ёй
Галасы магутных турбін.

Лічбы, кажуць звычайна, сумная рэч, але без іх нельга абысціся пры параўнанні таго, што было і што ёсць у нас. Хіба не красамоўным з'яўляецца той факт, што валавая прадукцыя прамысловасці Беларусі ў параўнанні з 1913 годам павялічылася ў 24 разы, у тым ліку буйнай прамысловасці — у 44 разы? Выпрацоўка электраэнергіі ў 1957 годзе вырасла супраць 1913 года ў 805 разоў. Беларусь сёння выпускае 11 працэнтаў агульнасаюзнай колькасці такой важнейшай прадукцыі цяжкай прамысловасці, як металарэжучыя станкі.

Хто з нашых бацькоў мог думаць некалькі дзесяцігоддзяў таму назад, што ў Беларусі будуць вырабляцца аўтамабілі, трактары, матацыклы, складанейшыя станкі, машыны і механізмы, не кажучы ўжо пра вырабы шматлікіх новых галін лёгкай і харчовай прамысловасці! А цяпер прадукцыя аўтамабільнага, трактарнага, мотавеласіпеднага, падшыпнікавага, станкабудаўнічых заводаў і многіх іншых беларускіх прадпрыемстваў шырока вядома далёка за межамі рэспублікі; на яе ёсць вялікі попыт не толькі ў братніх савецкіх рэспубліках, а і ў краінах народнай дэмакратыі і ў некаторых капіталістычных краінах. Многія віды прадукцыі нашых прадпрыемстваў не аднойчы экспанаваліся на міжнародных прамысловых выстаўках.

Непараўнальна вырас рабочы клас Беларусі як у колькасных адносінах, так і ў адносінах кваліфікацыі і разнастайнасці спецыяльнасцей. Прадукцыйнасць працы рабочых — гэты галоўны паказчык перамогі новага грамадскага ладу — узрасла ў параўнанні з 1913 годам, пры значным скарачэнні працоўнага дня, у 9,5 раза. Вырас і атрад тэхнічнай інтэлігенцыі — сёння на адным трактарным заво-

дзе ў Мінску, працуе інжынераў і тэхнікаў больш, чым працавала на ўсіх прадпрыемствах дарэвалюцыйнай Беларусі.

Услед за прамысловасцю дасягае новых поспехаў і сацыялістычная сельская гаспадарка рэспублікі. Беларуская вёска цяпер не нагадвае і блізка старую вёску ні па ўмовах жыцця сялян, ні па матэрыяльнаму дабрабыту, ні па прадукцыйнасці сельскагаспадарчай вытворчасці. Калектыўная праца, забеспячэнне сельскай гаспадаркі разнастайнай тэхнікай, укараненне ў вытворчасць навейшых дасягненняў аграбіялагічнай навукі — усё гэта прынесла вялікія змены ў жыцці вёскі, дазволіла працоўнаму сялянству цвёрда стаць на шлях заможнага і культурнага жыцця. Больш шчодра пачала радзіць рупліва дагледжаная зямля, з году ў год павышаецца прадуктыўнасць грамадскай жывёлагадоўлі, паспяхова развіваюцца падсобныя галіны калгасна-саўгаснай вытворчасці.

Партыя і ўрад у апошнія гады прынялі рад мер па далейшаму крутому ўздыму сельскай гаспадаркі. Ажыццяўленне гэтых мер дало адчувальныя вынікі. Па большасці паказчыкаў як у земляробстве, так і ў жывёлагадоўлі ў рэспубліцы значна пераўзыйдзен даваенны ўзровень. Працаўнікі калгаснай вёскі разгарнулі спаборніцтва за выкананне пастаўленай партыяй баявой задачы — у бліжэйшыя гады дагнаць Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці мяса, малака і масла на душу насельніцтва. Поспехі беларускіх хлебаробаў высока ацэнены ўрадам і партыяй. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 18 студзеня 1958 года 32 перадавікам сельскай гаспадаркі БССР прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы і 4 970 чалавек узнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза.

Выступаючы ў студзені гэтага года на рэспубліканскай нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі ў Мінску, таварыш М. С. Хрушчоў гаварыў: «Цяпер матэрыяльныя ўмовы беларускай вёскі змяніліся карэнным чынам і сталі роўнымі з самымі багатымі абласцямі краіны. Я гэта гавару не ў парадку кампліменту... Калі вы выкарыстаеце ўсе станоўчыя фактары, якія ёсць у Беларусі, то ваша рэспубліка стане адной з самых перадавых па вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў і адной з самых багатых рэспублік нашага вялікага Савецкага Саюза».

Дарэвалюцыйная Беларусь была краінай цемры і бескультур'я; паны, капіталісты, царскія чыноўнікі ўсяляк загароджвалі дарогу народу да ведаў, да асветы. Паводле даных 1913 года, 82 працэнты насельніцтва Беларусі было непісьменным; у пачатковых школах вучылася не больш 50 працэнтаў дзяцей 8—12-гадовага ўзросту. Сярэднія школы для дзяцей рабочых і сялян былі недаступны. У краіне не было ні адной вышэйшай навучальнай установы, ні адной буйнай публічнай бібліятэкі, ні аднаго тэатра. Затое дзейнічала, дурманячы народ, каля 10 тысяч шынкоў і піўных, 3 тысячы цэркваў, 113 касцёлаў, 704 сінагогі, звыш 300 малітоўных дамоў.

Які кантраст мае ў параўнанні з гэтым сённяшні стан асветы і культуры беларускага народа! Непісьменнасць у рэспубліцы была ліквідавана яшчэ задоўга да Вялікай Айчыннай вайны; і ў горадзе і ў вёсцы ажыццяўляецца абавязковае сямігадовае навучанне. У Беларусі налічваецца больш за 11,5 тысячы агульнаадукацыйных школ, 340 школ рабочай моладзі, шырокая сетка рамесніцкіх і чыгуначных вучылішчаў, школ фабрычна-заводскага навучання і механізацыі сельскай гаспадаркі. Колькасць тэхнікумаў і іншых сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў вырасла за гады Савецкай улады ў 8 разоў, а колькасць навучэнцаў у іх — у 43 разы. У 25 вышэйшых навучальных установах рэспублікі вучыцца каля 55 тысяч студэнтаў; 20,3 тысячы чалавек займаюцца без адрыву ад вытворчасці.



Беларусь мае сваю Акадэмію навук з шырокай сеткай навукова-даследчых інстытутаў, лабараторый, вопытных станцый і апорных пунктаў. У мінулым годзе створана Акадэмія сельскагаспадарчых навук БССР. Шырокі размах атрымала развіццё нацыянальнага тэатра, музыкі, выяўленчага мастацтва, літаратуры, народнай мастацкай самадзейнасці. За адзін 1957 год у рэспубліцы выдадзена 928 кніг тыражом 16 300 тысяч экземпляраў; калі ў 1914 годзе ў масавых бібліятэках налічвалася ўсяго 423 тысячы экземпляраў кніг, дык у 1957 годзе іх колькасць склала 22 мільёны 354 тысячы.

Прыклады радасных сацыялістычных пераўтварэнняў у рэспубліцы мы заўважаем на кожным кроку, дзе б ні апынуліся. Ці мы любуемся сённяшняй сталіцай Беларусі Мінскам, адным з прыгажэйшых гарадоў Савецкага Саюза, з яго цудоўным цэнтральным праспектам, новымі вуліцамі, будынкамі-палацамі, сонечнымі плошчамі, бульварамі, паркамі, скверамі, ці наведваем прадпрыемства, новабудоўлю, калгас, ці едзем у глыбінныя раёны Палесся, дзе ўсё больш і больш адступаюць балоты, ператвораныя людской працай у квітнеючыя палі і сенажаці, — усюды мы бачым небывалы размах стваральнай працы беларускага народа. Кожны дзень, калі ўзыходзіць сонца, яно асвятляе беларускую зямлю ў рыштаваннях новабудоўляў, у шумегомане заводскіх карпусоў, у працавітым гудзенні машын на палях.

З вялікай радасцю беларускі народ разам з усім савецкім народам сустрэў апублікаванне тэзісаў даклада таварыша М. С. Хрушчова на XXI з'ездзе КПСС «Кантрольныя лічбы развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1959—1965 гг.», гэтай грандыёзнай праграмы далейшага шпаркага руху Савецкага Саюза да камунізма. Новыя велічныя перспектывы адкрываюцца ў гэтым сямігоддзі і перад Савецкай Беларуссю ў далейшым небывалым развіцці яе эканомікі і культуры.

Красуй, наша родная Беларусь, у сузор'і братніх рэспублік краіны Саветаў! Твой свабодалюбівы і працавіты народ, будуючы сацыялізм, упрыгожыў цябе яркім, велічным убраннем, ён уквеціць цябе яшчэ ярчэй і прыгажэй, ідучы па шляху ў светлае камуністычнае заўтра.

Артур **ВОЛЬСКІ**

## СКАРБ МОЙ



Як і кожны ў маёй старане,
Багацце нязмернае маю.
Ды не ў грошах,
Не ў золаце,
Не!—
У любові да роднага краю.

Гэты скарб не схаваны ў зямлі,
Не закуты ў іржавай скарбонцы, —
Ён вясною
З адталай раллі
Узнімаецца рунню да сонца.

Не кладзецца ў чырвонцах на стол
І працэнтаў
Мой скарб не прыносіць,—
Ён цяжкімі пладамі у дол,
Рэха коцячы,
Грукае ўвосень.

Я іду па зямлі —
Гаспадар! —
Мне належаць і суша і воды.
Я свой скарб незлічоны,
Як дар,
Атрымаў ад бацькоў назаўсёды.

Яго ўбачыш у кожным кутку
Неабсяжнай маёй Беларусі.
Рады я дружбаку, земляку,
З ім багаццем пароўну дзялюся.



Беларусь!
Узараную,
Дымную,
У лістоце бяроз і дубоў —
Абдымаю цябе,
Неабдымную,
Ты — багацце маё і любоў.

Шмат яшчэ пуцявін мне прайсці.
Будуць радасці,
Будуць няўдачы.
Але што ні спаткаю ў жыцці,
Я ніколі
Свой скарб
Не растрачу!

Ніл **ГІЛЕВІЧ**

## ВОДПАВЕДЗЬ



Абы хто зачне — пачую —
Мой лёс ці чарніць ці пляміць,—
Мне вось што ў хвіліну тую
Прыходзіць заўжды на памяць.

Нас восем усіх у маці.
Раслі мы ў сям'і звычайнай,
У звонкай сасновай хаце
Пад колісь «убогай Гайнай».

Як сыйдземся ўсе на свята,
Васьмёра дзяцей дарослых —
Становіцца цеснай хата
Ад падарункаў розных.

Калі ж зашуміць застолле
І стане хваліцца кожны
Сваёю зайздроснай доляй,
Шчаслівым жыццём заможным,—

Я ў думках назад далёка
Дарогай іду зваротнай:

А як жа было б — ці лёгка —
Без нашай улады роднай?

Каторы ж бы з нас сягоння —
Бяздомны батрак-галетнік —
Ліў пот на кулацкіх гонях,
Слязамі расіў палеткі?

Каторы ж бы з нас сягоння
З жабрацкаю торбай зрэбнай
Маліўся ля падаконня
Аб чэрствай скарынцы хлебнай?

Каторы ж бы з брацціяў родных,
Знялюдзеўшы ў долі горкай,
Дзяцей сястрыных галодных
Сабакам цкаваў з падворка?

Якая з нявестак любых,
Што сёння мілуюць маці,
Жадала б ёй смерці лютай
З-за ліншага рота ў хаце?

Так сотні гадоў вялося —
Спрадвеку, з сівое далі.
Хіба не аб гэткім лёсе
Для нас крывапіўцы дбалі?

Дык як жа хаця на хвілю
Магу я паверыць брэху,
Што сёння гучыць з эфіру?
Брашыце сабе на ўцеху!

З усіх смалакурань свету
Не хопіць вам дзёгцю, сэры,
Каб дзень ачарніць мой светлы,
У Сонца пазбавіць веры!

Душою і сэрцам вызнаў
Я праўду сваёй Радзімы,
І як груганы б ні віслі,
З ёй шлях у мяне — адзіны!

# У адной сям'і, авеяная славай, красуйся, беларуская зямля!

**Гаўрыіл Андрыянавіч ЦІХАЎ,**
**член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР**

## Ад шчырага сэрца



У сувязі з саракагоддзем Савецкай Беларусі сардэчна віншую вас, дарагія мае землякі. Вашы слаўныя працоўныя справы ведае ўвесь савецкі народ. Я з вялікай цікавасцю сачу за ўсім, што робіцца ў Беларусі, і шчыра радуюся кожнаму новаму поспеху беларускіх рабочых, калгаснікаў, вучоных.

Ад усяго сэрца жадаю сваім землякам-беларусам быць нястомнымі ў працы і няспынннымі ў дасягненнях.

**Алма-Ата.**

Г. Тихов

**Леакадзія МАСЛЕНІКАВА,**
**заслужаная артыстка РСФСР,**
**лаўрэат Сталінскай прэміі**

## Маім землякам



У дні слаўнага свята — 40-годдзя Беларускай ССР — шлю сваё гарачае прывітанне сваім землякам-беларусам, жадаю ім вялікага шчасця і яшчэ большых працоўных поспехаў.

Сёння мне асабліва прыемна віншаваць землякоў. Я — равесніца сваёй рэспублікі, тут мне дарагія кожны камень, кожная сцежка. Мяне нарадзіла маці-беларуска. З галечы і нястач мяне вывела Радзіма і зрабіла чалавекам. Камсамол даў мне пуцёўку ў жыццё.

Вось чаму я з гонарам пішу ў пашпарце сваю нацыянальнасць — беларуска.

Наш народ шматпакутны ў мінулым, але непахісны ў барацьбе за свабоду. Успамінаецца мне Айчынная вайна. Як мужна змагаўся беларускі народ з фашысцкай зграяй! Колькі яго слаўных сыноў і дачок аддалі сваё жыццё за шчасце Радзімы!

І таму сёння хочацца сказаць сваім маладым сябрам: беражыце, шануйце ўсё тое, што заваявана крывёю і потам вашых бацькоў, сясцёр і братоў. У вас цяпер самае шчаслівае жыццё. Для вас шырока адкрыты ўсе шляхі ў светлую будучыню.

**Масква.**

Масленик —

**Саідходжа УРУНХАДЖАЕЎ,**
**старшыня калгаса «Масква» Ленінабадскага раёна Таджыкскай ССР, двойчы Герой Сацыялістычнай Працы**

# Сябрам беларусам



У пярэдадзень слаўнага юбілею братняй Беларускай рэспублікі прыміце ад нас, таджыкаў, дарагія сябры, палкае прывітанне і найлепшыя пажаданні. Паміж нашымі рэспублікамі даўно ўстанавіліся самыя цесныя сувязі. Вашы трактары працуюць на палях нашых калгасаў, беларусы носяць вопратку, зробленую з таджыкскай бавоўны. Мы глядзім вашы кінафільмы, чытаем на роднай мове кнігі вашых пісьменнікаў і ведаем, якіх велізарных поспехаў у камуністычным будаўніцтве дабіліся вы за прайшоўшыя сорак год.

Няхай мацнее і працвітае дружба брацкіх народаў вялікага Савецкага Саюза!

Ад імя ўсіх калгаснікаў нашай сельгасарцелі жадаю вам шчасця, далейшага працвітання!

*Саидходжа Урунходжаев*

**Анвер БІКЧЭНТАЕЎ,**
**пісьменнік**

# Сардэчнае прывітанне з Урала



Не так даўно я вярнуўся з канферэнцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі. З двух кантынентаў сабраліся пісьменнікі тых народаў, якія зусім нядаўна набылі сабе самастойнасць, або тых народаў, хто яшчэ вядзе крывавую барацьбу за свабоду.

— Народу забараняюць на роднай зямлі размаўляць на роднай мове! — гаварыў прадстаўнік Уганды.

— Дзяцей калечаць амерыканскія «коміксы», — скардзіўся прадстаўнік Цэйлона.

— Моладзь старэе на плантацыях і памірае ў турмах, — абураўся пісьменнік з Самалі.

Я, дэлегат башкірскага народа, што зусім нядаўна адзначыў сорак год сваёй рэспублікі, у гэты час з удзячнасцю думаў аб велічы Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, аб тым, якія мы шчаслівыя ў параўнанні з іншымі народамі свету.

Мяне радуе, што таксама і іншыя савецкія народы, у тым ліку высакародны і мужны беларускі народ, у цяжкіх выпрабаваннях заваявалі свой шчаслівы лёс, аднавіў сваю гаспадарку, разбураную ў часы мінулай вайны, і зараз слаўна адзначае свой юбілей.

Я ні разу не быў у Мінску, але ў дні Айчыннай вайны я плячо ў плячо з беларусамі змагаўся супраць ворага, у мяне былі сябры — салдаты і афіцэры — смелыя і адданыя ў баі людзі родам з Беларусі. Мне выпала шчасце змагацца з імі разам, сустракацца ў нашай роднай Маскве. Я сябрую з такімі цудоўнымі таварышамі па пяру, як Максім Танк, Янка Брыль. Праз усё гэта я выразна ўяўляю душу народа-брата, веліч нашай дружбы.

Шлю сардэчнае прывітанне з Урала і жадаю новых поспехаў!

**Уфа.** *Анвер Бикчентаев*



**В. Б. ГЛУШКО,**
**старшыня калгаса «Вяца Ноўэ» Малдаўскай ССР**

# Ганарымся вашымі поспехамі

Вашу знамянальную дату ўрачыста сустракаюць не толькі народы нашай неабдымнай Радзімы. Яе адзначаюць народы ўсіх сацыялістычных краін, бо гэта адзін з этапаў на шляху, пракладзеным Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй.

Мы, малдаване з правага ўзбярэжжа Днястра, з былой Бесарабіі, пазней вызваліліся ад панавання памешчыкаў і капіталістаў. Векавая адсталасць, а потым фашысцкая акупацыя страшэнна скалечылі жыццё малдаўскага селяніна. Але наша родная Камуністычная партыя і савецкі ўрад увесь час дапамагалі і дапамагаюць нам. Мы, пераймаючы вопыт перадавікоў сельскай гаспадаркі братніх рэспублік, шмат дасягнулі на сённяшні дзень.



Мы ганарымся вашымі поспехамі і з вялікай цікавасцю сочым за развіццём сельскай гаспадаркі Савецкай Беларусі, асабліва за ростам калгаса «Рассвет» Магілёўскай вобласці. Кнігу Кірылы Пракопавіча Арлоўскага мы чыталі з захапленнем. Мы рады, што калгас «Рассвет» многага дасягнуў. Калі параўнаць тое, што было ў нас пры арганізацыі калгаса, і тое, што акупанты пакінулі ў Мышкавічах, пра якія піша Кірыла Пракопавіч Арлоўскі, дык заўважаецца вялікае падабенства. Цяпер гэта ў мінулым.

Сёлета ў нашым калгасе ўраджай пшаніцы-азімкі з 1 345 гектараў склаў у сярэднім 20,2 цэнтнера з кожнага гектара, жыта азімага — 37 цэнтнераў, проса — 45 цэнтнераў, сланечніку — 18 цэнтнераў, зерня кукурузы — 45 цэнтнераў, цукровых буракоў — 300 цэнтнераў, вінаграду — 50 цэнтнераў, тытуню — 16 цэнтнераў.

Звеннявая-камсамолка Люба Тэрца атрымала з кожнага гектара 80 цэнтнераў гібрыднага вінаграду, а еўрапейскага — 120 цэнтнераў. Звеннявая Артын Панагія — 423 цэнтнеры цукровых буракоў, 60 цэнтнераў кукурузы.

Моладзь і камсамольцы другой брыгады, дзе брыгадзір Цімох Вятрыла (а яна ў нас комплексная), з вінаграднікаў плошчаю 48 гектараў атрымалі па 65 цэнтнераў вінаграду.

За 10 месяцаў мы ўжо надаілі 15 910 цэнтнераў малака. Нашы лепшыя даяркі-камсамолкі Алена Рошка, Люба Плошніца, Ольга Попавіч, Ольга Пракопішына.

Мяса на сто гектараў ворыўнай зямлі мы далі больш за 50 цэнтнераў. Адна брыгада Героя Сацыялістычнай Працы Шчірбу Г. С. да канца года выкарміць свіней больш 1 500 галоў.

Прыбытак калгаса ў гэтым годзе складзе чатырнаццаць з паловаю мільёнаў рублёў. Калгаснікі атрымаюць на працадзень 3,5 кілаграма збожжа, 300 грамаў сланечніку, паўкілаграма гароднiны і 9 рублёў грашыма. З 1 снежня мы пераходзім на гарантыйную грашовую аплату працы калгаснікаў.

Цяпер у нашым калгасе — дзесяцігодка, дзве сямігодкі, дзве пачатковыя школы, у якіх навучаецца 1 200 вучняў. Інтэлігенцыя і спецыялісты ў нас амаль усе свае, мясцовыя, таму што моладзь з інстытутаў вяртаецца працаваць у родны калгас. Ёсць у нас электраэнергія, радыёвузел, бібліятэкі, клубы.

Радасна паведаміць вам аб гэтым. Чаму ж сталі магчымымі ўсе гэтыя поспехі ў вас і ў нас? Таму, што наша любімая Камуністычная партыя і савецкая ўлада дапамаглі нам знайсці правільны шлях развіцця, узнялі творчыя сілы народа.

У сувязі з юбілеем вашай рэспублікі, 40 год якой спаўняецца 1 студзеня 1959 года, я ад імя ўсіх нашых калгаснікаў

калгаса «Вяца Ноўэ» Тэгенешцкага раёна, ды і не толькі раёна, ад імя ўсіх малдаўскіх калгаснікаў шлю беларускай сельскай моладзі гарачыя віншаванні. Мы ідзём разам па адным ясным шляху, указаным Камуністычнай партыяй, і з гэтага шляху мы не саступім, не звернем ніколі.

Глушко

Максім **РЫЛЬСКІ**

# Віншуем з саракагоддзем!..

Дарагія сябры, маладыя беларускія дзяўчаты і хлопцы!

Праз рэдакцыю вашага часопіса «Маладосць» шлю вам шчырае прывітанне і віншаванне з саракагоддзем Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Я не раз бываў на беларускай зямлі і сардэчна палюбіў яе, сардэчна палюбіў людзей Беларусі — сялян, рабочых, вучоных, мастакоў, пісьменнікаў. Я рад і ганаруся, што мог называць сваімі сябрамі вялікіх Янку Купалу і Якуба Коласа, што называю цяпер сваімі сябрамі і Петруся Броўку, і Кандрата Крапіву, і Міхася Лынькова, і Пятра Глебку, і Максіма Танка, і Аркадзя Куляшова, і Пімена Панчанку, і Міхася Калачынскага, і Рыгора Няхая, і іншых пісьменнікаў Савецкай Беларусі.



Адбудаваны на руінах цудоўны Мінск здаецца мне ўзорам таго, як мы павінны будаваць гарады. Наведванне калгаса «Рассвет», дзе старшыня К. П. Арлоўскі, паказала мне, якія магутныя творчыя сілы жывуць у грудзях працоўнага беларускага народа. У гэтым годзе я зноў паездзіў па Беларусі і пераканаўся, што матэрыяльны дабрабыт і духоўная культура расквітнелі ў ёй небывалай красой.

Моладзь беларуская цешыць мяне, старога, сваёй жыццерадаснасцю, сваёй таленавітасцю, сваёю прагай да ведаў.

Жадаю вам, сябры, шчасця і радасці!

**Кіеў.**

Максим Рыльский

**К. СКАРАБАГАТАЎ,**
**народны артыст Савецкага Саюза**

# Мае пажаданні

Мае маладыя слаўныя сябры!

Дазвольце мне павіншаваць усіх вас з такой вялікай і знамянальнай датай, як саракагоддзе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Вы, маладыя, жывеце ў такі цудоўны і радасны час, што мне прыходзіцца толькі зайздросціць вам.

Зусім не так праходзіла мая маладосць... Мне не хочацца засмучаць гэтае радаснае для ўсіх свята змрочнымі ўспамінамі аб маім цяжкім мінулым.



Я хачу пажадаць Вам, юнакі і дзяўчаты, шчасця і поспехаў у вашым жыцці. Жадаю, каб вы заўсёды былі маладымі, вясёлымі, вучыліся, працавалі і любілі сваю Радзіму, прыгажэй якой няма на свеце.

Шлю гарачае прывітанне ўсім вам, мае маладыя сябры!

**Ленінград.**

К. Скоробогатов



**В. В. РУДНІЦКІ,**
**брыгадзір комплекснай брыгады трэста «Сталінградбуд», дэпутат Вярхоўнага Савета РСФСР, Герой Сацыялістычнай Працы**

# Прывітанне са Сталінграда

У дні вашага вялікага свята — саракагоддзя Савецкай Беларусі — дазвольце перадаць многатысячнай арміі маладых беларускіх будаўнікоў брацкае прывітанне ад імя будаўнікоў горада — двойчы героя Сталінграда і пажадаць вам новых працоўных поспехаў у барацьбе за ажыццяўленне рашэнняў Камуністычнай партыі, за далейшы росквіт нашай любімай Радзімы.



Будаўнікі горада Сталінграда вось ужо больш дзесяці год спаборнічаюць з будаўнікамі Мінска. Гэтае спаборніцтва, заснаванае на вялікім абмене вопытам, тварыскай узаемадапамозе, з'яўляецца важнай умовай дасягнутых поспехаў у аднаўленні і будаўніцтве нашых гарадоў.

Наша будаўнічая комплексная брыгада напярэдадні кастрычніцкіх свят працавала на будаўніцтве 9-павярховага дома на Алеі Герояў. Свой аб'ём работ мы закончылі датэрмінова — да 7 лістапада 1958 года. У брыгадзе працуе нямала камсамольцаў і моладзі. Яны паказваюць прыклад самаадданай працы. Гэта — муляры Тамара Носава і Зоя Камалава, такелажніца Зоя Ісучанка, цясляр Уладзімір Папоў і другія.

Не аднойчы мне прыходзілася бываць на будоўлях Мінска. І кожны раз я знаходзіў нешта новае і каштоўнае для сябе. З вялікай удзячнасцю ўспамінаю той час, калі ў брыгадзе Булахава ўпершыню пазнаёміўся з метадам работы «пяцёркай». Гэты метад потым быў перанесены на будоўлі Сталінграда. Так было і з укараненнем прагрэсіўных метадаў тынкоўкі, сталярных і сантэхнічных работ. У сваю чаргу мінчане пераймалі ад нас вопыт арганізацыі работ комплекснымі брыгадамі, увядзенне брыгаднага гаспадарчага разліку. Сталінградцы ахвотна перадалі мінскім будаўнікам вопыт вядзення хуткаснага мантажу сантэхнічных работ, вырабу дымавых і вентыляцыйных блокаў, прагрэсіўных жалезабетонных канструкцый, пакаёвых перагародак, вопыт мантажу буйна-панельных і буйна-блочных дамоў і г. д.

У моцным брацкім сяброўстве, у гарачым спаборніцтве памнажаецца наш вопыт, удасканальваецца наша майстэрства.

Наша мэта адзіная. Не шкадуючы сіл, мы працуем над тым, каб усе савецкія людзі жылі ў добраўпарадкаваных дамах, культурна і весела адпачывалі ў тэатрах, кіно і палацах культуры. І мы ганарымся тым, што ўсё гэта ствараецца нашай агульнай працай, працай савецкага чалавека, які смела ідзе ўперад па шляху, указанаму вялікім Леніным.

**Сталінград.**

В. Рудницкий

**Эдуардас МЕЖАЛАЙЦІС,**
**паэт.**

# Дарагім суседзям-беларусам

Разам з самымі лепшымі ўспамінамі ўсяго свайго жыцця літоўскія пісьменнікі на доўгія гады захаваюць і памяць аб сёлетняй вясне.

Па запрашэнню нашых дарагіх суседзяў — беларускіх літаратараў мы паехалі пагасціць у Беларусь. Нас сустрэлі так цёпла, прымалі настолькі гасцінна, што гэта пераўзыйшло ўсе нашы найлепшыя спадзяванні.

На той час не паскупілася і беларуская прырода. Апрануліся ў пышнае ўбранне сады, вішні і яблыні працягвалі нам свае галіны ў беласнежных кветках. Песцілі наш слых цудоўныя аркестры беларускіх салаўёў. А нашы сэрцы цешыла жыватворчая цеплыня сонечных праменняў і гарачай дружбы, якую мы адчувалі ўсюды.



І мы яшчэ раз пераканаліся, як шчыра любяць літоўцаў нашы суседзі. Наша дружба нарадзілася яшчэ ў далёкім мінулым. Моцна дружылі нашы продкі, плячо ў плячо змагаліся супраць агульных ворагаў, разам абараняючы сваю свабоду. У цеснай узаемнай сувязі развіваліся і абедзве нашыя літаратуры, нашыя культуры. Дружба Янкі Купалы і Людаса Гіры, Якуба Коласа і Петраса Цвіркі была асветлена вялікімі ідэямі вызвалення братніх народаў.

Знаходзячыся на беларускай зямлі, мы мелі магчымасць непасрэдна бачыць жыццё суседняй рэспублікі. Нас, як шчырых сяброў, сустракалі рабочыя і калгаснікі, знаёмілі са сваімі працоўнымі дасягненнямі. Мы бачылі, што ў рэспубліцы ўсюды кіпіць радасная, творчая праца. Абуджаны Вялікім Кастрычнікам, беларускі народ стварыў новае, шчаслівае жыццё на аснове савецкай сацыялістычнай дзяржаўнасці. І мы памятаем, што літоўцы і беларусы разам пачыналі сваё дзяржаўнае будаўніцтва: у 1919 годзе нарадзілася аб'яднаная савецкая сацыялістычная рэспубліка Беларусі і Літвы.

Савецкая Беларусь святкуе сваё слаўнае саракагоддзе. У гэтыя ўрачыстыя дні мы ад усяго сэрца жадаем сваім добрым сябрам і суседзям, усяму беларускаму маладому пакаленню няспынна дасягаць усё новых і новых вышынь у гонар нашай агульнай вялікай савецкай Маці-Айчыны!

**Вільнюс.**

E Mieželaitis

**Гурген БАР'ЯН,**
**паэт**

# Шчырае прывітанне

На зары 1919 года беларускі народ стаў гаспадаром свайго лёсу, здабыў сабе шчасце, аб'явіў Беларусь — Савецкай. Слаўная саракагадовая гісторыя сацыялістычнай Беларусі—гэта залаты летапіс барацьбы і станаўлення таленавітага і працалюбівага беларускага народа.

Мы, армяне, ганарымся гістарычнымі поспехамі брацкага беларускага народа. Нашы лёсы, нашы імкненні — адзіны. І ў сацыялістычным пераўтварэнні эканомікі і культуры савецкіх народаў мы бачым спаўненне векавых спадзяванняў нашай вялікай Радзімы. Армянскі народ ганарыцца тым, што на зары рэвалюцыі, на зары новага свайго жыцця ў Беларусі жыў і працаваў выдатны сын Арменіі Аляксандр Мяснікян. Ён з вамі, дарагія нашы сябры і таварышы, закладваў першыя камяні ў падмурак велічнага будынка новай Беларусі. Наша агульнае жыццё заўсёды ўпрыгожвала тое светлае пачуццё братэрства і дружбы, якое вытрымала ўсе выпрабаванні гісторыі і навечна замацавана ў бітвах за нашу Радзіму ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Слаўная моладзь Савецкай Беларусі, якая з'яўляецца прадаўжальнікам гераічных традыцый сваіх бацькоў, сёння сваімі справамі памнажае славу сацыялістычнай Беларусі і з'яўляецца гонарам не толькі сваёй Рэспублікі. Але каму шмат дадзена, з таго і шмат патрабуецца. А ад моладзі патрабуецца многае. Моладзь, камсамол — верны, надзейны памочнік нашай партыі. У моладзі—энергія, талент, мары і будучыня. У яе наша сёння і заўтра.

Савецкая Беларусь ад сваёй моладзі, ад маладых будаўнікоў камунізма чакае новых подзвігаў, новых спраў, новых дзярзанняў.

У дні 40-годдзя Савецкай Беларусі мы ўсім сэрцам з Вамі, дарагія таварышы. Ваша цудоўная краіна, справы вашых суайчыннікаў нямала ўслаўлены і апеты паэтамі Арменіі. Услаўлены натхнёна і ад чыстай душы.

У дзень вашага 40-гадовага юбілею шлём вам, сябры, з Арменіі шчырае прывітанне і жадаем ад усяго сэрца брацкай Беларусі новых поспехаў. Вашы поспехі, ваша радасць — нашы, бо мы дужыя той непарушнай дружбаю, якая стала сцягам савецкага народа ў справе пабудовы камуністычнага грамадства.

**Ерэван.**

[signature]

Юрась СВІРКА

## РОДНЫ КРАЙ



Я чуў на Замкавай гары,
Як хлопец незнаёмы
Сябрам натхнёна гаварыў
Пра Гродна і пра Нёман.

Ды я тут перабіў яго,
Кажу пра ўзгоркі, лозы,
Пра партызанскі наш Бягомль
І пра раку Бярозу.

Там, каб хацеў, не адпачнеш:
З суніцамі паляны...
У нас ніхто не абміне
Зямлянкі партызанаў.

А сосны! Сосен ты такіх
Не бачыў, дружа любы.
На дровы нельга рэзаць іх,
Шкада іх і для зрубаў.

Іх трэба песняй услаўляць,
Цаніць вышэйшым балам...
Такія сосны можна браць
На скрыпкі і цымбалы.

Мінуўшы стройныя бары,
Прайшлі б па мокрых кладках
І паглядзелі б, як бабры
Майструюць дружна хаткі.

Ласінай сцежкай да ракі
Прайшлі б, дзе лозы гнуцца...

Там раніцою шчупакі
На ўсе жыўцы бяруцца.

І хлопца я не пазнаю,
Крычыць зусім цвяроза:
— Кідай ты практыку сваю,
Паедзем на Бярозу.

Уладзімір ПАЎЛАЎ

## У АДНЫМ СТРАІ



У дні, калі звінелі ланцугі
І нават вецер вольны нас цураўся,
Калі краінай гора і тугі
Радзімы край мой беларускі зваўся;

У дні, калі старое аджыло
І паляцела ў бездань чорным прахам,
Калі надзела кожнае сяло
З чырвонай стужкай шэрыя папахі;

У дні, калі на нас з усіх бакоў
Глядзела смерць з наведзенае зброі,
Калі апошні хлеб на ўсіх братоў
Нам трэба была пораўну раскроіць;

У дні, калі на сцежках пад акном,
Праз сіні дым скалмачанага бэзу
І партбілет і сэрцы заадно
Прастрэльвалі кулацкія абрэзы;

У дні, калі паўзла зямлёю тля,
Ішла на ўсход у рыжых шлейфах дыму, —
Была старонка любая мая,
Была ў адным страі з усёй Радзімай.

Была і ёсць і будзе назаўжды,
Бо звычаі такія ў нас вядуцца,
Якія б там ні выпалі гады,
А сэрцы ў нас у такт суладна б'юцца.



Усевалад **КРАЎЧАНКА**

# ЗОРКА ВЕНЕРА

**Апавяданне**

*Мал. Л. Дубара.*

У школе ў Наташы Лойка, як і ва ўсіх яе равесніц, быў свой план жыцця, свая мара. Толькі ў адрозненне ад іншых, часцей за ўсё няясных і агульных, яе план быў дакладны і выразны, як ваенны загад: скончыўшы дзесяты клас, яна паступае ў медыцынскі інстытут, на пятым курсе выходзіць замуж, муж яе — ваенны лётчык, працуюць яны недзе ў маленькім, далёкім ад вялікіх дарог гарадку на поўначы, але не выключаецца, што і на поўдні...

Хто блізка ведаў Наташу, той не здзіўляўся, адкуль у гэтай дзяўчыны, што нарадзілася і вырасла ў невялікім, закінутым сярод Сілевіцкіх балот і лясоў палескім сяле, было столькі самаўпэўненасці. Такая ўжо гэта дзяўчына. Варта было толькі глянуць на яе паходачку, калі яна шырокімі хлапцоўскімі крокамі ішла па вуліцы, тоненькая, стройная, з горда ўзнятай галавой, каб уявіць сабе яе характар. Што казаць, у такой дзяўчыны іншых планаў і быць не магло.



Але жыццё, як вядома, складаная рэч, і часта нават у смелых і гордых людзей збываюцца не ўсе мары. На ўступных экзаменах у інстытут Наташа не дабрала нейкіх там два нікчэмных балы, і яны рашылі яе лёс. Схаваўшыся ад усіх у вялізную пустую аўдыторыю, Наташа паплакала хвілін пяць, потым супакоілася і, утаропіўшыся позіркам у столік, яшчэ хвілін пяць пасядзела ў задуменні. Затым пайшла на вакзал і першым жа цягніком, які ішоў у бок Гомеля, падалася назад у свае Лужкі.

Але калі б хто глянуў, як яна назаўтра з чамаданчыкам у руцэ ішла па вуліцы роднага сяла, то ніколі б не сказаў, што гэтую дзяўчыну толькі што напаткала няўдача — ішла яна ўсё той жа сваёй славутай паходачкай, з горда ўзнятай галавой.

Словам, гэта была не тая дзяўчына, якую маглі збянтэжыць першыя жыццёвыя няўдачы. Адшукаўшы ў камодзе даўнейшае пісьмо сваёй сяброўкі-аднакласніцы Тацяны Бычко, якая вось ужо з месяц працавала на Сілевіцкай ДРЭС, адной з буйнейшых і вядомых будоўляў рэспублікі, Наташа ўважліва перачытала яго раз і яшчэ раз. Ведаючы свае сілы, Тацяна нават не спрабавала падаваць заявы ў інстытут, а адразу завербавалася працаваць. Наташа пасядзела над яе пісьмом, падумала. Потым, не кажучы нікому ні слова, узяла чамаданчык, нанава пераладкавала яго, склала туды свае плацці, паклала старанна абгорнуты ў паперу любімы томік Лермантава...

І вось Наташа ў Сілевічах, на будоўлі ДРЭС. Падсобніца ў комплекснай брыгадзе Якава Міхайлавіча Пархуты. Нечакана, нягадана!.. Яшчэ якіх пяць дзён таму назад яна з хваляваннем стаяла каля дзвярэй адной з аўдыторый Мінскага медыцынскага інстытута, рыхтуючыся трымаць апошні экзамен. А сёння яна ўжо вунь дзе, сярод гэтага грукату і мітусні!

Калі Наташу ўпершыню прывялі на будоўлю, да месца яе работы, брыгада Пархуты важдалася з нейкімі шырокімі чыгуннымі трубамі. Брыгадзір Якаў Міхайлавіч, пажылы, але надзвычай рухавы чалавек, заклапочаны нейкімі неадкладнымі справамі, гаварыў з ёю амаль на хаду, мелькам пазіраючы на яе паўз верх акуляраў.

— Новая?.. Наташа Лойка?.. Вось, Наташа, бяры гэты ломік і ідзі да такелажнікаў — вунь, бачыш, трое каля труб стаяць. Той, што з вусікамі — старшы. Будзеш ім памагаць. Ясна?.. — І адразу ж нырнуў некуды ўбок, знік за блытанінай труб, жалезабетонных слупоў, сталёвых фермаў, нейкіх вялізных, у тры паверхі катлоў.

Наташа збянтэжана паглядзела яму ўслед, — так, сустрэча была не асабліва ветлівая. Але што ж, чалавек, магчыма, і сапраўды моцна заняты. Горш было тое, што Наташу ашаломіла ўсё гэтае бязладнае нагрувашчванне жалеза, бетону, труб, лесвіц і пераходаў, аглушыў шум і грукат, асляпілі агні электразваркі. Нібы мурашкі, мітусіліся па цэху людзі — кожны нешта рабіў, нешта некуды нёс. Няўжо ва ўсім гэтым бязладдзі і мітусні быў пэўны парадак, няўжо ўсё гэта нехта прадумаў і спланаваў, нехта гэтым кіруе?..

Брыгаду Пархуты, як ёй растлумачылі яшчэ ў аддзеле кадраў, звалі комплекснай, таму што ў ёй працавалі рабочыя розных прафесій — трубаправодчыкі, слесары, такелажнікі, зваршчыкі, ізаліроўшчыкі. Цяпер на будоўлі амаль усе брыгады былі комплекснымі. Даручаць такой

брыгадзе мантаж якога-небудзь пэўнага вузла, і яна выконвае самастойна ўсе работы.

Абавязкі Наташы ў брыгадзе аказаліся нескладанымі. Яна павінна была выконваць розныя загады і даручэнні таго старшага сярод такелажнікаў, з вусікамі, мужчыны год пад сорак, спакойнага, непаспешлівага ў рухах, па прозвішчу Лабуда: памагаць перасоўваць трубы, мацаваць іх да троса крана, падносіць інструменты. Работа была няцяжкая, асабліва таму, што ўвесь час Наташа рабіла нешта другое. Мучыла яе іншае — яна не адчувала свайго месца ва ўсёй гэтай мітусні.

Спачатку Наташа спрабавала разгадаць усё сама — прыглядалася, прыслухоўвалася да размоў. Але гэта нічога ёй не дало, яна па-ранейшаму ні ў чым не магла разабрацца. У час абедзеннага перапынку яна асмелілася і проста запытала ў Лабуды, што гэта яны робяць і, наогул, што тут да чаго.

— Во, гэта мне падабаецца, — цёпла ўсміхнуўся майстар. — Добры салдат у баі павінен не толькі ясна ведаць сваю задачу, але і сваё месца ў агульным страі.

Відаць было, што Лабуда як бы нават чакаў ад Наташы гэтага пытання і цяпер быў задаволены, што не памыліўся. Узяўшы Наташу за руку, ён правёў яе ў сумежную залу.

— Глядзі, — сказаў ён, паказваючы рукой на сярэдзіну залы, дзе на мураваным узвышэнні людзі ўстанаўлівалі нейкія вялізныя машыны, — гэта сэрца ўсёй нашай будоўлі, галоўная зала. Тут, вунь бачыш, знаходзяцца генератар і паравая турбіна...

І Лабуда падрабязна расказаў Наташы, што гэта за машыны і для чаго яны прызначаны, павёў яе ад аднаго вытворчага вузла да другога, расказаў пра іх работу і ўзаемасувязь. Даведалася Наташа і пра тое, што рабіла брыгада Пархуты. Аказваецца, ёй была даручана адказная работа — мантаж труб, па якіх вада ад помпавай устаноўкі будзе падавацца ў катлы. А ўжо з катлоў, зноў-такі па трубах, вада, ператвораная ў сухую пару, пойдзе ў турбіну.

— Між іншым, — кіўнуў галавою ў бок турбіны Лабуда,—ты звярні ўвагу, гэта брыгада, з якой мы спаборнічаем. Ленінградцы. Майстры адзін у адзін, як на падбор. Не мантажнікі — багі! А заўзятыя, што чэрці! Бачыш, і ў перапынку працуюць.

— Б'юць яны вас? — міжвольна вырвалася ў Наташы. Яна яшчэ не асмельвалася гаварыць «нас».

— Ды як табе сказаць... Ну, крыху абагналі, гэта праўда, — нахмурыўшыся, адказаў Лабуда.

Наташа глянула на людзей, што завіхаліся ля турбіны. Іх было чалавек з восем, і ўсе працавалі з запалам, не адрываючыся. Між іншым, кінуўся ёй у вочы адзін, самы блізкі ад іх, электразваршчык. Твар яго, як у сярэдневяковага рыцара, быў закрыты «забралам». Іскры вогненным дажджом так і сыпаліся ў яго з-пад рук. Сапраўдны «бог»!

Ужо выходзячы з галоўнай залы, Наташа ў дзвярах яшчэ раз азірнулася назад. Электразваршчык, правяраючы сваю работу адкінуў ахоўны шчыток на лоб, і яна мелькам заўважыла яго твар. Бацюхны, які ён яшчэ малады! З твару чарнявы, бровы нібы вугалем падведзены... А яна меркавала, што гэта быў нейкі стары, спрактыкаваны майстар. Добра, што ён хоць не заўважыў, як яна глядзела на яго, а то, чаго добрага, мог бы яшчэ нешта падумаць...

Скончыўся перапынак, і брыгада Пархуты зноў узялася за працу.



Прыбег аднекуль Якаў Міхайлавіч і пачаў падганяць такелажнікаў — яны не спраўляліся падрыхтоўваць трубы для зваркі. Лабуда апраўдваўся, звальваў віну на слесараў, якія да гэтага часу не падалі ім нейкай там фасоннай трубы...

І вось — позні вечар. Наташа ляжыць на ложку ў пакойчыку інтэрната, дзе жыве і яе сяброўка Тацяна і яшчэ дзве дзяўчыны, якія нядаўна прыехалі на будаўніцтва. Святло ўжо ўсюды патушана, усе спяць. Даўно пара спаць і Наташы, але яна не можа заснуць. Закінуўшы рукі пад галаву, яна ціха ляжыць, і вочы яе расплюшчаны. Мітусяцца ў галаве незлічоныя думкі аб перажытым за дзень.

Першае, самае яркае ўражанне: яна ад станцыі ідзе да Сілевіч і... не пазнае мясцовасці. Неяк гады тры таму назад, яшчэ толькі перайшоўшы ў восьмы клас, яна ўлетку з групай аднакласнікаў хадзіла ў падарожжа па роднаму краю. Заходзілі яны тады і ў Сілевічы. Дык гэта ж была маленькая, у якіх пяцьдзесят двароў вёсачка! Хаты яе стаялі над Беразіной, і толькі рака і ўпрыгожвала гэтае нічым не выдатнае паселішча. А зараз — за якіх тры гады! — тут вырас цэлы гарадок. Доўгая і шырокая брукаваная вуліца, паабапал якой выстраіліся прыгожыя двухпавярховыя дамы, вялікія магазіны, сталоўкі, клуб, школа-дзесяцігодка. Сапраўдны горад! А што ўжо казаць пра самое будаўніцтва. Наташа ніяк не чакала ўбачыць такога размаху тут, на гэтай пясчанай Сілевіцкай пустэчы, вакол якой прасціраліся бясконцыя палескія балоты...

Наташа паварочваецца на бок, нацягвае коўдру да самага падбародка — трэба спаць, заўтра ж гэтак рана падымацца. Яна заплюшчвае вочы, намагаецца адкінуць усе-ўсе думкі. Але раптам адна згадка неспакойна стукае ў сэрца, і Наташа ўся страпянулася. Ну, добра, яна працуе на будоўлі... А як жа яе планы жыцця, яе мары? Яна не здзейсніць іх?.. Не, усё застаецца, як і было, змяніліся яны толькі ў часе: не закідаючы падручнікаў, яна два гады працуе на будоўлі, затым паступае ў інстытут, на пятым курсе выходзіць замуж, муж яе — лётчык...



Нейкі міг забыцця, і Наташа засынае—моцным, спакойным сном, з усмешкай на вуснах.

На будаўніцтва Сілевіцкай ДРЭС Наташа трапіла ў сярэдзіне жніўня. Гэта быў напружаны для будаўнікоў час. Уся рэспубліка рыхтавалася да вялікага свята — саракагоддзя БССР. А яшчэ набліжалася і Кастрычніцкае свята. Будаўнікі ДРЭС узялі на сябе абавязак датэрмінова закончыць мантаж двух генератараў і турбін і здаць у эксплуатацыю першую чаргу будаўніцтва. Колькі кілават энергіі паабяцалі падараваць рэспубліцы будаўнікі ДРЭС да дня вялікага нацыянальнага свята!

Абяцанне было нялёгкае, і будаўнікі рабілі ўсё, каб стрымаць слова. Тым больш, што слупы высакавольтных перадач ужо выстраіліся стройнай чарадой у Рэчыцу, у Гомель, і абяцанай энергіі з нецярплівасцю чакалі дзесяткі навакольных гарадоў Палесся, ды і ўсёй рэспубліцы. Спаборнічалі паміж сабой будаўнічыя ўчасткі, брыгады, выклікалі адзін аднаго на спаборніцтва лепшыя зваршчыкі, слесары, трубаправодчыкі. На ўчастках выпускаліся рукапісныя «маланкі», у якіх расказвалася пра работу перадавых брыгад, пра вопыт лепшых рабочых.

Мінула колькі дзён, і Наташа сама не заўважыла, як аказалася ўцягнутай у гэты напружаны, высокі рытм жыцця на будаўніцтве. Нават для яе самой было дзіўна і не зусім зразумела, як гэта ўсё так хутка здарылася. Раніцою, прышоўшы на работу, Наташа перш за ўсё падбягала да дошкі, на якой вывешваліся вынікі спаборніцтва брыгад за ўчарашні дзень. Тут яна вывучала не толькі паказчыкі работы брыгад, але і асобных мантажнікаў.

— Ну, Іван Пятровіч, — звярталася яна да Лабуды, — зноў наш Сініцкі наперад вырваўся. Учора дзвесце дзесяць працэнтаў нормы даў! — з гордасцю аб'яўляла яна.

Або:

— Іван Пятровіч, да якога гэта часу мы будзем займаць восьмае месца на ўчастку і адставаць ад ленінградцаў? Няўжо нашы хлопцы горшыя за іх?..

Сама таго не заўважаючы, Наташа пачала перажываць за кожную ўдачу і няўдачу ў брыгадзе, раўніва сачыла за тым, хто і на колькі перавыконваў або недавыконваў нормы, падганяла сяброў, калі, бывае, яны занадта зацягвалі ў час работы «перакур».

Звычайна, у комплекснай брыгадзе кожны рабочы займаўся сваёю справай: такелажнікі падводзілі і ўладкоўвалі трубы, слесары падрыхтоўвалі іх для зваркі, зваршчыкі варылі. Але часамі здаралася так, што, скажам, такелажнікі або слесары не ўпраўляліся і тады зваршчыкі вымушаны былі, пакурваючы, сядзець і чакаць, пакуль ім падрыхтуюць работу. Так вялося здаўна, і, відаць, ні ў кога гэта не выклікала пярэчанняў. Але Наташа свежым вокам адразу заўважыла тут нейкую недарэчнасць. А чаму б, скажам, зваршчыкі ў час, калі ў слесараў або ў такелажнікаў здарaецца «запарка», не маглі б ім дапамагчы? Вядома, рабочыя не ўсякай прафесіі могуць замяняць адзін другога, але ж у многіх выпадках рабіць гэта магчыма. І гэта было б справядліва і паскорыла б работу.

У першы ж зручны момант Наташа затрымала Якава Міхайлавіча, адвяла яго ўбок і, пачырванелая ад хвалявання, выказала яму свае меркаванні.



— Што, што?.. — зверху ўніз з усмешкай паглядзеў на дзяўчыну брыгадзір. — Хочаш, каб зваршчык, высокакваліфікаваны спецыяліст, цягаў разам з вамі трубы? Мазоліў рукі рыдлёўкай? Ты адкуль такая разумная ўзялася?..

— Але ж гэта паскорыла б работу! — бліснуўшы вачыма, горача ўсклікнула Наташа. — І нічога б вашым спецыялістам ад гэтага не зрабілася!..

Якаў Міхайлавіч толькі махнуў рукой і падаўся ў галоўную залу; у яго быў нейкі свой, больш важны клопат.

Наташа пакрыўджана прыкусіла губу, на вачах у яе, як дзве буйныя шкляныя бусіны, выступілі дзве слязіны.

Вярнуўшыся да рабочага месца, яна, нахмураная, доўга маўчала, у думках працягваючы спрэчку з брыгадзірам. «Адкуль узялася!.. Падумаеш, абразіла гонар, дала параду такому вялікаму начальству!.. А ўсё ж я правільна кажу, правільна, Якаў Міхайлавіч! У брыгадзе ўсе маглі б адзін другому памагаць. І я яшчэ дакажу сваё!..»

І ў Наташы з'явілася шчаслівая думка: навошта ёй угаворваць на гэтую справу брыгадзіра, калі яна можа проста звярнуцца да сяброў па рабоце? Гэта будзе і лепш, і прасцей... Правільна, яна так і зробіць. І не можа быць, каб такія хлопцы, як Сініцкі, Серада, Тоўсцік, не падтрымалі яе.

Улучыўшы момант, калі зваршчыкі апынуліся без работы, Наташа набралася духу і звярнулася да іх з просьбай:

— А ну, хлопцы, памажыце нам управіцца. Вам жа лепш будзе, хутчэй работу для вас падрыхтуем...

Большасць зваршчыкаў нават не звярнулі ўвагі на яе прапанову і па-ранейшаму пакурвалі. Але Мікола Сініцкі — прысадзісты, шыракаплечы, з нейкім шыкоўным чорным берэтам на галаве — раптам шпурнуў на дол недакурак, прытаптаў яго нагой і ўстаў.

— Эй, хлопцы, — звярнуўся ён да сяброў, — а Наташка ж дзела кажа. Паможам укладчыкам, хутчэй нам работа будзе, а будзе работа, дык і заробім больш. Ясна?..

І ён першы стаў памагаць такелажнікам. Неўзабаве за ім, спачатку за кампанію, а затым і сур'ёзна, узяліся за справу і яго сябры.

І трэба ж было так здарыцца, што акурат у гэты час з галоўнай залы выйшаў інжынер участка Сцяпанаў. Ён накіроўваўся некуды паўз мантажнікаў у суседні цэх. Побач з ім крочыў Пархута і, тыцкаючы алоўкам у чарцёж, пра нешта яго распытваў. Раптам інжынер спыніўся, прыглядзеўся.

— Гэта што ж, Якаў Міхайлавіч, — спытаўся ён у брыгадзіра, — зваршчыкі ў цябе працуюць разам з укладчыкамі?

Пархута ў здзіўленні спыніўся і таксама прыгледзеўся — тое, аб чым пытаўся інжынер, было для яго нечаканасцю. Але ён не ўлавіў, ці гэтае пытанне інжынера гучала як асуджэнне, ці як ухвала.

— Ды ведаеце, Канстанцін Сцяпанавіч, — няўпэўнена пачаў ён, — у такелажнікаў няўпраўка, дык вось яны і памагаюць. У парадку, так сказаць, узаемавыручкі...

— Цікава, цікава... — задумаўся на момант інжынер. — І даўно гэта яны ў вас так... узаемавыручаюцца?

— Ды не, першы раз узяліся, — усё яшчэ не ведаючы, як павернецца справа, прамовіў Пархута. — Спробу, так сказаць, робім... Гэта, уласна, усё вунь тая дзяўчухна выдумала.

І Пархута коратка расказаў інжынеру, якую прапанову выказала яму сёння Наташа. Праўда, ён прадбачліва змоўчаў пра тое, што сам ён на гэта адказаў Наташы.

— Ды гэта ж цудоўная думка, Якаў Міхайлавіч! — выгукнуў інжынер. — Яе, браце, варта падтрымаць... Як прозвішча гэтай дзяўчыны? Яна ў нас даўно працуе?..

— Жаўтаротая, усяго якіх два тыдні на будоўлі, — узрадаваны, што выявіў нарэшце адносіны інжынера да ўсёй гэтай справы, бадзёра адказаў Пархута. — Падсобніца. А прозвішча... прозвішча... Як жа яе?.. Ага, Лойка! Наташа Лойка.

Інжынер выняў з кішэні запісную кніжачку і, усё паўтараючы «цікава, цікава», нешта занатаваў сабе на памяць.

Наташа была нямала здзіўлена, калі пасля работы на троххвіліннай вытворчай лятучцы Якаў Міхайлавіч, той жа Якаў Міхайлавіч, што раніцою высмеяў яе, цяпер сам прапанаваў прыняць гэтую новую форму работы ў брыгадзе за норму.

Праз якіх дзень-два брыгада Пархуты, увёўшы такое на першы погляд нязначнае ўдасканаленне ў арганізацыі працы, нечакана выйшла па вытворчых паказчыках на чацвёртае месца на ўчастку, а неўзабаве паднялася і яшчэ вышэй. Цяпер на ўсім участку іх апярэджвалі толькі ленінградцы, што працавалі на мантажы турбіны. Пра вопыт Пархуты загаварылі на сходах, на вытворчых нарадах. У многіх брыгадах пачалі пераймаць іх навіну, кідаючы ў час няўпраўкі на «вузкія месцы» ўсе сілы брыгады.

Вакол усёй гэтай справы ўзнялося многа гаворак, але пра Наташу ніхто не ўспамінаў, яе па-ранейшаму ніхто не ведаў. Усюды называлі толькі імя брыгадзіра Якава Міхайлавіча. І сам Пархута, выступаючы на розных нарадах і сходах, таксама нічога не гаварыў пра Наташу, а ўсё акругляў: «наша брыгада», «ініцыятыва рабочых нашай брыгады»...

Наташа і не думала крыўдзіцца на Якава Міхайлавіча. Усё было правільна: прычым тут яна?.. Калі Наташа і бачыла тут чые-небудзь заслугі, то гэта была заслуга зваршчыкаў, якія паслухалі яе і падтрымалі. Самае ж галоўнае тое, што брыгада прыкметна паскорыла тэмпы працы, пераскочыла з восьмага аж на другое месца. Падцягнуліся і іншыя брыгады на ўчастку.

Наташа ў гэтыя дні адчувала сябе такой шчаслівай!.. На Сініцкага, Тоўсціка яна цяпер паглядала з удзячнасцю, усміхалася ім, як лепшым сябрам. Трэба сказаць, што і да Наташы цяпер у брыгадзе пачалі ставіцца больш уважліва, чым у першыя дні. Маладзейшыя хлопцы адзін перад адным стараліся заслужыць яе ўвагу, у час перапынкаў навыперадкі аказвалі ёй розныя дробныя паслугі. Старэйшыя цёпла звалі яе «наша Наташка», ахвотна прымалі яе ў сваё мужчынскае кола, слухалі, калі яна што-небудзь гаварыла. Неяк раніцой Якаў Міхайлавіч, вярнуўшыся з канторы, шчыра павіншаваў Наташу — па яго дакладной ёй прысвоілі разрад, і цяпер яна ўжо была не падсобніцай, а паўнапраўным членам брыгады, такелажніцай.

Але Наташа па-ранейшаму не імкнулася нідзе выстаўляцца. Тое, што яна хварэла за поспехі і няўдачы брыгады, было звычайным праяўленнем яе шчырай і палымянай натуры.

І ўсё ж, зусім нечакана для Наташы, вядомасць прышла да яе. Хоць



прышла зусім не адтуль, адкуль можна было чакаць. Неяк яшчэ ў першыя дні, калі Наташа толькі прыехала на будаўніцтва, Таццяна аднойчы ўвечары прывяла сяброўку ў Дом культуры і падгаварыла яе запісацца ў самадзейны харавы калектыў. Наташа не адмаўлялася, яна любіла спяваць і ў школе ўсе гады прымала ўдзел у хоры.

З таго вечара раз у два дні пасля работы сяброўкі хадзілі ў клуб будаўнікоў на спеўку. Гэта быў самадзейны калектыў, і на рэпетыцыю збіралася каля паўсотні юнакоў і дзяўчат. Кіраўніца хору Ала Міхайлаўна — нядаўняя выпускніца кансерваторыі — мела свой метад навучання: яна не вылучала з калектыву якую-небудзь лепшую спявачку, каб толькі ёй адной заўсёды даручаць сольныя выступленні, а па чарзе заахвочвала ўсіх дзяўчат з добрым голасам выступаць запяваламі ў хоры. Яна хацела, каб як мага больш здольных маладых спевакоў і спявачак прывучаліся да сольных выступленняў.

На другой ці трэцяй рэпетыцыі, калі Наташа больш-менш асвойталася ў хоры, Ала Міхайлаўна даручыла і ёй запяваць. Наташа праспявала, і ўсім вельмі спадабаўся яе чысты, звонкі голас, а Ала Міхайлаўна, акрамя розных добрых слоў з повад у яе вакальных здольнасцей, выказала яшчэ адабрэнне і яе манеры трымаць сябе ў час спеваў — сціпла, не выстаўляючыся і разам з тым смела, з пачуццём уласнай годнасці.

Але Наташа, даслухаўшы Алу Міхайлаўну, раптам папрасіла:



— Прабачце, Ала Міхайлаўна, але я... не адчуваю гэтай песні і, шчыра кажучы, не вельмі яе люблю... Вось калі б вы даручылі мне праспяваць «Зорку Венеру»...

— Вось яно што! — здзівілася Ала Міхайлаўна і на хвілінку задумалася. — Што ж, з часам мы будзем развучваць і «Зорку Венеру»...

І вось мінула колькі часу, і на адной з рэпетыцый Наташа выступіла запявалай сваёй любімай песні. Спявала яна сапраўды так хораша, пранікнёна, што ўсе ўдзельнікі хору, ды і сама Ала Міхайлаўна былі ажно расчулены. Відаць было, што Наташа моцна любіць гэтую песню і нібы ўкладае ў яе сваю чыстую дзявочую душу. Ажно кранала за сэрца, калі яна тонкім, чыстым голасам вяла:

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прынясла...

Тут жа ўсім калектывам было вырашана ўключыць «Зорку Венеру» ў праграму самадзейнага канцэрта, які намячалася наладзіць у бліжэйшую нядзелю для ўдзельнікаў вытворчай канферэнцыі перадавікоў будоўлі.

Вытворчая канферэнцыя — падзея на будоўлі. У ёй прымаюць удзел рабочыя з усіх вытворчых участкаў, знатныя перадавікі, інжынеры, тэхнікі, кіраўнікі будаўнічага ўпраўлення. На такіх канферэнцыях абмяркоўваюцца ўсе самыя надзённыя пытанні будаўніцтва. Як і заўсёды, на гэты раз вялізная зала Дома культуры была запоўнена народам. Людзям не хапала месц, і яны тоўпіліся ўздоўж сцен, стаялі ў праходах.

Канферэнцыя скончылася позна, але, даведаўшыся, што ў заключэнне будзе дадзены канцэрт мастацкай самадзейнасці, ніводзін чалавек не пакінуў залы.

Выступленне хору ўдзельнікі канферэнцыі сустрэлі апладысментамі. Шчодра ўзнагароджвалі воплескамі гледачы і кожную новую песню і новага спевака. Але на долю Наташы на гэты раз выпаў асаблівы, незвычайны поспех. Калі Наташа скончыла спяваць, зала, нібы зачараваная, спачатку замёрла ў маўчанні. Замёрла і сэрца ў Наташы ад хвалявання — ці спадабалася гэтым цудоўным рабочым людзям, якіх яна паспела ўжо і зразумець і моцна палюбіць, яе песня, ці здолела яна перадаць ім усё зачараванне пявучых слоў, мілагучнай мелодыі?..

І раптам зала грымнула воплескамі. Бурай воплескаў! Адусюль чуліся выгукі — «біс, біс!». Людзі ўставалі з сваіх месцаў і прасілі паўтарыць песню. Ала Міхайлаўна са шчаслівай усмешкай павярнулася да Наташы і зрабіла знак паўтарыць.

Гэта быў поспех, якога яшчэ ні разу не ведалі ўдзельнікі хору. Наташа з Тацянай выходзілі з клуба амаль апошнімі, знарок затрымаўшыся ў гардэробнай: усхваляваная Наташа баялася, каб хто не падумаў, што яна выбегла першай, жадаючы пакрасавацца перад гледачамі. Абедзве сяброўкі маўчалі, перабіраючы ў памяці ўсё, што было ў гэты незабыўны вечар. Трымаючы Тацяну пад руку, Наташа моцна, да болю, сціскала яе локаць... Яна ўся нібы гарэла ад хвалявання... Як жа, аднак, усё добра склалася!.. Яна ўжо ведала ў жыцці трывогі і няўдачы, ведала слёзы расчаравання і смутак. А вось жа, глядзі, усё мінула, утаймавалася, і на сэрцы так хораша, светла... Цікава, ці слухалі сёння яе выступленне Мікола Сініцкі, Якаў Міхайлавіч, Лабуда, усе яе сябры па брыгадзе? Ці бачыў той чарнявы ленінградзец, хвалёны «бог» электразваркі?

Сяброўкі выйшлі на двор. Цёмнае неба было ўсыпана яснымі, нейкімі па-асенняму выразнымі зоркамі. Недзе сярод іх мігцела і самая яркая — зорка Венера... Святло ў дамах гарадка ўжо было патушана, і толькі зводдалек над рыштаваннямі будоўлі зіхацелі электрычныя агні.



— Скажы, Тацяна, — пазіраючы на тыя далёкія агні, ціха спытала Наташа, — табе падабаецца тут, на будоўлі?

— Яшчэ як! — трасянула кудзеркамі валасоў Тацяна. — А табе?

— Мне таксама падабаецца, — адказала Наташа.

Выходзячы з двара на вуліцу, якая ў гэты позні час ужо ледзь асвятлялася бледным святлом ліхтароў, сяброўкі заўважылі на тратуары постаці трох незнаёмых юнакоў. Усе трое заўзята курылі цыгаркі і аб нечым ціха размаўлялі. Убачыўшы дзяўчат, юнакі прымоўклі і разам, нібы па камандзе, павярнуліся да іх.

— Яна, — звяртаючыся да сяброў, ціха шапнуў адзін з хлапцоў. — Зорка Венера...

Сяброўкі зрабілі выгляд, што не пачулі гэтых слоў, і хутка пакрочылі. Хлопцы моўчкі адразу ж рушылі ўслед за імі. Дзяўчаты паскорылі крок, але хлопцы не адставалі. Жадаючы неяк адчапіцца ад незнаёмцаў, Тацяна пацягнула сяброўку на другі бок вуліцы. Але і юнакі адразу ж звярнулі за імі.

Тады Наташа спынілася, рашуча павярнулася і строга спытала:

— Вы чаго прычапіліся? Што вам трэба?...

Хлопцы таксама спыніліся.

— Не злуйцеся, дзяўчаты, — сказаў адзін з іх, высокі, стройны, і, нібы збянтэжыўшыся, пераступіў з нагі на нагу. — Мы толькі хацелі правесці вас.

І тут Наташа раптам пазнала юнака: гэта быў той самы чарнявы зваршчык, ленінградзец, што працаваў ля турбіны. Наташа і сама не змагла б адказаць, што яна адчула ў гэты міг — трывогу ці радасць, ці, можа, якія далёкія прадчуванні. Толькі пачула, як неяк мацней стукнула сэрца ў грудзях. Стукнула і застыла ў прыемным зняменні.

— Але ж мы зусім незнаёмыя, — уздрыгнуўшым голасам, але ўсё яшчэ строга сказала Наташа.

— А мы акурат і хацелі спачатку пазнаёміцца, — ужо смялей адказаў высокі юнак і, ступіўшы крок наперад, нечакана працягнуў Наташы руку. — Мяне завуць Юрка. А вас?..

Сама не ведаючы, добра яна робіць ці дрэнна, Наташа, не вагаючыся, падала юнаку руку.

— А мяне — Наташа...

Той памятны вечар з'явіўся як бы нейкім рубяжом у жыцці Наташы. Раптам праяснілася і набыло выразнасць усё, што да гэтага непрыкметна для яе самой цеплілася і расло ў яе душы: родным домам стала для яе будоўля. Вось раніцою, без чвэрткі восем, Наташа выходзіць на працу. Варта стаіцца дзе-небудзь збоку і паглядзець на яе ў гэты час. Наташа ідзе па вуліцы гарадка сваёй славутай паходачкай, шырокім, пружыністым крокам, з строгім тварам, з горда ўзнятай галавой. На ёй чорны хлапцоўскі камбінезон, шчыльна перахоплены поясам у таліі, каляровы каснічок на галаве. Наташа крочыць па асфальце тратуара, паглядае вакол.

Гарадок ужо абудзіўся ад сну, усюды з дамоў выходзяць людзі ў спяцоўках, камбінезонах, рабочых касцюмах. Па бруку вуліцы ў напрамку электрастанцыі адзін за другім з шумам прабягаюць грузавікі. На дарозе скрозь ляжаць доўгія касыя цені ад высаджаных уздоўж вуліц маладых дрэў.

Наташа вітаецца са знаёмымі, усміхаецца, перакідваецца з імі слоўцамі і ідзе далей, выразна падстукваючы абцасамі зграбных скараходаўскіх чаравічкаў. Вось позірк яе спыняецца на рыштаваннях па правы бок ад дарогі. Глядзі, што робіцца! Калі яна прыехала сюды, на гэтым пустыры былі толькі яшчэ закладзены фундаменты новых дамоў, а зараз на іх ужо сцелюць дах. Збудаваны вялікія двухпавярховыя дамы—адзін, другі, трэці, цэлая вуліца!.. Гэта будуць кватэры для рабочых. Будаўнікі гарадка абяцалі здаць іх рабочым да кастрычніцкага свята. І відаць, што будаўнікі спраўдзяць сваё слова.

Наташа міжвольна прыскорвае крок. Цяпер і ў іх у брыгадзе таксама гарачы час. Мантажнікі, намнога апярэдзіўшы графік, абяцаюць не сёння-заўтра закончыць устаноўку першай турбіны і генератара. Кажуць нават, што дырэкцыя станцыі ўжо звярнулася ў Гомель з просьбай «пазычыць» ім пяць тысяч кілават энергіі для пуску ў ход усіх агрэгатаў: энергапоезд, які зараз дае электрычнасць будоўлі, не мае такой сілы... Брыгадзе Якава Міхайлавіча нельга адставаць: запуск турбіны быў у прамой залежнасці ад заканчэння мантажу помпавых труб. І зразумела, што зараз на ўліку была кожная хвіліна. Як дружна, зладжана працавала ў гэтыя дні іх брыгада! Нейкая незвычайная прыўзнятасць надавала людзям сілы...

Вуліца гарадка канчаецца, і брукаваная дарога паварочвае налева, дзе зводдалек, каля Беразіны, ужо відаць рыштаванні ДРЭС. Паварочвае і Наташа. Яна ідзе ўздоўж дарогі па роснай мурожнай абочыне... Пасля таго выступлення ў клубе да Наташы адразу ж прыстала, нібы прырасло, і другое імя — Зорка Венера. Нібы згаварыўшыся, так пачалі зваць яе і сябры па брыгадзе, і брыгадзір, Якаў Міхайлавіч, і ўсе яе блізкія і далёкія знаёмыя на будоўлі. А Мікола Сініцкі для зручнасці вымаўлення пачаў зваць Наташу проста Зоркай. Так з яго лёгкай рукі і замацавалася за ёю гэтае імя.

Вось і цяпер яна ідзе і раз-по-раз чуе воклічы знаёмых, сяброў: «Дзень добры, Зорка!», «Эй, Зорка, прыходзь сёння ўвечары ў клуб!». Наташа адказвае на вітанні, усміхаецца...

Раптам твар яе становіцца строгім, на ілбе рэзка выступаюць маршчынкі... Усё добра, але сёння яна павінна вырашыць такое цяжкае і складанае пытанне. Пытанне, ад якога, можна сказаць, будзе залежаць усё яе далейшае жыццё, яе лёс. Учора ў канцы змены інжынеру ўчастка раптам пазванілі з канторы, каб Наташа Лойка тэрмінова з'явілася да намесніка начальніка ўпраўлення Калюты. Як выявілася, выклікалі туды і яшчэ некалькіх маладых хлопцаў і дзяўчат з іншых брыгад. Але ніхто з іх не ведаў, у чым была справа. І вось ім, дзесяці лепшым маладым будаўнікам, прапанавалі ехаць на вучобу ў Ленінград, у тэхнічнае вучылішча, на аддзяленне электразваршчыкаў. Ехаць трэба было паслязаўтра, а сваю згоду яны павінны былі даць сёння...

Як усё гэта было нечакана! Як цяжка было ёй наважыцца і прыняць рашэнне. Многія хлопцы і дзяўчаты, якіх разам з ёю выклікалі ў кантору, не ваганіся ні хвіліны і з радасцю адразу ж далі згоду ехаць. Сапраўды, гэта ўсё было так прывабна — паехаць у Ленінград, вучыцца, стаць высокакваліфікаваным майстрам, «богам» электразваркі... Яна добра разумела, што такое здараецца не часта, што шчасце на гэты раз само ішло ў рукі, варта было ёй толькі сказаць «так». Але Наташа не магла рашыцца. Ну, добра, яна паедзе, але як жа тады яе планы жыцця, яе даўнія мары — медыцынскі інстытут, муж — лётчык, маленькі гарадок на поўначы?..





Наташа пакутліва моршчыць лоб, — хоць бы хто-небудзь, разважлівы, разумны, быў зараз побач з ёю, дапамог ёй добрай парадай. Скажам, яе першы настаўнік тут, на будоўлі, Іван Пятровіч Лабуда або інжынер участка Канстанцін Сцяпанавіч... Раптам наперадзе, крокаў за дваццаць, Наташа ўгрупе мужчын заўважае Юрку. Яго высокая тонкая постаць вылучаецца з усёй групы. Наташа ўздрыгнула — як жа яна не падумала пра таго, хто цяпер стаў яе першым вялікім другам, з кім яна ў апошні час так моцна сябравала? Наташа паскорвае крок і аклікае Юрку.

Юнак азіраецца, і твар яго адразу ж асвятляе добрая, сяброўская ўсмешка. Ён прывітаў яе ўзнятай рукой і, саступіўшы ўбок са сцежкі, каб прапусціць сяброў, чакае Наташу.

— Дзень добры, Наташа, — радасна вітаецца Юрка. Але, убачыўшы яе твар, ён таксама хмурнее.

— Ты чуў, Юрка?.. — ідучы поруч з ім, пытае Наташа.

— Чуў, усё ведаю, — апусціўшы галаву, хмура гаворыць Юрка.

— Дык чаму ты маўчыш? Ехаць мне ці не ехаць?..—Наташа ўся захвалявалася, узяла яго за руку: сэрцам яна адчувае, што яго парада будзе і яе рашэннем.

Нахмураны, Юрка маўчыць, пазірае некуды перад сабой, паглыбіўшыся ў думкі. Відаць, што нейкія сумненні трывожаць яго, не даюць спакою. Наташа нецярпліва зазірае яму ў вочы, прагне хутчэй пачуць яго слова.

— Трэба ехаць,— выціскае з сябе нарэшце Юрка.— Абавязкова едзь, не прапускай выпадка. Толькі...

— Што толькі, Юрка? — спяшаючыся, пытае Наташа.

Юнак яшчэ ніжэй апускае галаву, яшчэ больш хмурыцца.

— Толькі ты павінна паабяцаць... што не забудзеш мяне... што не здрадзіш нашай дружбе.

— І ўсё? — з палёгкай выдыхнула Наташа.

— А што ж яшчэ? — ускінуўшы галаву, глядзіць ёй у вочы юнак.

— Дзякуй табе,— з цеплынёй сустрэўшы яго позірк, гаворыць Наташа. — Я паеду... І я абяцаю, што не забуду, не здраджу... А цяпер ідзі, даганяй сваіх.

— Мы ж з табою яшчэ ўбачымся? — пытае Юрка.— Ты прыходзь увечары ў клуб. Толькі ж абавязкова! — наказвае Юрка і доўга трымае ў сваёй руцэ яе тонкую, халодную руку.

І вось Наташа зноў ідзе адна. Яна ўсміхаецца: усе завуць яе Зорка Венера... А кажуць жа, што хто нарадзіўся пад гэтай зоркай, будзе ў жыцці шчаслівы. Можа і яна нарадзілася пад гэтай шчаслівай зоркай?..

На душы ў Наташы так хораша, спакойна. Гэта праўда, жыццё — складаная рэч, але Наташа цяпер разумее, што нават самыя лепшыя планы асабістага жыцця не могуць заставацца непарушнымі: гэта так добра, што чалавек вольны мяняць іх па свайму жаданню. Скажыце, калі ласка, дзе, у якім законе запісана, што яна, Наташа Лойка, адна з лепшых такелажніц будоўлі, абавязкова павінна вучыцца ў медыцынскім інстытуце, быць урачом? І ўжо зусім незразумела, чаму яе муж абавязкова павінен быць лётчыкам? Ці ж які-небудзь лётчык у свеце можа зраўняцца... Не, вядома, яна не маленькая і разумее, што ёсць недзе на свеце цудоўныя і прыгожыя хлопцы-лётчыкі. Але Наташа не мае да іх ніякіх прэтэнзій. Няхай яны сабе на здароўе лётаюць на сваіх хуткасных самалётах, няхай любяць сваіх каханых. А Наташы патрэбен адзін вось гэты чарнявы зваршчык. І больш ніхто на свеце ёй не патрэбен!..

Вось і прахадная. Наташа вешае на цвічок табельнай дошкі бляшаны кругельчык са сваім рабочым нумарам і выходзіць на дзядзінец будоўлі. Яна ідзе праз увесь двор сваёй пружыністай паходкай, з горда ўзнятай галавой...

І ў гэты час гучны, басавіты гудок агаломшвае ўсё наваколле, плыве над будоўляй, над маладым ранішнім гарадком, над прырэчнымі лугамі і далёкай дубровай па той бок Беразіны.

Пачынаецца новы рабочы дзень.



Сяргей ГРАХОЎСКІ

# БЕЛАРУСЬ



Беларусь, як шырокая жніўная песня,
Беларусь, як паводка празрыстых крыніц,
Беларусь, Беларусь — маладосці прадвесне,
Салаўёў пераклічка і гул навальніц.

Над калыскай тваёй бедавала жалейка,
На дарогах тваіх галасілі жанкі,
Прадавалі тваю маладосць за капейку
Радзівілы, сапегі, паны і панкі.

Гэта чортава плойма цябе пашматала
На маёнткі, фальваркі, здала у палон.
Ты да часу цярпела, ты ўсё памятала,
Не забыла нічога да сённяшніх дзён.

Ты жыла у красе і у песні дзявочай,
І у матчыным сэрцы, і ў звоне касы,
Ты у неба пазычыла сінія вочы,
І у спелага жыта ўзяла валасы.

Ты была плытагонам, сяўцом і аратым,
Ты драбіла каменні, узяўшы кайло.
Ты чакала свайго найвялікшага свята,
Але свята ніколі ў цябе не было.

Ты вастрыла рагаціны, брала сякеры —
Сын твой вырас, цябе за сабою павёў,
Але зноў не здаліся жалезныя дзверы,
І пятлю на табе зашмаргнуў Мураўёў.

Але хто там ідзе?—падзівіцеся, людцы.
Хто нам шчасце нясе у глухое сяло?

Гэта з дыму і полымя трох рэвалюцый
І на нашую вуліцу свята прыйшло.

І табе, разгінаючы дужыя плечы,
Працягнула гарачыя рукі радня.
Заіскрылася ты у красе чалавечай,
І ў пакутах сваіх прыгажэла штодня.

Ты дзялілася хлебам з галодным
Паволжжам,
У тыфозных цяплушках паўзла на
франты,
Партызаніла, спала на чорных астожжах,
І да ранаў тваіх прыкіпалі бінты.

Але верыла ты, што ніякая сіла
Не зламае цябе у цяжкія гады.
Ты у бога палёгкі ужо не прасіла,
Бо паверыла толькі у Леніна ты.

І калі прамінула ліхая навала,
Ты вучыла дзяцей, ты дамы будавала,
На работу заўсёды ішла, як на свята,—
Мала часу прайшло, а зрабіла багата.

Ты ішла на завод у спяцоўцы рабочай:
Косы — спелае жыта і сінія вочы.
Ты у поле выходзіла чэрвеньскім
ранкам,
А пад вечар—ужо Беларусь-партызанка
На зямлянку змяніла прасторную хату
І чужынцаў касіла агнём аўтаматаў.

Потым клала падваліны з лепшага дуба
І навечна паставіла звонкія зрубы
На зямлі, што сваёй акрапіла крывёю
Гераічная маці бяссмертных герояў.

Асвятліла агнямі палескія ночы...
Косы — спелае жыта і сінія вочы.

Беларусь дачакалася светлага свята,
У цябе і сясцёр і сяброўак багата.

Серп і молат, дубовае лісце
з пшаніцай,
Што навекі спляліся у гербе тваім,
Не змагла і не зможа крануць
навальніца —
Мы заўсёды з табой,
Мы на варце стаім!



**Васіль БЫКАЎ**

# ЗАГАД

## Апавяданне

Мал. Ф. Бараноўскага.

Сувязі не было ўжо дваццаць мінут.

Тэлефаніст Пятрашкін, скурчыўшыся ў кутку бліндажа над палявым камутатарам, то патрабавальна, то ласкава, то звонкім хлапечым крыкам, то шэптам паўтараў у запацелую трубку самы патрэбны цяпер у свеце пазыўны — «Клён». Але «Клён» маўчаў, загадкава стаіўшыся недзе на другім канцы провада. Затое суседні на камутатары клапан з карандашным надпісам «Волга», амаль не закрываючыся, ліхаманкава, трывожна дрыжаў: «Др-р-р-р, д-р-р-р...» Да самага нутра дацінала Пятрашкіна гэтае дрынканне, і ён раз-по-раз таропка пераключаў штэпсель і ад прыкрасці так сціскаў у азяблым кулаку трубку, што бялелі суставы на пальцах. Прыгнечаны ўласным бяссіллем, тэлефаніст з маўклівай пакорнасцю слухаў далёкі сярдзіты голас дваццаць першага — іхняга камандзіра палка:

— Чорт вазьмі, калі вы дасцё «Клён»? — хрыпеў у трубцы яго нягучны суровы бас. — Дзе начальнік сувязі?

Капітан Полазаў не чуў таго, але па нейкай аднаму яму вядомай прыкмеце здагадаўся, што яго патрабуе камандзір і, прысеўшы ля Пятрашкіна, дрыжачай рукой узяў трубку. Яго худы, немалады ўжо, строгі твар быў вельмі заклапочаны.

— Ёсць, таварыш дваццаць першы! Сувязь будзе... — спакойна і цвёрда гаварыў капітан, і Пятрашкін, зябнучы ўсім целам ад восеньскай сцюжы і ад гэтага нязбыўнага клопату, бачыў, як яшчэ болей хмурнелі ў таго запалыя вочы.

Сувязь была неабходна: толькі яна магла выратаваць полк ад той страшнай бяды, якую чынілі фашысцкія танкі, прарваўшыся аднекуль з фланга ў палкавыя тылы. Недзе недалёка з імі змагалася транспарт-

ная рота і каменданцкі ўзвод, але Пятрашкін, заняты камутатарам, не бачыў і не чуў тае бойкі — ён толькі адчуваў, як уздрыгвала ад выбухаў зямля. Часам яна скалаталася так моцна, што з дзіркі на сярэдзіне жывым струменем сыпаўся пясок і ў куце, дзе стаяла падпорына, каціліся каменьчыкі і ўсохлыя камякі гліны. Пятрашкін за невялікі час свайго франтавога жыцця яшчэ не бываў у такім пераплёце і цяпер вельмі пакутаваў і ад страху, і ад напружанага чакання, калі, нарэшце, адновіцца сувязь і адгукнецца тая батарэя, на якую цяпер была ўся надзея.

Апрача Пятрашкіна і начальніка сувязі ў гэтым, нядаўна нямецкім, бліндажы з перацёртай саламянай трухой на доле быў яшчэ яфрэйтар Бутэнка — камлюкаваты маўклівы дзяцюк у вайсковым бушлаце з адарванымі гузікамі. Ён выглядаў занадта спакойным у гэты крытычны час і, падпёршы спіною сцяну, усё цмыгаў тоўстую, з палец, самакрутку, да якой меў, здаецца, адзіную ў жыцці страсць. Быў тут яшчэ і высокі, чубасты сержант Сімакоў — першы радыст палка, вельмі паважаны ўсімі сувязістамі і нават самім камандзірам, які, заходзячы на вузел сувязі, заўжды вітаўся з сержантам за руку. Цяпер Сімакоў быў без справы, бо ўранку выбухам міны пашкодзіла рацыю і смяротна параніла ягонага напарніка Васю Болзіна. Чарнеючы з твару ад той двайной страты і сённяшніх няўдач, ён з пакутніцкім выглядам стаяў у траншэі ля ўваходу ў бліндаж і сачыў за ўзгоркам, на якім недзе здарыўся абрыў і куды пабег ужо тэлефаніст Айбекаў.

— Эх, с-сабака, так і садзіць, так і садзіць.. Айбекаў?.. Ну нашто так марудна, хутчэй!..

Капітан Полазаў у той час круціў другі апарат і спакойна, нібы нічога небяспечнага не сталася, загадваў некаму звязацца з «Клёнам» праз нейкую «Зіму», якая — Пятрашкін памятаў — значылася ў спісе пазыўных штаба дывізіі.

Быў у бліндажы і яшчэ адзін чалавек — малады, пэўна ў гадах Пятрашкіна, афіцэр, у караткаватым новым шынялі і з тонкай доўгай шыяй, якая смешна вытыркалася з вялікага каўняра гімнасцёркі. Ён то падыходзіў да камутатара, то мацаў вывады правадоў і зазямленні, то, услухоўваючыся ў рознагалоссе блізкага бою, нявесела пазіраў на маўклівага, заклапочанага капітана. Пятрашкін не ведаў ні яго прозвішча, ні пасады, памятаў толькі, як учора надвячоркам з'явіўся ён на іхнім вузле сувязі.

Пятрашкін тады, як і цяпер, абслугоўваў камутатар і, чакаючы, пакуль Айбекаў прынясе вячэру, прыслухоўваўся не толькі да сваёй трубкі, але і да крокаў у траншэі. Таму ён адразу павярнуўся да дзвярэй, як пачуў там нейчыя рухі, і ў незавешаным праходзе адразу ўбачыў спярша незнаёмыя кірзавыя боты, пасля—полы зусім яшчэ новага шыняля. Неўзабаве, згорбіўшыся пад нізкай столлю, у бліндаж улез малады курносы хлапец, падперазаны жаўтлявым рамянём, у суконнай пілотцы, у залатых пагонах з адной зорачкай на прасвеце і сувязісцкай эмблемай ля гузіка. Пэўна, дрэнна бачачы ў прыцемках бліндажа, афіцэр спыніўся на парозе і запытаў:

— Начальнік сувязі тут?

Пятрашкін, усё разглядаючы незнаёмага, моўчкі кіўнуў галавой у бок капітана, які прымасціўся на катушцы чырвонага трафейнага кабелю і маляваў схему сувязі. Афіцэр тады саскочыў з парога і, шчоўкнуўшы абцасамі, размашыста дзеўбануў кончыкамі пальцаў у край пілоткі:



— Таварыш капітан, малодшы... — і чамусьці змоўк, заікнуўшыся, а праз момант ужо іншым голасам, спалоханым і ўзрадаваным, усклікнуў:

— Ой, Іван... ты?!

Пятрашкін, апусціўшы ад вуха трубку, вертануўся было ад свайго камутатара, чакаючы, што строгі, зусім не настроены жартаваць капітан прыкрыкне на гэтага дзівака-лейтэнанта, які гэтак спляжыў свой службовы даклад. Але капітан не крыкнуў, у яго шырока раскрытых вачах адбілася здзіўленне, і, стрэсшы з каленяў паперы, ён ускочыў насустрач.

— Аркадзь?! Адкуль? Як жа гэта? — разгублена пачаў ён, абхапіўшы таго за плечы.

— Ды вось прыбыў,—збянтэжана адказваў малодшы лейтэнант. — З вучылішча вось... Ужо скончыў. Прыехаў у дывізію, пасля сюды...

— Глядзі ты!.. Вось дык нечакана! — усё здзіўляўся начальнік сувязі, і Пятрашкін падумаў, што гэты афіцэр нейкі, відаць, знаёмы капітана Полазава.

Так яно, бадай, і было.

Увечары паспакайнела, мінамётныя выбухі змоўклі, толькі недзе за пагоркам у напрамку трэцяга батальёна трашчалі нашы кулямёты ды ўзляталі ў чорнае неба імклівыя хвасты ракет. Рухавыя зеленаватыя водбліскі мільгалі па сценах бліндажа, на брустверы траншэі, дзе доўга сядзелі гэты малады афіцэр і начальнік сувязі. Яны ўсё гутарылі і гутарылі аб нечым — ціха ўспаміналі далёкія даваенныя часы, нейкі горад, незнаёмых людзей, чужое, невядомае Пятрашкіну жыццё. Пятрашкін вельмі хацеў спаць і драмаў між тэлефонных званкоў і дрынкання клапанаў і ўсё слухаў, ці мо нават сніў тыя размовы. Здаецца, афіцэры так і не паспалі, а на світанні здарылася вось гэтая бяда з танкамі...

— Эх, гады!.. Накрылі! Накрылі нашага Айбекава! — амаль плакаў у траншэі Сімакоў. — Упаў!.. Устае... Не, усё!..

Туды, у траншэю, падаліся капітан, малодшы лейтэнант і нават Бутэнка. Апошні няспрытна ўзняўся з-пад сцяны і палез у дзверы. Утрох яны нейкі час тапталіся ў вузкай траншэі і з прытоенай трывогай на спахмурнелых тварах усё ўзіраліся туды, дзе быў Айбекаў. Пятрашкіну таксама хацелася зірнуць на той здрадніцкі пагорак, але зноў зазваніла «Волга», і тэлефаніст у трубцы спытаўся пра сувязь.

У той крытычны момант узрушаны Сімакоў вылаяўся, узмахнуў рукой, бы з усяе сілы разбіваючы штосьці аб зямлю, і коратка гукнуў да начальніка сувязі:

— Дайце я!

Не чакаючы дазволу, ён хуценька скінуў рэмень, дрыжачымі рукамі здзёр з сябе цесны шынель і, як апантаны, ускочыў на бруствер.

— Сімакоў, глядзі ж! — крыкнуў наўздагон капітан. Ён, відаць, нямала шкадаваў гэтага радыста і хоць якой парадай хацеў засцерагчы сержанта ад той небяспекі, што магла чакаць яго на ўзгорку.

Зноў павалакліся марудныя хвіліны чакання. Пятрашкін усё падзьмухваў у трубку, спадзеючыся злавіць хоць якія прыкметы сувязі, але нават мадуляцыі па-ранейшаму не было. За спіной таўкліся і гудзелі выбухі, нешта калацілася і стагнала—здавалася, нейкі падземны асілак варочаецца там і злосна бурчыць, ніяк не знаходзячы сабе зручнага

месца. Чуўся ўжо і грукат матораў і яшчэ нейкі далёкі цягучы гул. Пясок ужо сыпаўся няспынна і цурчэў у саломе, бы танюткі вадзяны струмень.

Пятрашкін так і не ўбачыў, што сталася з Сімаковым, толькі маўклівы і напружаны капітанаў твар балюча перасмыкнуўся, капітан непрывычна злосна вылаяўся. Далей, ужо не стрымліваючы свайго хвалявання, ён звычайным, зусім чужым голасам, ад якога аж здрыганулася ў Пятрашкіна трубка, скамандаваў яфрэйтару:

— Бутэнка — уперад!..

Пятрашкін і здзівіўся, і спалохаўся—яшчэ ні разу не чуў ён гэткага камандзірскага вокрыку — і вачыма, поўнымі жаху, глядзеў на капітана. Бутэнка нібыта змярцвеў у сваёй флегматычнай нязрушнасці, толькі яшчэ вузей прыжмурыў заўжды заспаныя вочы. Пасля некалькі разоў, часцей, чым звычайна, ён шмыгнуў напаследак свой патухлы недакурак, прыпасліва сунуў яго ў пілотку і, зняўшы з пляча аўтамат, нібы на якую будзённую справу, нязграбна вылез з траншэі. Па бліндажы пратупацелі яго цяжкія крокі.

У траншэі ля ўваходу засталіся двое. Капітан Полазаў, сутаргава ўчапіўшыся пальцамі ў глыжасты бруствер, глядзеў у далячынь, куды бег Бутэнка. Побач, плячо ў плячо, стаяў гэткі ж маўклівы і засяроджаны малодшы лейтэнант — ён хваляваўся і, стрымліваючыся, кусаў пабялелыя тонкія вусны.

Пятрашкін ужо не слухаў тэлефонных званкоў, ён быццам аглух да камутатара: сачыў толькі за тварам камандзіра. У наваколлі тым часам усё большала грукату, угары скавытала, мінныя выбухі трэслі, штурхалі зямлю — там, на бугры, Бутэнку, відаць, было вельмі нялёгка. Скамянелы капітан з выцягнутым наперад касцістым падбародкам, жылістай шыяй і імклівым разлётам валасатых брывоў здаваўся





цяпер інакшым, загадкавым чалавекам. Але вось раптам дрыганула яго брыво і ў вачах мільгануў знаёмы цень злосці. Пятрашкін, як згледзеў тое, ураз згадаў, што недзе там здарылася новая бяда, і аж прыўзняўся на каленях, чуючы сваю чаргу на страшную і немінучую справу. Бы пружына, туга сцяўшыся, баючыся таго і чакаючы, ён гатовы быў рынуцца туды, дзе ўжо зніклі трое яго таварышаў. Трэба было толькі камандзірава слова. Аднак капітан глуха і прыдушана, але па-ранейшаму няўмольна і сурова загадаў іншаму:

— Малодшы лейтэнант Полазаў! Даць сувязь!

Малады афіцэр зябка перасмыкнуў плячыма, неяк бокам зірнуў на капітана, бы хацеў што сказаць, але змоўчаў. Затое ў вачах яго занялася такая невыказная, усеабдымная туга, што нават Пятрашкіну ў бліндажы стала неяк сумна. Аднак капітан, здаецца, не прыкмячаў таго, строгі і зацяты, ён чакаў ад афіцэра выканання загаду і знарок не пазіраў на яго. І малодшы лейтэнант пасля нядоўгай маўклівай паўзы спрытным рыўком ускочыў на бруствер. У вузкай шчыліне дзвярэй мільганулі і зніклі яго новыя кірзавыя боты з радамі нестаптаных шыпоў на гумавай падэшве.

Застаўшыся ў траншэі, капітан неяк размяк, страціў сваю суровую зацятасць, няўтоены смутак і боль скрывілі пакутаю яго твар. Нешта жаласнае авалодвала ім, у знямозе ён усё болей схіляўся на бруствер, нібы імкнучыся за тым, каго толькі што паслаў на страшную справу.

— Правей, правей бяры! — крычаў ён услед малодшаму лейтэнанту.

Пятрашкін не ведаў, як там бег той малады афіцэр, але пэўна не так, як трэба было, бо капітан, у пыл расціраючы пальцамі глыжы, толькі скрыпеў зубамі і шаптаў, ужо не маючы надзеі быць пачутым:

— Аркадзь, правей! Правей, браточак!.. Эх!..

Учуўшы гэты роспачны шэпт, Пятрашкін раптам усвядоміў, што таго малодшага лейтэнанта капітан таксама назваў Полазавым. Малады тэлефаніст ад таго яшчэ болей здзівіўся. Ён адчуваў: здарылася нешта такое, што цяжка было зразумець цяпер, і толькі вельмі хацелася, каб хоць не напаткала гэтых людзей якое няшчасце. І, напяўшыся ўвесь, з прыкладзенай да вуха трубкай, ён выцягся, як і капітан, і, баючыся міргнуць, глядзеў на скажоны балючай грымасай твар камандзіра.

А там, недзе ў адкрытай восеньскай далечы, усё раўло і грымела. З шэлестам, шоргатам і віскам несліся ў паднябессі снарады, стагнала зямля. Тэлефаніст з «Волгі» ўсё патрабаваў сувязь з «Клёнам», але Пятрашкін ужо не адгукаўся яму.

І тое, чаго так чакаў і баяўся Пятрашкін і ад чаго камянеў капітан, здарылася. Ад нейкага жудаснага відовішча Полазаў раптам абхапіў твар рукамі, застагнаў і хіснуўся. Пятрашкін, мярцвеючы ад жаху, кінуў трубку і памкнуўся да камандзіра, але той зараз жа выпрастаўся і сустрэў тэлефаніста ўжо ўладарным, суровым позіркам страшных, нейкіх ашклянелых вачэй.

— Назад! — крыкнуў ён.— Трымаць сувязь!

А сам, як і надоечы Сімакоў, расшпіліў рамяні, скінуў сумку, шпурнуў у траншэю шынель і ў адной гімнасцёрцы з ордэнамі на грудзях кінуўся ў грымлівую прастору поля.

Застаўшыся адзін, Пятрашкін раптам адчуў, як у ягоную душу хлынуў страх. Прыкуты да апарата, ён не бачыў, што адбываецца наверсе, не ведаў, дзе былі тыя танкі, што нарабілі бяды. Але нядаўні прыклад яго таварышаў, яшчэ не ўсвядомлены і не зусім зразумелы ўчынак капі-

тана прымушалі сувязіста перамагаць страх і трываць. Ён ужо не зважаў на дрынканне «Волгі», уключыў і не вымаў штэпселя з «Клёна» і слухаў, слухаў. Ад напружанага жадання пачуць, яму часам здаваўся невыразны пошчак кантактаў, здавалася, вось-вось загамоніць адтуль далёкі голас, але ішоў час, а таго не збывалася.

Урэшце, не могучы далей чакаць, тэлефаніст паклаў на салому трубку і выскачыў з бліндажа. У якім кіламетры на ўзараным касагоры пагорка пыхкалі і пыхкалі зусім неяк нястрашныя здалёку кусцістыя выбухі мін. Увесь схіл пагорка быў ад іх у чорных, падобных адна на адну плямах. І сярод гэтых плям Пятрашкін убачыў удалечыні маленькага, неяк дзіўна павольнага і мізэрнага капітана Полазава. Ён, відаць, знайшоў канцы перабітага кабеля і, схіліўшыся, з усяе сілы сцягваў іх з пагорка, далей ад гэтага няспыннага поскаку смерці. Наперадзе, ззаду і з бакоў афіцэра ўсё пырскалі, бы прарываліся з-пад зямлі, выбухі мін, а ён, не зважаючы на тое, рабіў сваю справу. Пятрашкін, гледзячы на яго ў той час, чамусьці не адчуваў ужо страху за сваё жыццё — яго апанавала прагнае жаданне, каб хоць як-небудзь мінавала афіцэра бяда.

Але, відаць, немагчыма было доўга ўцалець у гэтай віхуры ўзрываў. Ужо амаль у самым нізе пагорка пырснуў і затуліў капітана шырокі, клубчасты куст выбуху. Пятрашкін схаладзеў увесь і некалькі бясконцых секунд чакаў, пакуль асядзе пыл і зямля. І тады на краі той новай чорнай плямы паказалася нешта дзіўнае, бясформеннае...

У адно імгненне тэлефаніст адчуў, што прышла і яго чарга. «Волга» ў камутатары злучана з «Клёнам»: калі адновіцца лінія, яны адразу звяжуцца, а калі не... калі не, дык і ён тут усёроўна ўжо не будзе патрэбны. Натхнёны магутнай сілай яшчэ не выкананага загаду, ён абапёрся рукамі на бруствер і скочыў угору.



І тады ў бліндажы настойліва і голасна зазваніў апарат.

Не адразу нават уцяміўшы, што здарылася, павісшы жыватом на краі траншэі, Пятрашкін некалькі хвілін нерухома слухаў залівісты выклік і потым спотырча кінуўся да камутатара.

— «Рэзеда», «Рэзеда», як чутна?.. Дзе вы там прапалі?.. Гаворыць «Клён»...

Тэлефаніст нема замычэў ад радасці, амаль фізічна адчуў, як звалілася з яго душы вялізнае гора. Ён зараз жа выклікаў «Волгу» і торапка, нібы баючыся згубіць сваё неспадзяванае шчасце, закрычаў у трубку:

— «Волга»! «Волга»!.. перадайце дваццаць першаму, іх загад выканан... Сувязь ёсць! Ёсць сувязь! Гаварыце з «Клёнам»... Што? Начальнік сувязі?.. Няма ўжо начальніка сувязі. Няма... Гаварыце з «Клёнам»...

Язэп ПУШЧА

# БЯСЕДНАЯ



Прынеслі бацькі дарагія дары:
На вокнах у вазах цвітуць незабудкі.
Дзяўчаты і хлопцы, сяброўкі, сябры,
Паднімем з народам бяседныя кубкі!

Шумяць беларускія пушчы, бары,
І сонца, і зоры яснеюць над імі.
Гарачыя сэрцы — Радзіме, сябры!
І шчыра аберуч Радзіму абнімем.

Дубы у дуброве не хіляцца ніц,
Як волаты тыя, стаяць пабрацімы.
Жывая вада з неўгамонных крыніц
У рэчышча дружбы бяжыць па Радзіме.

Рэспублік Савецкіх сузор'е гарыць,
І дружба народаў — на вечныя векі...
Паднімем жа кубкі, сяброўкі, сябры,
За шчасця народнага поўныя рэкі!

Іван ПТАШНІКАЎ

# НА ШЧАСЦЕ

## Апавяданне

Пасля сканчэння ўніверсітэта мяне, з групай былых студэнтаў, паслалі на месяц за межы рэспублікі на адзін з заводаў для больш дэталёвага азнаямлення з тымі працэсамі, якія нам выпадала хутка выконваць самім на электронных машынах.

Увесь месяц я перапісваўся з Галяй, пасылаў ёй амаль штодзень лісты, чакаючы ад яе адказу. Яна пісала мне таксама. Пісьмы былі простыя і роўныя, як і яе характар. Толькі тое, якое прышло ўжо на вёску, — дагнала мяне з пісьманосцам на парозе маёй хаты, — было загадкавае і хавала неспакой.

Абабіўшы дарожны пыл, памыўшыся і нічога не кажучы маці, я стаў рыхтавацца зноў у дарогу. Хацелася як найхутчэй быць з Галяй.

* * *

Навальніца прагучала і сплыла, абудзіўшы раніцу. Паветра пахла канюшынай, жытамі; прымешваўся водар гурковага цвету, медуніцы і спелых кміноў. Поле жыло, п'ючы дажджавую расу.

Неба было чыстым, густым і высокім. Хмары зніклі раптоўна, як і наплылі. Здавалася, не той раз'юшаны і напорысты самадум-вецер пагнаў іх у белы свет, а яны растала тут, над палямі і лугам, апалі дажджавымі струменямі і парай ды сцяклі незлічонымі раўчукамі ў лагчыны, поячы глебу прэснай і свежай спажывай-вільгаццю.

Усё адбылося да ўсходу сонца.

Мне трэба было трапіць на Даўгінаўскі аўтобус, і я не спаў усю ноч, а ледзь свет — ускочыў, «ускруціўся», як гаварыла мая маці, і, расчыніўшы акно ў гародчык, засумаваў, гледзячы на пісягі-рагалы, што цяклі і па шыбах, і па сцяне, і падваконнем. Гародчык ад дажджу шапацеў вішнёвым лісцем, аж да зямлі пад ветрам згіналіся вяргіні, грымела зусім блізка над хатай, і маці, нарэшце папракнуўшы мяне, бразнула рамамі перад самым носам. Адвярнуўшыся ад зачыненага акна, я быў зусім раскіс, але яна суцешыла мяне, запэўніўшы, што дождж перад дарогай абяцае ўдачу і што летняя ранішняя навальніца нядоўгая, і загадала сесці снедаць.



Брыгадзір, мой дзядзька, абяцаў учора падкінуць мяне ранічкай, але я не захацеў адрываць некага ад работы. Коні ўсе замацаваны за калгаснікамі, і тыя ў нас зарання выязджалі на поле. А пакуль да аўтобуса і назад — цалюткі свет...

І вось меншы брат, — дзесяцікласнік, лічы, — вязе мой чамадан, прыладзіўшы на багажнік веласіпеда. Ён даўно пакінуў мяне ззаду аднаго, а гэта і наруку. Адзін я магу пець, марыць, сваволіць, а прысутнасць каго-небудзь з сям'і неяк звязвае. Чаго саромлюся і сам не ведаю. Думаецца, што ўсё пачутае ад мяне, песня гэта ці жарт, брат абавязкова перадасць маці.

Мінуўшы вёску, спускаюся ў Разанку — так называецца лагчына, парослая бярэзнікам, дзе некалі ў сівой старасвеччыне нашы прарадзічы трымалі сечу з ворагам. Такая легенда і цяпер жыве ў наваколлі. Мне здаецца, што чарнастволыя ад даўнасці бярозы памятаюць пра некалішнія няроўныя бітвы.

Яны, абступіўшы дарогу, маўчаць у ранішняй цішы, тоячы ў сваёй маўклівасці роздум над векаваннем чалавека. Мне б дамагчыся разгадаць іх думы-летапіс. Яны многа бачылі, яны шмат ведаюць...

Але яны неўзабаве застаюцца ззаду.

Вільготныя ў калоссях жыты, што паабапал дарогі, дзе-кольвечы падупалі, пазвіхаліся пад грузам калосся. Мне шкада іх. Як неўпару кранула гэты край дажджавая навала... Ды нічога. Дзень-два пагоды — і калоссе пырсне зернем, прасячыся ў бункер камбайна. Скрозь спалавелае поле ад сонца выдае зусім васковым, дарога, пятляючы, губляецца сярод яго, але бачу ўдалечы веласіпедыста і белыя дахі новых будынкаў.

Лёгка дыхаць пасля дажджу, лёгка ісці. Раптоўны буйны лівень прыбівае пясок, змывае са сцежкі сухую траву-сена і прывялыя круглыя прыгожыя спарышы-лісточкі дзяцеліцы. Яны плаваюць у лужынах, напоўненых вадою дарожных калдобінах, зялёныя-зялёныя на мутна-жоўтай вадзе.

На прыпынку было няшмат народу, і я, упэўнены, што нарэшце ўладжуся як-небудзь, адпусціў дадому брата. Яму яшчэ ўчора брыгадзір даў нарад акучваць бульбу на загуменні. Ранічкай выгода: днём коней дацінalі сляпні. Паціснуўшы мне руку і апусціўшы галаву,— яму было шкада пакідаць мяне: расстаёмся ж надоўга, — ён хутка схаваўся ў жыце.

Аўтобус пазніўся. Ад Даўгінава да нашай мясцовасці — лес, карэнне і выбоіны.

Наваколле запаўняе калгасная раніца. Прагналі жывёлу па свежай пасля дажджу вуліцы. Недалёка ад нас жанчыны, распінаючыся адна перад адной, даводзілі прарэзлівымі галасамі, што якаясь цётка ніколі не хадзіла і не пойдзе на поле і што добра зробяць, калі ў яе адымуць гарод. Праехала брыгадзірская брычка — жанчын паменела. Раптоўны на світанні вылівень, відаць, дазваляў ім дагэтуль прыпазняцца. Да камбайна, які стаяў амаль ля аўтобуснага прыпынку на дзядзінцы, вы-

сыпала аднекуль запырсканая і падкасаная да каленяў дзетвара. Дагэтуль яна, напэўна, паспела пашнырыць і па калгасным садзе, і па ферме, і згайсаць у гарахі.

У думках я гатоў быў пусціцца па мураве разам з дзецьмі, якія, не змаўкаючы ні на хвілю, пачалі ўжо ў нешта барабаніць ля камбайна Можа мяне пабуджаў да гэтага мой неспакой?..

Але раптам я забыўся пра іх.

Як дагэтуль не мог заўважыць яе, чые шчокі некалі заўсёды гарэлі пры сустрэчы са мной?!. Гэта Валя, мая аднакласніца яшчэ па вясковай сямігодцы. Цяпер я магу прызнацца сабе, што яна — маё першае хлапечае абуджэнне душы. Я, вялізны і няўклюдны, рос тады дзікім дрэвам — камлюкаватым дубком — і не заўважыў, як ля мяне першы раз расцвіла маладзенькая яблыня. І вось аднойчы цвёрдалісты дуб у вясновае ранне ўгледзеў нясмелую бель-квецень. Ён не змог больш шумець насуплена...

Ён пакахаў яе, але шляхі развялі іх...

Дуб шумеў на ветры, калеў ад холаду і болю, але застаўся адзінокі там, на полі: няпоўныя гады не дазвалялі яму смела заявіць пра боль душы.

Цяпер яна, Валя, якую я ніколі не чакаў сустрэць тут, пазнала мяне і прыгнулася на сваім ладнаватым чамадане, стараючыся быць плячыма да людзей. Я абрадаваўся і, хуценька падышоўшы, прывітаўся. Яна ўстала і загаварыла зусім незнаёмым голасам, уся чырванеючы, нібыта была вінавата перада мной. Потым вінаватасць на твары ўступіла месца гордасці, нейкай незразумелай для мяне. І яе словы, як халодны ў замаразкі вецер, астудзілі маю занадтую шчырасць. Я зноў прыпомніў таго, хто некалі не скупіўся на радасць для мяне; я зразумеў і яе цяперашнюю гордасць маладой жанчыны: яна збіралася стаць маці.

Мы перакінуліся словамі: і яна, і я шукалі, пра што гаварыць. Адчувалася, нам дваім хацелася толькі маўчаць. Нарэшце яна нясмела, але з нейкай пяшчотай і настойлівасцю, якая прыдавала і мне жадання весці размову, накіравала нашы думкі па адной сцяжынцы — мы сталі прыпамінаць сяброў-аднакласнікаў: дзе хто і як, стараючыся ўсякім чынам абысці сябе. Асабліва гэтага хацела яна, і ёй удавалася. Яна ведала, што я вучыўся ва ўніверсітэце, і я чуў, што яна на заводзе.

І чаго нам сароміцца колішняга? Хіба яно цяпер для нас што значыць пасля столькіх год? Усё даўнейшае, да яго няма звароту.

Але ж мы нейкія сарамлівыя, як і тады, у нашы няпоўныя гады. Не, хутчэй за ўсё — мы зусім далёкія.

Яна ловіць мой пагляд толькі тады, калі я пазіраю куды-небудзь, толькі не на яе. Я заўважаю гэта і думаю пра тое, што мінулае жыве ў нашых сэрцах, мусіць, толькі як памяць...

Якая дарослая і разам з тым прыгожая Валя... Але гэта другая, нават чужая для мяне, не тая, якую я некалі кахаў і з якой даўно развітаўся: я жанаты. Мяне чакала *маё* каханне ўперадзе, пра што тады не мог ведаць. Яго прынесла Галя, што цяпер клікала да сябе так настойліва і нецярпліва.

Значыць, першае каханне не заўсёды тое, што звязвае цябе назаўжды з чалавекам...

У аўтобусе мы сядзелі разам. Калдобістая дарога гоцала нас, падкідвала, і Валі рабілася блага. Ёй стала горача. Яна зняла з сябе жакет, а я з горам папалам зрабіў супраць Валі фортку, ледзь асунуўшы ўніз шыбіну, якая, бог ведае, ці краталася калі з месца ў нашым даволі-такі новым аўтобусе. Перасесці нам не выпадала куды: мы былі не адны.



Валя перастала размаўляць. Ёй было не да мяне: яна то выцірала хустачкай усчырванелыя шчокі, то зусім закрывала далонямі твар. Я змоўк і прыслухаўся. Уперадзе мяне шафёр у чорных рагавых акулярах (сонца біла якраз нам у вочы) апавядаў некаму, што гэты самы аўтобус хадзіў і на Карэлічы праз Мір, і на Ілью, і што на Даўгінава дарога самая паганая, асабліва ў Крашчанскім лесе.

Недзе збоку нас на ўвесь маленькі аўтобус моцна, як у бочку, размаўлялі дзве жанчыны. Іх чамусьці слухалі ўсе. Я пакінуў слухаць шафёра і нават павярнуўся да іх. Трымаючы на каленях напакаваныя карзінкі, яны ківалі галовамі адна перад адной:

— Бедная... Трудзіцца як. На адкрытую садзілася б...

— Ведаю, Любка, што гэта за мэнка. Калі я хадзіла двайнёй і мне трэ' было ў Барысаў ехаць...

Гэтыя словы ўчула і Валя. Якая яна ўсё-такі была дзіўная: думала, што я нічога не заўважаю. Неяк спалохана зірнула ў мой бок, спахапілася нечага і накінула на сябе жакет. Я загаварыў да яе, але яна маўчала, гледзячы то праз фортку на росныя яшчэ ад ранішняй навальніцы блізкія маладыя прысады, то недзе проста перад сабой — шафёру ў плечы.

Дрыжалі дзверцы, недзе ззаду брынчэла шыбіна, манатонна і несціхана: мы выехалі на брук.

Вецер рваўся ў адтуліны вокан, нёс прымесі налітага жыта, свяжыў твар, сцёбаючы ражкамі каўняра сарочкі па шчоках.

Выплылі з прыдарожных кустоў на ўзгорак. Дарога вяла полем — жытамі. Ім не было краю. Яны стаялі ціха і мірна, пакалыхваючыся, бы ў вялікім одуме. Яны былі прыгожымі ў сваёй маладой спеласці...

Валя не адводзіла вачэй ад акна. Яе каштанавыя валасы, што закрывалі шыю, разляталіся ад ветру. Яны атулялі ёй плечы. У профіль бачыў я яе нос, прамы, крышачку прыгнуты і можа ад гэтага нават прыгожы; яе вейкі — густыя, узнятыя. А вочы... Яны былі вільготныя ў гэты час бадай ад радасці... Яны глядзелі і глядзелі туды, дзе ў сінечы губляліся жыты, і, мусіць, марылі...

Я ведаў, аб чым радуецца сэрца маладой жанчыны, у хуткім маці, і шчыра жадаў ёй шчасця...

Мы ляцелі ўніз, з гары, пад Хатаўскія лясы...

Веяла свежым, ранішнім, абмытым дажджом лесам. Тут жыў зусім малады яшчэ жнівень з налітымі малінамі і запунсавелымі ўжо брусніцамі на палянах сярод зялёнага хвашчу і разгатай папараці.

Там, дзе дарога, якая вядзе з Хатавіч і перад лесам выходзіць на шашу, шафёр затармазіў. З лагчыны мы ўзляцелі на ўзгорак, а там зноў раптоўны спуск, якраз ля дарогі з вёскі. Хат адгэтуль не відаць, дарогу таксама цяжка заўважыць, не ведаючы; затое адсюль відна нават далёкая машына на Даўгінаўскім гасцінцы, што ў гэтых месцах роўна і проста лёг праз поле.

Дарогу перагарадзіла фурманка. На калёсах нехта паўляжаў. Свежаскошаная трава была заслана пасцілкай. Ездавы, зусім яшчэ хлапец, з ускудлачанымі чорнымі валасамі, да якіх дзе-ні-дзе папрыліпалі мокрыя травінкі, паклікаў чамусь шафёра на дарогу. Стараючыся схаваць

вінаватую разгубленасць, ён вадзіў перад сабой рукамі і амаль маліў таго.

«...Па такой калатні... брукам... далечыня. Не вытрымае яна. Схваткі. Не чакалі сёння. Ды і яна не хацела ехаць. Баіцца. А пакуль яшчэ каня запрог. Будзь другам...»

Я здзівіўся размове, але зразумеў усё, і мяне ўзяў одум.

Шафёр моўчкі кіўнуў галавой, і чарнавалосы хлопец аж кінуўся да воза, абрадаваны і яшчэ больш разгублены. Было несамавіта за яго.

Тут жа я ўбачыў і яе — белавалосую, маладую, яшчэ можа не дваццацігадовую жанчыну. Яна злезла з калёс, апіраючыся на ляжэйкі, і падымалася ў аўтобус. Цеснаватае крыху, летняе шаўковае паліто шчыльна аблягала яе постаць. Мяне зляжнула: у гэты момант нечым няўлоўным ва ўзмаху рук гэта незнаёмая жанчына нагадала мне Галю...

Не, у яе не было паўнаты, нават цяжка было паверыць, што яна цяжарная. Твар яе цвіў той белізной, якую толькі ледзь-ледзь кранула загарам. Яго нібы абветрыла ранняй сонечнай вясной на адкрытай машыне. Ён быў бы нават прыгожы, каб не круглаваты. Толькі вочы не давалі сябе разгледзець. Яны былі апушчаны і, відаць, заплаканы. А хіба можна наканаваць чалавеку прыгажосць, ні разу не глянуўшы яму ў вочы? І я зазірнуў. Тады, калі яна падняла іх на мяне, каб падзякаваць за месца, якое ўступіў. Яны былі вільготныя і блакітныя, як васількі ў расе. Яны дзякавалі.

Сачыў за ёю, і мне было балюча, як яна не хацела пакідаць таго, хто быў вінаваты ва ўсім гэтым. Ён быў дарагі ёй цяпер яшчэ больш, бо яна не ведала, як сустрэнуць яе і ці змогуць хаця памагчы ў тым, чаго так баялася жаночая душа і чаго даўно ўпотай так жадала.

А ён, рахманы і нейкі няўклюдны, круціў у пальцах дубец, якім паганяў каня ўсю дарогу, і голас яго аж уздрыгваў:

— Я прыеду, Люда... Веласіпедам. Заганю каня і адразу. Спынішся ля самай амбулаторыі, ля варот. А мо' я нават і даганю... — спрабаваў ён жартаваць.

Яна ўсміхнулася недзе куточкамі перасмяглых вуснаў.

— Не трэба. І не думай. Я яшчэ дужая. А тады пазвонім...— строга, нават уладарна прагучаў мяккі жаночы голас.

Маўчанне.

— Ну, ідзі, Вася, ідзі... Мне добра. Не стой...— уздрыгнуў ласкай той самы голас.

«Што б рабіў я, каб быў на яго месцы? Мусіць, гэта самае»,— чамусьці падумалася мне і захацелася разгледзець бліжэй ягоны твар, згадаць думкі, але зачыніліся дзверцы: мы ўжо ехалі. Цяпер я стаяў ля іх. Зірнуў на Валю — яна хвалявалася. Але не за сябе, я разгадаў. Ёй хвора было за Люду, якая сядзела побач. Валя памагла ёй скінуць з плеч паліто, якое было ўкачана ў дзяцеліну яшчэ на возе, і расшпіліла ў яе на плячах у сукенцы некалькі гузікаў. Яна нешта шаптала ёй, раіла.

А аўтобус жыў... Варушыўся, пераміргваўся, спачуваў і нават балбатаў.



Нехта збіраўся быць бабулькай, калі мо' прыдзецца, і не без гумору хваліў мяне, што я пашупіўся, і каб не зрабіў гэта я, то зрабіў бы ён; хтось прарочыў нашай новай спадарожніцы двайнят па нейкіх толькі яму вядомых прыкметах, затым шкадаваў яе мужа, што таму туга і трывожна прыйшлося, і таксама не без гумору ўстаўляў, што такі смуглявы карантыш, а на вялікае вунь які здольны.

— А бадай вас... Мужчынам заўсёды адно на ўме, — перабіла адна з жанчын размову, якая, вядома, прадаўжалася б у гэтым далікатным кірунку.— Тут во наследдзе чакаецца, шчасце людзям прывальвае, а яны...

— А я пра што, Аўдоська...—гэта гаварыў мужчына з суседняй мне вёскі. Я чуў, што ён сёння едзе ў райцэнтр атрымаць грошы. Яго аблігацыя выйграла і, відаць было, вялікую суму, хоць ён і хітрыў.— Пра гэта ж,— са смехам прадаўжаў ён.— І вы са сваім Данілкам не такія перастаркі ўжо. Так што бусел вам не адно гэтакае шчасце ўкіне... Данілка такі, што... што ад цябе нідзе і не адыходзіцца...

— Дай бог усім такое шчасце, дай бог... — задаволеная, яшчэ нешта лапатала Аўдося, але аўтобус клаўся са смеху, і яе не было чутно. Усміхаліся і віноўніцы жартоўных размоў.

Думы мае снавалі нешта раднае і блізкае душы, і яна шчыра смяялася разам з усімі.

Гэтая вечная неспакойная радасць, якою заўжды жыве і поўніцца свет, крынічыла тут, у маім родным калгасным краі, у сэрцах людзей, ішла па зямлі... Яе неслі самі людзі, рупныя, прыгожыя, працавітыя...

Аўтобус наш імчаў да прадмесцяў гарадскога пасёлка. Паветра, густое і ўжо нагрэтае, біла ў адсунутыя шыбіны. Патыхала дымамі. Мы міналі лугавінку, пакідалі збоку лес, раку; удалечыні на высокім у гэтым месцы беразе ў саснячку мільгалі будынкі раённай электрастанцыі і лесапільні.

Хутка прыпыніліся ля самай амбулаторыі, і разам з Людай, якая мацавалася, падбадзёраная Валяй, тут выйшла некалькі чалавек. Я глядзеў, аж покуль яна не паднялася па ўсходках ганку і не схавалася за дзвярыма новай амбулаторыі, і падаўся хутчэй да касы ўзяць білет на Мінск. Адсюль было бліжэй, чым ад плошчы старога рынку, куды даходзіў аўтобус.

У горад прыбыў вечарам. Злазіць мне выпадала амаль на ўскраіне: тут жыла мая сястра, што працавала на тытунёвай фабрыцы.

Трамвай дамчаў мяне пад сельгаспасёлак. Вячэрні горад свяціўся густымі агнямі і жыў мяккім спакоем. Ліхтары-месяцы ўспыхвалі ў мяне на вачах; неба рабілася густым і цёмным; яно зніжалася над горадам на ноч, каб атуліць яго свежасцю-прахалодай, астудзіць ад дзённай бязвоблачнай жнівеньскай спякоты.

Адтуль, з цэнтра, чуўся роўны лагодны гуд. Услухацца — густы і магутны. На небакраі мігала і расплывалася зарыва-водсвет — гэта цемень рабілася барвовай на працягу, нібы там, пад ветрам, хвалявалася ўтканае пазалотамі палатно. Вуліцу атулялі сады, з-за высокіх частаколаў за мной цікавалі налітыя беллю яблыкі. Удалечы, дзе за

горадам выступаў пасёлак, калыхалася смуга, зусім як у лугах за нашай вёскай. У тым баку толькі што выплыў месяц, круглы і паўнаваты, ён выдаваў самым буйным ліхтаром над горадам...

Сястра мая абрадавалася і адразу ж пачала дакараць, што забыў дарогу да іх. І яна мела рацыю: даўно не быў у яе. Нават злуецца.

Прыдзірліва і дапытліва паглядзеўшы мне ў вочы, сястра раптам з асцярогай гаворыць:

— Была Галя. Два разы. Прыязджала. Ёй сумна. А ты... Відаць, не пісаў ёй цэлы месяц?.. Муж...

Я ва ўлоннях Нарэчча... У неспакоі расхінаю кусты срэбна-белых ніцых лоз; а ім няма канца.

Нарэчча — возера. Заўсёды рахманае і ласкавае, асабліва ад вёскі, ад якой яго аддзяляе цяністая і заўсёды прахалодная маладая дубрава. Сёння яно неяк яшчэ больш сцішылася. Можа ад спакою тоняў ці ад лагодных усплёскаў хваль і ветраны дзень і вунь тыя дубы, якім карціць з берагу ўбачыць свае разгалістыя шаты ў люстранай глыбіні, выдаюць мяккімі і задуменнымі. Яны спачываюць, як і возера, як і рыбак, што развесіў пад імі невады пасля рыбнага дня, як і жанчыны, што вяртаюцца з поля, бо чутна іх песня з-за далёкага бярэзніка — жніўная, працяжная, павольная-павольная... Яна плыве. Ад яе вее спакоем і невыказнай радасцю. Яна нясе звыклыя надзеі чалавека поля, яго ўрачыстасць, нараджае ў думках аповесць аб нечым адвечным, шчырым і шырокім-шырокім, бясконцым у сваім раздоллі і багацці... Гэта аб дарах зямлі і прыроды.

Гойдаюцца на ўзбярэжжы высокія лапкі травы-мятліцы, бо не заснуў яшчэ нанач вецер, і не здрыгнуцца каля зямлі кветкі люцікаў і ніжыперніцы. Але і без ветру яны губляюць сваю красу-пялёсткі. Шуршаць травы пад нагамі, шастаюць: жнівень занадта пасуравіў іх, мяккіх і аксамітных у маі.

Дубрава застаецца збоку, за лугамі. Тут кусты — крывы і разгаты альшэўнік, з рэдкім голлем бярэзнік. Дзе-ні-дзе пажух. Торф, балота з гэтага краю. Даволі часта лучаюцца даўнейшыя асушальныя канавы. Яны заплылі тванню і параслі плывунамі.

Да Нарачанкі — вёскі — рукой падаць. Але чаго спяшыць, калі душа падказвае — магу сустрэць яе, Галю, і тут, нават калі і не відаць дзявочай кампаніі, вясёлай і свавольнай. Бо Галя можа і не далучацца да дзяўчат, хадзіць адна, гаманіць у думках з лазнякамі, азёрнымі хвалямі, рыбацкімі лодкамі. Ведаю яе, непаседу і гарэзу. А як яна любіць вёску, лугі і жыты ў расе. Яны ж гадавалі яе ў маленстве, песцячы сваім хараством, гадавалі для мяне.

Галя — студэнтка яшчэ. Біялагічка. Праходзіць практыку разам з дзяўчатамі і жыве тут, у Нарачанцы.

Спяшаю да яе. Яна, высокая, стройная, амаль роўна са мной і тонкая ў таліі, уся перад вачыма, як і тады, калі, сама не свая, тулілася да мяне... Мы былі разам усю ноч, разам сустрэлі першую раніцу нашай сталасці.

Хутчэй убачыць — як яна? Ці так усё блішчаць яе чорныя вочы і ці



хаваюцца за яшчэ чарнейшыя і такія густыя вейкі, калі я цалую іх? Можа блізка прыхінецца яе поўнае абветранае загарам плячо?.. Мо' ўхаваецца яе сарамлівы твар у мяне на грудзях... Што скажа? Мо' спытае, ці люблю, як заўсёды?

Хвалююся...

Але сённяшняе хваляванне нараджае радасць.

Сонца, занадта нейкае жывое і дрыготкае, за Нарачанкай запаліла лес. Пурпур і барва пажару дрыжыць на ствалах, абнімае вершаліны, паўзе па зямлі. Чырвонае лонва плыве золатам за горку на далёкія лугі, каб астыць там у халодным, як крыніцы, тумане і вільготных, свежых начных росах. Не. Яно вісіць нерухома, яго перанялі густыя вершаліны, а гэта нейкі злосны дзівак падымае ў тым баку небакрай, каб схаваць ад вачэй прыроды вячэрнюю красу... Так выдае.

Мы з Галяй за вёскай. Яна вядзе мяне ў бок возера, адкуль я прышоў. Нейкая ўзрушаная, незразумелая. Што з ёй? Хачу насцярожыцца, але яна ўсё бачыць і адразу пераходзіць на другое. Вось хутка канец практыкі, вось дзяўчаты іх — непаседы: у суседнюю вёску на вечарынку паперліся, лётчыкі іх зманьваюць... Вось з поля гоняць скаціну. Учора ў гаспадыні была згубілася карова, і нават яна, Галя, хадзіла шукаць яе разам з пастухамі...

А як яна рада, што я ўжо вярнуўся і буду працаваць. Як рада...

Мы далёка за вёскай. Спіць, стаілася возера, накрыўшыся дываном-туманам. Там, дзе днём гасцявала жніўная песня, ракоча матор, гучна, з нейкім бадзёрым пераразвонам. Там жыты: яны пачынаюцца амаль адгэтуль. Мы — ля самага возера. Тут на зямлю апала дзённая цяплынь.

Селі на траву. Гэтак надумала Галя. Але тут добра. За плячыма шваргочуць дзікія качкі, нават пралятаюць над намі. Калі глядзець на вёску, відаць агні; за ёй патухае лясны пажар: пурпур палавее, затым шарэе. Яго паглынае блакіт і цемната.

Галя хінецца да мяне. Ёй, мусіць, холадна, здаецца, уздрыгвае. Мо' яна прастыла тут, ля возера? Я адчуваю, як яе цела, усё цёплае, нават саграе мяне. Яно пахне травамі...

Галя ловіць мой позірк, але, убачыўшы ў ім насцярогу, апускае вочы долу. Нешта хавае ад мяне.

— Што? Гавары хутчэй! Ну...

Яна нервова перабірае былінкі мятліцы, нейкая крыху чужая.

З кім яна можа дзяліць цяпер думы? Што ў яе на душы?.. Што можа хоць на хвіліну адабраць мяне?.. Я пра нешта пачынаю здагадвацца...

Мусіць рэзка падаўся да яе, бо яна страпянулася і абняла мяне...

— Я... Я хацела напісаць табе... — такі знаёмы, такі ціхі шэпт над вухам... — У нас будзе сын...

Мяне нешта ўсхапіла з зямлі. Я ўскочыў, падняў яе ў абдымках і стаў цалаваць. Моцна, як ніколі.

— Я хачу, каб ён быў, як ты... Увесь, як ты...— дрыжыць Галін голас: мусіць, умяшаліся слёзы.

Мне хацелася ісці на край свету, несці яе на руках, зморанную, радасную, каханую, і слухаць, як стукае яе сэрца — сэрца маці майго сына!

Сутоньвалася. Вёска пасля жнівеньскага палявога дня рана клалася спаць, і нам у нашых думах ніхто не мог перашкодзіць.

Сустрэчы ў дарозе варажылі мне шчасце.



Іван Сіпакоў нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Зубрэвічы Аршанскага раёна. У час Айчыннай вайны ён страціў бацькоў. Пасля вучобы ў сярэдняй школе І. Сіпакоў некаторы час працаваў літработнікам у Шклоўскай раённай газеце «Чырвоны барацьбіт». Цяпер ён вучыцца на IV курсе аддзялення журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.

Вершы маладога паэта друкаваліся ў часопісах «Беларусь», «Маладосць», «Вожык», «Работніца і сялянка», у газетах «Чырвоная змена» і «Мінская праўда».

**Іван СІПАКОЎ**

## БАЦЬКАЎШЧЫНА



Так спрадвеку было ў нас—ля Гродна
Людзі слухалі гаю шум родны,
На Бабруйшчыне лес гаманлівы
Засланяў ад вятроў нашы нівы,
Магілёўскія травы ад росаў
Высыхалі ў шырокіх пракосах,
На Асвейшчыне воды крыніцаў
Не сціхалі ніколі бруіцца,
На Палессі для нашай работы
Берaглі свае скарбы балоты,
А дзядзькі на Аршаншчыне любай
Талакой сабе ставілі зрубы.
Усё было ў нас...
Ды хлеба скарынкі
Смакавалі мы толькі ў дажынкі,
Хаця продкі з кутузава стана —
Дрыгвічы, крывічы ці паляне —
Каля вёскі Студзянкі упарта
Шкумуталі сцягі Банапарта,
І пазнаў вораг рускую зброю
Каля нашае вёскі Лясное.
Ды дзяды нашы бачылі сонца
Праз турэмнае ў клетку аконца.
Ім жа снілася чыстае неба
І засекі пшанічнага хлеба...
А каго засыпалі зямлёю —

Тыя сны забіраў ён з сабою...
Ды пасля брат зямлі беларускай
Тры разы цалаваў нас па-руску —
Да грудзей прыгарнуліся грудзі,
Абняліся па-роднаму людзі
І са зброяй пайшлі на палацы,
Каб аб праўдзе ў змаганні дазнацца.
І тады — неба стала без кратаў,
Поле жытняе — без прыганятых,
Сонца промні рассыпала ў хатах,
Караваі ва ўсіх — як на свята.

## КОЖНЫ ДЗЕНЬ



Прыходзіць кожны новы дзень,
Як працавіты, дбайны будзень.
А ўвечар кліча паглядзець,
Што ён пакінуў рупным людзям.

Калі ён быў тут па вясне,
То луг пакрыўся ўвесь травою
І коцік ціхенька, бы ў сне,
З пупышкі вылез веснавое.

А калі дзень прышоў такі
Да нас у госці шчодрым летам —
Зрабіў ён колас больш цяжкім,
Крыху спялейшымі ранеты.

Увосень звёз ён хлеб з палёў
І зернем поле зноў засеяў,
Зімой спачыць раней прылёг,
Каб мы згулялі больш вяселляў.

І так праходзіць кожны дзень,
Як працавіты, рупны будзень...
Карысным быў ён для людзей,
Ды 'шчэ карысней новы будзе.



* * *



Адгукніся
На стук у акно асцярожны,
Дай вады,
Калі просіць яе падарожны,
Абагрэй,
Калі той скачанеў на марозе,
Накармі,
Калі доўга не еў у дарозе...
Ды не вер,
Калі вораг прыкінецца братам,
Не маўчы,
Калі смерць патыхае з гарматаў,
Не чакай,
Каб цябе закавалі ў кайданы,
Не даруй
Ні за здзек,
ні за кроў,
ні за раны.

## ВЕСНЯЕ РЭХА



Як па птушынаму наказу,
Пад крыкі радасных гракоў
Няслі вясну сюды адразу
Вятры амаль з усіх бакоў.

Яна гукнула — і ў даліну
На кліч яе ручай пабег,
А ўзгорак грэць пачаў тут спіну,
Што абмарозіў колкі снег.

Ручай звінеў гарэзным смехам;
Пасля свайго даўгога сну
Ён адклікнуўся весні́м рэхам,
А сам далей панёс вясну.



Іван НАУМЕНКА

# ПРЫПЯЦКАЯ ЗОНА

## Апавяданне

Мал. А. Кашкурэвіча.

На поўдні Палесся, у тым краі, дзе паўнаводная і спакойная Прыпяць спяшаецца ў абдымкі да прыгажуна Дняпра, ёсць адзін вельмі цікавы раён. Раён гэты слаўны перш за ўсё сваімі кантрастамі. Тут нібы спакаліся стэпавая, пшанічная Украіна з лясной, бульбяной Беларуссю. Спаткаліся, каб не расставацца...

Развітаўшыся з невялічкай, атуленай смалістым борам чыгуначнай станцыяй, якая носіць назву раёна, і крочачы ў паўднёвым напрамку, вы болей не ўбачыце ні хваінкі, ні бярэзінкі, ні прывычнага для вока балотца з рудой стаячай вадою. Вакол куды ні кінеш вокам — збажына, зялёныя азяркі кукурузы, якую тут называюць кіяхамі, і зноў збажына. Сям-там сярод гэтага палявога прастору ляніва ўзмахне крыллем вятрак, што звычайна стаіць на ўскраіне схаванага ў зеляніне садоў сяла. Здалёк відаць пікі пірамідальных тапаляў. У небе павольна апісвае плаўныя кругі коршак, якога вельмі лёгка зблытаць з арлом.

На стромкіх тапалях няма дзе прыгнязджіцца ганарыстаму буслу, і буслы абмінаюць тутэйшыя сёлы. Яны ляцяць на поўнач, да Прыпяці. Там якраз у збытку ўсяго таго, што падабаецца даўганогім гаспадарам нізін. У надпрыпяцкіх зарасніках з вясны да восені не змаўкае шматгалосы хор жаб, і як ні стараюцца нястомныя працаўнікі — буслы, ім не ўдаецца хоць бы на дзень разладзіць гэтую адвечную музыку балот.

Мне давялося нямала пахадзіць і паездзіць па гэтым раёне, і я не пераставаў любавацца кантрастамі, якіх тут не заўважыць хіба толькі



сляпы. У паўднёвай, стэпавай частцы раёна — адно, а ў паўночнай, якая называецца Прыпяцкай зонай,— другое. Пройдзеш якія-небудзь дваццаць кіламетраў, і перамена кідаецца ў вочы выразна і рэзка. Розныя, неаднолькавыя краявіды, адметныя малюнкі вёсак, нават другая гаворка...

Сонца ўзыходзіць на стэпавай роўнядзі неяк нечакана. Ледзьледзь заірдзее на ўсходзе вузенькая палоска, а праз якую-небудзь хвіліну ўжо ўсё наваколле заліта пераліўным, зіхатлівым бляскам. Гэта зусім не падобна на той мяккі, павольны ўсход, які можна наглядаць каля атуленай лясамі і хмызнякамі Прыпяці. Сонца паводзіць сябе тут зусім па-іншаму. Яно тут як ветлівы наведвальнік, які ніколі не зойдзе ў хату, папярэдне не пастукаўшы ў дзверы. Спачатку лёгкая чырвань зайграе ў вершалінах далёкага бору, потым сонечныя зайчыкі, нібы прабуючы сваю моц, лягуць на спакойныя хвалі ракі, і толькі калі яна ўсміхнецца ясна і прыветліва, сонца поўнай жменяй кіне свае праменні ў шыбіны вясковых хат...

А вецер... Сярод палявога прастору ён свавольны і нахабны. Ён як хоча разгульвае па пыльнай дарозе, прыгінае да самай зямлі пшаніцу, прымушае кланяцца гордыя сланечнікі, уздзірае саламяныя стрэхі хат. Ля Прыпяці ж вецер куды асцярожнейшы. Ён тут калі і разыйдзецца, то з ім ёсць каму паспрачацца. Насупіцца і загамоніць лес, трывожна зашэпчуцца прыбярэжныя лазнякі, а разгневаная Прыпяць высока ўздымае свае празрыстыя хвалі, кідаючы іх адну за другой на нізкія берагі...

Палявая, стэпавая раўніна багацей за Прыпяцкую зону. У гэтым вельмі лёгка пераканацца, калі хоць раз пабываць на кірмашы ў раённым цэнтры. Кірмаш, наогул, тут бывае адменны: такога кірмашу не ўбачыш ні ў Мазыры, ні ў Рэчыцы, ні ў іншых найбольш выдатных тутэйшых мясцінах. Вялізная плошча, на якой магла б размясціцца палова Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі, у базарныя дні гудзе, як пчаліны вулей. Яна ўся — наўсцяж і ўпоперак — застаўлена аўтамашынамі, фурманкамі, ларкамі і палаткамі. Чаго тут толькі не прадаюць! Здаецца, пажадай птушынага малака і, калі ласка, вам прапануюць, колькі вы пажадаеце.

Дык вось на гэтым кірмашы галоўную дудку іграюць, вядома, палявыя калгасы. Яны прывозяць не толькі пшаніцу, сала, масла, кармленых япрукоў, індыкаў, курэй і гусей, розную садавіну і гародніну, яны з фанабэрыяй прадаюць тое, што ад веку не расло на забалочаных і пясчаных землях Прыпяцкай зоны. У ларках гэтых калгасаў к канцу лета можна купіць вінаграду, па смаку мала чым саладзейшага за жураві́ны, якіх процьма на прыпяцкіх імшарах. Аднак жа вінаград ёсць вінаград, тым болей, што яго сюды не прывозяць з-пад Адэсы. Мясцовыя бахчавікі гандлююць таксама кавунамі (жыхары Прыпяцкай зоны гавораць, што іх бульба смачней за такія кавуны), кабачкамі, баклажанамі і сякімі-такімі іншымі смачнымі рэчамі, якімі багаты сонечны поўдзень і якія, што грахі таіць, даволі марудна прасоўваюцца к Палярнаму кругу.

Прыпяцкая зона прывозіць на продаж самае звычайнае, чым нікога не здзівіш. Яна гандлюе бульбай, сенам, грыбамі, сушанымі ягадамі, рыбай, бярозавымі венікамі і дровамі. Растуць, вядома, і ў надпрыпяцкіх вёсках яблыкі і грушы. Але гэта звычайныя антонаўкі і бэры зімовыя, якім цяжка спаборнічаць няхай сабе з недаспелым вінагра-

дам і кавунамі, кожны з якіх па сваёй велічыні толькі крыху большы за кулак таго дзядзькі, што завіхаецца каля вагаў.

Жыхары палявых сёл прыязджаюць на кірмаш толькі на машынах. Яны важна расхаджваюць ад крамы да крамы, прыцэньваючыся галоўным чынам да шэрсці і шоўку. Палявік не пашкадуе спусціць каля піўнога ларка хоць цэлую паўсотню, бо ён жа багацей...

Тыя ж, што ядуць хлеб з надпрыпяцкіх пяскоў, не лічаць за ганьбу прыехаць на кірмаш на звычайнай буланцы, а то і даклыпаць проста пяшэчкам. Яны больш прыглядваюцца да паркаляў і корту, у сталовай аддаюць перавагу звычайнай гарбаце і, наогул, не вызначаюцца ніякай зухаватасцю. Характар у іх пераважна ціхі і памяркоўны.

У адзін з цёплых дзён верасня я дабіраўся ў самую далёкую вёсачку Прыпяцкай зоны. Палавіну шляху я шчасліва праехаў на паўтаратонцы, якая вазіла нарыхтоўкі на раённы пункт «Заготзбожжа». У маю вёсачку машына не ішла, там, па дакладных звестках, якія я атрымаў ад шафёра, яшчэ не намалацілі. Ісці заставалася кіламетраў восемнаццаць.

Пачыналася восень. Яшчэ горача свяціла сонца, зусім па-летняму дрыжала сінеаватая смуга над пыльнай дарогай, у кустах крушыны свісталі вясёлыя дразды. Буяла яшчэ на лугавінах зялёная атава, у палісаднічках ля вясковых хат наперагонкі хваліліся сваёй някідкай прыгажосцю жоўтыя вяргіні і астры. Але ўсеўладная восень неадступна цікавала за гэтымі апошнімі праявамі хмельнага летняга жыцця. Яна ўжо заслала суцэльным залацістым абрусам палі збажыны, злёгку пасерабрыла шаты разгалістых прыдарожных бяроз, а паветра напаіла той празрыстасцю і чысцінёй, якая бывае толькі цёплай, лагоднай восенню.

Мая справа была не такая ўжо тэрміновая, асабліва спяшацца не выпадала, і я з прыемнасцю расцягнуўся на траве пад засенню бярозы. Добра іншы раз вось так без клопату і хвалявання паваляцца ў цяньку, падыхаць чыстым паветрам, у збытку насычаным пахамі поля, лесу, лугавіны. На адзіноце прыходзяць думкі, якія, здаецца, ніколі не наведваюць чалавека, запрэжанага ў цяжкі воз паўсядзённасці.

Высока ў сінім бязвоблачным небе плыве яркае сонца, шчодра лье на зямлю сваю цеплыню і святло, а ўлагоджаная і сагрэтая яго ласкай зямля адказвае хмельным буяннем жыцця.

Цёпламу, яснаму дню радуецца кожная жывая істота. Над маёй галавой, на бярозе, цінькаюць бесклапотныя сініцы, прабуюць моц сваіх крылляў, імкліва носяцца ў небе прыгожыя ластаўкі. На маленькім лапіку зямлі, дзе я прылёг, ідуць свае клопаты і турботы. Некуды спяшаецца цегавітая мурашка, уверх па сцяблінцы паўзе спакойная божая кароўка, нястомна таўкуць мак дурнаватыя мошкі, якія зусім не думаюць пра тое, што вечарам, з першым павевам холаду, яны ўсе загінуць.

Над Прыпяццю сінее лес, адтуль нясе церпкім, густым водарам, настоеным на пахах хвоі, прэлай зямлі, грыбоў і багуну. Шырокая лугавіна прымешвае свайго да гэтай багатай і разнастайнай плыні: пахне аерам, мурагом, салодкай медуніцай...

Спакойна, нібы ў ціхім паўсне, набягаюць думкі, магчыма, гэта нават не думкі, а проста адчуванні, нешта такое, што ўзнікае на граніцы пачуцця і развагі. Маю істоту перапаўняе адчуванне непарыўнасці, еднасці душы і цела з усім гэтым бясконцым і дзівосным хараламжыцця. Я думаю пра сонца, пра гэтага нястомнага і бескарыснага сейбіта, якім пасеяна ўсё жывое на зямлі. Сонца дае цеплыню і святло, зямля свае жыватворныя сокі. Але хто сее прыгажосць, радасць, несмяротнасць жыцця? Адкуль у прыродзе такое багацце і разнаітасць форм, хто той нябачны мастак, які так прыгожа расквеціў і аздобіў зямлю, стварыў гэтую бясконцую сімфонію фарбаў, гукаў, ліній? Паводле якога закону з маленькага лятучага зярнятка вымахала вось гэтая беластволая бяроза з раскідзістай шапкай-кучмой! Дзе, у якім сейфе схаваны чарцёж, адпаведна якому яна расла, усё шырэй і шырэй раскідаючы зялёнае голле, цягнучыся сваёй вершалінай да сонца, да святла?



Некалі, яшчэ ў дашкольныя гады, я лічыў, што ў кожным зярнятку тоіцца маленькае нябачнае дрэўца, або раслінка, з якога яны пазней і вырастаюць. Школа абвергла гэтае наіўнае заблуджэнне. Пад мікраскопам мы разглядвалі і зерне жыта, і макавае зерне, і кавалачкі жолуда, і ўсюды бачылі адно і тое ж: клеткі, пратаплазму, бялок. Але загадка дзіцячых год засталася неразгаданай. Чаму з макавага зерня, якое куды меншае за жытняе, вырастае большая і прыгажэйшая расліна? Чаму звычайная муха або камар, як іх добра ні кармі, ніколі не дасягнуць велічыні майскага жука? І, наогул, ад чаго залежыць уся гэтая непадобнасць жывога на зямлі?

Я ляжу пад бярозай, успамінаю свае дзіцячыя заблуджэнні, і ў мяне хараша і ціха на душы. Каб сёння хто-небудзь задаў мне адно з гэтых пытанняў, я адказаў бы не лепш, чым некалі адказвалі мне. Прырода... Усё ад прыроды: зялёны лес, кветкі на лузе, вясёлыя птушкі, якіх ніхто не вучыў спяваць свае звонкія песні...

Я думаю яшчэ пра восень. Мабыць, памыляюцца тыя паэты, якія бачаць у восені толькі адно заміранне жыцця. Здаецца, усё ідзе якраз наадварот. Жыццё ў гэтую пару не змірае, а нараджаецца. Яно проста стаіць перад пачаткам новага, яшчэ шырэйшага круга. Бяроза, пад якой я ляжу, адшумела летнім зялёным лісцем і паслала ў свет можа мільёны новых бярозак, схаваных у яе лятучым насенні.

Дайце гэтаму насенню пульхную глебу, трошкі святла і цеплыні, і народзіцца новы бярозавы гай...

Восень — гэта ростані на вечных дарогах старога і новага жыцця. Няхай прыгрэе сонца, і тады за цёплым летам адразу пачнецца вясна, без ніякай восені і зімы, без ніякага перапынку. Хіба ўвосень не расцвітае прыгажуня-яблынька, зведзеная ў зман здрадлівай ласкай бабінага лета? Нездарма, відаць, нашы далёкія продкі кожны новы год жыцця пачыналі з восені...

Добра пад бярозай. Закрыеш вочы, і тады разгалістае зялёнае дрэва ўявіцца мачтай, лёгкі шум яго лісцяў — плёскатам хваль, і можна плыць і плыць пад гэту аднастайную музыку ў дальнія далі. Можна пабачыць заморскія краіны, наведаць казачную Атлантыду, асвяжыць засмяглыя вусны цудадзейным малаком какосавай пальмы. Усё можна пад прыдарожнай бярозай...

Мяне разбудзілі нечыя размераныя, цвёрдыя крокі па ўзбочыне дарогі. Я падхапіўся і ўбачыў хлопца ў вайсковым адзенні з рэчавым мяшком за плячыма. Ён крочыць у той бок, куды трэба і мне.

— Пачакайце! — крычу я, устаючы з зямлі.



Хлопец спыніўся. Ён сярэдняга росту, шыракаплечы, яго энергічны, даволі прыгожы твар здаецца бронзавым ад вятроў, сонца і дарожнага пылу. Мяне ён разглядвае з выразам лёгкай цікаўнасці ў шэрых, удумлівых вачах.

— Вы не ў Дронькі?

— Трохі далей, — адказвае ён, называючы сваю вёску.

Я ведаю вёсачку, куды ён дабіраецца. Стаіць яна на пясчаным узгорку, маленькая, раскіданая, нічым не славутая. Няма ў ёй ні садоў, ні добрых агародаў, ні лесу паблізу — нічога такога, чым бы магло залюбавацца вока. Мабыць для таго, каб спыніць рух сыпучых пяскоў, нехта насадзіў толькі ракітніку і вербаў. Кусты растуць проста на вуліцы, калі можна назваць вуліцай сухі, пясчаны плёс, які пятляе ад хаты да хаты. Сваёй формай вуліца вельмі нагадвае былое, пакінутае рэчышча.

Плятуць у вёсцы адменныя кашы і кошыкі, умеюць рабіць выдатныя свісцёлкі і дудкі. Гэта, здаецца, усё, што я ведаю пра мясціны, якія выгадавалі такога добрага хлопца.

— Адслужылі? — гледзячы на чорныя пагоны з трыма залацістымі лычкамі, пытаюся я. — Сувязіст, тэхнік?..

— Адслужыў, — адказвае хлопец. — Быў механікам. Шафёр, трактарыст, танкіст — усё разам. А цяпер практыкуюся ў пешай хадзьбе.

— Цяпер вам работы будзе. У калгасах свае трактары, машыны. Такія, як вы, цяпер нарасхват...

Сонца хіліцца к захаду. Ісці лёгка і прыемна. З Прыпяці вее свежы, лагодны вецер, ён нясе, здаецца, на сваіх крыллях вострыя пахі водарасцей, рыбы, чорнага моранага дубу, камель якога паднялі з дна ракі. Дарога ўецца то полем, на якім чакае сваёй чаргі рэдзенькі авёс і дрэмле пачарнелы бульбоўнік, то кустоўем і рэдкалессем. Прыкметы ўсеўладнай восені тут яшчэ болей выразныя. Трапечуць чырвана-





ватым лісцем маладыя асінкі, звесілі свае ярка-чырвоныя гронкі стройныя рабіны, а чародкі маслякоў, падасінавікаў і апенек выбягаюць з кустоў на самую дарогу.

Мы ідзём і размаўляем пра салдацкую службу, пра тэхніку, без якой цяпер не ступіш і кроку. Потым гаворка заходзіць аб міжпланетных зносінах, пачатак якіх, здаецца, вельмі блізкі. Добрая дарожная размова, якая непрыкметна скарачае доўгія, пыльныя кіламетры.

Мой спадарожнік з тых людзей, якія ўмеюць слухаць, але самі не вельмі ахвочыя гаварыць. Па характару ён ураўнаважаны і спакойны. За плячыма ў хлопца не менш дзесяцігодкі, гэта відаць з тых кароткіх заўваг, якія ён час-ад-часу робіць. Прыкідваю ў думках, што ў школе мой спадарожнік, напэўна, найбольш любіў фізіку і матэматыку. У яго практычны склад мыслення, ён любіць усё дакладнае, прадметнае і даволі раўнадушны да адцягненай, напаўфантастычнай гаворкі. Ён любіць тэхніку, яна, здаецца, яго сапраўднае жыццёвае прызванне.

— У Прыпяцкай зоне машын не вельмі многа,— з сумам у голасе гаворыць хлопец.— Дзве гадзіны ідзём і хоць бы адна...

Я разумею яго заклапочанасць. Ён вяртаецца дадому і хоча рабіць тое, што найлепш умее. Мне становіцца прыкра ад думкі, што ў пясчанай вёсачцы, куды ён ідзе, можа не аказацца ні трактара, ні камбайна.

Сонца вісіць ужо над самым лесам. Яшчэ паўгадзіны і яно зусім схаваецца за далёкім надпрыпяцкім борам. У святле заходзячага сонца пералескі, кусты, поле—усе навакольныя мясціны здаюцца мне зусім незнаёмымі, новымі. Вершаліны бяроз, здаецца, абліты золатам, густым ярка-барвовым полымем палыхаюць вершаліны асін. Кусты, дрэвы, стагі сена пусцілі ад сябе доўгія цені, здалёк яны нагадваюць абрысы нейкіх казачных караблёў. Уражанне такое, што ўсе гэтыя мясціны бачу ўпершыню.

— У Карэліі ўжо цёмна зусім,— гаворыць мой спадарожнік.— Затое ў чэрвені там любата. Хочаш, чытай цэлую ноч газету, ніякае асвятленне не трэба. Белыя ночы...

— Вы служылі ў Карэліі?

— Тры гады. Харошы край! Азёры, лясы, граніт...

Мне знаёма Карэлія з мінулай вайны. Мы, аказваецца, служылі ў адных і тых жа мясцінах, хадзілі па адных дарогах. Успамін аб Карэліі нас прыкметна збліжае.

У вёсачку мы прыходзім прыцемкам. Мне трэба далей, да Прыпяці. Узыйдзе месяц, і па халадку я адолею свае тры кіламетры, самае вялікае, за гадзіну. Я развітваюся з хлопцам, і нейкае імгненне ён вагаецца. Потым рашуча бярэ мяне за рукаў.

— Нікуды ты не пойдзеш, — гаворыць ён. — Пераначуеш тут...

Я не ўпіраюся, хоць ведаю, што лішнія сведкі пры сустрэчы родных і блізкіх пасля доўгага расстання не вельмі патрэбны. Суцяшаю сябе тым, што адразу падамся спаць куды-небудзь на вышкі з сенам. Хлопец харошы, развітвацца з ім проста так не хочацца.

— Рада будзе маці,— кажу я.— Тры гады ўсё-такі...

Хлопец маўчыць. Бачу, ён хвалюецца. Мы ідзём па вуліцы, боты правальваюцца ў пясок, але ён, здаецца, гэтага зусім не заўважае. Ён крочыць шпарка, нібы па асфальце, і я ледзь паспяваю за ім. Нарэшце, мы спыняемся каля невялікай хаткі.

Ледзь не пад самымі вокнамі тыя ж вербы і ракіты, што і ўсюды па вёсцы. У хаце цёмна.

— Я не да маці,— нейкім дрыжачым голасам паведамляе нарэшце хлопец.— Так проста, у госці...

Веснічкі адчынены, некалькі крокаў па двары, і вось мы ў хаце. У твар патыхнула цеплынёй людскога жылля, сырадоем, мятай.

— Ёсць хто ў хаце? — пытаецца хлопец, і голас яго дрыжыць.

— Алёша!

Я чую таропкі тупат босых ног па падлозе, пацалункі, дзявочы смех і слёзы адначасова.

— Родны мой! Я ліст атрымала... Але ж не думала, што ты так хутка... Карову падаіла і лягла. Мы сёння бульбу пачалі... А ты дома быў?..

Я пачынаю здагадвацца, куды трапіў. Лепш за ўсё ў маім становішчы паціху адчыніць дзверы і пайсці сваёй дарогай да Прыпяці. Тут я буду толькі перашкаджаць. Асцярожна намацваю клямку...

— Марыйка, запалі лямпу. Тут таварыш са мной. Ён таксама служыў у Карэліі. Пераначуе...

Працяглае маўчанне, роспачны ўздых, павольны тупат босых ног па падлозе. Я гатовы праваліцца скрозь зямлю. Праходзіць некалькі доўгіх хвілін. Я, здаецца, чую, як у Алёшы тахкае сэрца. Марыйка, відаць, пераапранаецца.

Нарэшце, лямпа запалена. Перад маімі вачыма ўтульны белы пакойчык і яго гаспадыня. Марыйка зграбная. Нечым няўлоўным яна падобна на Алёшу. Тыя ж прыгожыя рысы твару, толькі па-дзявочаму мякчэйшыя, далікатнейшыя. Тыя ж шэрыя вочы, але з прытоеным аганьком гарэзлівасці. Прыпухлыя вусны, мяккія лініі падбародка, гнуткі, вытачаны стан... Гледзячы на Марыйку, хочацца ўсміхацца, гаварыць вясёлыя словы і нават спяваць.

Алёша і Марыйка разгублены. Дзяўчына болей за хлопца. Гэта, мабыць, таму, што, вітаючыся з ім, яна не ведала аб маёй прысутнасці. Я ж не зводжу з дзяўчыны вачэй, і ўжо ніколькі не каюся, што прышоў у госці разам з Алёшам. На душы ў мяне радасна і ціха. Гэтыя двое нібы нарадзіліся адно для аднаго...

Мы сядзім за сталом, вячэраем. Над лямпаю носяцца пярэстыя матылі. Яны пакідаюць свае сонныя шчыліны і ляцяць на святло. За акном ноч. Там гойдаюць веццем разгалістыя вербы, шасцяць асеннім лісцем ракіты.

— Мама і сёння за Прыпяццю, — паведамляе Марыйка. — Там нашыя кашары...

Гэта Марыйка сказала ўслых. А яе позірк, накіраваны на аднаго толькі Алёшу, гаворыць другое.

«Дурань ты, Алёша,— здаецца, гавораць прыгожыя Марыйчыны



вочы, — навошта прывёў ты ў хату гэтага манцёра? Навошта адкладваць да заўтра тое, што нам належыць сёння?»

Павячэраўшы, я прашуся на вышкі, на сена. Гэтым дваім трэба хутчэй даць нагаварыцца, а то яны маўчаць, нібы пасварыўшыся. На вышкі мяне ўсё ж не пускаюць — там няма ніякага сена. Марыйка сцеле мне на канапе ля акна. Яны з Алёшам збіраюцца прайсціся па вёсцы.

Прачынаюся ад сцішаных, прыглушаных галасоў. Алёша з Марыйкай, відаць, сядзяць на лавачцы пад акном. На стале прыкручаная лямпа, у хаце ціхі паўзмрок. Колькі цягнуўся мой першы сон? На бліскучым цыферблаце наручнага гадзінніка палова чацвёртай. А лёг я ў адзінаццаць.

— Нядобра, Алёша, што ты не заехаў да сваіх. Што твая мама падумае? — чую Марыйчын голас.

— Нічога не падумае. Яна ведае пра цябе. Паслязаўтра паедзем разам у Вяляцічы.

— Не паеду я, Алёша. Я ж яшчэ не твая жонка. Як жа я паеду?

— Сходзім у сельсавет, запішамся.

— Нельга так, Алёша. Трэба табе спачатку дазволу ў сваіх бацькоў запытаць. Можа яны яшчэ не згодзяцца, каб ты жыў у мяне...

— Згодзяцца...

Ну, што ж, няхай яшчэ пачакае маці. Сын да яе прыдзе і нічога не ўтоіць.

Вяляцічы — багатая вёска сярод палявога пшанічнага прастору ў паўднёвай частцы раёна. Яна ўся тоне ў садах, яна гандлюе ў нядзельныя кірмашы вінаградам, кавунамі... Вяляцічы славяцца сваім гаражом, у якім, здаецца, дванаццаць аўтамашын. Там ёсць трактары, камбайны, электраматоры. Там знайшлася б работа па густу механіку Алёшу...

Засынаю зноў. Там, на лавачцы, пад зыркімі вераснёвымі зоркамі— бясконцая гарачая размова. Няхай!..

Прачынаюся на світанні. Алёша спіць на раскінутым на падлозе сенніку, Марыйка — на ложку. Якія ў іх абодвух прыгожыя, чыстыя твары, колькі сілы і маладосці ў гэтых вольна раскінутых, загарэлых руках!

Асцярожна, каб не пабудзіць заўтрашніх маладажонаў, выходжу на двор. Перад вачыма ў ранішнім тумане знаёмая рассыпаная вёсачка, задумлівыя вербы і ракіты. Бачу, праўда, і нешта новае, чаго яшчэ не было тут летась. На калгасным двары стаіць аўтамашына. Стаіць на прыколе, на драўляных калодках. Значыць, свая, значыць, знойдзецца работа механіку Алёшу!

Мілая сэрцу Прыпяцкая зона! Ты ўзгадавала на сваіх пясках цудоўную кветку, ты прычаравала найлепшага хлопца. А гэтыя двое — маладыя і дужыя. Яны аздобяць цябе.

Расці ж і квітней, Прыпяцкая зона!





Лявон Яўменаў нарадзіўся ў 1932 годзе ў вёсцы Халмы Чэрыкаўскага раёна ў сям'і настаўнікаў. У 1955 годзе ён скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна і працаваў сакратаром Мінскага гаркома камсамола.

Цяпер Л. Яўменаў займаецца ў аспірантуры Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС.

Вершы яго друкаваліся ў «Маладосці» і «Чырвонай змене».

**Лявон ЯЎМЕНАЎ**

## НАД ТАБОЛАМ



Вакола курганы, як вежы,
Разлегліся доўгай градой...
Гамоніць чарот на ўзбярэжжы,
І чайкі крычаць над вадой.

Не раз сухавеяў віхуры
Табол выпівалі да дна...
Над рэчышчам дзікія буры
Стагналі з відна да відна.

Тужлівая песня казаха
Здалёку над стэпам плыла....
Сто вёрст — аніводнага даха,
Сто вёрст — ні двара, ні кала.

Чароды гусей палахлівых
Будзілі азёры дарма...
Вякамі кавыль сівагрывы
Адзін сіратліва драмаў.

Каб сонца з пшаніцы і жыта
Вязала снапы... вось за тым
Прышлі ў гэты край неабжыты
Маёй маладосці браты.



Дзе хмары пяскоў бушавалі,
Дзе ў выспы ныралі суркі,
Глядзяцца ў таболавы хвалі
Цалінных зямель гарадкі.

І песні аб радаснай долі
Лунаюць, гучаць навакол...
Не чуў такіх песень ніколі
Стары, пасівелы Табол.

## РОЗДУМ



Робішся увесь
Свінцова важкім —
Стомішся і ходзіш,
Нібы ў сне...
Што й казаць —
Бывае ў працы цяжка
Вам, сябры, таксама,
Як і мне.
Калі ж мы раней
Спаткаем ранне,
Ці наш вечар
Цягнецца далей —
Значыць, жыць камусьці
Лепей стане,
Нехта усміхнецца
Весялей.

* * *



Вунь яна, дзяўчына невысокая...
Нібы і не чула 'шчэ гудка:
Бляск наводзіць пакляй чарнавокая,
Быццам пот сцірае са станка.

Лепшую за ўсіх,
Маю маўклівую,
Я заўсёды рад цябе вітаць...
Дык чаму ж, дзяўчына сарамлівая,
Ты руку не хочаш мне падаць?

Мо' таму, што рукі стомай звязаны,
Шорсткія далоні, бы ў касца,
Мо' таму, што зрэзаны не раз яны
Металічнай стружкай з-пад разца?

Не... не тым, што у пярсцёнках, пухлыя,
Што аж вочы слепяць белізной,—
Вам, мае шурпатыя і смуглыя,
Я пралескі прынясу вясной.

## БОРУ



Кліча ноч гудкамі паравозаў
Некага ў заснежаны прастор,
Курчыцца дрыготна ад марозу,
Шэпчацца стары сасновы бор.

Вецер жа знарок шпурляе ў вочы
Жменямі пушысты снег,
Бы на некага злуюцца ноччу
Сосны, уздыхаючы у сне.

Хай сабе шалее завіруха,
Бы зачараваны, не таю,
Дзень і ноч я слухаў бы і слухаў
Музыку адвечную тваю.

**М. ШКЛЯР,**
**кандыдат гістарычных навук**

# СЛАЎНЫ ШЛЯХ

**Да 40-годдзя ўтварэння Кампартыі Беларусі**

Чатыры дзесяцігоддзі таму назад, у снежні 1918 года, утварылася Беларуская ССР і Кампартыя Беларусі — баявы, неад'емны атрад КПСС.

Гэта было ў суровыя і цяжкія часы. У 1918 годзе Беларусь была захоплена нямецкімі імперыялістычнымі акупантамі. Яны ўстанавілі на беларускай зямлі крывавы рэжым, аднавілі капіталістычна-памешчыцкі лад, учынялі жорсткія здзекі і катаванні.

У дні суровых выпрабаванняў, незлічоных пакут і ахвяр беларускія людзі не пахіснуліся, не сталі на калені перад ворагам, а мужна разам з усім савецкім народам са зброяй у руках адстойвалі вялікія заваёвы Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Пасля выгнання з савецкай зямлі нямецкіх захопнікаў 30 — 31 снежня 1918 года ў Смаленску адбылася VI-я Паўночна-заходняя канферэнцыя РКП(б), якая, выказваючы волю і жаданне беларускага народа, прыняла рашэнне аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

VI-я Паўночна-заходняя канферэнцыя РКП(б), зыходзячы з рашэння аб утварэнні БССР, аб'явіла сябе Першым з'ездам Камуністычнай партыі Беларусі. Гэта пастанова азначала канчатковае афармленне, утварэнне Камуністычнай партыі Беларусі.

У перыяд да Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Беларусь была ўскраінай царскай Расіі, адсталай ва ўсіх адносінах. У 1913 годзе ў нас на душу насельніцтва выраблялася прамысловай прадукцыі ў пяць разоў менш, чым у цэлым па Расіі, у дванаццаць разоў менш прадукцыі машынабудавання і ў пятнаццаць разоў — электраэнергіі.

З развіццём капіталістычнай прамысловасці ў Беларусі ішоў працэс няспыннага росту пралетарыята, які папаўняўся за лік велізарнай масы беззямельных і збяднелых сялян і рамеснікаў. У 1913 годзе ў пяці паўночна-заход-

ніх губернях — у Мінскай, Віцебскай, Віленскай, Гродзенскай і Магілёўскай — было 1 306 прамысловых прадпрыемстваў, на якіх працавала 60 790 рабочых. Вялікая колькасць рабочых была занята на чыгуначным і водным транспарце, лесараспрацоўках, у дробных прыватна-рамесных майстэрнях.

Цяжкім, паднявольным было жыццё рабочых Беларусі ў дарэвалюцыйнай Расіі. Працоўны дзень цягнуўся 13—14 гадзін, а нярэдка і больш. Заработная плата была ніжэй на 28,4 працэнта, чым у Расіі, але і яе не ўдавалася атрымліваць поўнасцю з-за шматлікіх штрафаў.

Прыціснутая ярмом эксплуатацыі, беларуская вёска ледзь трывала. Большасць зямель знаходзілася ў памешчыкаў. Сяляне звычайна не мелі хлеба, каб пракарміцца да новага ўраджаю. Асноўным абуткам у вёсцы былі лапці, а вопраткай — світкі хатняй работы. У пошуках кавалка хлеба па вуліцах брылі жабракі, калекі, хворыя... Вельмі трапна абмаляваў жыццё дарэвалюцыйнай беларускай вёскі народны паэт Беларусі Якуб Колас.

«У маіх вачах да гэтага часу, — пісаў Якуб Колас, — стаяць вузенькія, пярэстыя палоскі сялянскай зямлі. Я бачу ўбогія, суровыя ў сваёй пакутлівай прастаце прыдарожныя крыжы пры ўваходзе і выхадзе з вёскі. Яны нібы падкрэслівалі сабой тое невыноснае гора, якое выпала на долю нашага народа. А побач з убоствам беларускіх хат... раскінуліся багатыя панскія маёнткі, што захапілі зямлю народа. Лютаваў царскі дэспатызм, і не было мяжы самавольству царскіх сатрапаў. Я памятаю малюнкі народных пакут, яго бяспраўя, голаду і вынішчэння».

Страшэнная капіталістычная, памешчыцкая эксплуатацыя працоўных Беларусі дапаўнялася палітычным і нацыянальным прыгнётам. Рабочыя і сяляне не мелі ніякіх палітычных правоў. Царызм душыў культуру беларускага народа, забараняў беларускую мову, выданне літаратуры і навучанне ў школах на роднай мове. Каля 80 працэнтаў насельніцтва Беларусі было непісьменным.

Вельмі цяжкае матэрыяльнае і прававое становішча працоўных Беларусі хутка іх рэвалюцыянізавала, клікала на барацьбу з царызмам. Гэтая барацьба праходзіла пад кіраўніцтвам бальшавікоў Беларусі.

Пасля II з'езда РСДРП, на якім была створана партыя новага тыпу, ленінская партыя, у 1903—1905 гадах пачалі ўзнікаць сацыял-дэмакратычныя арганізацыі ў Мінску, Віцебску, Бабруйску, Оршы, Барысаве, Полацку, Слуцку, Брэсце, Пінску, Вілейцы, Капылі, Лідзе і іншых гарадах. У пачатку 1904 года па ініцыятыве У. І. Леніна Цэнтральны Камітэт партыі арганізаваў два буйныя партыйныя цэнтры ў Беларусі — Паўночна-заходні і Палескі камітэты РСДРП.

Сацыял-дэмакратычныя арганізацыі ў Беларусі былі створаны ў барацьбе з Бундам — дробнабуржуазнай, нацыяналістычнай арганізацыяй, якая, па словах Леніна, з'яўлялася ідэйным паразітам у рэвалюцыйным руху.

Бальшавікі Беларусі рашуча выкрывалі нацыяналістычныя партыі — Бунд, Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ), якія адцягвалі працоўных ад рэвалюцыйнай барацьбы. Адначасова бальшавікі вялі барацьбу з меншавікамі — апартуністамі ў рабочым руху. Ва ўсіх беларускіх сацыял-дэмакратычных арганізацыях меліся значныя групы бальшавікоў, якія вызначалі кірунак дзейнасці груп РСДРП. Бальшавіцкімі па большасці членаў у Беларусі з'яўляліся Мінская, Бабруйская, Гомельская чыгуначная групы РСДРП, Паўночна-заходні і Палескі камітэты партыі.

У барацьбе з бундаўцамі, меншавікамі, эсэрамі і іншымі апартуністамі раслі, мацнелі і загартоўваліся партыйныя арганізацыі Беларусі, якія кіравалі рэвалюцыйным рухам працоўных.

Пад кіраўніцтвам бальшавікоў



працоўныя Беларусі сумесна з рускім, украінскім і іншымі народамі нашай краіны прынялі актыўны ўдзел у першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гг., якая з'явілася генеральнай рэпетыцыяй Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Як у 1905 годзе, так і ў наступныя гады на беларускай зямлі ўспыхвалі стачкі, дэманстрацыі, хваляванні, праходзілі ўзброеныя стычкі рабочых, сялян з царскай паліцыяй і войскамі. У гісторыі Беларусі не было ні аднаго выпадку, калі рабочыя, сяляне не адгукнуліся б актыўна на рэвалюцыйныя выступленні ў Маскве, Пецярбургу і іншых гарадах краіны. Рэвалюцыйны рух працоўных Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне пад кіраўніцтвам бальшавікоў з'яўляўся часткай агульнарускага рэвалюцыйнага руху.

Магутная партыя камуністаў, створаная вялікім Леніным, прывяла народы нашай краіны да перамогі над струхлелым царскім самаўладствам у лютым 1917 года. Сакавік 1917 года — кастрычнік 1917 года з'яўляецца перыядам падрыхтоўкі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Кожны месяц гэтага перыяду ў гісторыі рэвалюцыйнага руху Расіі роўны году мірнага жыцця.

Кіпучую рэвалюцыйную дзейнасць разгарнулі ў гэты перыяд бальшавіцкія арганізацыі Беларусі. Пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў — нашых бацькоў і старэйшых братоў — у Беларусі праходзілі забастоўкі рабочых, сялянскія і салдацкія выступленні, мітынгі і палітычныя дэманстрацыі, з'езды і канферэнцыі пад лозунгам: «Уся ўлада Саветам!». Энергічную дзейнасць па згуртаванню рабочых, працоўных сялян Беларусі і салдат Заходняга фронта вакол лозунгаў бальшавіцкай партыі ў барацьбе за мір, за зям-

### У юбілейным, 1958...

**З кожным днём прыгажэе наша рэспубліка. Ва ўсіх яе кутках, у гарадах і вёсках, нястомнымі рукамі будаўнікоў узводзяцца ўсё новыя і новыя будынкі. На вачах у нас вырастаюць фабрыкі і заводы, палацы культуры і бібліятэкі, жылыя дамы і магазіны.**

**Асабліва хутка ішло будаўніцтва ў Беларусі ў гэтым, юбілейным годзе.**



**Галоўны корпус Васілевіцкай ДРЭС.**
Фота У. Лупейкі.

лю праводзілі М. В. Фрунзе, А. Ф. Мяснікоў, І. Я. Алібегаў, В. Г. Кнорын, М. М. Хатаевіч, Н. І. Крывашэін, К. І. Ландэр, С. Г. Магілёўскі, В. С. Селязнёў, В. В. Фамін, Н. В. Рагазінскі, В. В. Каменшчыкаў і многія іншыя бальшавікі. Беларускі народ з гонарам называе імёны бясстрашных рэвалюцыянераў, адданых сыноў вялікай ленінскай гвардыі, якія змагаліся за свабоду і шчасце народа.

У перадкастрычніцкія дні 1917 года, змардаваная вайною, наша краіна перажывала велізарныя цяжкасці. Не бачачы гістарычнай перспектывы, не верачы ў вялікую рэвалюцыйную сілу пралетарыята, меншавікі з трыбуны першага з'езда Саветаў заявілі, што няма такой партыі, якая ўзяла б на сябе адказнасць за лёс Расіі. І ў адказ на гэта ў зале пачуўся мужны, упэўнены голас вялікага Леніна: «Ёсць такая партыя!».

Ленінская партыя смела і рашуча ўзяла на сябе адказнасць за гістарычны лёс Расіі, за яе рэвалюцыйнае абнаўленне. Узначаліўшы шматмільённыя масы рабочага класа і бяднейшага сялянства, яна павяла іх на штурм капіталізма і дамаглася сусветна-гістарычнай перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Чалавецтва ў мінулым ведала не мала рэвалюцый. На барацьбу за сваё вызваленне не раз узнімаліся рабы старажытнага свету; ненавісны гнёт эксплуатацыі імкнуліся скінуць прыгонныя; магутная хваля рэвалюцый пранеслася ў канцы XVIII і першай палове XIX стагоддзя. Між тым, як бы ні былі розныя гістарычныя ўмовы, у якіх адбываліся гэтыя рэвалюцыі, як бы ні адрозніваліся яны адна ад другой па тых класавых сілах, што ў іх удзельнічалі, па формах і метадах барацьбы, — у адным мелі падабенства ўсе рэвалюцыі мінулага: яны не знішчалі эксплуатацыю. На змену адных прыгняттальнікаў прыходзілі другія, а народ, працоўны народ, па-ранейшаму заставаўся ў прыгнёце і няволі. Толькі Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя прывяла да знішчэння ўсякай эксплуатацыі чалавека чалавекам, да знішчэння ўсіх і ўсякіх прыгнятальнікаў. Пад моцным напорам рэвалюцыйных сіл быў знішчаны капіталістычны лад, устанавілася дыктатура пралетарыята — новая, рэвалюцыйная ўлада, заснаваная на саюзе рабочага класа і сялянства пры кіруючай ролі пралетарыята.

Беларускі народ ганарыцца тым, што савецкая ўлада ў Мінску, Гомелі, Віцебску, ва ўсіх гарадах і сёлах, на заходнім фронце перамагла адначасна з раёнамі Цэнтральнай Расіі. Рабочыя, працоўныя сяляне Беларусі, салдаты Заходняга фронта многае зрабілі ў агульнай справе барацьбы за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі.

Вялікі Кастрычнік расчысціў глебу для брацкага супрацоўніцтва і дружбы вольных і раўнапраўных народаў. Збылася даўняя мара беларускага народа аб стварэнні Беларускай Савецкай сацыялістычнай дзяржавы.

У снежні 1917 года на пасяджэнні Саўнаркома РСФСР быў заслуханы даклад аб арганізацыі з'езда Саветаў Беларусі, на якім меркавалася вырашыць пытанне аб утварэнні БССР. Партыйныя арганізацыі Беларусі пачалі падрыхтоўчую работу па скліканню з'езда Саветаў, які планаваўся на канец лютага 1918 года. У гэты перыяд беларускія камуністы ўзмацнілі работу па растлумачэнню працоўным ленінскай нацыянальнай палітыкі, выхаванню іх у духу пралетарскага інтэрнацыяналізма, выкрыццю беларускіх і яўрэйскіх нацыяналістаў, якія варожа сустрэлі перамогу Кастрычніка. Нацыяналісты, выразнікі інтарэсаў кулакоў і буржуазіі, не маючы сувязі з народам, імкнуліся без беларускага народа вырашыць яго лёс. З гэтай мэтай яны склікалі ў снежні 1917 года ў Мінску так званы «кангрэс», у якім прынялі ўдзел усе буржуазныя і дробнабуржуазныя нацыяналістычныя арганізацыі. «Кангрэс», як і трэба было чакаць, адмовіўся прызнаць органы савецкай улады. Саўнарком Заходняй вобласці распусціў яго, як скопішча контррэвалюцыйных змоўшчыкаў.



Падрыхтоўка працоўных Беларусі да склікання з'езда Саветаў была перарвана наступленнем нямецкіх захопнікаў на нашу краіну ў 1918 годзе.

Пасля выгнання імперыялістычных акупантаў ЦК РКП(б) і асабіста У. І. Ленін адразу ж заняліся пытаннем стварэння БССР. Пытанне аб беларускай дзяржаўнасці неаднаразова разглядалася членамі ЦК Камуністычнай партыі. У Маскве былі гутаркі і нарады членаў ЦК РКП (б), Савецкага ўрада з беларускімі кіруючымі партыйнымі і савецкімі работнікамі. На гэтых гутарках і нарадах У. І. Ленін аддаваў вялікую ўвагу пытанням партыйнага, савецкага і гаспадарчага будаўніцтва ў Беларусі, правільнаму правядзенню нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі. Вялікую ролю ў стварэнні БССР адыграў І. В. Сталін, які па даручэнню ЦК разам з старшынёй Паўночна-заходняга камітэта РКП (б) А. Ф. Мясніковым правёў гэтую падрыхтоўчую работу.

30 снежня 1918 года ў Смаленску ў 13 гадзін 20 мінут адкрылася VI-я Паўночна-заходняя канферэнцыя РКП(б). На канферэнцыі прысутнічалі дэлегаты ад Мінскай, Віцебскай, Смаленскай і часткі Віленскай і Чарнігаўскай губерняў. З дакладам па бягучаму моманту на канферэнцыі выступіў старшыня Паўночна-заходняга камітэта РКП(б) А. Ф. Мяснікоў. Ён зрабіў грунтоўны аналіз міжнароднага становішча і ўнутранага становішча савецкай краіны, растлумачыў становішча ў Германіі, краінах Антанты і ў нейтральных краінах.

У дакладзе А. Ф. Мяснікоў гаварыў, што ў нас ёсць ужо цэлы рад сацыялістычных рэспублік — гэта Латвія, Літва, Эстонія, Украіна. Яны з'яўляюцца моцным аплотам Савецкай Расіі. Дэлегаты і госці бурнымі апладысментамі сустрэлі словы тав. Мяснікова аб тым, што Заходняя вобласць павінна аб'явіць сябе самастойнай Савецкай Сацыялістычнай Беларускай Рэспублікай.

VI-я Паўночна-заходняя партыйная канферэнцыя па дакладу тав. Мяснікова на першым жа пасяджэнні, 30 снежня, аднадушна прыняла пастанову аб аб'яўленні самастойнай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з тэрыторыяй Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў.

У канцы першага пасяджэння

*У юбілейным, 1958...*

**Клопатам савецкае дзяржавы**
**Кожны ў нас сагрэты чалавек.**
**З жыхарамі ў новы дом па праву**
**Шчасце пасяляецца навек!**



**Работніца Васілевіцкай ДРЭС матарыстка Галіна Кояк і яе маці ў новай кватэры.**

Фота У. Лупейкі.

Мяснікоў унёс прапанову аб перайменаванні VI-й Паўночна-заходняй абласной канферэнцыі ў Першы з'езд Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі. Гэтая прапанова была прынята аднагалосна. Сваім рашэннем абласная партканферэнцыя арганізацыйна афарміла ўтварэнне Кампартыі Беларусі.

Уся работа Першага з'езда КПБ і прынятыя ім рашэнні былі прасякнуты духам вернасці, адзінства, і непарыўнай сувязі камуністаў Беларусі з РКП(б). Гэта з асаблівай сілай падкрэслена ў прывітанні, якое было паслана ў адрас РКП(б). У ім гаварылася, што VI-я Паўночна-заходняя абласная канферэнцыя РКП, якая прадстаўляе поўнасцю ўсе камуністычныя арганізацыі, што знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, прыняўшы пастанову аб неабходнасці вылучэння Беларусі ў самастойную рабоча-сялянскую Савецкую Рэспубліку і аб'явіўшы сябе Першым з'ездам Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларускай рэспублікі, пацвярджае сваю непарыўную ідэйную і арганізацыйную сувязь з Расійскай Камуністычнай партыяй, сувязь, якая стваралася за доўгія гады сумеснай работы, і што камуністы Беларусі і надалей поўнасцю будуць кіравацца дырэктывамі ЦК РКП(б), лічачы яго сваім вышэйшым партыйным органам.

Першы з'езд Кампартыі Беларусі звярнуўся з палымянай адозвай да рабочых, батракоў, сялян БССР і салдат Чырвонай Арміі. У адозве гаварылася, што з'езд Кампартыі Беларусі сабраўся для таго, каб вырашыць лёс працоўных мас Беларусі і цясней згуртаваць свае рады, а таксама з выключнай сілай падкрэслівалася кіруючая роля Камуністычнай партыі ў барацьбе за перамогу камунізма.

З'езд выбраў Цэнтральнае Бюро ў складзе А. Ф. Мяснікова, В. Г. Кнорына, І. Я. Алібегава, М. І. Калмановіча, Я. Ф. Перна, В. С. Селязнёва, В. І. Яркіна, Д. Ф. Жылуновіча і другіх. Старшынёй ЦК КПБ быў выбраны А. Ф. Мяснікоў, сакратаром — В. Г. Кнорын.

31 снежня ў 6 гадзін вечара спяваннем партыйнага гімна «Інтэрнацыянала» Першы з'езд Кампартыі Беларусі закончыў сваю работу. Такім чынам, Першы з'езд заклаў падмурак для будаўніцтва беларускай дзяржаўнасці, асновы арганізацыі і развіцця БССР у брацкім супрацоўніцтве з народамі вялікай савецкай краіны. Значэнне Першага з'езда КПБ у тым, што ён арганізацыйна аформіў стварэнне Кампартыі Беларусі як неад'емнай часткі Камуністычнай партыі нашай краіны.

31 снежня 1918 года быў створаны Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі. У яго ўваходзілі: А. Ф. Мяснікоў, Д. Ф. Жылуновіч, А. Г. Чарвякоў, С. В. Іваноў і другія. Цэнтральнае Бюро КПБ і Часовы ўрад зацвердзілі Маніфест аб утварэнні Беларускай ССР. Было вырашана, што Маніфест будзе апублікаваны ў Мінску.

1-га студзеня 1919 года па ўказанню ЦК РКП(б) Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад, які з'яўляўся вышэйшым органам савецкай улады ў Беларусі да выбрання сталага ўрада, абнародаваў Маніфест аб абвяшчэнні Беларускай ССР.

«Імем вякамі цярпеўшай няволю, прыгнёт і здзекі Беларусі, а цяпер Савецкай Беларускай Рэспублікі, — гаварылася ў Маніфесце, — мы, Часовы рабоча-сялянскі ўрад Беларускай Савецкай незалежнай рэспублікі, пастаўлены на пасты рашэннем апошняй канферэнцыі Камуністычнай партыі і воляй Саветаў Беларусі, аб'яўляем перад усім светам: «З гэтага часу ўся ўлада на Беларусі належыць толькі Саветам рабочых, сялянскіх, батрацкіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў».

З вялікім энтузіязмам сустрэлі працоўныя масы Беларусі рашэнні Першага з'езда КПБ і Маніфест аб утварэнні БССР. У сувязі з гэтым у Беларусі адбыліся мітынгі і сходы, на якіх рабочыя і працоўныя сяляне аднадушна віталі рашэнне з'езда.



5 студзеня 1919 года ўрад БССР, ЦК КПБ пераехалі са Смаленска ў Мінск.

2—4 студзеня ў Мінску ў гарадскім тэатры адбыўся першы з'езд Саветаў Беларусі, які заканадаўча аформіў утварэнне Беларускай ССР.

... Прайшло сорак год з часу ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі. Беларускі народ з гонарам азіраецца на свой слаўны шлях змагання і перамог. Лепшыя пачуцці беларускія людзі ў гэтыя дні звяртаюць да роднай Камуністычнай партыі, пад кіраўніцтвам якой савецкі народ за кароткі гістарычны час зрабіў столькі выдатных спраў, да вялікага Леніна — правадыра і заснавальніка Камуністычнай партыі, гіганта думкі і рэвалюцыйнага дзеяння, стваральніка беларускай дзяржаўнасці.

Калі народ становіцца гаспадаром свайго лёсу, ён творыць цуды. Беларускі народ, як і ўсе вызваленыя Вялікім Кастрычнікам народы Расіі, даказаў гэта на практыцы. Пад кіраўніцтвам сваёй роднай Камуністычнай партыі беларускі народ за кароткі гістарычны час пераадолеў эканамічную і культурную адсталасць рэспублікі і разам з усімі народамі савецкай краіны ажыццявіў ленінскі план сацыялістычнай перабудовы Расіі.

Сваімі выдатнымі перамогамі ў барацьбе за ажыццяўленне ленінскага плана пабудовы сацыялізма савецкія людзі абавязаны мудраму кіраўніцтву Камуністычнай партыі. Гэта яна, слаўная партыя камуністаў, ажывіла гіганцкія сілы народа і накіравала іх да вялікай мэты будаўніцтва новага жыцця, запаліла працоўных пафасам творчай працы ў гады гістарычных пяцігодак.

Камуністычная партыя Савецкага Саюза паўстае перад усім светам як партыя наватараў, нястомных пераўтваральнікаў, якія смела ставяць перад народам і паспяхова вырашаюць гіганцкія стваральныя задачы. З асаблівай сілай рэвалюцыйны творчы дух нашай партыі выявіўся ў ажыццяўленні рашэнняў XX з'езда КПСС, у рэарганізацыі і паляпшэнні работы сацыялістычнай прамысловасці, ва ўздыме сельскай гаспадаркі, асваенні цалінных і абложных зямель, рэарганізацыі МТС, у раскрыцці тых велізарных рэзерваў і магчымасцей, якія тояць у сабе калгасны, сацыялістычны лад.

Пад кіраўніцтвам КПСС і яго баявога атрада — Кампартыі Беларусі — беларускі народ, ажыццяўляючы рашэнні XX з'езда КПСС і наступныя пастановы ЦК партыі, дабіўся выдатных поспехаў у далейшым уздыме прамысловасці, сельскай гаспадаркі і развіцці культуры.

*У юбілейным, 1958...*



Зборка агрэгатных станкоў на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній.

Фота У. Лупейкі.

Цяпер, калі адзначаецца 40-годдзе Кампартыі Беларусі, наша рэспубліка з'яўляецца адным з важнейшых эканамічных раёнаў СССР, рэспублікай машыннай індустрыі. Цяпер у БССР выпрацоўваецца электраэнергіі ў 800 разоў, здабываецца торфу ў 400 разоў, цэменту вырабляецца ў 16 разоў больш, чым у 1913 годзе. Беларусь выпускае металарэжучых станкоў, электраэнергіі, матацыклаў, веласіпедаў больш, чым уся дарэвалюцыйная Расія.

Дзякуючы кіраўніцтву Камуністычнай партыі шпарка ідзе ўгору калгасная вёска. Зімой 1958 года ў Беларусь прыязджаў Першы сакратар ЦК КПСС М. С. Хрушчоў. Выступаючы на рэспубліканскай нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі, ён падвёў вынікі барацьбы беларускага народа за магутны ўздым сельскагаспадарчай вытворчасці, намеціў шляхі далейшага развіцця Беларускай ССР.

Ажыццяўляючы распрацаваныя Камуністычнай партыяй планы далейшага магутнага развіцця сельскай гаспадаркі, працаўнікі беларускай вёскі толькі за апошнія чатыры гады павялічылі валавы збор збожжа ў 1,4 раза, бульбы — больш чым у паўтара раза.

Пад кіраўніцтвам КПСС з асяроддзя рабочых і сялян у Беларусі выраслі новыя кадры інжынерна-тэхнічных работнікаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі, наватары, Героі Сацыялістычнай Працы, якія бязмежна адданы сваёй Радзіме і здольны вырашаць самыя складаныя навуковыя і практычныя задачы гіганцкага размаху.

Беларускі народ не шкадуе сіл, каб выканаць гістарычныя рашэнні роднай Камуністычнай партыі. Верным і бліжэйшым памочнікам Кампартыі, яе надзейным рэзервам з'яўляецца Ленінскі камсамол. На ўсіх этапах сацыялістычнага будаўніцтва камсамольцы і моладзь Беларусі праяўлялі і праяўляюць зараз бязмежную адданасць Радзіме і Камуністычнай партыі, беспрыкладны гераізм і мужнасць.

Вышэйшым прынцыпам, мэтай усёй дзейнасці Камуністычнай партыі Беларусі з'яўляецца барацьба за пабудову камунізма. Кампартыя Беларусі, увесь беларускі народ усведамляюць, што ўсімі сваімі дасягненнямі ў пабудове сацыялізма, у паспяховым руху да камунізма яны абавязаны мудраму кіраўніцтву, няспынным клопатам і ўвазе Кампартыі Савецкага Саюза і яе Ленінскага Цэнтральнага Камітэта. У гісторыі яшчэ не было прыкладу такой блізкасці палітычнай партыі і народа, такой кроўнай роднасці працоўных і партыі.

У барацьбе за пабудову сацыялізма і камунізма, так як і ў перыяд станаўлення і ўмацавання савецкай улады, утварэння БССР, у партыйным і дзяржаўным будаўніцтве Беларускай ССР актыўны ўдзел прымалі вучні і саратнікі вялікага Леніна, выдатныя дзеячы Камуністычнай партыі А. А. Андрэеў, К. Я. Варашылаў, А. Ф. Мяснікоў, М. І. Калінін, Г. К. Арджанікідзе, Я. М. Свярдлоў, І. В. Сталін, М. В. Фрунзе, М. С. Хрушчоў, М. М. Швернік. Велізарную дапамогу ў рабоце Кампартыі Беларусі аказвае Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчоў.

Ідучы насустрач XXI з'езду КПСС, адзначаючы свой 40-гадовы юбілей, Камуністычная партыя Беларусі з'яўляецца як ніколі моцнай, маналітнай, цесна згуртаванай вакол Ленінскага ЦК КПСС і аддае ўсе сілы ў барацьбе за камунізм — светлую будучыню чалавецтва.

# ЛІЧБЫ НАШЫХ ПЕРАМОГ



★★★★

Цяпер **Савецкая Беларусь**, займаючы шостае месца сярод саюзных рэспублік па размерах тэрыторыі і чацвёртае месца па колькасці жыхароў, знаходзіцца на другім месцы па здабычы торфу, вытворчасці фанеры, ільновалакна і ільняных тканін, на трэцім месцы па вытворчасці металаапрацоўчых станкоў, веласіпедаў, цэменту, цэглы, аконнага шкла, скуранога абутку, раду відаў трыкатажу, кандытарскіх вырабаў.

★★★★

Больш як адзін мільён сыноў беларускага народа разам з сынамі іншых брацкіх народаў нашай неабсяжнай Радзімы змагаліся на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

★★★★

217 генералаў — ураджэнцаў Беларусі — вадзілі ў бой слаўныя савецкія палкі.

★★★★

Звыш 300 тысяч салдат і афіцэраў — ураджэнцаў Беларусі — за праяўленую доблесць у барацьбе з фашысцкімі акупантамі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза.

★★★★

На акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Беларусі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны змагалася больш 370 тысяч партызан і партызанак.



★★★★

У Беларусі дзейнічалі 1 108 партызанскіх атрадаў, аб'яднаных у 199 партызанскіх брыгад.

★★★★

У тыле нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі Беларусі дзейнічала 9 падпольных абкомаў, 174 падпольныя гаркомы і райкомы КПБ, 1 297 пярвічных партыйных арганізацый, якія аб'ядноўвалі больш 25 000 камуністаў.

★★★★

У 1943 годзе насельніцтва, якое жыло на акупіраванай тэрыторыі Беларусі, сабрала і ўнесла ў Дзяржбанк на танкавую калону «Савецкая Беларусь» 1 606 тысяч рублёў, 2 100 тысяч рублёў золатам і 1 240 тысяч рублёў аблігацыямі.

★★★★

Каля 120 тысяч беларускіх партызан узнагароджана ордэнамі і медалямі, а 73 партызанам прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

★★★★



Аб'ём валавай прадукцыі буйнай прамысловасці Беларусі ў 1940 годзе павялічыўся ў параўнанні з 1913 годам у 14 разоў, у тым ліку металаапрацоўчай прамысловасці ў 58 разоў, выпрацоўка электраэнергіі — у 169 разоў.

Аб'ём валавай прадукцыі прамысловасці рэспублікі ў 1957 годзе павялічыўся ў 25 разоў у параўнанні з 1913 годам і амаль у тры разы ў параўнанні з 1940 годам, пры гэтым выпуск прадукцыі 'машынабудавання і металаапрацоўкі ўжо ў 1956 годзе павялічыўся ў 11 разоў у параўнанні з 1940 годам, у тым ліку машынабудавання — у 25 разоў.

Беларусь па выпуску металарэжучых станкоў на душу насельніцтва ў тры разы пераўзыходзіць Францыю. Грузавых аўтамабіляў у рэспубліцы вырабляецца больш, чым у Аўстрыі, Даніі, Ірландыі, Швецыі.

Толькі ў 1957 годзе на прадпрыемствах рэспублікі асвоена больш чым 150 новых машын, станкоў, прыбораў.

★★★★

У 1957 годзе выпрацоўка электраэнергіі ў рэспубліцы вырасла ў параўнанні з 1913 годам у 800 разоў. У Беларусі выпрацоўваецца цяпер электраэнергіі больш, чым выпрацоўвалі ўсе электрастанцыі царскай Расіі.

Электрастанцыі рэспублікі даюць цяпер за суткі столькі электраэнергіі, колькі выпрацоўвалася яе да рэвалюцыі за два гады.

★★★★



У 1957 годзе тэкстыльная прамысловасць рэспублікі выпусціла шарсцяных тканін больш, чым у 1940 годзе, у 15 разоў, шаўковых — у 163 разы.

★★★★

План першага паўгоддзя 1958 года па выпуску валавай прадукцыі прамысловасць Саўнаргаса выканала на 103 працэнты.

★★★★

У 1913 годзе ўсе электрастанцыі Беларусі выпрацавалі толькі 3 мільёны кілават-гадзін электраэнергіі, г. зн. у два разы менш, чым было выраблена электрастанцыямі БССР за адзін дзень у 1957 годзе. У разліку на душу насельніцтва ў Беларусі ў 1913 годзе выраблялася электраэнергіі ў 15 разоў менш, чым у цэлым па Расіі.

★★★★



Ужо ў 1928 годзе выпрацоўка электраэнергіі дасягнула 39 мільёнаў кілават-гадзін, або ў 13 разоў больш, чым у 1913 годзе.

★★★★

У выніку шырокага энергабудаўніцтва выпрацоўка электраэнергіі дасягнула ў 1940 годзе 508,4 мільёна кілават-гадзін.

У 1950 годзе выпрацоўка электраэнергіі ў рэспубліцы перавысіла ўзровень 1940 года ў 1,47 раза, у 1955 годзе — у 3,7 раза, а ў 1957 годзе выпрацавана электраэнергіі амаль на 20 працэнтаў больш, чым усімі электрастанцыямі Расіі ў 1913 годзе.



★★★★



У 1955 годзе прадпрыемствы хімічнай прамысловасці далі ў 1,7 раза больш прадукцыі, чым у 1950 годзе, і ў 3 з лішнім разы больш, чым у 1940 годзе, прадукцыя лесахімічнай прамысловасці ўзрасла ў 1956 годзе ў параўнанні з 1940 годам у 5,8 раза.

★★★★

Дастаткова сказаць, што ў 1957 годзе па лініі дзяржаўнага будаўніцтва здадзена ў эксплуатацыю 411 тысяч квадратных метраў жылой плошчы, а сёлета будзе ўведзена 453 тысячы квадратных метраў.

★★★★



Армія будаўнікоў налічвае больш чым 100 тысяч чалавек.

Будоўлі рэспублікі абслугоўваюць больш як 200 экскаватараў, 264 бульдозеры і скрэперы, каля 500 вежавых і аўтамабільных кранаў, некалькі тысяч аўтамашын і іншыя механізмы.

★★★★

Прамысловасць будаўнічых матэрыялаў вырабляе вялікую колькасць прадукцыі. У 1957 годзе было атрымана шыферу 77 мільёнаў умоўных плітак, чарапіцы — 21,4 мільёна штук, вапны — 207 тысяч тон, цэглы — 1 064 мільёны штук, а ў 1958 годзе будзе атрымана яшчэ больш.

★★★★

Нягледзячы на велізарныя разбурэнні, нанесеныя вайной, гарадскі грамадскі жылы фонд павялічыўся ў 1957 годзе ў параўнанні з 1940 годам у 1,5 раза і ў параўнанні з 1945 годам — у 3,5 раза.

★★★★



Ужо ў 1931 годзе ў Беларусі было арганізавана 8 614 калгасаў. Яны аб'ядноўвалі 310 тысяч бядняцка-серадняцкіх сялянскіх гаспадарак.

★★★★

У 1940 годзе ва ўсходніх абласцях Беларусі пасяўныя плошчы былі расшыраны ў параўнанні з 1913 годам на 625 тысяч гектараў. Пасевы пшаніцы ўзраслі ў 2,5 раза, тэхнічных культур — у 2,6 раза.

У 1940 годзе ў параўнанні з 1913 годам сельская гаспадарка атрымала больш: мяса — на 25,3 працэнта, малака — на 40,3, яек — на 48,1 працэнта. Плошча, засаджаная садамі, вырасла з 20 тысяч гектараў у 1913 годзе да 97 тысяч гектараў у 1940 годзе.

★★★★



За перыяд пятай пяцігодкі пасяўная плошча ў рэспубліцы павялічылася на 540 тысяч гектараў і склала 105 працэнтаў да ўзроўню 1940 года. Пагалоўе кароў за пяцігодку ўзрасло на 33 працэнты, свіней — у 2,2 раза, авечак — на 50 працэнтаў. За гэты ж час вытворчасць ільновалакна павялічылася ў 2,3 раза, пянькі — на 178 працэнтаў, мяса — на 41 працэнт, у тым ліку свініны на 136,5 працэнта, малака — на 28, воўны — на 20 і яек — на 14 працэнтаў. У калгасах вытворчасць мяса і малака ўзрасла больш чым у 3 разы.



Беларусь пераўзыйдзе Злучаныя Штаты Амерыкі па вытворчасці малака на душу насельніцтва ўжо ў 1958 годзе, а па вытворчасці мяса — у бліжэйшыя гады.

★★★★

За дасягнутыя поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі Беларусі ў пасляваенныя гады Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза 9 065 перадавікоў калгаснай вытворчасці, у тым ліку 3 704 жанчыны.

Толькі сёлета ўзнагароджана ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза 4 970 калгаснікаў, работнікаў МТС і саўгасаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі, партыйных, савецкіх і камсамольскіх работнікаў Беларускай ССР.

Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 32 перадавікам сельскай гаспадаркі рэспублікі. Усяго за пасляваенныя гады звання Героя Сацыялістычнай Працы ўдастоена 76 перадавікоў сельскагаспадарчай вытворчасці. Сярод іх — 43 жанчыны.

З году ў год расце колькасць удзельнікаў Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. У 1954 годзе ў ёй прымалі ўдзел 6 133 чалавекі, у 1955 годзе — 11 598, у 1956 годзе — 15 416, у 1957 годзе — 20 558 чалавек.

★★★★

У сельскай гаспадарцы рэспублікі працуе каля 70 тысяч спецыялістаў з вышэйшай і больш чым 100 тысяч з сярэдняй адукацыяй.

★★★★

З году ў год растуць даходы калгасаў. У 1957 годзе яны ў параўнанні з 1949 годам выраслі ў 9 разоў і склалі 3 800 мільёнаў рублёў.

★★★★



У 1956-1957 навучальным годзе ў 11 443 школах рэспублікі вучылася 1 244,7 тысячы чалавек. Колькасць настаўнікаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй цяпер перавышае 81 тысячу.

У 1958 годзе на будаўніцтва школ выдзелена 94,2 мільёна рублёў. Павінна быць пабудавана 67 школьных будынкаў на 25,9 тысячы вучнёўскіх месц. Акрамя таго, калгасы рэспублікі сёлета абавязаліся за свае сродкі пабудаваць 800 школьных будынкаў, 144 вучэбныя майстэрні, 44 фізкультурныя залы і 41 школьны інтэрнат.

★★★★




Велізарныя выгады атрымалі савецкія людзі з праведзенага ў 1956 годзе ўпарадкавання пенсійнага забяспечання. Так, калі ў 1955 годзе расходы на выплату пенсій у нашай рэспубліцы складалі 444 мільёны рублёў, дык у 1957 годзе яны склалі ўжо 1 мільярд 38 мільёнаў рублёў. У гэтым годзе выплаты на розныя віды пенсійнага забяспечання павялічваюцца на 126 мільёнаў рублёў, або на 23 працэнты ў параўнанні з мінулым годам.

★★★★

З 1944 года па 1 красавіка 1958 года ў Беларусі было выплачана дапамогі мнагадзетным маці звыш 2 мільярдаў 122 мільёнаў рублёў.



★★★★



З кожным годам расце сетка бальнічных устаноў. У параўнанні з 1913 годам яна ўзрасла амаль у 4 разы, а колькасць бальнічных ложкаў — у 7 разоў, колькасць урачоў, не лічачы зубных, павялічылася ў 10 разоў, сярэдняга медперсаналу — больш чым у 20 разоў.

★★★★

У рэспубліцы ёсць 39 санаторыяў на 4 400 месц і 12 дамоў адпачынку на 2 100 месц.

★★★★

За пасляваенныя гады на жыллёвае будаўніцтва ў Мінску было адпушчана больш як 2 мільярды рублёў.

★★★★

Толькі за апошнія два гады ў Беларусі адкрыта 499 новых сталовых, чайных, кафэ, рэстаранаў, закусачных на 13 878 месц.

★★★★



Народная ахова здароўя ў Беларусі, як і ва ўсёй краіне, атрымала нябачаны размах. Дастаткова сказаць, што ў 1958 годзе Дзяржаўным бюджэтам Беларускай ССР прадугледжана выдаткаваць на ахову здароўя працоўных 1 129 200 тысяч рублёў.

Ва ўстановах аховы здароўя рэспублікі працуе 9 300 урачоў, 37 000 сярэдніх медыцынскіх работнікаў, у тым ліку 5 908 фельчараў, 3 264 фельчарыцы-акушэркі, 3 249 акушэрак, 1 378 медлабарантак і 16 644 медыцынскія сястры.

За гады Савецкай улады колькасць бальнічных ложкаў у Беларусі павялічылася ў 7,2 раза. На 10 тысяч жыхароў цяпер ёсць 57 бальнічных ложкаў замест 9 ложкаў у 1913 годзе.

У рэспубліцы створаны 76 спецыялізаваных дыспансераў, 166 станцый хуткай медыцынскай дапамогі, 8 станцый санітарнай авіяцыі, 183 санітарна-эпідэміялагічныя станцыі, 17 дамоў санітарнай асветы, 51 санаторый і дом адпачынку на 6 500 месц і многа іншых устаноў, якіх не было ў дарэвалюцыйнай Беларусі.

У кожным сельскім раёне рэспублікі ў сярэднім працуе 20 урачоў. Сярэдні радыус урачэбнага абслугоўвання знізіўся з 50 вёрст у 1913 годзе да 8 кіламетраў у цяперашні час.



Усяго ў БССР ёсць 403 дзіцячыя і жаночыя кансультацыі, 170 калгасных радзільных дамоў, 429 дзіцячых ясляў і іншых устаноў.

У медыцынскіх і навукова-даследчых інстытутах БССР працуюць 674 прафесары, дацэнты, асістэнты і навуковыя работнікі.

Агульная смяротнасць насельніцтва Беларускай ССР зменшылася ў параўнанні з 1913 годам у 2,6 раза, а ў параўнанні з 1940 годам — амаль у два разы. Сярэдняя працягласць жыцця працоўных БССР павялічылася ў два разы.

★★★★

Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі не было ніводнай буйнай навукова-даследчай установы.

У акадэміях, а таксама ў галіновых даследчых інстытутах, у ВНУ працуе цяпер 5 061 навуковы супрацоўнік, у тым ліку 1 773 доктары і кандыдаты навук.



Усяго да рэвалюцыі ў Беларусі налічвалася 4 176 агульнаадукацыйных школ.

Цяпер у Беларусі працуюць 11 483 агульнаадукацыйныя школы. У школах вучыцца 1 174 696 дзяцей.

Па колькасці навучэнцаў на 10 тысяч насельніцтва Беларусь ідзе наперадзе такіх краін, як Англія, Францыя і Італія.

У 1957-58 навучальным годзе колькасць школ рабочай і сельскай моладзі павялічылася да 745 з колькасцю навучэнцаў 55 155 чалавек.

Паводле рашэння XX з'езда КПСС, у БССР, як і ў іншых рэспубліках, атрымаў развіццё новы тып школ — школы-інтэрнаты. Цяпер у Беларусі ёсць 14 школ-інтэрнатаў, у якіх вучыцца 2 585 дзяцей.

Цяпер у БССР ёсць 211 дзіцячых дамоў.

Шырокае развіццё пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі атрымала дашкольнае выхаванне. Калі да рэвалюцыі дзіцячыя сады былі вельмі рэдкай з'явай, дык па стану на 1 студзеня 1958 года ў Беларусі было 640 дзіцячых садоў на 42 844 месцы.



★★★★

Вялікіх поспехаў дасягнула Савецкая Беларусь і ў развіцці вышэйшай адукацыі. Цяпер працуюць 25 ВНУ, у якіх вучыцца больш чым 50 тысяч студэнтаў.

Колькасць настаўнікаў у рэспубліцы ў параўнанні з дарэвалюцыйным часам павялічылася больш чым у 10 разоў і складае цяпер больш 81 тысячы чалавек.

432 настаўнікам рэспублікі прысвоена званне заслужанага настаўніка школы БССР.

★★★★

У рэспубліцы цяпер працуе адзінаццаць прафесіянальных тэатраў, у тым ліку 8 драматычных тэатраў, Тэатр оперы і балету, Тэатр юнага гледача і Тэатр лялек.

★★★★



Не малы поспех мела артыстычная моладзь Беларусі на ўсесаюзных конкурсах фестывалю моладзі, заваяваўшы 10 залатых, 6 сярэбраных медаляў.

За гады Савецкай улады ў Беларусі створана шырокая сетка мастацкіх навучальных устаноў: Беларуская дзяржаўная кансерваторыя, Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, 6 музычных вучылішчаў, мастацкае вучылішча, харэаграфічнае вучылішча, музычная школа-дзесяцігодка і 42 дзіцячыя музычныя школы.

★★★★

У рэспубліцы цяпер працуе звыш 13 тысяч харавых, драматычных, харэаграфічных і музычных калектываў, студый і гурткоў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія аб'ядноўваюць звыш 200 тысяч аматараў мастацтва.

Толькі ў сельскай мясцовасці працуе каля 10 тысяч калектываў.

Штогод сіламі мастацкай самадзейнасці праводзіцца больш чым 70 тысяч канцэртных выступленняў і спектакляў.

У гонар 40-годдзя БССР у лістападзе месяцы 1958 года ў Мінску праведзена першая дэкада самадзейнага мастацтва. У сталіцу нашай рэспублікі былі запрошаны 3 000 лепшых выканаўцаў усіх жанраў.





У Беларусі ёсць звыш 3 200 таленавітых ткачых, вышывальшчыц, рэзчыкаў па дрэву, інкрустатараў, керамікаў і іншых майстроў народнай творчасці.

За шматгадовую і пасяховую дзейнасць на ніве высакароднай справы мастацкай самадзейнасці і народнай творчасці васьмі лепшым прадстаўнікам прысвоены ганаровыя званні заслужаных дзеячоў мастацтва і заслужаных дзеячоў культуры БССР. Каля 200 удзельнікаў і кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Саюза ССР, Ганаровымі граматамі і Граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

★★★★

У рэспубліцы цяпер працуе 20 698 бібліятэк з кніжным фондам каля 48 мільёнаў тамоў. Толькі ў гэтым годзе дзяржаўныя бібліятэкі рэспублікі папоўнілі свае фонды на 1 мільён 370 тысяч тамоў, гэта ў тры разы больш, чым мелі кніг усе бібліятэкі на тэрыторыі Беларусі ў 1913 годзе.



У Беларусі налічваецца цяпер 5 783 Палацы, Дамы культуры і клубы. Пры клубах працуе звыш 13 тысяч калектываў мастацкай самадзейнасці. У рэспубліцы ёсць 28 музеяў, якія наведваюць мільёны экскурсантаў.

У 1957 годзе ў культасветустановах рэспублікі прачытана 149 922 лекцыі.

★★★★

Цяпер у Беларусі выдаецца 255 газет, у тым ліку 10 рэспубліканскіх, 7 абласных, 161 раённая, 77 шматтыражных — на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, у навучальных установах. Агульны разавы тыраж гэтых газет перавышае ўжо 1 620 тысяч экземпляраў.

У рэспубліцы выходзіць таксама 15 масавых часопісаў, разавы тыраж якіх складае 360 тысяч экземпляраў і працягвае безупынна павышацца.

Небывалымі тэмпамі развіваецца і савецкае кнігавыдавецтва.



Сцяпан КУХАРАЎ

# ЭСТАФЕТА БАЦЬКОЎ

**Нарыс**

Ідуць гады, ткуць адвечную стужку часу. Жывая, імклівая, гэтая стужка бяжыць у бясконцую далячынь, напаўняючы сусвет святлом жыцця, бясконцага і маладога. Нястрымная ў сваім парыве сіла жыцця!

Іншы раз вось так задумаешся, паспрабуеш у думках прасачыць за вірлівым бегам часу, асэнсаваць і ўзважыць тое, што адбылося на тваіх вачах, што зрабілі людзі, з якімі ты жывеш і працуеш побач, як змяніліся тыя мясціны, якія ты называеш бацькоўскім краем, і адчуеш яшчэ раз, як геніяльны ў сваёй працы чалавек, які ён творца і летуценнік, калі атрымаў уладу над часам, калі стаў гаспадаром жыцця.

Сорак год... Гэта такі час, калі чалавек узняўся на вышыню сваёй сталасці, адкуль ён больш пранікліва і з большым кругаглядам бачыць усё вакол сябе, адкуль зможа ўзяць новы разгон у сваіх добрых задумах на карысць сучаснікаў і на ўспамін нашчадкам.

Сорак год у жыцці народа, у жыцці дзяржавы — не такі ўжо вялікі час. Але ж калі прыгадаеш, калі ўдумаешся, — колькі збудавана, колькі створана! Які цудоўны шлях прайшла эстафета рэвалюцыйнага абнаўлення жыцця! Як высока ўзнялі яе над сусветам нашы бацькі-камуністы ў гады свайго неспакойнага юнацтва і як прадаўжаюць яе камсамольцы, узяўшы з рук старэйшых пакаленняў!..

Тыя першыя камсамольцы, што ўзнімалі, адбудоўвалі разбураныя грамадзянскай вайною і варожай інтэрвенцыяй заводы і фабрыкі, што закладвалі падмуркі перабудовы на сацыялістычны лад вёскі, ужо даўно сталі камуністамі. У іх выраслі сыны і дочкі, якія смела ўзялі ў свае маладыя, дужыя рукі эстафету бацькоў, зрабіўшыся ўдарнікамі і наватарамі працы. Яны, камсамольцы саракавых гадоў, разам са сваімі старэйшымі таварышамі — камуністамі ўзводзілі велічны будынак сацыялізма, а потым, калі над Радзімай усплылі хмары небяспекі, — з такой жа адвагай, як некалі іхнія бацькі, рынуліся ў агонь барацьбы з самым страшэнным ворагам — фашызмам.



Вярнуўшыся пераможцамі з Берліна, тыя камсамольцы ўзмужнелі, загартаваліся ў агні і ўжо сталі на рыштаванні новабудоўляў камуністамі, такімі ж, якімі былі іх няўрымслівыя папярэднікі — прадстаўнікі першага пакалення людзей, народжаных Вялікім Кастрычнікам.

...Думаеш пра сённяшніх нашых маладых хлопцаў і дзяўчат са значкамі «ВЛКСМ» на гарнітурах і суконках, глядзіш, з якой упартасцю штурмуюць яны вышыні навукі, з якім спрытам і ўмельствам завіхаюцца ля станкоў, ля вагранак, за рулём машын, на калгасных палях, слухаеш іх заўзятыя спрэчкі пра тое, якім павінен быць наш малады сучаснік, і радасна становіцца на душы: надзейная змена ў нашых цяперашніх бацькоў. Ім ёсць каму перадаць далей свае лепшыя традыцыі, свой дарагі запавет — эстафету вольнай, творчай працы, як галоўнага сродку для ажыццяўлення камуністычнай мары аб шчасці на зямлі.

1

Цяпер гэта не так важна, каму першаму прышла ў галаву думка: напісаць гісторыю свайго роднага завода, але важна, што гэтая прапанова спадабалася ўсім рабочым. За яе ажыццяўленне ўзяліся з усёй шчырасцю ўдумлівы і сур'ёзны юнак Алесь Кабяк — малады тэхнолаг і сталы інжынер, галоўны механік завода таварыш Марудаў. Яны знайшлі рад цікавых архіўных матэрыялаў, якія жыва ўваскрашаюць далёкае мінулае роднага завода, адшукалі жывых людзей — сведкаў і ўдзельнікаў непаўторных падзей, і фактаў, якія сёння сталі гісторыяй.

Па драбніцы, па кроплі збіраец-

*У юбілейным, 1958...*

У руінах счарнелых
Над імклівай Дзвіною
Родны Віцебск ляжаў,
Зруйнаваны вайною.
За цаглінай цагліна,
За каменем камень, —
Ўзнялі мы наш горад
Сваімі рукамі.

Не надзівіцца Віцебскам
Кожны прахожы:
— Ты ніколі не быў яшчэ
Гэткі прыгожы!



Новыя жылыя дамы на вуліцы Імя Кірава ў Віцебску.
Фота С. Капелькі.

ца гэты каштоўны матэрыял. У заводскіх гісторыкаў ужо набралася шмат выпісак, дакументаў, фотаздымкаў, якія ўвойдуць у кнігу аб слаўным 75-гадовым шляху, які прайшоў старэйшы завод Віцебска «Камінтэрн» з часу заснавання. Пакуль гэтая кніга пішацца. Яе, канешне, трэба хутчэй напісаць. Але ёсць жывыя ўдзельнікі, якія тварылі гэтую слаўную працоўную гісторыю. Некаторыя з іх працуюць поплеч з моладдзю ў цэхах, перадаючы маладому пакаленню сваё працоўнае ўмельства і свае запаветныя рабочыя традыцыі.

У інструментальным цэху ля такарнага станка стаіць невысокі сухарлявы чалавек у старанна вымытай кортавай спяцоўцы, у цяжкіх рабочых чаравіках. З-пад акуляраў з драцянымі вушкамі пазіраюць жывыя, з задорнымі іскрынкамі шэрыя вочы; на драбнаватым, з вясёлымі маршчынкамі твары лагодная ўсмешачка. Чалавек пільна ўзіраецца, як з-пад разца бясконцым ручайком цячэ сінявата стружка, а круглая, заціснутая кулачкамі-дзяржакамі пакоўка набывае форму новай дэталі. Здаецца, чалавек, апроч гэтай дэталі, апроч гэтай стружкі, нічога не бачыць, нічога не заўважае. Але вось на суседнім станку нейкая замінка, і чалавек націскае кнопку, спыняе свой станок і ідзе да суседа — мурзатага хлапчука ў чорнай рубашцы фабзавучніка. Стары токар нешта паказвае, сам устанаўлівае разец, уключае станок, і хлапчук, збянтэжана ўсміхаючыся, зноў смялей бярэцца за супарт станка. Потым хуткай, спешнай паходкай вяртаецца назад, да свайго месца.

Невысокі, сухарлявы чалавек у старамодных акулярах — гэта Язэп Іванавіч Паташкевіч, ветэран-камінтэрнавец, патомны рабочы. Трыццаць пяты год пайшоў, як ён стаіць за станком, выточвае дэталі, робіць складаны інструмент. На гэтым заводзе працаваў Язэпаў бацька ліцейшчыкам яшчэ ў цяжкі дарэвалюцыйны час. Сюды прывёў ён і свайго сына Язэпку. Праўда, было гэта ўжо ў наш, савецкі час, у першыя гады гаспадарання на заводзе саміх рабочых, але Язэп Іванавіч добра памятае, якім быў завод да Вялікага Кастрычніка, які цяжар падняволля на сваіх плячах неслі яго бацькі — віцебскія металісты.

У другім аддзяленні гэтага ж інструментальнага цэха ля складанага шліфавальнага станка завіхаецца пажылы, але надзвычай рухавы і энергічны мужчына, Уладзімір Фёдаравіч Багуцкі, прадстаўнік таго маладога пакалення рабочага класа, якое яшчэ ў даваенны час стала на ўдарную працоўную вахту будаўнікоў сацыялізма. Яго аднагодкі ў суровыя дні Айчыннай вайны дружна ўзняліся на абарону заваёў савецкай улады — адны са зброяй у руках, другія сталі за станкі, ля домнаў і мартэнаў. У ліку тых, хто каваў перамогу над ворагам у савецкім тыле, быў і беларускі рабочы Уладзімір Багуцкі, які ў тыя цяжкія для Радзімы дні стаў камуністам. У Багуцкага, як і ў Паташкевіча, ужо шмат вучняў, шмат добрых памочнікаў і паслядоўнікаў, якім стары рабочы перадае сваё майстэрства, свой спрыт і стараннe.

Ветэраны працы, на вачах якіх выраслі ўсе карпусы сённяшняга «Камінтэрна», ёсць у механічным, кавальскім, ліцейным і іншых цэхах. Кавальска-тэрмічны цэх вось ужо больш дзесяці год узначальвае былы першы камсамолец завода, стары кадравы металіст Арон Львовіч Забежанскі. Кантрольны майстар цэха — Леанід Усцінавіч Казлоў узнагароджаны ордэнам Леніна. У трэцім механічным моладзь добра ведае і шчыра паважае свайго аўтарытэтнага і прыдзірлівага настаўніка Івана Гаўрылавіча Лапунова, які, нягледзячы на свае гады, не пакідае станка. За пасляваенны перыяд токар-скораснік Іван Гаўрылавіч выхаваў больш як пяцьдзесят маладых рабочых. Сёння ветэран не адстае ад сваіх вучняў: Яго звычайная норма — 200 працэнтаў.

Моладзь любіць і з хваляваннем слухае апавяданні ветэранаў



працы аб родным заводзе, аб тым, як нарадзілася, расла і гартавалася заводская рабочая сям'я, як складваліся працоўныя традыцыі, якімі ганарыцца і якія шануе сённяшняе маладое пакаленне віцебскіх станкабудаўнікоў. Камсамольцы запрашаюць на свае сходы старых кадравікоў, наладжваюць сустрэчы, якія дапамагаюць маладым сучаснікам лепш ацаніць і зразумець тыя нашы перамогі і дасягненні, што сёння ўспрымаюцца некаторымі як нешта звычайнае, будзённае і само сабой зразумелае.

— А між іншым, было некалі ўсё куды цяжэй, чым мы можам нават сабе ўявіць, — расказваў на адной з такіх сяброўскіх сустрэч з моладдзю Язэп Іванавіч Паташкевіч. — Узяць хоць бы, да прыкладу, наш завод, які цяпер лічыцца адным з буйных прадпрыемстваў беларускага станкабудавання. Гэта было некалі, пры старым рэжыме, пекла, дзе гаспадар высмоктваў усе сокі з рабочага чалавека...

З гэтага расказа маладыя камінтэрнаўцы даведаліся, што іх завод узнік даўно, семдзесят пяць год таму назад. Спачатку гэта была звычайная драўляная кузня непадалёк ад Дзвіны. Яе заснаваў літоўскі мешчанін Грынберг. Паступова яго справа пускала карэнні, разрасталася. Ужо ў 1902 годзе ў спісе губеранскіх фабрычных устаноў значыцца «чыгуналіцейны і машынабудаўнічы завод Івана Грынберга ў Віцебску. Колькасць рабочых — 60».

Ужо тады, на зары свайго ўзнікнення, гэта было тыповае капіталістычнае прадпрыемства. Рабочы дзень на ім цягнуўся 10—12 гадзін. Умовы працы былі невыносныя. Гаспадар не стараўся ўводзіць навінкі, каб аблегчыць вытворчы працэс. Яго задавальнялі мускулы рук рабочых, якія былі куды таннейшыя, чым машыны.

У выключна цяжкім становішчы былі тыя, што толькі прыходзілі на завод, — навічкі, вучні. Хлапчукі, якіх наймаў заводчык, павінны былі рабіць без платы, дарэмна

*У юбілейным, 1958...*



У Палацы культуры Віцебскага домабудаўнічага камбіната.
Фота С. Капелькі.

па некалькі год толькі за тое, што яны навучаюцца. Настаўнік-майстар са згоды і нават з заахвочвання свайго гаспадара не спяшаўся з навучаннем, наадварот, стараўся як мага больш трымаць пад рукою свайго вучня, бо той за яго рабіў, а на плату не разлічваў.

У старога віцяблянiна-металіста Аляксандра Раманавіча Васіленкі, які з 1914 па 1941 год працаваў на заводзе, захавалася разліковая кніжка дарэвалюцыйнага часу. Аляксандр Раманавіч атрымаў яе яшчэ пятнаццацігадовым хлапчуком. У ёй проста напісана: «Наём

заключан на тры гады бясплатным вучнем».

Не дзіўна, што пасля такой вучобы многія маладыя рабочыя не заставаліся на заводзе, ішлі шукаць іншага месца. Часта ўспыхвалі стычкі і спрэчкі паміж гаспадаром і рабочымі, якія не заўсёды заканчваліся перамогай рабочага люду.

З ростам рэвалюцыйнага руху ў Расіі расла класавая самасвядомасць і віцебскіх металістаў. Вядома з архіўных дакументаў, што ў ліпені 1917 года рабочыя завода Грынберга наладзілі забастоўку. Нягледзячы на ўпартасць гаспадара, рабочыя дамагліся на той раз перамогі — зніжэння рабочага дня і павышэння заработнай платы. Рабочыя і служачыя атрымалі зарплату і за тыя дні, што баставалі. Гэта была адна з буйных перамог віцебскіх металістаў.

Цікавыя матэрыялы і расказы жывых удзельнікаў пра першыя заводскія будні, якія пачаліся ў новых умовах, пасля таго, як перамог Вялікі Кастрычнік паўсюдна ў былой царскай Расіі. У 1918 годзе заводчык знік. На яго месца быў абраны заводскі камітэт, які энергічна ўзяўся за наладжванне вытворчасці.

У дні разрухі і нястачы металісты, скінуўшы ярмо прыгнёту, з нечуваным энтузіязмам узяліся за працу. Рабочыя самі здабывалі сыравіну, матэрыялы, самі наладжвалі парадак у цэхах. Завод зноў запрацаваў.

На заводзе Грынберга раней выпускаліся вадзяныя турбіны і млынавыя машыны, прылады для крышэння тытуню і г. д. У першыя гады савецкай улады адразу ж пачалі выпуск плугоў, асваенне новых сельскагаспадарчых машын — малатарань, веялак, конных прывадаў.

Віцебскія металісты шмат зрабілі і ў справе выпуску абсталявання і прылад для ўзбраення маладой Савецкай Арміі, якая вяла змаганне з іншаземнымі інтэрвентамі. Вядома, што віцебскія заводы зрабілі ў 1921 годзе 2895 ваенных адзінак рознага тыпу, адрамантавалі вялікія эшалоны вайсковага абозу.

Маладыя камінтэрнаўцы з гонарам даведваюцца, што на іх заводзе, бадай раней, чым дзе ў Віцебску, узнікла камсамольская арганізацыя. Тады яна аб'яднала моладзь двух металапрадпрыемстваў — цяперашняга завода імя Кірава і цяперашні «Камінтэрн».

То быў незабыўны, непаўторны час, — успамінаў на адной са сваіх сустрэч з сённяшнімі маладымі сябрамі-станкабудаўнікамі пра сваё камсамольскае юнацтва камуніст Арон Львовіч Забежанскі, начальнік кавальска-тэрмічнага цэха. — Мы паспявалі і ў цэху ля ваграннкі ці ля станка зрабіць працу, і выйсці на суботнік у горадзе, і выступіць з новай праграмай на сцэне... Кожны з тагачасных камсамольцаў быў актыўным прыхільнікам Чырвонай Арміі. Мы старанна вывучалі вайсковую справу, каб у любы час стаць у рады добраахвотнікаў, на абарону маладой савецкай рэспублікі, на якую ашчэрвала зубы імперыялістычная гідра.

Нядзельнікі, ваенізаваныя паходы, дапамога вёсцы, барацьба з кулацтвам, ударныя вахты — вось тая непаўторная рамантыка, якую тварылі ў гады свайго камсамольскага юнацтва металісты, папярэднікі цяперашніх станкабудаўнікоў.

... У перадваенны час у Віцебску на заводзе «Камінтэрн» было каля трохсот рабочых. Камінтэрнаўцы асвоілі выпуск металарэжучых станкоў, якія карысталіся вялікім поспехам. На месцы колішніх падслепаватых грынбераўскіх будынін выраслі светлыя карпусы механічнага, інструментальнага і ліцейнага цэхаў, якія атрымалі новае складанае абсталяванне і механізмы.

Завод «Камінтэрн» ужо ў тыя перадваенныя гады стаў калыскай беларускага станкабудавання.



## 2

1945 год. Май. У чыстым блакітным небе прагрымелі, як радасны вясновы гром, залпы пераможнага салюту, абвясціўшы на ўвесь свет аб капітуляцыі фашысцкай Германіі. Ранкам міру назвалі тую веснавую раніцу, калі ў сіняву неба шуганулі featureзнакаляровыя кветкі салюту. Людзі абдымаліся, плакалі ад радасці. Гэта было незабыўнае, сапраўды хвалюючае свята...

Але святкаваць не было часу. У руінах і папялішчах ляжалі гарады і вёскі. Зямля прасіла рук хлебароба. Заводы клікалі да сябе працаўніка-рабочага.

Тыя, што вярталіся эшалонамі з Берліна, з-пад Кенігсберга, з Прагі і Будапешта, не пераапрануўшыся, у гімнасцёрках і запыленых салдацкіх ботах браліся за кельмы, станавіліся да станкоў, за поручні плуга...

Вярнуліся на радзіму, у родны горад з далёкага Паволжжа віцебскія металісты-камінтэрнаўцы. Іх была жменька. Загартаваныя цяжкасцямі ваеннага часу, яны прыйшлі на заводскі двор. Перад імі ляжалі ў руінах груды цэглы, праз якія сям-там прабіваліся ўпартыя зялёныя парасткі ранняй травы. Уцалелі толькі два даваенныя будынкі. Але як уцалелі — стаялі паўразбураныя, пашчапаныя каробкі з пустымі рамамі вокан. Камуністы і камсамольцы сабраліся ў паўабгарэлай кузні, правялі кароткі сход-нараду. Абдумалі, з чаго пачаць, і адразу — за справу. Учарашнія стругальшчыкі і шліфоўшчыкі сталі мулярамі, цеслярамі. Трэба было адраджаць родны завод.

На дапамогу хутка падаспелі франтавікі, партызаны, якія кожны дзень групамі вярталіся ў родны горад, на завод. Побач са сталымі вопытнымі рабочымі сталі зусім маладыя юнакі і дзяўчаты, падлеткі. З тылу, ад рускіх сяброў, прыйшло абсталяванне — станкі, машыны, краны, прэсы. У тыя сапраўды гераічныя дні, як і заўсёды, камуністы і камсамольцы былі наперадзе, сваім прыкладам натхнялі ўвесь рабочы калектыў.

Людзі працавалі ад раніцы да цямна. Многія начавалі тут жа, на заводскім двары. Тут была і сталоўка — пад адкрытым небам стаяла паходная салдацкая кухня, дзе гаспадарыла ўчарашні франтавік Таня. Невялікі быў выбар страў у Тані — боршч ды каша. Але якія

**У юбілейным, 1958...**

Яшчэ нядаўна зняты рыштаванні,
А ўжо будынак запрашае ўсіх:
— Заходзьце ўдзень, заходзьце на змярканні —
Вас, як сяброў,
Чакаюць сотні кніг!



Новы будынак гарадской бібліятэкі ў Оршы.
Фота С. Капелькі.

смачны быў той абед — хто яго каштаваў, і цяпер памятае!

Людзям цяжка было. Але ніхто не скардзіўся, не хныкаў. Усе ведалі, што працуюць не на Грынбергаў, як калісьці іх бацькі і браты, а на сябе, на сваю дзяржаву. Усіх натхняла жаданне — хутчэй узняць з руін родны завод.

Кадравыя рабочыя, што вярнуліся з эвакуацыі, узяліся за навучанне моладзі. Узялі сабе вучняў і Язэп Іванавіч Паташкевіч, і Іван Гаўрылавіч Лапуноў, і Арон Львовіч Забежанскі, і многія іншыя. Але гэта было зусім іншае навучанне, чым некалі ў Грынберга. Цяпер кожны быў зацікаўлены, каб хутчэй выпусціць сабе памочнікаў, бо станкі стаялі, кожны хацеў, каб яго вучань быў варты свайго настаўніка, бо аб гэтым заўсёды гаварылі і на партыйных, і на камсамольскіх сходах, ды, нарэшце, за вучняў і добра плацілі. Усё гэта, канешне, так. А самае галоўнае — гэта тое, што цяпер, пры савецкай уладзе, інакшыя сталі тыя ж рабочыя-майстры, ім не трэба ні ад каго хаваць свае сакрэты, яны не залежаць ад гаспадара. Завод — дзяржаўны, народны, і рабочыя працуюць на сябе, на карысць свайго народа.

У тым жа 1945 годзе, дзякуючы ўдарнай працы і небываламу энтузіязму рабочага калектыву, вярнуўся да жыцця завод. Спачатку ў адным корпусе быў і механічны цэх, і зборка, і інструментальня. Выпускалі спачатку чыгуннае ліццё. Рабілі нават і такія рэчы, як чыгуны і скаварodкі. Але з першага дня аднаўлення перад калектывам завода была пастаўлена вялікая, адказная задача — асвоіць выпуск новых, складаных станкоў для прамысловасці.

Неўзабаве станкабудаўнікі святкавалі сваю першую перамогу — са зборачнага цэха, пад дружныя воплескі і крыкі «ўра» выйшлі першыя станкі з маркай завода «Камінтэрн». Гэта былі звычайныя, простыя станкі для нарэзкі гаек. Але той хвалюючы момант не забудзецца і ў памяці тых, хто яго тады перажыў, і ў людзей, якія прыйшлі на завод пазней, але таксама ганарацца традыцыямі любімага завода.

Затым пайшлі новыя і новыя мадэлі. Завод рос, пераабсталёўваўся, маладзеў на вачах. Выраслі прасторныя, светлыя карпусы кавальска-тэрмічнага, механа-зборачнага цэхаў, кацельнай. У новым будынку заводакіраўніцтва размясцілася інжынерна-тэхнічная служба, заводскі клуб. Непадалёк ад завода, на вуліцы Кірава, пабудаваны новыя дамы, у якіх пасяліліся станкабудаўнікі. У апошнія гады шырока разгарнулася будаўніцтва жылля па метаду гаркаўчан — уласнымі сіламі. Наваселле справілі яшчэ дзесяткі сем'яў рабочых напярэдадні 40-годдзя БССР.

Непазнавальна змянілася тэхнічнае абсталяванне завода. У механічных, інструментальным, зборачным, тэрмічным і іншых цэхах — новыя складаныя машыны і механізмы, якія дапамагаюць аблегчыць працу рабочых, павысіць яе прадукцыйнасць.

Прадукцыя камінтэрнаўцаў настойліва і рашуча заваёўвала ўсё большую вядомасць. За пасляваенныя гады завод асвоіў каля ста розных мадэлей спецыяльных станкоў. Сярод іх — суперфінішныя станкі для даводкі дэталей высокай частаты, паўаўтаматы для свідравання шплінтаваных адтулін у балтах, паўаўтаматы для апрацоўкі фортачных і дзвярных петляў, зубастругальны паўаўтамат для нарэзкі зубоў высокадакладных канічных шэсцерняў і іншыя.

Галоўны канструктар завода таварыш Урман, расказваючы аб нараджэнні новых станкоў, адзначыў, што мінулы і сёлетні гады былі асабліва плённыя.

— У 1957 годзе, — гаварыў галоўны канструктар, — сіламі заводскіх інжынераў і тэхнікаў распрацавана і зраблена ў вытворчасць гама — група станкоў, якія выгадна адрозніваюцца ад тых, што выпускаліся раней. У іх — механічная падача шпіндэля, заціск дэталі пнеўматычны, з дапа-



могай сціснутага паветра: не заціснутая дэталь не стане апрацоўвацца. Сёлета, рыхтуючыся да слаўнага юбілею рэспублікі, заводскія канструктары спраектавалі станок-аўтамат для свідравання двух адтулін у колцах ігольчатых падшыпнікаў. Гэта — заказ Чалябінскага трактарнага завода. Новы аўтамат дасць магчымасць павялічыць прадукцыйнасць працы ў восем разоў. Па заказу Маскоўскага завода электраапаратуры вырабляецца аўтамат, на якім будуць апрацоўвацца каўпачкі электракнопак. Усе працэсы яго аўтаматызаваны.

Складаныя машыны робяць свае спецыялісты, якія выраслі і выхаваліся ў заводскім калектыве. Яшчэ нядаўна Анна Царкоўская жыла ў вёсцы, вучылася ў школе. Дапытлівасць і любоў да тэхнікі, да машын прывялі Аню ў станкабудаўнічы тэхнікум. Паспяхова скончыўшы яго, дзяўчына трапіла ў дружны, згуртаваны калектыў канструктараў і неўзабаве праявіла сябе. Шмат якія пытанні канструявання яна вырашае смела і самастойна, з поспехам выконвае даручаныя ёй заданні. Сярод канструктараў удумлівасцю ў пошуках новага вызначаецца таксама Міхаіл Нікіфараў, Міхаіл Сцяпанаў, Марк Рудзін, Вера Жукава і іншыя. Для іх на заводзе — шырокае поле дзейнасці, неабмежаваны прастор для розуму і рук.

...З шырокіх заводскіх варот няспынна вывозяць станкі з маркай завода «Камінтэрн». Станкоў многа. Розных відаў і памераў. Станкі зубастругальныя, вертыкальныя, радыяльна-свідравальныя, гайканаразныя... Камінтэрнаўцы асвоілі і выпускаюць 52 тыпаразмеры станкоў. Сярод іх ёсць такія аўтаматы, якія можна пускаць самастойна, а таксама ўключаць у аўтаматычную лінію.

Станкі ідуць у розныя куткі нашай краіны. Яны шырока вядомы і за мяжой. Іх можна сустрэць у Кітаі, у Індыі, у В'етнаме, у Бірме, у многіх краінах Еўропы.

Камінтэрнаўцы, ідучы насустрач 40-годдзю БССР і XXI з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, узялі павышаныя абавязацельствы. Усе — і старыя кадравікі, і моладзь — сёння з гонарам рапартуюць:

— Свята сустракаем дастойна!

— Станкі звыш плана — ёсць!

Сёння старэйшы Віцебскі завод «Камінтэрн», грамадскасць якога ў мінулым годзе адзначыла 75-годдзе з дня заснавання, — знаходзіцца ў сваім росквіце, перажывае другую маладосць. Яго, побач з такімі станказаводамі, як імя Кірава і імя Варашылава ў Мінску, трэба лічыць гігантам беларускага станкабудавання.

*У юбілейным, 1958...*



**Новы жылы дом па вуліцы Міцкевіча ў Баранавічах.**

Фота А. Перахода.

### 3

Эстафета бацькоў. Так можна назваць тое цудоўнае пачуццё пераемнасці і шанавання працоўных традыцый, якія ўбірае ў сябе сённяшняя рабочая змена — моладзь.

На заводзе калектыў даўно склаўся, але хлопцы і дзяўчаты, што няспынна папаўняюць заводскую сям'ю, шчыра ідуць бацькоўскай дарогай працы.

— У нас не многа камсамольцаў — чалавек дзвесце пяцьдзесят, — сціпла гаворыць намеснік сакратара камсамольскага камітэта Уладзімір Шчэдаў. — Але ніводнага няма, каб не выконваў свае вытворчыя нормы. Болей жа такія, што даюць штомесячна 150—200 працэнтаў. А нашы перадавікі з моладзі — па тры і больш нормы!..

Мне давялося быць амаль што ва ўсіх цэхах і ўсюды бачыць Дошкі гонару, на якіх былі занесены пераможцы спаборніцтва ў гонар слаўнага юбілею — 40-годдзя БССР і XXI з'езда партыі. Усюды сярод партрэтаў лепшых перадавікоў працы — камсамольцы. На заводскай Дошцы гонару сярод лепшых з лепшых партрэты камсамольцаў — слесара-зборшчыка Георгія Пухава, фрэзероўшчыка Пракопа Калініна, стругальшчыка Івана Гусакова, свідравальшчыка Уладзіміра Касьянава.

Прыемнымі і незабыўнымі былі сустрэчы з многімі гэтымі маладымі людзьмі ў цэхах, дзе яны сціпла і коратка расказвалі пра сябе, а больш, канешне, пра сваіх таварышаў-равеснікаў, з якімі працуюць побач, пра сваіх настаўнікаў, якія далі ім адчуць першыя радасці самастойнай працы.

Назаўсёды ўрэзаўся ў памяць твар слесара-зборшчыка Георгія Пухава, просты, шыракалобы твар рабочага-металіста. Але колькі натхнёнай удумлівасці ў праніклівых шэрых вачах гэтага маладога чалавека, з якой сталасцю і яснасцю разважае ён, калі з ім загавораць, якія шырокія ў яго планы і мары ў жыцці!

Георгі працуе на зборцы аднаго з вузлоў серыйнага станка. Увішна арудуе то адным, то другім інструментам, падганяе дэталь да дэталі, кладзе на варштат, замярае, глядзіць, каб усё было даведзена як мае быць, і здае на зборку. У яго пад рукамі — чарцяжы, патрэбны інструмент... Хлопец так налаўчыўся, што выконвае штодзённа вытворчую норму на дзвесце і больш працэнтаў, а потым увечары садзіцца за парту. Георгі без адрыву ад вытворчасці атрымаў атэстат сталасці, а зараз паспяхова вучыцца ў вячэрнім станкабудаўнічым тэхнікуме, прымае актыўны ўдзел у грамадскім жыцці завода.

У пярэдадзень 40-годдзя ВЛКСМ у камсамольца Георгія Пухава адбылася самая радасная і незабыўная падзея ў жыцці — яго прынялі кандыдатам у члены КПСС. Гэтую ж радасць перажылі яго сябры па заводу лепшыя камсамольцы майстар Пятро Царкоўскі, токар Ася Сафонава, слесар Міхаіл Шабунін, слесар-зборшчык Юліян Старыковіч.

— Цяжка працаваць і вучыцца? — запытаўся неяк у Пухава сакратар партарганізацыі Аляксандр Міхайлавіч Суедаў, прыкідваючы наконт якога-небудзь партыйнага даручэння.

— Чаму цяжка? — у сваю чаргу перапытаў Георгі і выпрастаў магутныя, шырокія плечы, нібы хочучы пацвердзіць: «Хіба мне, такому хлапчыне, якія цяжкасці страшныя?» — Ніколькі не цяжка, наадварот — лёгка і радасна...

Вучацца на заводзе многія. Без адрыву ад вытворчасці займаюцца ў тэхнікумах, у політэхнічным інстытуце. Многія наведваюць вячэрнюю школу. У пашане і тэхнічная вучоба — розныя гурткі тэхмінімуму, рацыяналізатараў і вынаходнікаў. У кожным цэху наладжана індывідуальнае навучанне па розных спецыяльнасцях.

Імкненне да ведаў — характэрная, прыгожая рыса сённяшняга маладога пакалення заводскага калектыву. Калі зайшла гутарка аб гэтым з тым жа Пухавым, то ён, мякка ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Канешне, моладзь хоча вучыцца. Гэта і зразумела, якія ж мы станкабудаўнікі, калі не будзем ведаць матэматыкі, фізікі, калі не здолеем прачытаць складаны чарцёж...

Нібы ў пацвярджэнне сваёй думкі Георгі паказаў на сваіх жа суседзяў па варштату, на маладога камуніста Івана Агапава і камсамольца Валодзю Бялецкага, якія таксама паступілі ў тэхнікум.

— Такіх, што працуюць і вучацца, — заўважыў, пачуўшы нашу размову, Іван Агапаў, — у нас вельмі многа. Адчулі, што без вучобы нельга...

Гэта вельмі радасна, што моладзь сама адчувае, што без вучобы нельга рухацца далей, нельга ўдасканальваць сваё ўменне і майстэрства, бо тады ніякія цяжкасці не астановяць яе на паўдарозе. Як ні будзе цяжка, а такі малады чалавек, нібы той жа Георгі Пухаў, адкажа:

— Ніколькі не цяжка, наадварот — лёгка і радасна!

Эстафета бацькоў!

Бацькоўскія заваёвы, бацькоўскае змаганне за ўрачыстасць вольнай, калектыўнай працы перадаюцца з рук у рукі, ад аднаго пакалення рабочых да наступнага — і ў гэтым крыніца магутнасці і нязломнасці нашага ўкладу жыцця, залог нашага пераможнага руху наперад, да яснае мэты.

...Анатоль Букоўскі — цыбаты хлопец з цёмнымі хвалістымі валасамі над высокім чыстым ілбом — прадстаўнік самага маладога пакалення камінтэрнаўцаў. Ён прышоў на завод тры гады таму назад, са школьнай парты. Атры-



**У юбілейным, 1958...**

На вачах у мінчан
Маладзее сталіца.
Нібы ў казцы,
Растуць і растуць камяніцы.
У вітрынах,
у шыбах,
У кожным аконцы
Зіхцяць на зары
Незлічоныя сонцы.
Што ні гмах —
то палац,
Прыгажэюць кварталы,
Быццам лютай навалы
Зусім не бывала.



**Новыя дамы на рагу вуліц Даўгабродскай і Змітрака Бядулі ў Мінску.**
Фота Г. Бегуна.

маўшы атэстат сталасці, вырашыў пайсці працаваць, набыць спецыяльнасць, а потым — зноў за вучобу. У трэцім механічным цэху, куды Анатоля накіравалі вучнем на токара, аднесліся да навічка ўважліва, па-сяброўску. Яго прымацавалі да вопытнага, чулага рабочага, дапамаглі выбраць у заводскай бібліятэцы патрэбную літаратуру.

Анатоль не болей як за два месяцы авалодаў новай справай — стаў за станок. Яго суседзі бачылі, як хлопец стараўся, як чысціў і змазваў машыну, з якім захапленнем рабіў усё, што яму давалі. Заўважылі цікаўныя сябры і тое, што хлопец ніколі не расстаецца з кнігамі: і на працу ідзе з кнігай, і абедае з кнігай, і ўсюды стараецца ўхапіць колькі старонак...

Сёння пра камсамольца Анатоля Букоўскага гавораць, як пра аднаго з лепшых людзей механічнага цэха. Ён — токар-перадавік, зменнае заданне выконвае на 200 працэнтаў. Ён — студэнт вячэрняга аддзялення політэхнічнага інстытута. Яго імя — у ліку пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва ў гонар 40-годдзя ВЛКСМ. Анатоль Букоўскі прадстаўлены да ўзнагароды Граматай гаркома камсамола.

Працоўная біяграфія гэтага маладога чалавека хіба не ўзор, не прыклад для тых, хто яшчэ толькі збіраецца пераступіць парог цэха, хто марыць аб тым, каб сваімі рукамі вытачыць дэталь, адчуць цеплыню металу!

Тут, сярод старой гвардыі рабочага класа, такіх, як Анатоль Букоўскі, не мала. Яны смела глядзяць наперад, выклікаючы гонар і захапленне.

Кожны дзень на завод прыходзяць навічкі, практыканты, дзесяцікласнікі... Ва ўсіх цэхах разліваецца іх звонкі, бесклапотны і задорны смех; усюды чуваць галасы радасці і захаплення:

— Ого, які магутны кран-валат!

— Якія цудоўныя станкі!

— О, як тут цікава!..

Вельмі важна, што на першых кроках, на самым пачатку выбранай дарогі гэтыя маладыя людзі, як і трэба, страчаюць бацькоўскую спагаду і сяброўскую ўвагу з боку тых, што некалі перажылі самі такое ж.

Людзі, маладосць якіх прайшла ва ўмовах прыгнёту і бяспраўя, у катаржнай працы на гаспадароў-грынбергаў, здзіўляюцца, як вырас завод, якія гіганцкія пераўтварэнні адбыліся ў тэхніцы. Але самае галоўнае, што здзіўляе і радуе старэйшых, гэта тое, як змяніўся, вырас і выкаваўся за савецкі час сам чалавек, якому наканавана ўбачыць будучыню.

Нашы папярэднікі, нашы бацькі-камуністы не дарэмна змагаліся, не дарэмна аддалі сваю маладосць. Іх сцяг, сцяг працы, у добрых, надзейных руках.

Эстафета бацькоў крочыць наперад!



Мікола ДАСТАНКА

# ПОДЗВІГІ ТВАІХ РАВЕСНІКАЎ

Нашым пераможным салютам закончылася Вялікая Айчынная вайна. У лютых бітвах з ненавісным ворагам яшчэ раз праславіў сваю маладосць Ленінскі камсамол.

Пройдуць дзесяцігоддзі, вырасце новае пакаленне людзей, а ў памяці народа вечна будуць жыць подзвігі слаўных абаронцаў Брэсцкай крэпасці, бясстрашных байцоў Сталінграда, мужных народных мсціўцаў.

За гераізм, праяўлены ў гады суровых выпрабаванняў, за вялікую работу па выхаванню савецкай моладзі ў духу бязмежнай адданасці сацыялістычнай Айчыне Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі адзначан трэцяй, вышэйшай урадавай узнагародай — ордэнам Леніна. Савецкі ўрад высока ацаніў дзейнасць беларускіх камсамольцаў у тыле ворага, узнагародзіўшы яго баявым ордэнам Чырвонага Сцяга.

Наступілі дні мірнай працы.

Цяжкія раны нанёс вораг нашай народнай гаспадарцы. У развалінах і руінах ляжалі гарады і вёскі Беларусі. І маладыя нястомныя рукі ўзяліся за справу. Небывалы працоўны ўздым, высокі энтузіязм панаваў усюды.

1946 год. На далёкай ускраіне беларускай сталіцы, дзе вольна гуляў вецер ды шумеў сасновы бор, паявіліся першыя палаткі. Вясёлым гоманам, бадзёрай камсамольскай песняй абудзілася наваколле. Гэта прышлі першыя будаўнікі будучага гіганта беларускай індустрыі — Мінскага трактарнага завода. Усе яны былі камсамольцамі-добраахвотнікамі. Многія з іх яшчэ не знялі вайсковых шынялёў, а другія былі ў цывільнай вопратцы. Але ва ўсіх іх было адно жаданне: хутчэй аднавіць разбураную ворагам Беларусь. Яны прышлі на гіганцкую будаўнічую пляцоўку па закліку роднай Камуністычнай партыі, па загаду камсамольскага сэрца.

Два гіганты пасляваеннай будоўлі рэспублікі — Мінскі трактарны і Мінскі аўтамабільны заводы сталі ўдарнай будоўляй камсамола. Камсамольцы і моладзь Мінска і Маладзечанскай вобласці звярнуліся да ўсёй моладзі рэспублікі з заклікам дапамагчы ў будаўніцтве аўтамабільнага і трактарнага заводаў.

«Няхай удзел у гэтым будаўніцтве,— гаварылася ў звароце,— будзе справай чэсці кожнага з нас, каб у 1948 годзе беларускія аўтамашыны пачалі свой імклівы бег па дарогах краіны, а беларускія трактары аралі палі родных калгасаў».

Звыш 4 тысяч маладых патрыётаў з Гомеля і Мазыра, Брэста і Пінска, Магілёва і Бабруйска, Гродна і Маладзечна, з Віцебска і Оршы горача адгукнуліся на гэты палымяны заклік. Маладымі, залатымі рукамі ўзводзіліся карпусы велізарных цэхаў і кварталы жылых дамоў, брукаваліся вуліцы і пракладваліся новыя трамвайныя лініі.

Прайшлі дні, месяцы, гады напружанай, упартай, сапраўды гераічнай працы. Нямала цяжкасцей прышлося перамагчы маладым будаўнікам. Але нішто не магло стрымаць маладога парыву. Заданне роднай партыі было выканана з гонарам — заводы-гіганты ўступілі ў строй дзеючых прадпрыемстваў у небывала кароткі тэрмін.

Родная Беларусь зноў абудзілася заводскімі гудкамі, задыміліся трубы фабрычных карпусоў. Уступілі ў строй не толькі аднаўленыя прадпрыемствы, былі створаны новыя галіны прамысловасці.

А на калгасных палях маладыя патрыёты, не шкадуючы сваіх сіл, усё аддавалі для хутчэйшага аднаўлення сельскай гаспадаркі. Зарослыя за час вайны палеткі адчулі на сабе гаспадарлівыя рукі маладых хлебаробаў.

Ужо ў першыя пасляваенныя гады камсамольцы і моладзь рэспублікі праславілі сябе высокімі ўраджаямі. На палескіх балотных палях камсамолка звеннявая Тамара Шкурко дабілася рэкорднага ўраджаю. Залатая зорка сацыялістычнай працы ўпрыгожыла грудзі маладой звеннявой.

У пасляваенны час аднаўлення і далейшага развіцця народнай гаспадаркі краіны знайшлі сабе месца для подзвігу маладыя, гарачыя камсамольскія рукі.

Здавалася, што прайшоў ужо час рамантыкі і подзвігаў, што засталася толькі шэрая, будзённая работа.

Але не!

У кожнага пакалення нашай моладзі — свае рысы, сваё аблічча, свае прыкметы часу. У нашай памяці заўсёды, як жывымі сведкамі, паўстаюць велічныя справы камсамольцаў дваццатых, трыццатых і саракавых гадоў. За слаўную гісторыю свайго існавання Ленінскі камсамол па закліку партыі ажыццявіў безліч гераічных спраў.

Але самым найвялікшым подзвігам з'яўляецца подзвіг камсамольцаў пяцідзесятых гадоў. Імя гэтага подзвігу — цаліна. У памяці пакаленняў назаўсёды застанецца гераічны паход камсамола і моладзі за асваенне цалінных і абложных зямель.

Было гэта вясной 1954 года. Камуністычная партыя і Савецкі ўрад вызначылі праграму далейшага павелічэння вытворчасці валавага збору зерня. Ключом у вырашэнні гэтай праграмы павінна была стаць цаліна.

Спачатку была пастаўлена задача асваення 13 мільёнаў гектараў новых зямель, а да 1956 года давесці гэтую лічбу да 28—30 мільёнаў гектараў.

Кліч сваёй роднай Партыі пачула і першым адгукнулася на яго баявое камсамольскае племя, слаўная савецкая моладзь. У гэтыя дні ў камсамольскія камітэты сотнямі, тысячамі пачалі паступаць заявы ад маладых патрыётаў-добраахвотнікаў.

Добраахвотнікі! Гэтае слова гучыць як пераклічка з далёкімі баявымі гадамі, калі камсамольцы ішлі на грамадзянскую вайну, яно стала паролем у будучых цаліннікаў. Гэта —імя смелых і мужных, тых, хто не баіцца ніякіх цяжкасцей. Вось чаму ў камсамольскіх камітэтах з усёй сур'ёзнасцю і строгасцю падыходзілі да разгляду заяў тых, хто пажадаў паехаць на цаліну.

У гэты час якраз адбываўся XVIII з'езд камсамола Беларусі. Дэлегат з'езда — мінскі трактаразаводзец Уладзімір Прылуцкі ў прэзідыум з'езда падаў пісьмо з просьбай дазволіць яму скамплектаваць трактарную брыгаду і адправіцца на асваенне цалінных і абложных зямель у далёкі Казахстан.

— Я разумею, — гаварыў малады патрыёт, — што работа асваення цалінных і абложных зямель патрабуе выключнай вытрымкі, упорства і энергіі. Але цяжкасці нас не палохаюць. Мы едзем туды па закліку сэрца, ведаючы, што гэтая праца патрэбна Радзіме і народу.





Вялікая група студэнтаў Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі выязджала сёлета ў Казахстан на ўборку цаліннага ўраджаю. За добрасумленную працу больш трыццаці камсамольцаў узнагароджана медалямі «За асваенне цалінных зямель». Амаль усе ўдастоены грамат ЦК ЛКСМ Казахстана.

На здымку: Ірэна Талкачова (у цэнтры) расказвае цаліннікам Яўгену Шаланву, Святлане Коршун, Ігару Хурсану, Леаніду Давідчэўскаму і Анатолю Слесарэнку аб рабоце ў саўгасе «Ураджайны» Рузаеўскага раёна Какчатаўскай вобласці.

Фота Л. Эйдзіна.

Мы, беларускія камсамольцы, будзем дружна, плячо к плячу, працаваць са сваімі братамі-казахамі. Пастаўленыя задачы выканаем! Будзем вернымі слаўным традыцыям камсамола.

Бурнымі воплескамі сустрэлі дэлегаты з'езда гэтыя словы.

Камсамольскі важак Уладзімір Прылуцкі ўкамплектаваў трактарную брыгаду з лепшых камсамольцаў вытворчасці. Усе яны мелі па некалькі прафесій. Члены трактарнай брыгады вырашылі назваць яе імем XVIII з'езда камсамола Беларусі.

7 сакавіка 1954 года на пероне мінскага вакзала было асабліва ажыўлена і мнагалюдна. Песні, новыя цалінныя песні, музыка, развітальныя словы, гарачыя пацалункі...

І з усіх канцоў краіны пайшлі цягнікі ў Казахстан, на Алтай. Памацярынску ласкава і клапатліва выпраўляла Радзіма сваіх сыноў і дачок у дарогу.

За першымі камсамольскімі навабранцамі паехалі тысячы, дзесяткі тысяч юнакоў і дзяўчат. Яны пакінулі абжытыя месцы, развіталіся з роднымі і блізкімі. Неабжытыя, далёкія прасторы дыхнулі камсамольскім жыццём.

Вясна 1954 года ўвойдзе ў гісторыю нашай краіны, гісторыю камсамола як вясна наступлення на цаліну. Былі пракладзены першыя барозны.

Сярод неаглядных кавыльных прастораў выраслі палатняныя гарадкі. У брызентавыя сцены іх пляскаў дождж, перамешаны са снегам. І такі брызентавы дах палявога шатра гудзеў і трапятаў, як крылаты парус ад шквальнага ветру... Нямала давялося перанесці нястач і нягод маладым патрыётам, але яны не спалохаліся цяжкасцей, нястомна пераадольвалі іх.

Нашы беларускія камсамольцы заваявалі сабе добрую славу ў вялікай сям'і цаліннікаў. Яны не толькі самі паказвалі прыклад у працы, але і актыўна ўмешваліся ва ўсе справы калектыву.

У саўгасе «Аграном» працуе многа маладых пасланцоў з Віцебшчыны. Запытайцеся ў любога навасёла саўгаса, і вам з асаблівай павагай будуць гаварыць пра Сцяпана Васілеўскага. Гэтаму энергічнаму камсамольцу многае давялося перанесці на сваім яшчэ невялікім жыццёвым шляху. Юнаком ён пайшоў у партызанскі атрад. У радах народных мсціўцаў дзейнічаў бясстрашна. Потым пачалося франтавое жыццё. Удзельнічаў Сцяпан Антонавіч у вызваленні Прыбалтыкі. Аб яго баявых заслугах перад Радзімай самі за сябе гаво-

рацъ высокія ўрадавыя ўзнагароды: ордэны Чырвонай Звязды і «Слава», медалі «За адвагу» і за ўзяцце гарадоў. У радах Савецкай Арміі Васілеўскі набыў спецыяльнасць шафёра, а ў машынна-трактарнай станцыі стаў трактарыстам. Пахвальны ліст райкома камсамола, значок «За асваенне новых зямель» яскрава сведчаць аб самаадданай працы беларускага цаліннік.

Сапраўдным камсамольскім важаком стаў у саўгасе палаччанін Лявон Гаўрыленка. Да паездкі на цаліну ён працаваў у Полацку майстрам вытворчага навучання ў вучылішчы механізацыі сельскай гаспадаркі. Па закліку партыі паехаў на цаліну. Адразу Леанід пачаў працаваць памочнікам брыгадзіра, а праз некаторы час узначаліў брыгаду.

Кіраўніцтва камсамольскай арганізацыяй было спачатку даручана малаініцыятыўнаму таварышу. І таму не дзіўна, што сярод камсамольцаў, моладзі недастаткова праводзілася масава-палітычная работа. Хутка камсамольцы выбралі сваім важаком Лёню Гаўрыленку. Справы ў арганізацыі пайшлі на лад.

А як узмужнелі, пасталелі на цаліне палескія дзяўчаты Алеся Дамасевіч, Валя Сініцкая, Антаніна Дзеравякіна, Вольга Отчык!

Семнаццацігадовая Валя Сініцкая ўпотай ад бацькоў атрымала камсамольскую пуцёўку і паехала на цаліну. Цяпер часта яе можна бачыць у саўгасе «Кантэміравец» са сваімі сяброўкамі. На іх грудзях гараць пазалотай значкі «За асваенне новых зямель».

Небывалымі поспехамі ў працы праславіла сябе трактарная брыгада імя XVIII з'езда камсамола Беларусі.

Беларуская моладзь і камсамольцы стварылі на казахскай зямлі 24 саўгасы. Самаадданай працай яны памнажаюць славу нашага народа. На штурм цалінных зямель паехала 35 тысяч маладых беларусаў.

Ленінскі камсамол з чэсцю справіўся з заданнем роднай Партыі. Маладыя патрыёты ўзнялі больш 36 тысяч гектараў цаліны. Каб уявіць сабе памеры такой тэрыторыі, дастаткова сказаць, што яна раўняецца ўсім пасеўным плошчам такіх дзяржаў, як Англія, Францыя, Заходняя Германія і Японія. Ужо пяты ўраджай здымаецца з цалінных і аблогных зямель. У дзяржаўныя засекі засыпаны мільёны пудоў залацістага зерня. І тыя юнакі і дзяўчаты, якія паехалі на цалінныя землі, па праву могуць ганарыцца сваімі слаўнымі справамі.

Адважныя цаліннікі не толькі ўзаралі тлустыя скібы зямлі, але пабудавалі там новыя пасёлкі, правялі электрычнасць, радыё, праклалі дарогі, пасадзілі сады. Абжыліся на новым месцы і беларускія юнакі і дзяўчаты. Яны пабудавалі сабе саманныя дамы, абсталявалі свае пакоі мэбляй, прыгожа адзеліся, вырасла многа маладых шчаслівых сем'яў. З'явіліся ўжо на свет і першыя маленькія грамадзяне, якія ў сваёй анкеце будуць указваць месца нараджэння — цаліна.

За заслугі камсамольцаў і савецкай моладзі ў паспяховым асваенні цалінных і аблогных зямель Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі ордэнам Леніна.

Напярэдадні вялікага свята, 5 лістапада 1956 года, да авеянага славай чырвонага сцяга Ленінскага камсамола быў прымацаваны ордэн Леніна — вышэйшая ўрадавая ўзнагарода, пяты ордэн.

Высокія ўрадавыя ўзнагароды атрымалі працалюбівыя цаліннікі. 262 з іх сталі Героямі Сацыялістычнай Працы, а больш 30 тысяч атрымалі ордэны і медалі. Але самай вышэйшай узнагародай з'яўляецца ўсенароднае прызнанне беспрыкладнага ў мірны час подзвігу пакарыцеляў цаліны.

«Пройдуць многія дзесяцігоддзі, вырастуць новыя людзі. І гэтыя людзі, — гаварыў М. С. Хрушчоў, — з гордасцю будуць успамінаць вас, маладыя героі, вучыцца на вашым прыкладзе, як трэба служыць свайму народу».

Подзвіг савецкай моладзі ў ба-



рацьбе за асваенне цаліны назаўсёды ўвойдзе ў залаты летапіс камуністычнага будаўніцтва і гераічных спраў Ленінскага камсамола.

Добрай школай жыцця і выхавання мужных, працалюбівых людзей з'явіўся для нашай савецкай моладзі, і перш за ўсё для студэнцтва, удзел ва ўборцы ўраджаю на цаліне. На заклік Цэнтральнага Камітэта камсамола дапамагчы цаліннікам убраць багаты ўраджай адгукнуліся новыя атрады моладзі, нашых студэнтаў і студэнтак.

Толькі ў гэтым годзе звыш 13 тысяч студэнтаў, навучэнцаў навучальных устаноў працоўных рэзерваў, маладых рабочых і механізатараў Беларусі выязджалі на ўборку цаліннага ўраджаю ў саўгасы Казахстана. Як прыемна ўбіраць у бязмежных стэпах небывалы ўраджай збажыны!..

«Рамантыкі, дастойныя гісторыі? Не, гісторыі тут мала. Але свой першы дзень на цаліне мы лічым самым знамянальным, — піша ў сваім пісьме студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Леніна Альберт Радзівілаў. — Барацьба за ўраджай у разгары. Грукочуць камбайны, мільгаюць чорныя ад загару рукі хлопцаў, стракатыя дзявочыя хусткі. На камбайнах, на адвозцы зерня, на таках — усюды працуюць нашы студэнты. Цячэ янтарнае, цяжкае казахстанскае зерне. Толькі паспявай махаць рыдлёўкай. Дарагі кожны дзень. Казахстанскі мільярд будзе!»

Прыемна ведаць, што ў поспехах казахстанскіх хлебаробаў ёсць заслугі беларускіх юнакоў і дзяўчат. Многія з іх горача палюбілі гэты дзівосны край. Больш 130 камсамольцаў засталося на пастаяннае жыхарства ў Акмолінскай вобласці.

Сотні ўдзельнікаў уборкі ўраджаю на цаліне ўзнагароджаны медалем «За асваенне цалінных зямель». Зводнаму атраду беларускай моладзі, які працаваў у Акмолінскай і Какчатаўскай абласцях, прысуджаны Чырвоны сцяг ЦК ВЛКСМ. Вялікую радасць працы, захапляючую рамантыку маладое пакаленне бачыць не толькі ў гераіцы асваення цалінных зямель.

З камсамольскімі пуцёўкамі звыш 700 тысяч маладых патрыётаў накіраваліся на вялікія будоўлі Далёкага Усходу і Сібіры. Нямала на гэтых будоўлях працуе і пасланцоў беларускага камсамола.

На тэрыторыі нашай рэспублікі ідзе будаўніцтва гігантскіх новабудоўляў.

На беразе Заходняй Дзвіны каля старажытнага горада Полацка ўзводзіцца самы буйны ў краіне нафтаперапрацоўчы завод. З-пад славутай Волгі па трубах пойдзе «чорнае золата». Яно з'явіцца крыніцай новай галіны

*У юбілейным, 1958...*



**У цэху Пухавіцкага ільнозавода перадавікі вытворчасці А. Бачкуноў і Г. Баек.**

Фота П. Наватарава.

прамысловасці Беларусі — нафтаперапрацоўчай.

Адкрыты велізарныя скарбы зямлі на Случчыне. Ужо зараз пачалося будаўніцтва першага ў Беларусі калійнага камбіната — камбіната ўраджаяў. Пасланцы Ленінскага камсамола заклалі першыя цагліны будучага горада — Нова-Старобінска...

На макетах і чарцяжах велічна выглядае будучая самая магутная электрастанцыя ў Беларусі — Бярозаўская ДРЭС. Пройдзе не многа часу, і энергія новай ДРЭС пальецца па правадах у гарады і вёскі, на фабрыкі і заводы.

Узвядзенне Полацкага нафтаперапрацоўчага завода, Старобінскага калійнага камбіната, Бярозаўскай ДРЭС сталі ўдарнымі камсамольскімі будоўлямі.

Лепшыя выхаванцы камсамола Беларусі нясуць на сваіх участках працоўную вахту. Іх праца — новы подзвіг нашых дзён. Дык не будзем жа скардзіцца на тое, што нарадзіліся вельмі позна, што не давялося хадзіць у гарачыя атакі на ворага ў гады грамадзянскай вайны, што без нас закладзен помнік камсамолу — Камсамольск-на-Амуры, што не мы ўзнімалі сцяг перамогі над логавам фашысцкага звера...

Наша родная Камуністычная партыя вядзе наш вялікі дзяржаўны карабель па вернаму компасу да светлай мары чалавецтва — да камунізма. XXI з'езд КПСС — з'езд будаўнікоў камунізма — здзівіць народы свету нябачнымі планамі на бліжэйшае сямігоддзе. Мы ведаем, што нашы планы — гэта нашае заўтра. І колькі ў іх прастору для новых і новых подзвігаў!

Мой малады сучаснік, ты яшчэ раз пераканаешся, што ў нас у тваім жыцці заўсёды ёсць месца для подзвігу! Твары, смела імкніся да новых вяршынь, і табе Радзіма сілу, крылле дасць!

Ведай, што зрабіла тваю маладосць крылатай, натхніла цябе на вялікі арліны ўзлёт насустрач сонечным прасторам камунізма родная Ленінская партыя.

М. МАРУШКЕВІЧ,
У. МАЯРОВІЧ

# ВОСЕНЬ ЮБІЛЕЙНАЯ

На двары — снежань, зіма. Скаваная марозамі, спачывае зямля. Дрэмле пад снежным покрывам жытнёвая рунь.

Мінулая восень была адметная, багатая плёнам дружнай калектыўнай працы. Ужо калгасныя і саўгасныя бухгалтары падлічылі прыбыткі, якія даў прайшоўшы сельскагаспадарчы год. Падлікі паказваюць, што ў 1958, юбілейным годзе працаўнікі калгаснай вёскі, натхнёныя бацькоўскімі клопатамі партыі і савецкага ўрада, зрабілі яшчэ адзін вялікі крок уперад па шляху да стварэння багацця прадуктаў сельскай гаспадаркі.

Заглянем у некаторыя калгасы, сустрэнемся з іх людзьмі, якія нястомнай сваёй працай здабылі дары багатай восені.

### У калгасе «Новы быт»

У апошнія гады калгас «Новы быт» Мінскага раёна дасягнуў значных поспехаў у развіцці ўсіх галін сельскагаспадарчай вытворчасці. Больш як у два разы павялічылася ў 1958 годзе ў параўнанні з мінулым годам вытворчасць прадуктаў жывёлагадоўлі і склала 275,4 цэнтнера малака і 50 цэнтнераў мяса на сто гектараў зямельных угоддзяў.

У студзені гэтага года калгас «Новы быт» наведаў Першы сакратар Цэнтральнага Камітэта КПСС і старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М. С. Хрушчоў. Гэта — незабыўная, векапомная ў жыцці калгаснікаў падзея.

Мікіта Сяргеевіч падрабязна знаёміўся са становішчам развіцця паляводства, жывёлагадоўлі, даў шмат карысных парад і ўказанняў. Паспяхова ажыццяўляючы ўказанні таварыша Хрушчова, калгаснікі паўней і лепш выкарысталі наяўныя рэзервы і магчымасці для больш бурнага ўздыму ўсіх галін арцельнай вытворчасці.

Працаўнікі калгаснай вёскі пераглядзелі раней узятыя абавязацельствы. У гонар 40-годдзя Беларускай ССР яны рашылі атрымаць у гэтым годзе па 2 900 кілаграмаў малака ад кожнай каровы, ці па 330 цэнтнераў на сто гектараў зямельных угоддзяў, па 100 цэнтнераў мяса, у тым ліку 65 цэнтнераў свініны на сто гектараў ворнай зямлі. Свае слова калгаснікі стрымалі.

Яшчэ ў верасні калгас «Новы быт» выканаў план продажу малака дзяржаве. За 8 месяцаў надой



**18 сем'яў калгаснікаў сельгасарцелі «Новы быт» Мінскага раёна сустрэнуць 40-годдзе БССР у новых дамах.**

Фота У. Лупейкі.

на адну карову склаў 2 123 кілаграмы малака, або 250,6 цэнтнера на сто гектараў зямельных угоддзяў; атрымана па 50 цэнтнераў мяса і па 37,8 цэнтнера свініны на сто гектараў ворнай зямлі.

За гэтымі лічбамі — творчая, натхнёная праца калгасных людзей, камсамольцаў і моладзі, перадавікоў спаборніцтва. У іх ліку — свінаркі Марыя Пахоціна, узнагароджаная ордэнам Леніна, якая адкарміла 170 свіней, Надзежда Міхалкова, якая адкарміла 230 свіней, і іншыя.

Выконваючы парады Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, калгаснікі шмат зрабілі для ўмацавання кармавой базы. Як ніколі, расшырылі пасевы кукурузы на сілас, кармавога лубіну, шматгадовых і аднагадовых траў, палепшылі выпасы; увялі зялёны канвеер для свіней.

У калгасе «Новы быт», як ва ўсіх калгасах рэспублікі, багатая, ураджайная восень. Добра ўрадзілі жыта, бульба, гародніна. Ураджайнасць жыта, напрыклад, перавысіла 23 цэнтнеры з кожнага гектара на ўсёй пасеўнай плошчы.

Адбыліся радасныя перамены ў гаспадарцы. Трывала ўвайшла электрычнасць на фермы. Калгасныя муляры пабудавалі чатырохрадны цагляны кароўнік; абсталявалі тры лініі падвеснай дарогі для падвозкі кармоў і дзве лініі для вывазкі гною; зрабілі кармакухню, бульбасховішча. Побач, на двары, узвышаецца воданапорная вежа, сіласныя збудаванні.

Не пералічыць усіх новабудоўляў, што з'явіліся за апошнія гады ў «Новым быце». Тут і прасторныя гумны, і свірны, і гаражы, і крытыя павеці. Сёлета калгас набыў 7 трактараў, тры камбайны, шмат збожжаачышчальных машын.

Багацее калгас — багацеюць і людзі. Важкім стаў працадзень. Вось сям'я Надзеі Міхалковай. Яна атрымала на працадні 12 282 рублі грашыма, 294 пуды збожжа, 422 пуды бульбы.

Яшчэ больш велічныя перспектывы росту адкрываюцца перад калгасам у заўтрашнім дні. У 1965 годзе грашовы даход ад усіх галін грамадскай гаспадаркі складзе 14 мільёнаў рублёў. Калгаснікі поўныя рашучасці дабіцца новых выдатных перамог на шляху да багацця і росквіту.

### Дзве перамогі Любы Бельскай

Люба вярталася з поля. Яе на дарозе пераняў паштальён. Дзяўчына не здзівілася, бо пісьмы яна атрымлівае бадай штодня: пішуць ёй многія — знаёмыя і незнаёмыя сябры. Адны просяць у яе, як у вопытнай кукурузаводкі, парады, другія — самі тое-сёе радзяць...

Аднак на гэты раз карэспандэнцыя для Любы была незвычайнай, і яна ўсхвалявалася.

— Распішыся, даражэнькая, калі ласка, — падаў паштальён дзяўчыне квіток, — табе сёння ажно дзве тэлеграмы.

Тэлеграмы? Адкуль?

У першым лістку Люба прачытала: «Віншуем перамогай... Жадаем далейшых выдатных поспехаў...» А ўнізе подпіс: «Цэнтральны Камітэт ВЛКСМ». Другая такая ж тэлеграма ад Цэнтральнага Камітэта камсамола Беларусі.



Кожны б, вядома, з прыемнасцю атрымаў такія тэлеграмы, і кожны б радаваўся, даведаўшыся аб тым, што здзейснілася запаветная мара, што працай і стараннем здабыта перамога. Люба ж радавалася ўдвая. Не з тае, безумоўна, прычыны, што атрымала адразу дзве віншавальныя тэлеграмы.

...Было гэта тры гады таму назад. Камсамолка Люба Бельская са сваім звяном вырасціла па 1 150 цэнтнераў кукурузы з гектара. Яе і дзяўчат узнагародзілі ганаровымі граматамі ЦК ЛКСМ Беларусі і прэміявалі. Але знайшліся зайздроснікі, якія са згоды некаторых праўленцаў пачалі ганіць Любу, плявузгаць, што не дзявочаю працаю выпеставана такая кукуруза, а «іхнімі ўказаннямі і работай».

Горка, крыўдна і балюча было на душы ў Любы. Год яна яшчэ трымалася, старалася ні на што не зважаць, расціла кукурузу, а потым вымушана была пакінуць звяно, нават гатова была з'ехаць куды-небудзь.

Сёлетні год на месцы былой сельгасарцелі створан саўгас «Савічы». Дырэктар саўгаса падахвоціў дзяўчыну ўзяцца за любімую справу. І кукуруза ў дзяўчыны вырасла, як лес, вышугала. Па 1 760 цэнтнераў зялёнай масы даў кожны з дзевяці гектараў! Вось і віншуюць Любу суседзі, знаёмыя і незнаёмыя сябры, шлюць ёй тэлеграмы з Масквы, з Мінска.

Мажліва, што не трэба было сёння ўспамінаць пра непрыемнае і крыўднае, што здарылася некалі. У святочныя дні чалавеку прыемна ўспомніць тое добрае, што ў яго



**Сустрэча Першага сакратара ЦК КПСС Мікіты Сяргеевіча Хрушчова з калгаснікамі сельгасарцелі «Новы быт» Мінскага раёна.**

Фота У. Лупейкі і П. Наватарава.

на душы, падзяліцца радсцю. Ды і Люба не з такіх, каб доўга помніць крыўду. Але як жа і не прыгадаць гэтага, калі якраз юбілейнай восенню адна перамога нарадзіла другую. А гэта і дадае радасці, сіл для новых поспехаў.

### Падарунак жывёлаводаў

Дружба паміж жывёлаводамі суседніх калгасаў «17 верасня» і «Перамога» мае даўні пачатак. Нават пажылы бухгалтар Антон Усцінавіч Дзялянка з «17 верасня» дакладна не памятае, калі да іх першы раз завіталі ў госці даяркі з глыбоцкага калгаса «Перамога». Затое Антон Усцінавіч не забыўся, як з візітам да перадавікоў ездзілі самі.

— О-о! Гэта была памятная паездка, — весела гаворыць Антон Усцінавіч. — Яна дапамагла закрэсліць фермаўскія мінусы, з якімі мы ніяк не маглі развітацца. І закрэслілі іх не хто іншы, як нашы камсамолкі.

Слухаючы такое, Тамара Качан штурхнула локцем сваю сяброўку Веру Ляшонак, быццам бы чакаючы ад яе працягу размовы, пачатай бухгалтарам. Гэта ж яна, Вера, разам з Тамарай, Глафірай Крывёнак, Вандай Задзейка ездзіла за вопытам да перадавікоў, а пасля, вярнуўшыся дамоў, падняла на ногі ўсю ферму:

— Не разумею! — усхвалявалася больш іншых Вера Ляшонак. — Здаецца, і каровы аднолькавыя, і кармы тыя ж, а надоі інакшыя...

— Мне здаецца, што мы не так працуем, як трэба, — заўважыла Тамара Качан. — У нас няма распарадку, кармы глумім як папала.

З таго часу, як дзяўчаты пабылі ў суседзяў, ні загадчык фермы, ні пастухі не ведаюць спакою. Камсамольцы дамагліся, каб зрабілі для кароў станкі, новыя кармушкі. Хутка на кароўніку паявіліся аўтапаілкі, электрычнае святло. Загулі, запрацавалі маторы. Весялей пайшлі справы. Малочна-таварная ферма калгаса «17 верасня» неўзабаве выйшла ў перадавыя.

Спаборнічаючы за дастойную сустрэчу слаўнага юбілею Ленінскага камсамола і 40-годдзя БССР, маладыя жывёлаводы калгаса «17 верасня» далі слова надаіць па 3 тысячы літраў малака ад кожнай каровы. Такі юбілейны падарунак Тамары Качан, Веры Ляшонак, Глафіры Крывёнак.

Трэба сказаць, што дзяўчаты па-камсамольску стрымалі сваё слова. Напрыклад, Тамара Качан за дзевяць месяцаў надаіла па 3 065 кілаграмаў малака.

А як справы ў суседзяў?

Выявілася, што ў суседзяў лепшых вынікаў за гэты час дабілася Марыя Крывёнак — па 3 260 кілаграмаў на карову.

На 100 гектараў зямлі ў калгасе «Перамога» атрымана 287,9 цэнтнера малака, а ў калгасе «17 верасня» — па 283,8 цэнтнера.

— Гэта ўжо не так страшна, — супакойваў дзяўчат бухгалтар Антон Усцінавіч. — Лічбы, я вам скажу, унушальныя, натхняльныя.

Але дзяўчаты намераны дабіцца большага.

— Першае месца павінна быць за намі. Не дарма ж мы ардэнаносцы!

### «Выдатная ў вас моладзь»...

Штогод беларускія хлопцы і дзяўчаты бываюць у Казахстане. Эшалон за эшалонам, атрад за атрадам едуць студэнты і маладыя рабочыя, механізатары і выхаванцы школ працоўных рэзерваў. Толькі не на прагулку, не для прахалоды. Едуць на дапамогу сваім жа сябрам навасельцам, якія абудзілі да жыцця некранутыя стагоддзямі прасторы цаліны.

Сёлетнія пасланцы камсамола Беларусі ўжо вярнуліся дадому і адрапартавалі аб тым, што зрабілі. А ўслед за імі прыляцела і слава, якую яны там здабылі сваёй працай, сваім стараннем. Заслужаная слава!

Зводнаму атраду камсамоліі Брэсцкай вобласці давялося працаваць у двух саўгасах Акмолін-



шчыны «Церсаканскім» і «Чулак-сандыкскім». Яны ўбіралі хлеб, будавалі. Цяжкія і тая і другая работы, але ніхто не пярэчыў — усе стараліся, авалодвалі новымі спецыяльнасцямі. Не адзін дом у Дзяржавінцы збудавалі яны сваімі рукамі.

Студэнты Пінскага індустрыяльнага тэхнікума і Пружанскага тэхнікума сельскай гаспадаркі перш чым сесці за штурвалы камбайнаў самі збіралі іх. За дзесяць дзён хлопцы сабралі 12 камбайнаў, за якія селі самі. Гэта былі Міхаіл Галавач, Барыс Дзенісевіч, Мікалай Штукар, Рыгор Кавалёў, Пётр Асінчук, Палікарп Гунько, Леанід Бразоўскі, Алег Клепча і Іван Калеснікаў.

Ад хлопцаў не адставалі дзяўчаты. Напрыклад, Людміла Мазурэнка, студэнтка індустрыяльнага тэхнікума, штурвальная камбайна, скошвала за дзень па 50 гектараў пшаніцы.

З перамогай вярнуліся маладыя патрыёты Брэстчыны. А ўслед ішлі пісьмы і віншаванні.

«Выдатная ў вас моладзь» — гаворыцца ў гэтых пісьмах...

Так, выдатная моладзь ездзіла з Беларусі на ўборку казахстанскага хлеба. Каля семнаццаці тысяч нашых юнакоў і дзяўчат здабывалі гэтую перамогу на цаліне.

За святочным сталом мы будзем каштаваць каравай, спечаны з тае пшаніцы, якую ўбіралі на цаліне і маладыя пасланцы з Беларусі.

### У майстроў «паўночнага шоўку»

Шаўкавістым ільном славіцца Віцебшчына. Асабліва добры лён вырошчваюць талачынцы. Яны не раз радавалі савецкіх людзей багатымі ўраджаямі. У кожным калгасе Талачынскага раёна ёсць свае выдатныя майстры «паўночнага шоўку», сярод якіх многа камсамольцаў, моладзі.

Камсамольцы Талачыншчыны ганарацца выхаванкай Ленінскага камсамола звеннявой Валянцінай Кароткай, якой сёлета прысвоена высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы. Яна — дэпутат Вярхоўнага Савета СССР.



**Знатная ільнаводка Беларусі, звеннявая калгаса XVIII партз'езд Талачынскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Валянціна Кароткая.**

Фота Л. Папковіча.

У Валянціны Кароткай шмат паслядоўнікаў не толькі ў раёне. Да яе ў госці прыязджалі ільнаводы з Расійскай Федэрацыі, Літвы, Мінскай, Магілёўскай і іншых абласцей за вопытам.

У гэтым годзе выдатны лён вырасцілі і Валянціна Кароткая, і яе вучні-паслядоўнікі. Звеннявая калгаса «Перамога» камсамолка Галіна Зайцава са сваімі сябрамі, рыхтуючыся дастойна сустрэць 40-годдзе ВЛКСМ, узялі высокія абавязацельствы атрымаць з кожнага гектара па 8,5 цэнтнера ільнасемя і па 7 цэнтнераў валакна. Свае слова камсамольцы стрымалі. Свой падарунак яны прысвячаюць слаўнаму 40-годдзю ВЛКСМ і юбілею БССР.

**Квітнець садам!**

Цёплымі вераснёўскімі днямі радыё і газеты разнеслі ва ўсе куткі рэспублікі словы заклiку пружанскіх хлебаробаў: «Пасадзім сады, закладзем паркі і скверы ў гонар 40-годдзя Беларусі...»

Не будзем, аднак, расказваць пра тое, як быў падхоплен пачын пружанцаў, як былі пасаджаны мільёны маладых пладовых і дэкаратыўных дрэўцаў, а заглянем хаця б на момант да саміх ініцыятараў. Вось кароткія лічбы, а як многа яны гавораць! У калгасах раёна пасаджана каля 100 гектараў новых садоў. А колькі яблынь, ігруш і сліў высаджана на прысядзібных і школьных участках!

Камсамольцы калгаса імя Карла Маркса першымі ў раёне пасадзілі на цэнтральнай сядзібе сквер, абгарадзілі яго. А ўслед за імі пасадзілі паркі маладыя хлеборобы сельгасарцелей «Чырвоны партызан», імя Дзімітрава, «Іскра» і іншых.

Моладзь раёна азеляніла дарогі, якія злучаюць раённы цэнтр з калгасамі; пасадзілі фруктовыя і дэкаратыўныя дрэўцы на калгасных сядзібах; вучні на ўспамін аб незабыўных школьных гадах пасадзілі «алеі дзесяцікласнікаў».

Квітнець юбілейным садам, расці і шырыцца юбілейным паркам і скверам! Няхай не толькі багацее, але і прыгажэе, убіраецца ў квецень і зеляніну наш родны край!

**Д. ФАКТАРОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук**

# СУСВЕТНАЕ ГУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У партыйным дакуменце «За цесную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа» М. С. Хрушчоў пісаў: «Савецкі Саюз з'яўляецца многанацыянальнай сацыялістычнай дзяржавай, якая аб'ядноўвае на аснове дабравольнасці 15 раўнапраўных братніх саюзных рэспублік. На шляхах сацыялістычнага развіцця прыгнечаныя раней народы, атрымаўшы дзяржаўную самастойнасць, набылі неабмежаваныя магчымасці для росту эканомікі і культуры і ў кароткі тэрмін зрабілі вялікі скачок уперад».

Далёка за межамі нашай радзімы відны велічныя факты прагрэсу ўсіх народаў краін сацыялізма. «Хочацца параіць літаратарам і мастакам, — гаварыў М. С. Хрушчоў, — каб яны ўважлівей прыглядаліся і глыбей праніклі ў жыццё ўсіх нацыянальнасцей нашай краіны. Тады тысячы жывых прыкладаў пакажуць ім, як змяніўся лёс людзей... Гэтыя новыя людзі з'яўляюцца барацьбітамі за незалежнасць і шчасце чалавецтва, увасабляюць у сабе высокія духоўныя якасці і рысы камуністычнай маралі».

Росквіт літаратур усіх сацыялістычных нацый — гэта яскравейшае сведчанне перамог сацыялізма. Важнейшай асаблівасцю савецкай мастацкай літаратуры з'яўляецца яе многанацыянальны характар, які адпавядае прынцыпам пралетарскага інтэрнацыяналізма, які гарантуе ёй натуральны выхад на міжнародную арэну. Цяпер, як заўважыў Л. Арагон у сваёй кнізе «Савецкія літаратуры», калі гавораць аб савецкай літаратуры, ніяк не могуць падразумяваць толькі сучасную літаратуру на рускай мове. Савецкая мастацкая літаратура — гэта літаратура на ўсіх мовах народаў СССР.

Калі да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі нават такія нацыянальныя літаратуры, як украінская і беларуская, што ўзвышалі свой голас у абарону інтарэсаў народа, былі параўнаўча мала вядомы за межамі роднага краю, то цяпер наша кніга, наша драма, наша песня, наша графіка і скульптура папулярны далёка за рубяжамі нашай радзімы. Іменна ў выніку сацыялістычнай культурнай рэвалюцыі здзяйсняюцца ў поўнай меры прарочыя словы М. Багдановіча: «... Не толькі свайму народу, а і сусветнай культуры нясе беларуская літаратура свой дар».

Гэтая асаблівасць сталай нацыянальнай культуры тым больш выяўляецца, чым больш узмацняецца пафас сацыяльна-палітычнай

барацьбы за правы чалавека. Выхад беларускай літаратуры да глыбінных мас свайго народа і ўсіх народаў супадае з тым момантам, калі ў самой гэтай літаратуры адлюстроўваецца неадольнае жаданне «людзьмі звацца». Першыя значныя выступленні народных беларускіх паэтаў, якія звярнулі на сябе ўвагу А. М. Горкага, гучалі як гімны імення тых, хто вышаў на прасторы жыццёвага змагання, тых, хто рашыў заваяваць права «людзьмі звацца». Гэтае імкненне беларускіх народных пісьменнікаў паўстагоддзя таму назад высока адзначыў буравеснік нашай рэвалюцыі, «ускладаючы на яго вялікія надзеі», таму што, па яго уласных словах, «яно было звязана з развіццём зусім новага псіхалагічнага тыпа» (А. М. Горкі. Творы, т. 29, стар. 12).

У праграмным вершы Я. Купалы «А хто там ідзе?» чэшскія крытыкі бачаць чыста нерудаўскі рэвалюцыйна- дэмакратычны пафас. Эпітэт жа «нерудаўскі» Зд. Неедлы вызначае, як спалучэнне высокай думкі і прастаты формы пад знакам бязмежнай вернасці народнай нацыянальнай культуры. Калі б не грымоты народнай рэвалюцыі 1905 года, лёс такіх паэтаў, як Я. Купала і Я. Колас, мог бы ўпадобіцца лёсу неаднаразова апетых яшчэ з часоў У. Сыракомлі «лірнікаў вясковых». Рэвалюцыя напоўніла іх паэзію зусім новым зместам, змяніла музыкальны лад і самую паэтыку ўсёй беларускай лірыкі. Такія праграмныя вершы Я. Коласа, як «Не пытайце, не прасіце», «Вецер», «Будзе навальніца», «Жытні колас» і асабліва «Мужык», у адным шэрагу з вершамі і драмамі Я. Купалы ўздзейнічалі на станаўленне першых пакаленняў беларускіх рэвалюцыянераў. На прынцыпова новай аснове заваёўвала беларуская літаратура ўсё больш масавага, усё больш народнага чытача. Новая беларуская паэзія стала адным з найбольш развітых відаў літаратуры і прыкметна ўдасканальвалася ў ідэйнаэстэтычных адносінах. Характэрна тое, што, знаёмячы французскіх чытачоў з горкаўскай ацэнкай песні Я. Купалы, якая «калі-небудзь стане народным гімнам беларусаў», выдатны французскі пісьменнік Л. Арагон заўважыў аб Купалу: «Аб ім гавораць, што ён развіваўся пад уплывам паэзіі Някрасава і Шаўчэнкі.

Ён і Я. Колас, на якога М. Горкі тады ж звярнуў увагу рускага чытача, наследуючы традыцыям дэмакратычных паэтаў Беларусі, прыблізілі беларускі верш да рускага сілаба-танічнага верша, другія ж паэты пад польскім уплывам пісалі сілабічныя вершы. У адносінах форм верша гэта было нацыянальнае вызваленне і адначасова зближэнне з рускай паэзіяй, ад якой ішлі рэвалюцыйныя павевы» (Л. Арагон. «Савецкія літаратуры», стар. 129).

Руская рэвалюцыйная культура адыграла вялікую ролю ў развіцці новай беларускай літаратуры, яе формы і зместу. Руская мова, на думку М. Багдановіча, аб'ядноўвала шматлікія плямёны і народы Расійскай імперыі. Руская культура з'яўлялася іх агульнай глебай.

Аднак выхад літаратуры да шырокага чытача доўгі час ускладняўся. Культурна-асветная дзейнасць сапраўды народных пісьменнікаў, асабліва прыгнечаных краін, была вельмі абмежаванай па сваіх маштабах і магчымасцях аж да 1917 года. На парозе Кастрычніка склалася такое становішча, калі выдатнейшыя ідэйнамастацкія заваёвы беларускіх аўтараў, якія безумоўна заслугоўвалі ўвагі, заставаліся ў большасці невядомымі мільёнам чытачоў.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя прабудзіла да гістарычнай творчасці мільённыя масы народаў кожнай нацыі Расійскай імперыі, дала моцны штуршок «самастойнаму незалежнаму развіццю кожнай народнасці... росту і распаўсюджанню літаратуры на роднай для кожнага мове» (У. І. Ленін. Творы, т. 29, стар. 477).

Сусветна-гістарычнае значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі і культурнай рэвалюцыі, якая паследавала за Кастрычніцкай, праявілася ў тым, што пачало планамерна ажыццяўляцца ленінскае ўказанне: «Мастацтва павінна належаць народу». Перамога ленінскай нацыянальнай палітыкі праявілася і ў тым факце, што мільённы чытач атрымаў шырокі доступ да кнігі. Калі ў 1913 годзе на 100 жыхароў Паўночна-Заходняга краю прыходзілася па адной кнізе, то цяпер на сто чалавек насельніцтва БССР прыпадае каля 200 кніг (паводле даных Усесаюзнай кніжнай палаты ў 1956 г.). За лепшымі кнігамі беларускіх пісьменнікаў стаяць сотні і тысячы чытачоў; гэтыя кнігі не залежваюцца на бібліятэчных паліцах, а, як паказвае жыццё, вельмі і вельмі часта становяцца аб'ектам масавага абмеркавання, задушэўнай размовы і гарачага дыспуту. Не было і не будзе ў нас такога становішча, калі б «пісьменнік папісваў, а чытач пачытваў». У поўнай меры спраўдзіліся ленінскія словы, што адкрыта звязаная з пралетарыятам літаратура «будзе служыць не перасычанай гераіні, не «верхнім дзесяці тысячам», якія сумуюць і церпяць ад ажырэння, а мільёнам і дзесяткам мільёнаў працоўных, якія складаюць цвет краіны, яе сілу, яе будучыню» (У. І. Ленін. «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура»). Няма патрэбы прыбягаць да статыстыкі, каб даказаць, што мільённы чытач беларускай кнігі ёсць, што ён ведае яе і любіць. Спусташальныя войны двойчы ператваралі ў попел і руіны кнігасховішчы на тэрыторыі рэспублікі. Але нягледзячы на гэта беларуская кніга расце штодзённа і па колькасці і па характару свайго ўплыву на масавага чытача.

Толькі за апошняе дзесяцігоддзе, па даных кніжнай палаты БССР, было выдадзена 665 кніг беларускіх пісьменнікаў (з іх прозы — 291, паэзіі — 277, драмы — 46). Калі за кожнай з гэтых назваў стаіць толькі 120 чалавек, то і тады ўжо беларуская кніга набыла свайго мільённага чытача.

Але ўплыў беларускіх пісьменнікаў не абмяжоўваецца цяпер выключна рамкамі тэрыторыі БССР і беларускай мовы. «Гістарычная дзейнасць беларускага народа, — пісаў К. Чорны, — ішла пад сцягам Кампартыі; а гэта значыць, што разам з дзейнасцю ўсіх другіх савецкіх народаў нацыянальнае жыццё беларуса стала фактам сусветнага значэння. Беларускі народ заняў сваё пачэснае месца на гістарычным попрышчы народаў свету. У гэтым і заключаецца тое важнае для нас, беларусаў, што даў нам Вялікі Кастрычнік».

Беларускую кнігу ведаюць і любяць усе народы Савецкага Саюза, прагрэсіўныя людзі замежных краін. Анталогіі, хрэстаматыі беларускай паэзіі і прозы выда-

*У юбілейным, 1958...*

Узняўся, як палац адменны,
Будынак завадскога клуба.
Каму пасля працоўнай змены
Тут адпачыць, сябры, не люба?



**Новы Палац культуры Магілёўскага завода штучнага валакна.**
Фота Ч. Мезіна.

дзены на рускай, украінскай, польскай, чэшскай і другіх мовах.

Важнейшым момантам ідэйна-мастацкага развіцця кожнага народа з'яўляецца чуласць яго да другіх народаў, да іх песень. Аб гэтым сведчыць народжаная паўстагоддзя назад пераклічка галасоў беларускай паэзіі спачатку з рускай і ўкраінскай, потым з казахскай і літоўскай, а там — і з усёй сусветнай прагрэсіўнай паэзіяй. Не так даўно Джамбул Джабаеў пісаў: «...Там Янка, акын беларускіх палёў, лье песні цяплей, чым крык жураўлёў», а Я. Купала адгукаўся:

«Джамбуле, баяне, магутны
твой сказ
Аб дружбе народаў пяяў ты
не раз.
Казах, беларус пяюць песні
адны,
Радзімы аднэй арляняты-сыны».

Аб гэтым жа сведчыць і зборнік «Па Нёману песня плыве» і выданні перакладаў у Казані і Уфе, Ерэване і Ташкенце, Кішынёве і Петразаводску. Беларуская літаратура загучала на мовах усіх народаў Савецкага Саюза.

Вялікае прынцыповае значэнне маюць у гэтым працэсе выданні твораў беларускіх пісьменнікаў на рускай мове, пачатыя яшчэ ў 1922 годзе.

Капітальныя анталогіі беларускай паэзіі, выдадзеныя ў Маскве і Ленінградзе, трохтомнікі класікаў беларускай прозы Я. Коласа, К. Чорнага, выбраныя выданні майстроў беларускага апавядання, драматычныя творы К. Крапівы, В. Вольскага, крытычныя работы аб беларускай літаратуры, якія належаць пяру многіх саюзных крытыкаў, ствараюць спрыяльныя ўмовы для выхаду нацыянальнай літаратуры да саюзнага і замежнага чытача. За 40 год склаліся моцныя сувязі паміж беларускай і ўсімі другімі літаратурамі Саюза ССР. А гэта дае магчымасць далейшаму выданню беларускіх кніг на мовах народаў СССР.

Услед за традыцыйнымі дэкадамі ў Маскве паспяхова прайшлі дэкады беларускай літаратуры ў Кіеве і Кішынёве, Вільнюсе і Ленінградзе. Дэкады братніх літаратур праходзяць у Мінску. Па-новаму прагучала выпеставаная з часоў Скарыны паняцце славянскай узаемнасці. Яно набыло сацыялістычны змест. Цяжка пераацаніць з'яўленне збору твораў віднейшых беларускіх пісьменнікаў за межамі рэспублікі і тую работу выдавецтваў РСФСР і Літвы, Украіны і Чэхаславакіі, Балгарыі і Кітая па падрыхтоўцы перакладаў такіх значных твораў сучаснай беларускай літаратуры, як «Мінскі напрамак», «Сустрэнемся на барыкадах», «Глыбокая плынь», «Людзі асобага складу», «Калі зліваюцца рэкі», «У Забалоцці днее».

Як справядліва адзначыў на IV прадз'ездаўскім пленуме СПБ І. Шамякін, выхад беларускай мастацкай літаратуры на сусветны кніжны рынак — самая характэрная рыса яе пасляваеннага развіцця. Так у пасляваенныя гады друкаваліся на албанскай мове творы Я. Коласа, Я. Купалы і М. Танка; на балгарскай — Я. Коласа, Я. Купалы, П. Броўкі, В. Вольскага, В. Віткі, Я. Брыля, І. Шамякіна; на кітайскай — Я. Купалы, А. Астрэйкі, В. Казлова, В. Вольскага, К. Крапівы, М. Танка, І. Шамякіна; на нямецкай — П. Броўкі, Я. Брыля, Я. Коласа, Т. Хадкевіча, К. Крапівы, А. Куляшова, М. Паслядовіча; на польскай — Я. Брыля, П. Броўкі, Я. Коласа, К. Крапівы, П. Пестрака, А. Куляшова, П. Кавалёва, М. Лынькова, М. Танка, І. Шамякіна; на румынскай — Я. Брыля, П. Броўкі, Я. Купалы, К. Крапівы; на чэшскай — Я. Брыля, З. Бядулі, П. Глебкі, П. Панчанкі, Я. Купалы, Я. Коласа, І. Мележа, А. Куляшова, Т. Хадкевіча. У розных краінах друкаваліся кнігі і артыкулы аб беларускай літаратуры Ул. Ф. Луцэвіч, Я. Мазалькова, В. Івашына, Я. Казекі, Р. Шкрабы, Н. Перкіна, М. Ларчанкі, Ю. Пшыркова.

Факты гавораць аб тым, што шматлікі замежны чытач знаёмы з беларускай кнігай, і знаёміўся з ёю не ў апошнія некалькі год, а значна раней. У свой час, як адзначаюць чэшскія крытыкі, сама славянская ўзаемнасць узводзілася да дзейнасці нашага першадрукара Г. Скарыны; немалую цікавасць ужо тады выклікалі перакладныя і арыгінальныя творы беларускага сярэдневякоўя. Яшчэ А. Міцкевічам былі па заслугах ацэнены дасягненні беларускага фальклору. Аднак выхад беларускіх помнікаў за межы родных зямель у тыя часы ў большасці быў выпадковым.






Новы клуб камбіната будаўнічых матэрыялаў у Гродна.
Фота А. Перахода.

Цяпер беларускую кнігу ведаюць і любяць не толькі нашы суайчыннікі, не толькі чытачы славянскіх краін, але і прагрэсіўныя чытачы ўсяго зарубежнага свету. У гэтым факце — імкненні народаў свету да савецкай многанацыянальнай кнігі, як да крыніцы святла, як да падручніка жыцця ў самым вышэйшым значэнні гэтага слова.

Аб гэтым гавораць такія сябры савецкай многанацыянальнай літаратуры, як А. Барбюс і Лу Сінь, А. Зегерс і Ж. Амаду. Аб гэтым пішуць чытачы, перакладчыкі, папулярызатары беларускай літаратуры за мяжой І. Румлер, Эмі Сяо, Б. Явуухулан, Л. Арагон, М. Шчыпаш і другія.

У вышэйшай ступені знамянальна тое, што такія вялікія пісьменнікі XX стагоддзя, як Я. Колас і Лу Сінь, цікавячыся незалежна адзін ад другога, чым жа, уласна кажучы, прыцягвае да сябе ўвагу, чым захапляе зарубежнага чалавека беларуская нацыянальная па форме, сацыялістычная па зместу літаратура, прыйшлі да вельмі блізкіх вывадаў. Прапагандуючы савецкую кніжную гравюру ў Шанхаі, дзе само паяўленне яе ўкраінскіх, беларускіх і грузінскіх узораў было б, на думку Лу Сіня, немагчымым без перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, заснавальнік новай кітайскай літаратуры сказаў: «Наколькі мы маглі заўважыць, гэтыя работы адрозніваюцца ад вычварных французскіх гравюр — яны шчырыя і не прэтэнцыёзныя, прыгожыя і не скажоныя, радасныя і не істэрычныя, моцныя і не грубыя, і пры ўсім тым — дынамічныя. Яны дзейнічаюць надзвычайна — як цвёрды поступ сяброўскай арміі, якая крочыць па неабдымнай цаліне да будаўніцтва новага».

У той самы час Я. Колас на Парыжскім кангрэсе ў абарону міру адзначыў вялікія змены ў жыцці беларускага народа, адлюстраваныя ў яго літаратуры. Ён гаварыў, што «калі само імя Беларусі вытраўлівалася з свядомасці народа, калі ў паэзіі панавалі гнеў і боль, то сёння паэты Савецкай Беларусі складаюць песні, якія гучаць такой радасцю вызваленай працы, такім

энтузіязмам разняволенай сілы, такой верай у шчасце працоўнага чалавека, якія яшчэ ніколі не гучалі на беларускай мове».

З высокай трыбуны Парыжскага кангрэсу ў абарону культуры народны паэт Беларусі Я. Колас, салідарызуючыся з такімі дзеячамі сусветнай літаратуры, як А. Барбюс і А. Талстой, А. Зегерс і Б. Брэхт, адзначыў вялікія перамены ў беларускай літаратуры: «...Калі раней думка нашых пісьменнікаў была замкнута ў цесным коле нацыянальнай і нацыяналістычнай тэматыкі, дык пісьменнікі Савецкай Беларусі разбілі гэтыя рамкі і шырока разгарнулі сацыяльны гарызонт сваёй творчасці, паставіўшы ў цэнтр сваёй увагі пытанні сацыялістычнага будаўніцтва, барацьбы з класавым ворагам, інтэрнацыянальнай пралетарскай салідарнасці...» І далей Я. Колас зрабіў вывад, што магутная савецкая рэчаіснасць жывіць нашы думкі і нашы пачуцці. Гэтая сацыялістычная рэчаіснасць вывела нас з зачараванага кола цэхавай літаратурнай замкнёнасці і паставіла тварам да твару, сэрцам да сэрца з новым шматмільённым масавым чытачом. Аднак яшчэ вельмі часта некаторыя недаацэньваюць, не зусім разумеюць, якое вялікае прынцыповае значэнне мае факт заваявання нашымі нацыянальнымі літаратурамі многамільённага чытача. Добра сказаў аб гэтым друг і папулярызатар нашай літаратуры Луі Арагон. «Іменна пасля 1934 года, пасля таго, як асноўным метадам савецкай літаратуры быў абвешчан сацыялістычны рэалізм, — пісаў ён, — літаратуры братніх рэспублік аб'ядналіся на аснове роўнасці, у якой ім было адмоўлена пры старым рэжыме, калі працвіталі школы. Гэта можа паслужыць тэмай роздуму для аматараў рознабаковасці ў літаратуры. Факты гавораць аб тым, што **знікненне літаратурных школ супадае з велізарным павелічэннем аўдыторыі чытачоў** (падкрэслена намі.—**Д. Ф.**). Можа гэта каго і засмуціць. Але калі пісьменніка чакае выбар: школа без чытачоў ці маса, якая чытае, глытае кнігі, ці думаеце вы, што ён будзе хістацца?»

Адкінуўшы ўсё ад старой замкнёнасці, нашы пісьменнікі, па словах Коласа, расшырылі перш за ўсё сацыяльны маштаб сваёй творчасці. Яны набылі ў сацыялістычнай рэвалюцыі народнасць зместу і народнасць распаўсюджвання сваіх твораў. Цяпер не баязлівае і сціплае «загляне сонца і ў наша аконца», а глыбокая ўпэўненасць у тым, што свет нашых кніг відзён здалёк, кіруе іх імкненнямі. І нашы беларускія песні і эпапеі, лірычныя вершы і народныя драмы загучалі цяпер на ўсіх кантынентах. Так вершы М. Танка «Сасна», «Галінка і верабей» паложаны на музыку ў Мексіцы і ў Манголіі. Такім чынам, беларускае мастацкае слова распаўсюджваецца як на Захадзе, так і на Ўсходзе.

Мангольскі паэт Б. Явуухулан піша: «Як ручаі зліваюцца ў рэкі, так прышлі да нас у сэрцы Азіі шчырыя і палкія вершы народнага паэта Беларусі Я. Коласа... Ён стаў любімым паэтам не толькі беларускага народа... яго паэзія стала набыткам усёй Азіі. Я. Колас быў сівым арлом беларускай паэзіі, а арлы жывуць доўга». І ў той час, як Р. Калісон і Э. Корт у часопісе «Кур'ер юнеска» спрабуе падвесці нейкую псеўдатэарэтычную базу пад «неперакладальнасць» твораў народаў усходняй Еўропы і Азіі, такі вялікі паэт XX стагоддзя, як Луі Арагон, усклікае: «Вось што патрэбна было б перакласці, калі б хапіла таленту... — гаворачы аб паэме Я. Купалы «Над ракой Арэсай».— Гэта песня Палесся, — працягвае ён, — песня краіны лясоў, балот і легенд».

Л. Арагон справядліва напамінае пра тое яднанне народа і пісьменнікаў, якое прадэманстравала Беларусь у цяжкія дні змагання супраць фашысцкіх захопнікаў. Верныя свайму народу пісьменнікі Савецкай Беларусі служаць усяму дэмакратычнаму чалавецтву. Інтэрнацыянальная салідарнасць — лейтматыў шматлікіх



твораў нашых пісьменнікаў, якія, адкідаючы нязначныя тэмы, глыбока пранікаюцца ідэямі міру і прагрэсу, ідэямі сапраўднага гуманізму. Гэта ў нашай беларускай паэзіі і сатыры яшчэ ў 30-х гадах гулка аддаваліся рэхам словы — «Рукі прэч ад Кітая!». Гэта наша паэзія заявіла аб сваім інтэрнацыянальным абавязку ў «Камуністах» і «Карандашы» А. Куляшова, «Пражскім дзённіку» і «Следзе бліскавіцы» М. Танка, іранскім цыкле вершаў П. Панчанкі. Гэта наша проза толькі апошніх год выступіла з такімі творамі, як «Агні Танганьікі» М. Лынькова, «Сэрца камуніста» Я. Брыля, «Сустрэнемся на барыкадах» П. Пестрака.

Што ж датычыцца многіх твораў П. Пестрака, А. Куляшова, М. Танка, П. Броўкі, то дарэмны былі б спробы абмежаваць іх у рамках выключна нацыянальнай тэмы, бо «ў іх, — як пісаў у свой час К. Чорны, — ставяцца і вырашаюцца праблемы цікавыя і патрэбныя ўсяму чалавецтву».

Арагон падкрэслівае, што, калі Савецкая Беларусь была часова акупіравана нямецкімі фашыстамі, беларускія пісьменнікі і паэты зброяй і словам змагаліся супроць ворага. Л. Арагон указвае на паэта-партызана А. Астрэйку, які ў лесе пісаў свае вершы і песні. Арагон звяртае ўвагу на няспынны прыток у беларускую літаратуру новых сіл. Ён называе заходнееўрапейскаму чытачу імёны Шамякіна, Брыля, Паслядовіча, Кірэенкі, Лужаніна, Бялевіча, Зарыцкага, Кулакоўскага. Французскі пісьменнік, прывёўшы некалькі строф з верша П. Броўкі аб Маскве, робіць вывад, што беларуская паэзія верная народу. Ён гаворыць далей, што бацька беларускай літаратуры Я. Колас у сваёй прамове на другім з'ездзе пісьменнікаў прывёў у прыклад Стэндаля, які толькі тады браўся за тэму, калі быў упэўнены, што яна даўгавечная. Л. Арагон робіць вывад, што беларуская літаратура ў такім стане сталасці, каб дастойна выражаць такія тэмы.

Беларускія пісьменнікі належным чынам адлюстроўвалі лёс народа ў дні вайны і міру. Яны паказалі ўсяму свету справы беларускага народа. Яны ўдзельнічаюць ў работах ААН як прадстаўнікі народа (М. Лынькоў, П. Глебка, П. Панчанка). Яны прадстаўляюць голас грамадскасці Беларусі на канферэнцыях у абарону міру (А. Куляшоў, М. Танк, П. Броўка, К. Крапіва). Яны прадстаўляюць беларускую культуру на сусветных навуковых з'ездах і пісьмен-

**У юбілейным, 1958...**

**Плыве з будоўляў гоман**
**З вятрамі за раку.**
**Не чуў такога Нёман**
**На ўсім сваім вяку.**
**І адкрываюць дзверы**
**Гасцінныя муры,**
**І светлыя кватэры**
**Займаюць жыхары.**



**Новыя жылыя дамы па вуліцы Імя Парыжскай Камуны ў Гродна.**
Фота Г. Герасімовіча.

ніцкіх канферэнцыях (К. Крапіва, М. Лынькоў, А. Зарыцкі, І. Мележ, П. Кавалёў) у Дэлі і Лондане, Ташкенце і Парыжы.

Натуральна, што ўсё гэта разам узятае няўхільна пашырае лік зарубежных чытачоў, зацікаўленых беларускай літаратурай.

У нашы дні ў старэйшых цэнтрах сусветнага кнігадрукавання — Празе, Парыжы і Пекіне — выдаюцца не толькі асобныя беларускія кнігі, але і пэўныя каментарыі, нарысы да іх. Так, выдавецтва Шыдай у Пекіне дае разгорнутыя анатацыі да выданняў Я. Купалы, Я. Брыля, В. Казлова, рыхтуе выбраныя творы М. Танка.

Румынская паэтэса М. Шчыпаш з поўнай падставай адзначае, што калі да зарубежнага аўтара звяртаюцца неаднаразова, калі яго творы чытаюцца і перачытваюцца, даследуюцца і папулярызуюцца, то мы маем справу з устойлівай цікавасцю чытача. Іменна аб такой цікавасці да Я. Коласа ў Румыніі яна і сведчыць. Іменна аб такой устойлівай цікавасці да беларускай літаратуры сведчаць заўвагі аб ёй у «Драпо руж» і «Юманітэ». Аб гэтым сведчыць нарыс развіцця беларускай літаратуры XX стагоддзя, дадзены Л. Арагонам у яго кнізе «Савецкія літаратуры». У гэтым сціслым нарысе Арагон пазнаёміў заходняга чытача з магістральнай накіраванасцю беларускай літаратуры, пачынаючы з рэвалюцыі 1905—1907 гадоў да 1917 года, затым да першага і, нарэшце, да другога з'езда савецкіх пісьменнікаў. І асабліва паказальны ў гэтых адносінах пражскія анталагічныя выданні беларускай літаратуры. Тут, у Празе, беларускае слова гучала і друкавалася вельмі даўно.

З вызваленнем Чэхаславакіі ад гітлераўцаў стала падрыхтоўвацца яшчэ больш абгрунтаваных анталагічных выданняў, адным з якіх з'явілася выданне ў Празе ў 1955 годзе анталогіі беларускай савецкай паэзіі — «Паэты Беларусі». Складальнікі гэтай анталогіі, абапіраючыся на паўвекавую традыцыю ўзаемных перакладаў, з добрым веданнем справы, любоўна падышлі да сваёй задачы — даць чэшскаму чытачу «цэласную карціну савецкай паэзіі ў асноўных рысах». Складальнікі, перакладчыкі і каментатары паспяхова справіліся са сваёй задачай, як адзначалася ў чэшскім і беларускім друку. Яны добра зразумелі і адчулі беларускіх паэтаў. Пасляслоўе І. Румлера да анталогіі 1955 года, яго каментарыі маюць безумоўна вялікае значэнне і цікавасць. У пасляслоўі, побач з гістарычным нарысам беларускіх пісьменнікаў некалькіх пакаленняў і характарыстыкай купалаўска-коласаўскіх традыцый, даецца характарыстыка віднейшых сучасных беларускіх паэтаў. Так, напрыклад, аб Крапіве-байкапісцу гаворыцца, што ён «адкідае дыдактычную павучальнасць і ўводзіць у басню апавядальныя, драматычныя і лірычныя элементы». У паэмах П. Броўкі чэшскі крытык бачыць зусім новае, канкрэтна-гістарычнае напаўненне народнай нацыянальнай сімволікі пры вялікай лірычнай непасрэднасці. У вершах П. Глебкі і многіх іншых паэтаў І. Румлер бачыць прыклады актыўных адносін да фальклору. Асабліва высока цэніць ён свядомае выкарыстанне фальклору А. Куляшовым і П. Панчанкам.

У анталогіі змешчаны пераклады вершаў М. Танка, напісаныя ім за апошняе дзесяцігоддзе. Але складальнік звяртаецца і да пачатку яго творчай дзейнасці і прыходзіць да вываду, што асабісты вопыт падпольнай рэвалюцыйнай барацьбы дае паэту магчымасць шырэй, чым другім беларускім паэтам, адлюстраваць барацьбу працоўных розных краін.

Такім чынам, анталогія, выдадзеная ў Празе, знаёміць не толькі з асобнымі ўзорамі беларускай літаратуры, але і дае пэўную характарыстыку буйнейшых аўтараў. Гэтая анталогія і асабліва яе



каментарыі праклалі дарогу брашуры Вацлава Жыдліцкага «40 год украінскай і беларускай савецкай літаратуры», выдадзенай Таварыствам чэхаславацка-савецкай дружбы. Як паведамляе І. Мольнар, В. Жыдліцкі дае чытачам сціслае ўяўленне аб асноўных тэндэнцыях развіцця беларускай літаратуры за апошняе паўстагоддзе, а таксама пэўныя звесткі ўжо не толькі аб вядучых паэтах, але і аб празаіках і драматургах Беларусі, падкрэсліваючы іх грамадзянскі пафас і імкненне існі ў нагу з жыццём. В. Жыдліцкі звяртаецца да перспектыў развіцця беларускай літаратуры, да яе новых імён і сцвярджае: «У асобе Я. Брыля беларуская літаратура мае такога празаіка, творчасць якога можа прынесці ёй сусветную славу».

**У юбілейным, 1958...**



**Новы будынак праўлення калгаса «Зара камунізма» Карэліцкага раёна.**

У той час, калі за мяжой выдаюцца анталогіі беларускіх паэтаў і пішуцца даследаванні па іх творчасці, знаходзяцца «культуртрэгеры», якія не заўважаюць усяго гэтага. Так недастойна вядуць сябе складальнікі «Паказчыка перакладаў», які выдаецца ў Парыжы і ў якім многія факты, вядомыя ў Празе, Пекіне і ў тым жа Парыжы, замоўчваюцца. Так, напрыклад, аповесці і апавяданні Я. Брыля выдадзены на сямі мовах, а названы «Паказчык перакладаў» паказвае толькі адзін, выдадзены ў Казані. Беларуская літаратура заваявала прызнанне далёка за межамі нашай краіны, і не да твару органу ЮНЕСКа хавацца за шырму няведання.

* * *

Значэнне кожнай нацыянальнай літаратуры вызначаецца сілай і маштабам яе ўплыву. Буйнейшыя пісьменнікі свету пастаянна падкрэсліваюць тую бясспрэчную думку, што сусветная літаратура ўзбагачаецца ўсімі нацыямі. Робіцца гэта ў імя жыцця, у імя паступальнага развіцця ўсяго чалавецтва, бо ў лепшых творах прагрэсіўных мастакоў, як адзначыў Л. Ляонаў, заключаны вечныя каштоўнасці, важнейшыя вітаміны духоўнага жыцця, заваяваныя на свеце людзьмі, узброенымі перадавымі ідэямі. Толькі такія кнігі маюць права на жыццё, — падкрэсліваў Л. Ляонаў. Гэта словы Л. Ляонава цытаваў Л. Арагон у прадмове да выдадзенай у Парыжы кнігі «Савецкія майстры апавяданняў». Думкі гэтыя пераклікаюцца з раней выказанай думкай буйнейшага беларускага раманіста К. Чорнага, што беларуская савецкая літаратура нясе свету велізарныя каштоўнасці, бо яна ставіць і вырашае цікавыя і патрэбныя для ўсяго чалавецтва праблемы.



Янка БРЫЛЬ

# ПАРТРЭТ СТАРЭЙШАГА ТАВАРЫША

## Нарыс

Мал. Б. Аракчэева.

### Першыя штрыхі

Яму — за шэсцьдзесят. Высокі і мажны, крыху прыгнуты пад цяжарам перажытага. Прадаўгаваты твар выразна адлюстроўвае шматгадовы роздум у нялёгкай адзіноце, энергію, яшчэ ўсё дзейсную, і волю, якую і сёння нельга было б зламаць. Гаворыць ён спакойна, глыбока хаваючы хвалявание. Смяецца разумным і чыстым смехам. Так і ўспомніш акрэсленне: «Добра смяецца — добры чалавек». Дарэчы, пахвала, якую найчасцей пачуеш ад майго героя: «Гэта — чалавек прыстойны» або, радзей: «Вельмі прыстойны таварыш». І ў шэрых, спакойных вачах яго самога відаць грунтоўна выпрабаваная прыстойнасць.

Сустракаючыся з ім на вуліцы, нават і той юнак, якому без пустахвальства хочацца подзвігу, да чаго ён шчыра рыхтуе сябе, нават і той не падумае, відаць, што ў такіх вось не вельмі прыкметных і свядома ціхіх, як гэты моцны стары, можна было б павучыцца, як спалучаць найвышэйшыя якасці — мужнасць і сціпласць.

. . . . . . . . . . .

### Нараджэнне легенды

Малады, прыстойны таварыш, маёр Папоў, камандзір асобнага аўтабатальёна, ведаў жыццёвы шлях свайго нампаліта. І таму, калі — ранняй вясной 1945 года — іх батальён спыніўся адпачыць на захад ад Пазнані і нампаліт, паважаны Рафаіл Іванавіч, сказаў, што зусім недалёка ад гэтай польскай вёсачкі стаяць тыя самыя Вронкі, — Папоў прапанаваў паехаць туды адразу.

Моладзь — так называў Рафаіл Іванавіч камбата і капітана-інжынера Кошалева — сядзела ззаду, а побач з нярослым, рухавым шаферам узвышаліся салідныя плечы старэйшага ў «Вілісе».



нампаліта. Цяпер ён, маёр Сяржант (не адзін усміхаўся, пачуўшы, як тут сталі побач званне і прозвішча), заўсёды цікавы і часта вясёлы субяседнік, сядзеў моўчкі, задуманы. Таму і моладзь маўчала.

...Гэта быў для яго сапраўды трыумфальны паход. Пачаўся ён улетку мінулага года, адразу за Бугам, у Бяла-Падляскай. Абветраны суровым подыхам вайны савецкі афіцэр з ордэнам і дэпутацкім значком на выцвілай гімнасцёрцы ўзышоў на высокую толькі што збітую трыбуну, убачыў мора галоў на плошчы, і ў вачах яго памутнела... З лёгкім надрывам у голасе пачаў ён слова сваё да гэтых людзей: «Панове! Абыватэле! Таважышэ!..» Спаць не было калі. У Польшчы, амаль дашчэнту здратаванай гітлераўцамі, быў, як гаворыцца, поўны развал і няўстрой. А тут яшчэ заварушыліся аматары вярнуць пры выпадку пілсудчыну. Цяжка было будаўнікам народнай улады, сямтам яны плацілі за радасць сваю крывёю актывістаў, часта звярталіся па дапамогу да вызваліцеляў. Успамінаецца нампаліту просты, адкрыты твар маладога паляка-рабочага, які стаў раптам ажно павятовым старостам; стаў і ніяк не можа прывыкнуць да свайго святога права на гэта, да права, якое заваёўвалі і выпакутавалі цэлыя пакаленні. Шмат давялося паездзіць з тымі добрымі хлопцамі па гарадах і вёсках усходняй і цэнтральнай Польшчы, шмат гаварыць з людзьмі, многім даводзячы зусім, здаецца, ясную ісціну: воля прыйшла, — не проста вызваленне ад немцаў, а тая воля, якой спрадвеку чакаў і польскі працоўны народ, за якую змагаліся, дома і ў людзях, яго Касцюшкі і Дамброўскія!..

«Віліс» ідзе па вузкай паласе асфальту, абапал якога ружовазеленаватымі пупышкамі ўступаюць у вясну дагледжаныя дрэвы. Спяваюць жаўранкі, варушацца на полі людзі. Сустрэнецца то параконная фура, то веласіпедыст, то вайсковая, наша машына...

Шмат давялося паездзіць і самому. Доўгі час — у якасці кансультанта — з начальнікам тылу І-га Беларускага фронта. Генерал-лейтэнант Анціпенка, звычайны, па-савецку просты чалавек, рабіў там, за Віслай, «цуды»... Не інакш, відаць, успрыймала гэта мясцовае насельніцтва. Нампаліт усміхнуўся, успомніўшы першы «цуд». Ехалі неяк з генераламі і дагналі па-інтэлігенцку апранутага мужчыну. Веласіпедыстаў там значна менш, чым тут, на багатай Пазнаньшчыне. Спыніліся: «Сядай, пан, падвязем!» Пан доктар (пасля даведаліся) сеў і... доўга не мог прамовіць ад здзіўлення: «Пан генерал ды падвёз?!.» Калі ж, праз якую гадзіну, ён сышоў з генеральскай машыны — з паўкіламетра кланяўся ёй капялюшам наўздагон... Або такі яшчэ «цуд». Спыніліся раз у вёсцы, — свежае пажарышча і бабы па-польску галосяць на міжнародную тэму: «А што ж мы, бедныя, будзем цяпер рабіць?!.» «Як загарэлася?» Чорт вазьмі! — нашы байцы вінаваты... І вось генерал паклікаў бліжэй капітана, камандзіра раскватараванага там падраздзялення, і загадаў яму далажыць праз два тыдні, што дом для пана... «Як ваша прозвішча?» Назваўшыся, пан Войцех Цвек, які загадзя зняў сваю кепку, цяпер яшчэ і пакланіўся. «Не трэба, бацька, — сказаў генерал. — Мы — свае людзі. Нашы бацькі ды дзяды наламаліся шапак, годзе!..» Легендай пойдзе па тых падляскіх вёсках расказ пра бальшавіка ў генеральскіх пагонах, які зусім, ну, зусім не падобны да таго нялюдскага, бязбожнага страшыдла, якое так заядла размалёўвалі — ды і цяпер цішком падмалёўваюць — і пан дзедзіц, і ксёндз-пробашч са сваімі памагатымі... Ды і пан доктар падумае, відаць, як жа яму, набожнаму інтэлігенту, паставіцца і да чырвоных, і да гэтай самай народнай улады...

— Вронкі!

Маёр Сяржант паказаў рукой налева над пілоткай і чубам шафёра. Моладзь павярнулася туды. Убачылі шырокую, стальную

стужку ўжо знаёмай Варты, чарапічныя дахі і белыя сцэны ў празрыстым гушчары яшчэ голага голля, некалькі старчакоў-касцёлаў і, на водшыбе, цагляную чырвань турмы.

— Мог бы я вам, таварышы моладзь, і песню заспяваць пра гэтую заходнюю Бастылію пілсудчыны. Ды голас мой больш падыходзіць для дэкламацыі. Паслухайце:

Гэй, вэ Вронках стоі велькі гмах.
Сон там казэматы, карцэры і краты
І трупі запах.
Збудовал го Бісмарк, велькі монж,
Абы спадкоберцы — польсцы
людожэрцы
Цешылі сен ўцёнж...

І гэтак далей. Напісалі — самі палітвязні, польскія камуністы. Многа было цудоўных, вельмі прыстойных таварышаў!..

Нампаліт на момант задумаўся. А малады, чарнявы камбат усміхнуўся сваёй не па чыну сарамлівай усмешкай:

— Рафаіл Іванавіч, а пераклад?

— Ну, калі ласка! Я вам нават не просты, а як па Далю — талковы. На беразе Варты (рака гістарычная, і ў гімне польскім успамінаецца) было калісьці балота. Немцы завалілі яго эшалонамі зямлі і ў 1896 годзе збудавалі турму на дзевяцьсот адзіночных камер. Ёсць тут, як у песні гаворыцца, і казематы, і краты, і пах трупаў... Гніў народ, жыўцом раскладаўся — і ў камерах, і ў «цямніцах», і ў турэмным шпіталі... «Велькі монж», дакладней — «монж стану», вялікі, так сказаць, дзяржаўны дзеяч Бісмарк збудаваў гэты гмах на радасць сваім непрадбачаным спадчыннікам — польскім душыцелям рэвалюцыі... Ну, вось і Вронкі. Разбурылі ўсё ж такі многа і тут. Гарадок на тысяч пяць, — набожных мяшчан, шаўцоў, краўцоў, цырульнікаў... Тут, Алёша, направа...

Неўзабаве «Віліс» спыніўся каля турэмнай брамы. Афіцэры выйшлі з яго і, гутарачы, нейкі час глядзелі на няўмольна дабротныя муры. Чатыры паверхі. На чырвоным, цагляным фоне — амаль шахматная густата закратаваных, замарожаных матавым шклом вокнаў. Адзіночкі, кожная — як павярнуцца. На цэнтральным, самым высокім корпусе — шпіль, нібы на вялізнай пікельгаўбе, касцы прускага жандара. Побач з тым корпусам — касцёл. Шпіль без крыжа і шпіль, закончаны крыжам, — сімвал даволі красамоўны.

Калі прыезджыя падышлі да брамы, вартаўнік у карычневым, даваенным шынялі польскага турэмшчыка з прытарнай вернападданасцю стукнуў абцасамі і, не адводзячы ад казырка двух пальцаў, схіліўся ў паклоне.

— Дзень добры. Проша адэмкнонць.

Два словы просьбы прагучалі для яго загадам. Сезам паслужліва адчыніўся.

Пераступіўшы парожак жалезнай брамкі, Сяржант азірнуўся. Сустрэўшыся з Паповым вачыма, ён усміхнуўся першы. І той, таксама з усмешкаю, адказаў:

— Я разумею вас, Рафаіл Іванавіч, — такія пачуцці!..

— Пачуцці, дарагі мой, як у грэчаскага бога... Ха, ха, ха!.. Алімпійскія!..

Перад уваходам у першы корпус іх сустрэў яшчэ адзін у карычневым шынялі.

— Дзень добры, таважышэ! Чым магу служыць?

Замест адказу, Сяржант упёрся пранікліваым зрокам у яго поўны і румяны твар.

— Пан — хто тут?

— Пшадоўнік * Гаўлячак. Дзяжурны.

Сяржант пацісну плячыма...

— Мы хацелі б аглядзець турму.

— Але ж, проша бардзо! Я ахвотна дам панам праваднiка.

— Дзякуем. Мы і самі.

У сваю чаргу здзівіўся пшадоўнік. Ён згадзіўся з гэтым рашэннем высокіх гасцей, не паспеўшы нават выклікаць на твар ветлую ўсмешку культурнага гаспадара...

* Старшы турэмны наглядчык.



Праз гадзіну госці вярнуліся з агляду турмы ў канцылярыю. Тым часам дзяжурны пшадоўнік сабраў у пакоі для спатканняў усіх работнікаў адміністрацыі. Зрабіў ён гэта па просьбе таго ж дзіўнага, загадкавага маёра. Нават папрасіў у яго прабачэння, што пан начальнік турмы, нажаль, адсутнічае па службовых справах. Дзіўны маёр спытаўся, як прозвішча начальніка і, пачуўшы яго, нічога не адказаў...

Работнікаў адміністрацыі было няшмат. Дарэчы, вязняў — таксама. Гэта былі ваенныя злачынцы — зондарфюрэры і іх мясцовыя прыслужнікі, некалькі ваўкаватых або размяклых на гніль эсэсаўцаў («Гітлер капут!..»), крымінальнікі, чалавек з пяцьдзесят. Рэшту камер займалі вронкаўскія жыхары з разбураных кварталаў гарадка.

Загадкавы маёр папрасіў на хвілінку ўвагі.

— Грамадзяне, — пачаў ён папольску. — Шмат гаварыць, і тым больш знаёміцца — нам з вамі не патрэбна. Некаторым з прысутных тут лёгка прыпомніць мяне, я, у сваю чаргу, з прыемнасцю пазнаю іх. Не бойцеся, пане дыжурны, — вы былі не з найгоршых. Я быў тут у вас з трыццаць першага па трыццаць шосты. Той небяспечны выўратовец * з камеры № 30 — гэта я, камуніст Сяржант. А вы, пане пшадоўнік, называліся тады трошкі інакш, чым цяпер, — проста стражнік Гаўлячак, з першага корпуса. Той пан, што збялеў нямаведама чаго — стражнік Фліс, той — пан Непежыньскі... Няма, нажаль, вашага бога, панове, начальніка — «пане дзеюо» Дэмбіньскага... Ды справа не ў гэтым.

Вы тут трымалі калісьці чалавек пад тысячу камуністаў. Следам за вашым высокім начальствам, вы пераконвалі самі сябе і другіх, што гэта былі вашы ворагі, больш таго — ворагі польскага народа. Ды вось жыццё зрабіла папраўку. Тыя, каго вашы ўладары лічылі сябрамі, ператварылі Польшчу ў лагер смерці, а тыя, каго вы лічылі ворагамі, праліваюць сёння сваю кроў за вызваленне вашай шматпакутнай радзімы, разам з сынамі новай, Народнай Польшчы ідуць на фашысцкае логава.

Дык вось, на развітанне, я хацеў бы пажадаць вам, грамадзянам новай Польшчы, у далейшым разбірацца ў сябрах і ворагах лепш, чым вы рабілі гэта да першага верасня трыццаць дзевятага года...

Так нараджалася яшчэ адна легенда.

Прамоўца пакуль што не думаў пра гэта. Ён проста гаварыў. Ён быў самім сабою, як заўсёды.

### Дзень, што не стаў апошнім

Першага верасня трыццаць дзевятага года сённяшні маёр з ордэнам Вялікай Айчыннай вайны і значком дэпутата Вярхоўнага Савета СССР выходзіў на свет з-за турэмных муроў. Гэта было не тут, ва Вронках, а ў Каранове, другой турме на былой польска-нямецкай граніцы. Праз гарлавіну страшнай брамы ён праціскаўся ў шэрым, вялікавокім ад голаду і шыракаротым ад радасці натоўпе пакутнікаў-змагароў, якія раптам — нарэшце! — засталіся адны, без стражнікаў, пшадоўнікаў, пракурораў!..

На захадзе чуваць былі нямецкія гарматы... Вызваленых палітвязняў чакаў яшчэ вялікі шлях — у цэнтр краіны і на ўсход, — пад бомбамі з гітлераўскіх самалётаў, міма сініх шынеляў панскай паліцыі, якая і на бягу, уцякаючы, яшчэ будзе кусацца...

А ўсё ж гэта была ўжо воля, пачатак волі, развітанне з цэментавай магілай, — апошні этап бясконцага, жахлівага падарожжа!..

...Яно пачалося ўвосень 1925 года, у старажытным Нясвіжы.

Было іх тры таварышы, для ворагаў — тры злачынцы, найбольш небяспечныя з усёй групы падпольшчыкаў, арыштаваных тады ў навакольных вёсках.

Першы — ён, Рафаіл Сяржант, з невялікага мястэчка Гавязна, з працавітай і людной серадняцкай хаты. Салдатам царскай арміі ён пабываў на ўсходзе, быў сведкам і ўдзельнікам рэвалюцыйных па-

* Бунтар.

дзей у Віцебску і Кастраме. З уласцівай яму шчырасцю Рафаіл Іванавіч гаворыць цяпер, што толькі ў рэвалюцыю пачаў ён «упершыню асвойвацца з думкай, што можна кіравацца і без цара». Аднак дамоў, калі адтуль прагналі кайзераўскіх ваякаў, вярнуўся ён гатовым да рэвалюцыйнай працы.

Другі — Аляксандр Самсыт, бядняцкі сын з Новай Вёскі каля станцыі Гарадзея. Дванаццацігадовым хлопцам завезлі Шуру ў Пецярбург, на фабрыку курыцельнай паперы. Сам не змог бы, відаць, разабрацца ў законах таго пекла, дзе ён варыўся разам з сотнямі іншых. На шчасце яго — былі таварышы, а неўзабаве, на шчасце ўсіх нас, — прышла рэвалюцыя. У родную вёску Самсыт вярнуўся пасля грамадзянскай вайны камуністам.

У параўнанні з гэтымі двума, трэці быў ледзь не хлапчуком, Іван Сяржант, брат Рафаіла, маладзейшы на цэлых дзесяць год, яго вучань і друг.

Маляўнічы і хлебны гарадок, адзін з уладароў якога яшчэ за бітву на Калцы трапіў у летапіс, Нясвіж добра вядомы народам, інтарэсы якіх кроўна скрыжоўваліся тут на працягу стагоддзяў. Многа польскай магнацкай раскошы і беларускага паднявольнага гора бачыла гэтая зямля, многа яна ўвабрала нявіннай крыві!..

У той лістападаўскі дзень быў кірмаш. Нясвіжская брукаваная плошча, на агульнабеларускі лад ашчаціненая процьмай задзёртых аглабель, шумела, аднак, незвычайна. І па гэтых мясцінах нядаўна пракацілася хваля пралетарскай рэвалюцыі, і тут, здавалася людзям, назаўсёды паложаны канец векавой радзівілаўшчыне!.. А вось яна зноў вярнулася...

Старадаўнюю ратушу сёння сцяной абкружыла паліцыя. Там ідзе суд. І сялянская, шэрая плошча шуміць абурана і грозна не па-даўнейшаму...

Дый паны баяцца цяпер не па-даўнейшаму. За ўсякую цану яны стараюцца давесці, што кожны камуніст - падпольшчык — проста бальшавіцкі шпіён, якога, паставіўшы па-за ўсякім законам, найлепш судзіць «доразьным» — ваенна-палявым судом.

Так іх і судзяць сёння — двух узмужнелых, вопытных рэвалюцыянераў і юнака, які нядаўна пайшоў за парывам чыстага сэрца.

Хто ж суддзі? О, яны зусім дастойныя продкаў і справы, якую робяць! Яны прыехалі сюды з ваяводскага Навагрудка, — тры буйнейшыя памешчыкі яго ўраджайных ваколіц: пан Вайціцкі, старшыня суда, паны Мурза-Мурзіч і Некраш — суддзі. І хоць прыехалі яны звычайным рэйсавым аўтобусам, не выключана, што ім, пасля выканання высокіх абавязкаў, давядзецца пабываць і за радзівілаўскім сталом, у замку, які прымаў не аднаго караля...

Падпольшчыкаў арыштавалі два тыдні таму назад. Пасля катаванняў у дэфензіве, семнаццаць чалавек адправілі ў навагрудскую турму, а трох — самых злосных — вырашылі прыкончыць на месцы.

Рафаіла Сяржанта шпікі адзінадушна называлі ініцыятарам і кіраўніком усёй гэтай групы бунтароў, асабліва небяспечных тут, каля самай граніцы з Саветамі. Апроч таго: «Езус, Марыя, — як ён супраціўляўся!..» Самсыт і маладзейшы Сяржант былі выдзелены з усёй групы як найбольш актыўныя памочнікі Рафаіла. Удзелу ва «ўзброеным супраціўленні» гэтыя два як быццам не прымалі, але падвесці і іх пад «сонд доразьны» было не вельмі цяжка. За ўсёй пампёзнаю камедыяй суда цвёрда стаяла на фашысцкім грунце звычайнае паліцэйскае самавольства.

Скаваных за рукі (старэйшы Сяржант — пасярэдзіне), падсудных раненька, пакуль была свабаднейшая плошча, прыгналі з турмы ў ратушу. Праз некалькі гадзін іх вывелі адтуль на плошчу. Па вузкаму праходу, зробленаму ў натоўпе паліцыяй, яны пайшлі, акружаныя строем салдат. Узвод спешаных уланаў у даўгакрысых шынялях, з зараджанымі карабінамі на рамяні, злавесна грукатаў па мокрым бруку цяжкімі юхтовымі ботамі. Спераду, з шабляю нагала, машынальна чаканіў хромавы крок





маладзенькі, збялелы, як смерць, паручнік.

Заўтра на досвітку ўсё будзе скончана.

У глінішчах за горадам, загадзя, да вынясення прысуду, былі выкапаны тры ямы і каля кожнай укопаны слуп.

...Праз некалькі тыдняў, у турэмнай камеры, Рафаіл Іванавіч прачытаў аповесць са страшна простай назвай — «Апошні дзень асуджанага на смерць». «Ах, Гюго, які гэта геніяльны пісьменнік, як дакладна перадае ён перажыванні чалавека!» — ускліквае цяпер, праз трыццаць тры гады, адзін з тых нямногіх, што маюць права на такую своеасаблівую ацэнку.

Вялікі гуманіст і дэмакрат, Гюго сказаў свае слова супраць смяротнай кары з небывалай і, відаць, непаўторнай сілай бязлітаснага, месцамі проста жахлівага рэалізма. Ён гаварыў, аднак, — мовай вобразаў — пра **чалавека наогул,** пра жывую істоту, што не хоча паміраць і чапляецца за жыццё, як толькі можна, нават — чакаючы цуду — становіцца на калені перад катам...

Тры сыны беларускай вёскі, вышэй сваіх вокан заваленай спрадвечнаю бядою і цемрай, трое **новых людзей,** пакліканых рэвалюцыяй да чалавечага жыцця, тры сціплыя, радавыя камуністы і ў зразумелым жаху перадсмяротных гадзін былі далёкія ад думкі пра «пакаянне», уніжэнне перад ворагамі працоўных.

«Сам арганізм не вытрымліваў таго жаху, — гаворыць сёння таварыш Сяржант. — Доўга я потым усхопліваўся начамі на нарах са сну, нібы ад моцнага штуршка...»

А ўсё ж нават і маладзейшы з іх, — і не бывалы, і менш падкованы юнак Іван, «мой Ванюшка» для Рафаіла, — ні на судзе, ні ў камеры смяротнікаў не праранiў слязы.

А. ХАХЛОЎ

# У НАВУКУ ІДУЦЬ МАЛАДЫЯ

Дзякуючы нястомным клопатам партыі небывалага росквіту дасягнула савецкая навука. Шырока разгарнулася за гады савецкай улады навукова-даследчая работа і ў нашай рэспубліцы. Аб гэтым красамоўна сведчыць ужо той факт, што ў Беларусі, якая да Кастрычніцкай рэвалюцыі не мела ніводнай буйнай даследчай установы, працуе больш 70 навуковых інстытутаў і 25 вышэйшых навучальных устаноў.

Цэнтрам даследчай работы ў нашай рэспубліцы з'яўляецца Акадэмія навук БССР. Больш года таму назад з Акадэміі навук вылучыліся інстытуты сельскагаспадарчага профілю і была створана Акадэмія сельскагаспадарчых навук.

Значныя навуковыя кадры сканцэнтраваны ў буйнейшых вышэйшых навучальных установах рэспублікі — Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна, Політэхнічным інстытуце, Лесатэхнічным інстытуце і іншых ВНУ.

Вельмі радасна, што ў навукова-даследчых інстытутах побач з вядомымі вучонымі працуе многа таленавітай моладзі. Шэрагі маладых даследчыкаў няспынна папаўняюцца. Прыемна, што ў апошні час у навукова-даследчыя інстытуты ўсё больш прыходзіць людзей, якія маюць не толькі добрыя тэарэтычныя веды, але і пэўны жыццёвы вопыт і стаж работы. Гэта становіча адбіваецца на ўсёй падрыхтоўцы і выхаванні маладога папаўнення вучоных.

Для росту новых навуковых сіл у нашай рэспубліцы цяпер створаны ўсе ўмовы.

Вядома, што да Вялікай Айчыннай вайны падрыхтоўка маладых навуковых кадраў ажыццяўлялася галоўным чынам за межамі Беларусі — у аспірантуры Акадэміі навук СССР і некаторых вышэйшых навучальных установах Масквы і Ленінграда. Пасля сканчэння аспірантуры толькі невялікая частка маладых спецыялістаў вярталася ў Беларусь.

Цяпер навуковыя нацыянальныя кадры рыхтуюцца ў самой рэспубліцы. Заканчваючы аспірантуру, маладыя вучоныя застаюцца працаваць у тых навуковых установах, дзе яны вучыліся.

Штогод толькі ў аспірантуру Акадэміі навук БССР залічваецца ад 40 да 70 чалавек.

Пад кіраўніцтвам вядомых вучоных маладыя даследчыкі вядуць вялікую навуковую работу. Асабліва паказальны ў гэтых адносінах Інстытут фізікі і матэматыкі.

За тры гады з моманту стварэння інстытута з 160 апублікаваных навуковых работ больш палавіны напісаны моладдзю. Высокую ацэнку атрымалі даследаванні П. Апанасевіча ў вырашэнні вельмі важнага тэарэтычнага пытання аб узаемадзеянні святла з рэчывам. Малады вучоны быў удастоены гонару выступаць з дакладам аб выніках сваіх даследаванняў на ўсесаюзнай нарадзе фізікаў.

Радасна адзначыць, што работа маладых даследчыкаў знаходзіць практычнае прымяненне на



вытворчасці. Навуковыя супрацоўнікі Інстытута фізікі і матэматыкі А. А. Янкоўскі і В. С. Буракоў, напрыклад, дапамаглі інжынерам на 27 прадпрыемствах рэспублікі прымяніць у вытворчасці метад спектральнага аналізу. Гэта дало вялікі эканамічны эфект.

Толькі на Мінскім трактарным заводзе на працягу аднаго года прымяненне гэтага метаду дазволіла сэканоміць больш 730 тысяч рублёў.

Каштоўны ўклад у вывучэнне ўласцівасцей складаных арганічных і металаарганічных злучэнняў унеслі аспіранты Г. П. Гурыновіч, К. І. Салаўёў і малодшы навуковы супрацоўнік В. А. Піліповіч, якія працуюць пад кіраўніцтвам акадэміка А. П. Сеўчанкі.

Вялікае практычнае значэнне мае новы метад разліку прэсавых і молатавых штампаў, распрацаваны кандыдатам тэхнічных навук М. І. Калачовым. Гэты метад дапамог удасканаліць тэхналогію штампоўкі шэрагу металічных дэталей.

У выніку працяглых і настойлівых даследаванняў аспірант Л. І. Шведаў знайшоў спосаб атрымання новых гарачатрывалых сплаваў сталі, якія па сваіх уласцівасцях не ўступаюць тым, што выкарыстоўваліся да апошняга часу, і разам з тым з'яўляюцца больш таннымі.

Маладыя навуковыя супрацоўнікі Фізіка-тэхнічнага інстытута на многіх прадпрыемствах рэспублікі паспяхова прымяняюць вынікі сваіх работ. За апошні год на мінскіх заводах — аўтамабільным, трактарным, матавеласіпедным, падшыпнікавым і станкабудаўнічым — атрымана эканомія каля 2 мільёнаў рублёў, дзякуючы ўдасканаленню вытворчых працэсаў, якое было дасягнута пры дапамозе маладых вучоных.

*У юбілейным, 1958...*



**Новы Дом культуры ў Буда-Кашалёве.**
Фота Н. Карпава.

Група маладых даследчыкаў вырасла і ў Інстытуце энергетыкі. Кандыдат навук Ю. П. Сыраў даследаваў сутачны рэжым работы гідраэлектрастанцый, што мае важнае практычнае значэнне для палепшання эксплуатацыі гідраэлектрастанцый. Цяпер Ю. П. Сыраў удзяляе ўвагу падрыхтоўцы навуковых разлікаў будаўніцтва гідраэлектрастанцый Нёманскага і Заходне-Дзвінскага каскадаў.

Цікавыя работы напісалі супрацоўнікі інстытута энергетыкі Э. Каваленка і Р. Кліёнская.

Заслугоўваюць увагі работы Д. Ф. Жук аб шляхах паляпшэння тэхніка-эканамічных паказчыкаў малых ГЭС ва ўмовах БССР, М. М. Дарашэвіча аб вымяральных трансфарматарах току.

Сярод маладых вучоных геолагаў паспяхова працуюць кандыдаты навук В. К. Галубцоў і С. С. Манькін. Каштоўныя звесткі атрымаў В. К. Галубцоў аб вуглянасных сярэднекаменнавугольных адкладаннях поўдня БССР. Матэ-

рыялâмі даследаванняў Галубцова шырока карыстаюцца работнікі вытворчых геолага-разведвальных устаноў.

Вынікі даследаванняў С. С. Маныкіна знайшлі шырокае практычнае прымяненне ў бурэнні разведвальных шчылін, а таксама ў работах па складанню дзяржаўных геалагічных карт.

Па даручэнню Савецкага аргкамітэта XXI Сесіі Міжнароднага геалагічнага кангрэсу Галубцоў і Маныкін нядаўна закончылі вялікую работу па складанню літолага-фацыяльных карт БССР.

Супрацоўнікі Інстытута хіміі кандыдаты навук С. Ф. Наумава і Л. І. Ухава вырашаюць актуальныя пытанні ў галіне хімічнай навукі. С. Ф. Наумава распрацавала новы метад сінтэзу цыклагексадзіена — 1,3, які з'яўляецца зыходным прадуктам для сінтэзу пластычных мас.

Цэлы шэраг здольных маладых даследчыкаў плённа працуе ў іншых інстытутах тэхнічнага профілю. У Інстытуце торфу кандыдат навук А. В. Цішковіч распрацаваў канструкцыю новых буравых інструментаў для распрацоўкі тарфяных месцанараджэнняў. Прадукцыйнасць гэтых інструментаў амаль у 2 разы вышэй, чым у старых бураў.

Разам з другім маладым вучоным Інстытута торфу І. С. Нагорскім Цішковіч стварыў новую канструкцыю бульдозера для збірання торфу на ўгнаенне. Гэтая канструкцыя бульдозера прынята для серыйнай вытворчасці... Імі ж сканструявана і капруючае прыстасаванне да землекапальных бульдозераў.

Добрых поспехаў у даследчай рабоце дабіліся маладыя вучоныя і ў галіне біялагічных навук. Кандыдат навук А. А. Шлык вывучыў з'яву абнаўлення хларафілу, высветліў асаблівасці гэтага працэсу ў некаторых раслін і ўпершыню паказаў адначасовае працяканне сінтэзу і распаду хларафілу ва ўсіх станах ліста. Малады беларускі даследчык неаднаразова выступаў з навуковымі дакладамі на міжнародных канферэнцыях, у тым ліку на канферэнцыі па выкарыстанню атамнай энергіі ў мірных мэтах.

У распрацоўцы актуальных навуковых праблем па фізіялогіі ўдзельнічаюць маладыя вучоныя А. С. Дзмітрыеў, К. В. Фамічэнка, Р. А. Якімовіч, І. А. Кулак і іншыя.

Кандыдат навук А. С. Дзмітрыеў у выніку даследавання безумоўных і ўмоўных лабірынтных танічных рэфлексаў у чалавека распрацаваў і сканструяваў арыгінальныя ўстаноўкі для вывучэння ўплыву паскарэнняў на мышачны тонус. Ён упершыню ўстанавіў у чалавека ўмоўныя рэфлексы ва ўмовах вярчэння і вертыкальнага перамяшчэння цела. Гэта мае важнае значэнне для далейшых даследаванняў у галіне авіяцыйнай медыцыны.

Вялікі калектыў маладых даследчыкаў паспяхова вырашае важныя навуковыя пытанні і ў галіне грамадскіх навук.

Да слаўнага юбілею — 40-й гадавіны Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі маладыя вучоныя прышлі з добрымі поспехамі. Акружаныя ўвагай і клопатамі нашай партыі, яны аддаюць усе сілы, каб сваёй працай садзейнічаць далейшаму ўздыму эканомікі і развіццю культуры нашай Радзімы.

*З блакнота падарожніка*

Павел КАВАЛЁЎ

# ЛІТАРАТУРНАЯ АСАМБЛЕЯ ДВУХ ВЯЛІКІХ КАНТЫНЕНТАЎ

Ташкенцкая восень была сонечная і ясная. Увесь гэты слаўны савецкі горад на працягу паловы кастрычніка 1958 года жыў важнай падзеяй — канферэнцыяй пісьменнікаў, на якую ўпершыню сабраліся сюды прадстаўнікі літаратур трыццаці дзевяці краін Азіі і Афрыкі. Гэта была сапраўды літаратурная асамблея выказнікаў дум і надзей сваіх народаў!

Канферэнцыя, як вядома, была народжана такім чынам. У 1956 годзе ў сталіцы Індыі — Дэлі адбывалася першая канферэнцыя пісьменнікаў краін Азіі. У яе рабоце тады прынялі ўдзел і прадстаўнікі літаратур нашых савецкіх сярэднеазіяцкіх рэспублік. І вось ужо ў час заканчэння работы той канферэнцыі вядомая ўзбекская паэтэса Зульфія ад імя ўсіх савецкіх пісьменнікаў унесла прапанову склікаць чарговую канферэнцыю ў пашыраным складзе і ў яе родным Ташкенце.

Прапанова гэтая была горача падтрымана дэлегатамі ўсіх краін.

І вось сонечная, ясная, сапраўды залатая, багатая вынікамі працы людзей восень. Старажытны Ташкент памаладзеў. Вуліцы яго ў агнях ілюмінацый, у полымі чырвоных палотнішчаў, у мностве заклікаў змагацца за мір і дружбу паміж народамі, за сацыяльны і нацыянальны прагрэс народаў.

На двух будынках горада, Тэатры оперы і балету імя Наваі і вялікай гасцініцы «Ташкент», сцягі краін, удзельніц канферэнцыі, эмблема канферэнцыі — пяць скрыжаваных над кнігаю ў моцным поціску рук і арнаментаваныя палотнішчы з запрашэннем на ўзбекскай мове «Хуш келібсіз», што азначае «Калі ласка!».

Актыўна працаваў азіяцка-афрыканскі падрыхтоўчы камітэт па скліканню канферэнцыі, на чале якога быў вядомы ўзбекскі пісьменнік і грамадскі дзеяч краіны Шараф Рашыдаў. Канферэнцыя была з усіх бакоў падрыхтавана ўзорна. Адчувалася, што савецкім людзям блізкія і дарагія інтарэсы народаў краін Азіі і Афрыкі, інтарэсы літаратур гэтых народаў.

Мы, госці з Беларусі, Іван Мележ, Аляксей Зарыцкі і аўтар гэтых радкоў, пісьменнікі Украіны, Літвы, Латвіі і Эстоніі, прыляцелі з Масквы ў Ташкент самалётам «ТУ-104А». Ляцелі адначасна разам з вялікай дэлегацыяй брацкага кітайскага народа. Дэлегацыю кітайскіх літаратараў, якую ўзначальваў буйнейшы пісьменнік сучаснасці Мао Дунь, цёпла і сардэчна сустрэлі на ўзбекскай зямлі. Шараф Рашыдаў і другія ўзбекскія таварышы моцна абдымалі і паціскалі рукі дарагіх гасцей.

Усхваляваны шчырасцю сустрэ-

чы і брацкіх пачуццяў да свайго вялікага народа і яго літаратуры, Мао Дунь заявіў:

— Я лічу, што канферэнцыя ў Ташкенце мае вялікае значэнне, з'яўляецца найбольш прадстаўнічай у гісторыі літаратурнага руху. Вельмі знамянальна, што яна склікаецца на ўзбекскай зямлі, дзе яшчэ ў глыбокай старажытнасці перакрыжоўваліся шляхі з Кітая на Арабскі Усход, сустракаліся прадстаўнікі розных усходніх дзяржаў... Ад імя ўсіх нашых літаратараў я хачу перадаць узбекскаму народу глыбокую ўдзячнасць за тую гасціннасць, якую ён аказвае ўдзельнікам канферэнцыі. Я думаю, што гэтае пачуццё падзяляюць і літаратары з другіх краін. Я веру, што Ташкенцкая канферэнцыя адыграе вялікую ролю ў развіцці культурных сувязей паміж краінамі Азіі і Афрыкі, у справе ўмацавання дружбы народаў.

Скажам наперад, што вядомы кітайскі пісьменнік не памыліўся ў сваіх прагнозах. На канферэнцыі, на якую сабраліся розныя людзі, пісьменнікі розных поглядаў і пераконанняў, розных школ і напрамкаў, з першага ж дня яе працы нарадзілася атмасфера магутнага адзінства, узнік дух Ташкента — дух барацьбы за вялікія чалавечыя ідэалы, за свабоду і незалежнасць народаў, за роўнае іх права жыць на зямлі, карыстацца ўсімі здабыткамі, якія яна прыносіць працоўнаму чалавеку. І не выпадкова Ташкенцкая канферэнцыя адразу ж была названа многімі пісьменнікамі зарубежных краін «Літаратурным Бандунгам».

Адкрыццё канферэнцыі ператварылася ў вельмі ўрачыстую падзею. Старшынствуючы Ш. Рашыдаў прадстаўляў канферэнцыі кіраўнікоў дэлегацый і запрашаў іх у прэзідыум. Дэлегаты ўзнімаліся на сцэну і пад гарачыя воплескі займалі месцы за адным уквечаным сталом. Афганістан і Алжыр, Ангола і Бірма, Камерун і Цэйлон, Кітай і Кіпр, Мазамбік і Гвінея, Дэмакратычная Рэспубліка В'етнам і Філіпіны, Мадагаскар і Бераг слановай косці, Гана і Індыя, Інданезія і Японія, Народная Карэя і Манголія, Нігерыя і Самалі, Сенегал і Непал, Судан і Пакістан, Таіланд і Турцыя, малыя і вялікія краіны, вядомыя і менш вядомыя пісьменнікі — пасланцы сваіх народаў, сваіх краін, у якіх жыве звыш мільярда шасцісот мільёнаў чалавек. Вось геаграфія канферэнцыі, яе гарызонты!

І калі старшынствуючы абвяшчае, што атрымана тэлеграма на імя канферэнцыі ад кіраўніка Савецкага ўрада М. С. Хрушчова, уся зала дрыжыць ад воплескаў. Дзве індыйскія паэтэсы выйшлі на сцэну і па народнаму звычаю пырскаюць са срэбных гарлачыкаў духмянаю вадою на членаў прэзідыума, выказваючы гэтым надзею на поспех у працы канферэнцыі.

Слова атрымлівае старшыня Камісіі па замежных справах Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР, член Прэзідыума ЦК КПСС тав. Н. А. Мухітдзінаў. Па даручэнню Старшыні Савета Міністраў СССР М. С. Хрушчова ён зачытвае яго прывітанне ўдзельнікам канферэнцыі. А пасля звяртаецца да іх з кароткай прамовай, у якой гаворыць пра тое, што савецкія людзі заўсёды адносіліся і адносяцца з вялікай павагай да народаў Азіі, Афрыкі, да іх культуры, звычаяў, да іх нацыянальна-вызваленчай барацьбы, заўсёды будавалі і будуюць свае адносіны з імі на аснове ленінскага прынцыпу раўнапраўя нацый, заўсёды аказвалі і аказваюць ім бескарыслівую брацкую дапамогу, заўсёды падтрымлівалі і падтрымліваюць іх барацьбу за свабоду і незалежнасць.

Ярная прамова Н. А. Мухітдзінава была выслухана з вялікай увагай і неаднаразова перапынялася гарачымі апладысментамі.

Затым на канферэнцыі зачытваюцца прывітанні ад прэм'ера Дзяржаўнага Савета КНР Чжоу Энь-лая, прэм'ер-міністра Рэспублікі Індыі Джавахарлала Неру, прэм'ер-міністра Цэйлона С. Бандаранаіке і прэм'ер-міністра Бірманскага Саюза У Ну. Грымяць воплескі, мацнее адзінства дэлегатаў!

І зноў прамовы. Прачула і папісьменніцку вобразна гаворыць Ш. Рашыдаў. Гасцей вітае і заклікае адчуваць сябе як дома ў Ташкенце старшыня гарсавета М. Юлдашаў, Мікалай Ціханаў выступае са словам ад імя савецкіх пісьменнікаў, ад імя прадстаўнікоў усіх брацкіх літаратур Савецкага Саюза і перадае дэлегатам канферэнцыі гарачае і сардэчнае прывітанне.

Звяртаючыся да прадстаўнікоў усіх літаратур краін Азіі і Афрыкі, М. Ціханаў гаворыць:

— Мы вітаем ваш голас свабодных народаў, голас народаў, якія вызваляюцца. Мы ведаем, што высокія дасягненні нацыянальных літаратур вашых краін будуць на карысць усяму перадавому чалавецтву. Без укладу пісьменнікаў Азіі і Афрыкі ў агульную скарбніцу чалавецтва нельга ўявіць сабе далейшы прагрэс. Мы павінны па-сапраўднаму ацаніць культурную спадчыну, знішчыць бар'еры, якія нас раз'ядноўваюць, умацаваць асабістыя сімпатыі, паглыбіць дружбу і бліжэй уведаць творчасць адзін аднаго, вынайсці новыя сродкі далейшага ўмацавання нашага адзінства.

У заключэнне сваёй палкай прамовы М. Ціханаў заклікаў пісьменнікаў Азіі і Афрыкі разам працаваць для будучага ў імя незалежнасці і шчасця нашых народаў, у імя міру паміж народамі, у імя міру ва ўсім свеце!

Атмасфера адзінства, дружбы, жадання жыць і працаваць у імя шчасця сваіх народаў узрастала і мацнела з кожнай хвілінай. Гэта асабліва адчувалася, калі ў цудоўную залу тэатра імя Наваі вітаць удзельнікаў канферэнцыі прыйшлі юныя піянеры. Чырвань іх гальштукаў, шчырасць празрыстых вачэй, звонкі і цёплы голас, сама прысутнасць іх у зале, — усё нібы зблізкала ўсіх гасцей-пісьменнікаў з нашай шчаслівай сучаснасцю і сваёй светлай будучыняй.

Так нараджаўся дух Ташкента.

Так пачынала сваю працу гістарычная канферэнцыя пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі.

А наступнымі днямі пачалося абмеркаванне ўзгодненай паміж дэлегацыямі павесткі дня. Першым абмяркоўвалася пытанне аб развіцці літаратур і культур у розных краінах Азіі і Афрыкі і іх ролі ў барацьбе за прагрэс чалавецтва, нацыянальную незалежнасць, у барацьбе супраць каланіялізма, за свабоду і мір ва ўсім свеце. Пытанне важнае, баявое, жыццёва-актуальнае — аб месцы пісьменніка ў страі, аб тым, што яго творчасць павінна быць песняй свабоды, песняй чалавеку, павінна служыць прагрэсу і міру на зямлі.

Толькі не ўсе дэлегацыі на пачатку былі адзінадушны ў гэтым. Некаторыя з іх зрабілі заўвагі аб тым, што яны лічаць гэтую канферэнцыю выключна літаратурнай, таму, маўляў, не яе абавязак «займацца палітыкай».

Інакш, вядома, на такой канферэнцыі і быць не магло. І ніхто-ніхто не збіраўся адразу пераконваць тых дэлегатаў, якія так думалі, якія такі «накірунак» хацелі надаць канферэнцыі.

Папрацуем — пабачым, — выразшыла абсалютная большасць дэлегацый. І абмеркаванне важнейшых праблем пачалося.

Першым на пленарным пасяджэнні выступіў цэйлонскі літаратар Сіры Сівалі Тхэро. Ён гаварыў аб гісторыі развіцця сваёй літаратуры, аб багацці роднай мовы, аб тым, што толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў краіне з'явілася друкаваная літаратура.

Цэйлонскі дэлегат падкрэслівае, што доўгі час літаратары яго краіны ідэалізавалі жыццё народа, не паказвалі ва ўсёй паўнаце лёс простых людзей. Просты чалавек, — гаворыць ён, — стаў героем цэйлонскай літаратуры толькі ў нашы дні.

На трыбуне камерунскі пісьменнік Бенджамен Мацiп. Прамова яго гарачая, аргументаваная. На аснове гістарычных дадзеных ён паказвае, што культура народаў Чорнай Афрыкі — гэта адна са старажытных культур чалавецтва. Але

ў выніку каланіяльнага прыгнечання народы адсталі ў сваім развіцці.

Маціп сцвярджае, што душыцелем афрыканскай культуры з'яўляецца каланіялізм, што імперыялісты ў апошні час імкнуцца пад новымі шыльдамі захаваць сваю ўладу ў Афрыцы. Каланіялізм спрабуе захаваць свае ганебныя законы на афрыканскай зямлі, на яе тэрыторыях. У гэтых умовах узрастае роля пісьменніка. Эканамічная, палітычная і сацыяльная сапраўднасць штурхае яго на барацьбу за духоўнае вызваленне народа ад каланіяльнай атруты. Афрыканскі пісьменнік — гэта своеасаблівы доктар, які прадпісвае народу неабходную дозу супрацьяддзя ад каланіялізма. І разам з тым ён салдат, які ставіць перад сабою мэту — заваяванне нацыянальнай незалежнасці.

Агрэсіўныя выступленні імперыялістаў у Суэцы, у Ліване, ля берагоў Кітайскай Народнай Рэспублікі, — заявіў Бенджамен Маціп, — гэта шалёныя, але дарэмныя спробы захаваць каланіяльнае панаванне ў краінах Азіі і Афрыкі. Імперыялістам ніколі не давядзецца спыніць волю азіяцкіх і афрыканскіх народаў да вызвалення.

У Афрыцы, гаварыў прамоўца далей, няма месца для бясплённых фантазій і пустой фразеалогіі, няма месца для дэкадэнцкай ідэалогіі буржуазных расістаў і звярынага капіталізма, для таннага ўпрыгожвання, якое так дорага каланізатарам і іх прэсе. Афрыканская літаратура павінна выконваць місію мабілізацыі розуму народа, павінна вывучаць і праўдзіва паказваць сапраўднасць, заснаваную на рэальных фактах.

Колькі цікавага, своеасаблівага адкрываецца табе з кожнай новай прамовы! Вось дэлегат Бірмы У Йо гаворыць аб тым, што калі ў яго краіне наступіла эра незалежнасці, то нацыянальная літаратура набыла новыя сілы і зараз знаходзіцца на вялікім уздыме. Шырока развіваюцца новыя жанры, растуць рады пісьменнікаў, перакладаюцца творы пісьменнікаў другіх краін, выдаецца Бірманская энцыклапедыя ў 14 тамах.

Гэткія ж думкі выказвае Эфуа Тэадора Сатэрлэнд — дэлегатка Ганы, краіны, якая нядаўна атрымала сваю нацыянальную незалежнасць, дзе раней не было стымулу для развіцця літаратуры, бо публікацыя твораў на роднай мове была звязана з вялікай рызыкай. Зараз становішча змяняецца: наша культура зыходзіць з таго, што толькі вольны і адукаваны чалавек можа зрабіць свой уклад у жыццё народа.

Слухаючы карэйскага дэлегата Хан Сэр Я, мы бачым, што літаратура народна-дэмакратычнай рэспублікі расла разам з народам, у змаганні супраць цёмных сіл феадалізма і іншаземных захопнікаў. Яна з'яўляецца летапісам народа, песняй яго велічных перамог. Дэлегат Інданезіі Інтойо расказвае, што ў перыяд каланіяльнага панавання ў Інданезіі паэты і раманісты больш звярталіся да паказу жыцця сярэдніх пластоў грамадства, у дапамозе якіх мелі патрэбу каланіяльныя ўлады. Толькі пасля таго, як Інданезія атрымала нацыянальную незалежнасць, у краіне пачала ствараццa літаратура, якая па-сапраўднаму адлюстроўвае жыццё простых людзей.

А Мануэль Крус — дэлегат Філіпін — пазнаёміў удзельнікаў канферэнцыі не толькі са старажытнай гісторыяй літаратуры сваёй краіны, але і з тым цяжкім становішчам, у якім апынулася нацыя цяпер. Як вядома, пасля ўлады іспанскіх манахаў войскі Паўночнай Амерыкі, паказваючы сябе «сябрамі» філіпінскага народа, захапілі краіну і ператварылі яе ў калонію ЗША. З'яўленне новага, больш вопытнага захопніка адбілася і на літаратурным жыцці народа. У выніку былі знішчаны каштоўныя літаратурныя помнікі, а навучанне ў школе было пераведзена на англійскую мову.

Зараз філіпінскім пісьменнікам цяжка пісаць на сваёй роднай тагалогскай мове. І хоць філіпінцы вывучаюць мову новых гаспадароў, іх родная мова ўдзельнічае ў барацьбе за незалежнасць, найлепшыя творы пісьменнікі ствараюць на сваёй роднай мове.



Дэлегат Філіпін гаварыў далей аб сваіх уражаннях ад Узбекістана:

— Нідзе ў свеце дух брацтва народаў не развіты гэтак, як у Савецкім Саюзе. Мы пераканаліся, што ва Узбекістане вывучаецца і высока цэніцца літаратура другіх народаў. Калі б той дух, які пануе тут, распаўсюдзіўся ва ўсім азіяцкім і афрыканскім свеце, якім залогам з'явілася б гэта для вечнай дружбы і мірнага суіснавання дзяржаў! Хай жа насенні дружбы, пасеяныя ў Ташкенце, дадуць усходы, якія ўзнімуцца і на філіпінскіх астравах, на маёй любімай Радзіме. Няхай жыве дух Ташкента!

Канферэнцыя была пэўнай і даволі своеасаблівай школай для многіх дэлегатаў. Прадстаўнікі вызваленых народаў, такія таварышы, як Мао Дунь (Кітай), Хоай Тхань (В'етнам). Цендзійн Дамдзінсурэн (Манголія), прадстаўнікі народаў, якія атрымалі сваю нацыянальную незалежнасць, такія з іх, як Прамудзья Ананта Тур (Інданезія), Тара Шанкар Банерджы (Індыя), Бент Аш-Шаты (Аб'яднаная Арабская Рэспубліка) і іншыя, паведамлялі сваімі прамовамі не толькі пра новае ў сваіх літаратурах, але і ў жыцці сваіх народаў, паказвалі дэлегатам, што яно, усё гэтае новае, зусім дасягальна і для Таіланда, і для Японіі, і для Іарданіі, і для Анголы, для ўсіх тых, хто выступае супраць каланіялізма за нацыянальную незалежнасць сваёй краіны, за свабоду свайго народа.

З другога боку, гэта была школа ўзаемнага азнаямлення са станам літаратур розных краін і розных народаў. І для тых, хто ўжо выйшаў на новую дарогу свайго развіцця, і для тых, якія да гэтага імкнуцца, адчыняліся дзверы ў свет непазнаных яшчэ самацветаў творчасці, яе вынікаў, яе нацыянальных, самабытных стварэнняў.

У гэтым сэнсе вельмі цікавым было абмеркаванне і другога пункту павесткі дня канферэнцыі, які быў сфармуляваны так: «Культуры народаў Азіі і Афрыкі і іх сувязь з культурай Захаду».

Ужо самыя першыя прамоўцы па гэтай праблеме смела і рашуча выказваліся за тое, каб культурныя сувязі народаў усіх кантынентаў мацнелі і пашыраліся, каб усё лепшае, перадавое ў культуры любога, малога ці вялікага народа, рабілася здабыткам усяго чалавецтва.

— Мы, — заявіў дэлегат Кітая Чжоу Ян, — з адкрытым сэрцам падыходзім да вывучэння лепшых здабыткаў культуры другіх нацый, і ў першую чаргу да вывучэння перадавога вопыту вядучай сацыялістычнай дзяржавы — Савецкага Саюза, у якой створана бліскучая новая культура, якая ўзняла ўсю чалавечую цывілізацыю на новую гістарычную ступень.

Дэлегат Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі прафесар Махамед Халафала Ахмед, гаворачы пра гісторыю развіцця культурных сувязей паміж народамі Арабскага Усходу і народамі другіх краін, сцвярджае, што арабская культура, якая з'яўлялася ў старажытныя часы адной з вялікіх у свеце, набыла новыя каштоўнасці дзякуючы зносінам з духоўным светам другіх нацый і ў свой час узбагаціла заходнюю культуру.

— Не павінна існаваць перавагі адной культуры перад другою, — заявіў дэлегат Камбоджы Ма Лай Кхем. — Патрэбна гарманічнае суіснаванне паміж культурамі Захаду і Усходу, раўнапраўе культурных уплываў. У гэтым — прынцып мірнага суіснавання, прынцып «панча шыла».

Выступленні Сюіці Като (Японія), Прободха Кумар Саньяла (Індыя), Халілула Хан Халілі (Афганістан), Сембен Усмана (Сенегал), Хасана эль-Тахір Зарука (Судан), Махамед эль-Гарбі (Алжыр), Обер Рабенаро (Мадагаскар), Альбер Тевоеджр (Дагамея) і многіх іншых былі накіраваны ўсёй палымянасцю сваёй і неаспрэчнымі фактамі доказу супраць каланіялізма, супраць імперыялістычных «прапагандыстаў» толькі сваёй «куль-

туры», што скоўвала развіццё нацыянальных культур, адгароджвала народы ад лепшых здабыткаў перадавой культуры і рускіх, і англічан, і французаў, і ўсіх іншых народаў. Гаварылі і пра тое, што пашырэнне літаратурных і культурных сувязей паміж народамі Азіі і Афрыкі павінна асвятляць будучае гэтых народаў. Трэба ўмацоўваць сувязі з заходнімі культурамі, для таго каб садзейнічаць прагрэсу агульначалавечай цывілізацыі.

— Трэба нанава адкрыць Захад, — сказаў дэлегат В'етнама Ван Хюі Там, — пачынаючы з той самай краіны, ад імя якой нас прыгняталі ці працягваюць прыгнятаць. Што да нас, в'етнамцаў, дык мы пастараліся нанава адкрыць французскі народ, французскіх пісьменнікаў. І мы не шкадуем патрачаных намаганняў. Мы перакладаем і друкуем творы французскіх літаратараў, народжаныя ў час рэвалюцыі і эпоху Супраціўлення. І гэтыя творы натхняюць нас.

Пачуцці нацыянальнай гордасці ў дэлегатаў за ўсё добрае, высокамастацкае, гуманнае і перадавое, што ёсць у культуры свайго народа, сустрэліся на гэтай канферэнцыі з новымі іх пачуццямі — пачуццямі вялікай павагі да твораў усёй перадавой, прагрэсіўнай культуры другіх народаў, культуры высокіх ідэалаў і вялікіх мэт, якія вядуць да супрацоўніцтва дзеля міру на зямлі, вядуць да шчасця чалавека. Пісьменнікі Азіі і Афрыкі за шырокія творчыя сувязі, за ўзаемаабмен, бо яны добра ведаюць, што народы ніколі не супрацьставяць адзін аднаму свае літаратуры.

Я быў бы зусім недакладны, каб не расказаў яшчэ пра адзін бок работы канферэнцыі. Гутарка ідзе пра тое, што паміж пленарнымі пасяджэннямі, на якіх абмяркоўваліся ўжо названыя вышэй пытанні, адбываліся секцыйныя пасяджэнні камісій, якія былі ўтвораны канферэнцыяй. Гэтыя камісіі абмяркоўвалі наступныя праблемы: пашырэнне дружалюбных кантактаў паміж пісьменнікамі Азіі і Афрыкі, уклад жанчын у літаратуру; праблема дзіцячай літаратуры, яе выхаваўчае значэнне, развіццё драматургіі ў краінах Азіі і Афрыкі; сувязь радыё, кіно і тэатра з літаратурай.

На пасяджэннях камісій быў вельмі ажыўлены абмен думкамі, было многа цікавых практычных прапаноў. У камісіі па кантактах пісьменнікі Эмі Сяо (Кітай), Чатэрджы (Індыя), Мануэль Крус (Філіпіны), Бэнк Эліот (Гана), У Та Ньюнт (Бірма) і іншыя сышліся на думцы аб тым, што сустрэчы пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі павінны праводзіцца сістэматычна, што павінен быць створаны пастаянны камітэт па каардынацыі кантактаў паміж усімі літаратурамі, што трэба ўстанавіць міжнародныя прэміі за лепшыя творы пісьменнікаў двух вялікіх кантынентаў, мець час піс па пытаннях літаратуры Азіі і Афрыкі, узмацніць работу па перакладах найбольш цікавых твораў на мовы народаў двух кантынентаў.

Шмат пытанняў было ўзнята на пасяджэннях у камісіі па праблемах дзіцячай літаратуры. Старшынёю ў гэтай камісіі была адзінадушна абрана кітайская пісьменніца Се Бін-сінь — жонка Лу Сіня. Яна вельмі пранікнёна і цёпла гаварыла аб нашых дзецях, якім патрэбен мір, спакой, умовы поўнага развіцця іх фізічных і разумовых здольнасцей. Чалавецтва не мае права на сучасным этапе міжнароднай напружанасці забывацца пра гэта, пра сваю будучыню.

Горача было падтрымана выступленне прадстаўніка літаратараў Кіпра Анціаса Тэфкроса, які заявіў рашучы пратэст супраць дзяянняў амерыканскіх выдавецтваў і залежных ад іх кампаній, якія наваднялоць кніжныя рынкі так званымі «коміксамі», якія разбэшчваюць псіхалогію дзяцей, выхоўваюць у іх чалавеканенавісніцтва, з'яўляюцца сродкам падрыхтоўкі кадраў наёмных забойцаў.

...Узбекістан горача цікавіўся працай канферэнцыі пісьменнікаў краін Азіі і Афрыкі, праяўляў выключную сваю гасціннасць да



яе дэлегатаў. Увесь друк рэспублікі, радыё, тэлебачанне толькі і гаварылі аб гэтай важнай падзеі. Тэатр імя Наваі заўсёды быў запоўнены гасцямі: рабочымі і калгаснікамі, вучонымі і настаўнікамі. Ад памяшкання тэатра да гасцініцы «Ташкент» штодзень узнікаў жывы калідор, праз які праходзілі дэлегаты, цёпла вітаемыя ташкенцамі. Аўтографы і аўтографы... Тысячы кніжак з надпісамі і без апошніх разыходзіліся штодзень з базара, які быў наладжаны на плошчы супраць тэатра.

І знаёмствы... Шчырыя, сардэчныя. Знаёмствы самых простых савецкіх людзей з самымі выдатнымі пісьменнікамі і паэтамі двух вялікіх кантынентаў. І больш таго — знаёмствы з пісьменнікамі ўсіх кантынентаў. Сярод гасцей канферэнцыі былі вядомыя літаратары Балгарыі і Венгрыі, Германіі і Грэцыі, Польшчы і Італіі, Румыніі і Чэхаславакіі, Чылі і Аргенціны. Выключная павага выпала на долю вядомага прагрэсіўнага амерыканскага вучонага і пісьменніка дзевяностагадовага Уільяма Дзюбуа, з'яўленне якога дэлегаты канферэнцыі сустрэлі стоячы. Ён перадаў прывітанне ад пісьменнікаў Амерыкі, гаварыў пра тое, што пісьменнік і мастак, скульптар і музыкант — усе павінны служыць народу, змагаючыся за свабоду і прагрэс для самых шырокіх пластоў насельніцтва. Бурнымі воплескамі была ўспрынята яго заява аб тым, што капіталізм зайшоў у тупік, з якога ён ужо ніколі не выйдзе.

Госці канферэнцыі, прадстаўнікі многіх еўрапейскіх краін не толькі віталі пісьменнікаў Азіі і Афрыкі, але і прынялі актыўны ўдзел у дыскусіях, абмеркаваннях важнейшых праблем сучаснасці і літаратуры.

І зноў жа — канферэнцыя ўпершыню пазнаёміла пісьменнікаў Азіі і Афрыкі не толькі з савецкімі людзьмі, але і самімі літаратараў усіх пяці кантынентаў паміж сабою. На канцэртах, на прыёме, які быў наладжаны ўрадам Узбекскай ССР па заканчэнні другога дня работы канферэнцыі, у гасцініцы на ўсіх яе паверхах, у прэзідыуме мы бачылі, як сярод дэлегатаў і гасцей завязваліся самыя шчырыя размовы.

Рухавыя, індыйцы любяць фатаграфавацца. То яны з пісьменнікамі Кітая, то з манголамі. Праз якую паўгадзіну — яны ўжо апанавалі Барыса Палявога, Канстанціна Сіманава, Анатоля Сафронава. А яшчэ пазней іх бачыш у шчырай гаворцы з узбекскімі літаратарамі і работнікамі мастацтва. Вось Мульк Радж Ананд знаёміцца з балерынай узбекскага тэатра оперы і балету і спяшаецца паведаміць ёй, што яго жонка таксама балерына.

Суданец Махіддын Сабір затрымлівае на сцэне ў прэзідыуме Шарафа Рашыдава і гаворыць, што ён прывёз падарунак узбекскім літаратарам — рэдкія рукапісы на ўзбекскай і арабскай мовах. Рашыдаў просіць яго ўручыць гэты падарунак на з'ездзе пісьменнікаў, які адкрываецца адразу ж пасля канферэнцыі.

Больш стрыманы, чым яго землякі, Тара Шанкар Бенерджы таксама прызнаецца Рашыдаву, што і ён мае падарунак ад індыйскай акадэміі, але хоча ўручыць яго на заключным пасяджэнні канферэнцыі.

Знаёмствы, сустрэчы працягваліся на заводах, фабрыках, у калгасах, установах, дзе наладжваліся шматлікія вечары.

На заключным пасяджэнні выступілі японскі пісьменнік Эндо Сюсаку, прадстаўнік Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі Гаральд Хаузер, чэхаславацкі літаратар Ян Дрда.

Зачытваецца і прымаецца тэкст адказу канферэнцыі на прывітанні кіраўнікоў урадаў.

І вось дэлегацыя Індыі прапануе тэкст Звароту да пісьменнікаў усяго свету. Яго слухаюць дэлегаты і госці з вялікай увагай. Урачыста гучаць словы:

«Мы, пісьменнікі, — сумленне народаў. На нас ляжыць адказнасць за лёс не толькі нашых сучаснікаў, але і будучых пакален-

няў. Таму мы заклікаем вас да барацьбы супраць літаратуры цемрашальства і варожасці, якія атручваюць розум дарослых, разбэшчваюць душы нашых дзяцей.

Мы заклікаем вас ісці разам з намі наперад у пошуках праўды, прыгажосці і свабоды, якія дазволяць нам стварыць літаратуру, звязаную з жыццём народа і здольную дапамагчы яму ў барацьбе за перамогу розуму і таржаства справядлівасці на зямлі».

У адзіным парыве ўсе ўстаюць. Грымнулі, як марскі прыбой, воплескі. Потым воплескі пераходзяць у скандзіраванне. Потым уверх уздымаюцца сотні рук, сціснутых у дружалюбным яднанні. Мы бачым, што і тыя з дэлегатаў, якія на пачатку работы канферэнцыі мелі сваю «асобную» думку, цяпер захоплены гэтым гарачым парывам, гэтым адзінствам.

Шараф Рашыдаў усё ж ставіць на галасаванне праект Звароту. Зварот прымаецца аднагалосна. І з новай сілай грыміць авацыя. Бурная, імклівая...

Старшынствуючы Шараф Рашыдаў гаворыць кароткую прамову і аб'яўляе канферэнцыю закрытай.

Пасланцы народаў горача віншуюць адзін аднаго, цалуюцца з выпадку паспяховага заканчэння работы літаратурнай асамблеі двух вялікіх кантынентаў.

І няма ніякага сумнення, што магутны дух салідарнасці — дух Ташкента — будзе служыць справе з'яднання народаў у барацьбе за прагрэс чалавецтва, за мір ва ўсім свеце.

**П. ПАДБЯРЭЗСКІ**

# НА КІНАФЕСТЫВАЛІ

Пераадолеўшы высокія горныя хрыбты, моры і пустыні, з'ехаліся ў сталіцу Узбекістана — Ташкент пасланцы пятнаццаці краін на кінафестываль, каб прадэманстраваць свае дасягненні ў развіцці нацыянальнага кінамастацтва, сваё гарачае жаданне ўмацаваць і развіць творчыя сувязі і тым самым паказаць усяму свету імкненне народаў зямнога шара да дружбы і шчасця. Ад СССР у кінафестывалі краін Азіі і Афрыкі прымалі ўдзел 8 саюзных рэспублік: Азербайджан, Арменія, Грузія, Казахстан, Узбекістан, Кіргізія, Таджыкістан і Туркменія.

На кінафестываль не змаглі прыслаць сваіх дэлегатаў і фільмаў такія арабскія краіны, як Ірак, Ліван, Іярданія і некаторыя другія. Падзеі, звязаныя з агрэсіяй амерыкана-англійскіх імперыялістаў у гэтых краінах, перашкодзілі ім прыняць удзел у фестывалі. Турцыя, Іран, Ізраіль, урады якіх лёс сваіх краін звязалі з палітыкай імперыялістычных дзяржаў, палічылі за лепшае не бачыць высакародных мэт сяброўскага агляду кінамастацтва і адмовіліся ад удзелу ў фестывалі. Прадстаўнікоў ад Японіі (акрамя двух прыватных кінафірмаў) на фестывалі не было, хоць па колькасці выпускаемых фільмаў Японія займае першае месца сярод азіяцкіх краін, даючы ў год каля 500 мастацкіх фільмаў.

Гасцінна і сардэчна сустракалі сваіх дарагіх гасцей жыхары сонечнага Узбекістана. У дзень адкрыцця фестывалю пасланцоў



краін Азіі і Афрыкі і гасцей з Масквы, Ленінграда і братніх рэспублік Савецкага Саюза наведала дэлегацыя старэйшых жыхароў горада. Старэйшыны запрасілі дзеячоў кінамастацтва да сябе ў госці. У чайхане за святочным сталом адбылася першая сустрэча майстроў кіно з гледачамі. Госці расказвалі пра жыццё сваіх народаў, гаспадары пра тое, як непараўнальна сённяшняе жыццё ўзбекскага народа са змрочнай мінуўшчынай. Менш паўстагоддзя прайшло, а няма бяспраўя, прыгнёту народаў Савецкага Усходу. Непарушны, здавалася, свет старажытных феадальна-байскіх устоеў, жорсткай каланіяльнай палітыкі царскага самаўладдзя згінуў назаўсёды. Ленінская нацыянальная палітыка зрабіла небывалую ў гісторыі культурную рэвалюцыю і вывела народы гэтых краін на шырокі і вольны прастор шчаслівага жыцця.

А ўвечары машыны з удзельнікамі фестывалю і гасцямі накіраваліся на плошчу імя Леніна, на ўрачыстае адкрыццё фестывалю. Мітынг адкрыў старшыня арганізацыйнага камітэта фестывалю першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Узбекскай ССР тав. Р. Г. Гуламаў. Па даручэнню аргкамітэта дэлегацыя Кітайскай Народнай Рэспублікі — краіны, дзе ўпершыню быў пакладзены пачатак кінафестываляў краін Азіі і Афрыкі — уздымае ружовы сцяг фестывалю. Факел фестывалю даручана было запаліць дэлегатам Рэспублікі Індыі.

Пасля мітынгу ўсе ідуць на ўрачыстае пасяджэнне ў летні шырокаэкранны кінатэатр «Іскра». За сталом прэзідыума члены аргкамітэта фестывалю, кіраўнікі партыі і ўрада Узбекістана кіраўнікі дэлегацый зарубежных краін, Міністр культуры СССР Н. А. Міхайлаў, пачэсны госць фестывалю Поль Робсан і другія. Віншаванні і прамовы поўныя сардэчнай цеплыні і веры ў лепшае заўтра.

Згодна ўставу фестывалю, паказ фільмаў адбываўся па краінах у алфавітным парадку.

Маладое яшчэ кінамастацтва такіх краін, як Бірмы, В'етнама, Марока, Мангольскай Народнай Рэспублікі, Цэйлона. Некаторыя з гэтых краін прывезлі на фестываль нават першыя свае фільмы. Так, Дэмакратычная Рэспубліка В'етнам не мае пакуль што мастацкіх фільмаў, але паказаныя ёю дакументальныя творы «Мірнае жыццё прыйшло ў горнае паселішча», «Алавяныя руднікі Као Банг», «Выстаўка саматужных вырабаў ДРВ» і «Ліквідацыя непісьменнасці» далі магчымасць гледачам падрабязна азнаёміцца з жыццём, культурай, поспехамі ў народнай гаспадарцы В'етнама за гады свайго вольнага жыцця. Асабліва цікавы і запамінальны фільм аб выстаўцы саматужных вырабаў. Што толькі не вырабляе працавіты в'етнамскі народ! І яркія баваўняныя і шаўковыя тканіны, і цудоўная мастацкая разьба, і прадметы хатняга ўжытку, і шмат, шмат іншых рэчаў, зробленых рукамі народных умельцаў.

Бірманскае кінамастацтва выйшла на міжнародную арэну толькі ў 1957 годзе на кінафестывалі ў Карлавых Варах. Паказаныя ім у Ташкенце два кароткаметражныя фільмы і мастацкі поўнаметражны «Сёстры-блізняты» сведчаць аб пошуках свайго, адметнага ў кінамастацтве. Сюжэт карціны складаны. Майстэрства акцёраў, аператара прыцягваюць увагу гледачоў. Фільм знаёміць з бытам далёкай, малавядомай нам краіны, яе людзьмі, іх жыццём.

З краін афрыканскага кантынента першай паказала свае фільмы Марока. Са звычаямі, абрадамі, танцамі, маляўнічай прыродай краіны пазнаёміў фільм «Дачка шафёра». Гэта мастацкая мініяцюра, нібы кінанавела пазнавальна-этнаграфічнага характару. Разам з мараканскай кіназоркай, вандроўнымі музыкамі і сялянамі горнага паселішча прайшлі кінагледачы па краіне, убачылі на экране цудоўную яркую зеляніну горных лясоў, чырванаватых скал, лёгкую перадраніцнюю смугу над імі, незабыўны блакіт усходняга неба. Ведаюць і паважаюць у Марока і

рускую літаратуру. Калектыў маладых артыстаў экранізаваў «Рэвізора» Гогаля.

Кінематаграфіі Цэйлона ўсяго 10 год. Цяпер там дзейнічаюць чатыры кінастудыі, якія даюць па 12—15 мастацкіх фільмаў у год. На Цэйлоне 200 кінатэатраў. Паказаныя на фестывалі дакументальныя фільмы «Архітэктура Цэйлона» і два мастацкія — «Суратхалі» і «Ваналія» («Дзяўчына джунгляў»)—былі ўспрыняты зусім па-рознаму. Майстэрскі зроблены фільм пра старажытную, класічную і новую архітэктуру. Фільм «Суратхалі» ў нейкай меры можна яшчэ назваць мастацкім. Але фільм «Ваналія», дзе аўтар сцэнарыя, рэжысёр-пастаноўшчык, дырэктар карціны і выканаўца загалоўнай ролі адзін чалавек — Б. А. Джаямані, быў рэзка раскрытыкаваны ўдзельнікамі фестывалю і гледачамі як узор заходняй кінамакулатуры. Таксама адмоўную ацэнку атрымаў пакістанскі фільм «Катыл» («Забойца»), дзе аўтары, відаць, прытрымліваліся ўзору галівудскай дэтэктыўнай эквілібрыстыкі. Трэба спадзявацца, што гэтая аднадушная ацэнка прымусіць цэйлонскіх і пакістанскіх кінамайстроў зрабіць належныя вывады на будучае.

Наадварот, паказаныя пакістанцамі дакументальны фільм пра сваю краіну і кароткаметражны з удзелам у галоўнай ролі вядомай спявачкі і танцаўшчыцы Нур Джахан выклікалі ўсеагульнае захапленне. Гэта не дзіўна. Нур Джахан многа вандравала па сваёй краіне, вывучала народнае мастацтва. У кіно яна здымаецца з 7 год, больш чым 30 фільмаў знята з яе ўдзелам. Сваім таленавітым выкананнем нацыянальных песняў і танцаў народаў Пакістана яна заваявала сэрцы гледачоў і слухачоў.

У стадыі развіцця знаходзіцца і кінематаграфія Мангольскай Народнай Рэспублікі. Там дзейнічае ўсяго адна кінастудыя «Манголкіно», якая выпусціла ў гэтым годзе два мастацкія, чатыры кароткаметражныя фільмы і дваццаць частак хронікі. Мангольскія кінематографісты — выхаванцы нашых, савецкіх кінаінстытутаў, вучні савецкіх майстроў кіно. Працяглы час у Манголіі працавалі нашы вядомыя кінадзеячы Ю. В. Тарыч, А. Г. Зархі і іншыя. Мастацкі фільм «Ля парога жыцця» (рэжысёр Гендун), паказаны на фестывалі, прысвечаны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і брацкай бескарыснай дапамозе Савецкага Саюза мангольскаму народу ў развіцці яго гаспадаркі, культуры, навукі.

Нашы інданезійскія сябры вялікую цікавасць выклікалі паказам дакументальнага фільма «Паездка прэзідэнта Сукарна ў Заходні Ірыян», які знаёміў гледачоў з прыроднымі багаццямі асобных правінцый Інданезіі, звычаямі, абрадамі яе насельніцтва, і мастацкім — «Туранг» («Патрыёты») пра барацьбу інданезійскага народа за сваю незалежнасць.

Наш глядач шчыра палюбіў егіпецкія і індыйскія фільмы.

Кінамастацтва Егіпта на фестывалі было паказана каляровым шырокаэкранным фільмам пра нацыянальнага героя арабскіх краін, які выйшаў з самых глыбінь народа — «Халед ібн эль Валед» у пастаноўцы вядомага рэжысёра Хусейна Сідкі (ён жа сааўтар сцэнарыя і выканаўца галоўнай ролі). Быў паказаны і дакументальны фільм «Мастак Мухамед Надзі» пра вялікага сына арабскага народа мастака-наватара, пра яго творчыя пошукі.

Кінамастацтва Індыі, як вядома, найбольш развітае сярод краін Азіі. Яно мае свой стыль і традыцыі. Майстэрства індыйскіх рэжысёраў, артыстаў, аператараў, кампазітараў даўно атрымалі належную ацэнку ў савецкага гледача. Цёпла і сардэчна былі прыняты тыя творы, якія паказалі нашы індыйскія сябры на фестывалі.

Адна з самых прыемных рысаў кінематаграфіі Кітая — яе нацыянальная самабытнасць, непаўторная своеасаблівасць, страснасць у паказе людзей і жыцця народа, творчыя пошукі новых тэм і форм. Таму з такой вялікай цікавасцю



чакалі ўдзельнікі фестывалю фільмаў нашых кітайскіх сяброў. Кінамастацтва Кітая знаходзіцца цяпер на ўздыме. У краіне працуе дзевяць буйных дзяржаўных кінастудый. Апрача таго, у розных гарадах краіны нямала прыватных студый. У гэтым годзе заканчваецца будаўніцтва магутнага кінапрадпрыемства ў Кантоне. Кітайскія кінематаграфісты паказалі чатыры дакументальныя і адзін мастацкі фільм «Лань-лань і Дун-Дун», пра клопаты народа аб падрастаючым пакаленні.

Дакументальны фільм — «Паход жыхароў Пекіна супраць вераб'ёў» расказаў пра барацьбу насельніцтва з гэтым злачынцам палёў і садоў. Не кожны ведае, што вераб'і ў Кітаі, падобна трусам у Аўстраліі, прыносяць вялікую шкоду сельскай гаспадарцы. І невыпадкова таму на барацьбу з імі мабілізавана ўсё насельніцтва. Фільм расказвае, як жыхары кітайскай сталіцы за адны суткі знішчылі каля сямісот тысяч гэтых пражэрных драпежнікаў.

З вялікай публіцыстычнай страснасцю расказваецца ў другім дакументальным фільме «Голас шасцісотмільённага народа» аб гнеўным пратэсце працоўных Кітая супраць амерыкана-англійскай агрэсіі на Сярэднім і Блізкім Усходзе.

Такі ж, насычаны публіцыстычнай страснасцю і пратэстам супраць агрэсараў мастацкі фільм «Шлях адной», створаны нашымі сябрамі з Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі.

На кінафестывалі паказалі несумненны рост свайго кінамастацтва, нацыянальнага па форме і сацыялістычнага па зместу, нашы Савецкія Саюзныя рэспублікі Усходу. Паказаныя імі фільмы розныя па сваёй тэматыцы, жанрах, творчаму вырашэнню і прафесійных якасцях: гэта гісторыка-рэвалюцыйныя карціны і кінатворы пра выдатных дзеячоў, музычныя камедыі і фільмы-казкі, дакументальныя хронікі аб сённяшнім усходніх саюзных рэспублік.

Удзельнікі фестывалю далі высокую ацэнку савецкім фільмам. Замежныя пракатныя фірмы ў час фестывалю набылі шэраг кінафільмаў нашых азіяцкіх рэспублік для дэманстрацыі ў сваіх краінах.

У часе фестывалю адбыліся шматлікія сустрэчы з рабочымі, калгаснікамі, работнікамі мастацтва, экскурсіі на прамысловыя прадпрыемствы, у калгасы, саўгасы і музеі.

Замежныя госці сваімі вачыма ўбачылі тыя вялікія пераўтварэнні, што адбыліся за гады савецкай улады ў раней забітых і паднявольных правінцыях царскай Расіі.

І таму зусім заканамернымі былі словы главы інданезійскай дэлегацыі Хар'ёта аб тым, што: «фестываль у Ташкенце адкрыў нам вочы на многія з'явы». Добра сказаў аб значэнні фестывалю кіраўнік індыйскай дэлегацыі К. Л. Кхандпур: «Тут, на фестывалі, у нас нарадзілася думка аб неабходнасці цеснага супрацоўніцтва паміж дзеячамі кіно розных краін. Мы маем намер запрасіць савецкіх калег здымаць фільмы ў сваёй краіне і, у сваю чаргу, гатовы паехаць на вашы нацыянальныя кінастудыі».

У краінах Азіі і Афрыкі ў цяперашні час здымаецца больш паловы ўсіх выпускаемых у свеце кінафільмаў. У 1957 годзе ва ўсім свеце было створана каля трох тысяч поўнаметражных мастацкіх фільмаў, з якіх 1 600 прыходзіцца на долю азіяцкіх і афрыканскіх краін. Зразумела таму, якое вялікае значэнне меў кінафестываль, што адбыўся ў Ташкенце, для справы міру, для развіцця культуры, мастацтва краін двух кантынентаў, для развіцця дружбы і супрацоўніцтва паміж народамі.

*У свеце мастацтва*

# ЭСТРАДА ДА САРАКАГОДДЗЯ

Створаны пры Белдзяржэстрадзе маладзёжны ансамбль, які выязджаў у свае першыя гастролі па рэспубліцы, падрыхтаваў новую праграму, прысвечаную нацыянальнаму святу беларускага народа. Кампазітар Д. Камінскі напісаў для новага ансамбля Беларускую рапсодыю, у якой распрацаваны тэмы беларускіх народных песень і танцаў. Асабліва прыгожа гучыць у ансамблі тэма вядомай песні «Зорка Венера». Некалькі цікавых твораў стварыў і кампазітар Я. Глебаў. Яго музыка вызначаецца ўсхваляванасцю, іскрамётнасцю і вясёлай грацыёзнасцю. Да музычнага фельетона «Шаша Мінск — Масква» музыка, напісаная кампазітарам Ю. Семянякам, асабліва пявучая і выразная, калі са сцэны гучаць урыўкі з вядомага верша Янкі Купалы «Дарогі». Маладым кампазітарам Л. Молерам напісана «Вячэрняя песня», якую выконвае спявачка В. Гаскарава.

Вакальнае трыё сясцёр Логінавых, вакальны дуэт (артысткі В. Александровіч і В. Лісneўская), спявачкі Н. Наследнік, Т. Ванецян, І. Вішнеўская і іншыя падрыхтавалі шмат твораў самай разнастайнай тэматыкі. Тут і жартоўныя песні, і задушэўныя песні Ю. Семянякі, і задуменныя песні Я. Глебава, і рамансы старэйшага пакалення беларускіх кампазітараў. З цікавым рэпертуарам выступіць артыст П. Валошын. У яго выкананні хараша гучаць песні І. Любана «Толькі з табою» і «Цёмная ноч» (з кінафільма «Палеская легенда»), песні Ю. Семянякі і многія іншыя. Змястоўную праграму падрыхтавалі спевакі Р. Федчык і Э. Міцуль. Побач з эстраднымі песнямі артысты выконваюць творы опернай і камернай класікі.

Многа працуюць і артысты так званага размоўнага жанру. Вясёлы, па-сапраўднаму смешны скетч «Тры гады» для артыстаў В. Міхеда і М. Гільзінец напісаў М. Скрыпка. Над новымі фельетонамі, куплетамі і гумарэскамі працуюць канферанс'е М. Зорын, Р. Дыдэнка, М. Шышкін. Дзве эстрадныя брыгады, якія абслугоўваюць выключна калгасы, уключылі ў свой рэпертуар вершы беларускіх паэтаў М. Танка, П. Панчанкі, К. Кірэенкі, С. Дзяргая, байкі У. Корбана і Э. Валасевіча. Беларускія творы сталі дамініруючымі ў рэпертуары амаль усіх эстрадных брыгад.

Ансамбль аперэты ажыццявіў пастаноўку новай беларускай музычнай камедыі «Алазанская даліна» (музыка Ю. Бяльзацкага, лібрэта М. Зорына па аднайменнай п'есе К. Губарэвіча і І. Дорскага). Рэжысёр С. Гурыч, мастак заслужаны дзеяч мастацтваў БССР П. Масленікаў і калектыў ансамбля стварылі прыемны спектакль, добра прыняты грамадскасцю.

Як вядома, у эстрадных канцэртах прымаюць удзел артысты самых розных жанраў. Рыхтуюцца новыя танцы і пантамімы. Майстры спорту СССР В. Ржэўскі і Н. Цімафеева выступяць з складанымі акрабатычнымі эцюдамі. Маладыя артысты С. Конгра і В. Гільзінец закончылі работу над некалькімі спартыўнымі танцамі.



Не забыліся ў эстрадзе і пра дзяцей. Для абслугоўвання дзіцячых садоў і школ (пераважна сельскіх) выехалі дзве брыгады — лялечная і паўцыркавая.

У месячніку беларускай музыкі калектывы Белдзяржэстрады прымуць самы актыўны ўдзел. Эстрадныя брыгады пранікаюць у самыя глухія куткі рэспублікі, якія часам абмінаюцца іншымі прафесійнымі калектывамі. Толькі ў калгасах за апошнія дзевяць месяцаў праведзена 870 канцэртаў замест 750 прадугледжаных планам.

Безумоўна, далёка не ўсё бездакорна ў творчасці эстрадных артыстаў. З гэтым праводзіцца вялікая барацьба. Трэба спадзявацца, што святочны зводны канцэрт, які будзе паказан сталічнаму гледачу ў дні святкавання 40-годдзя БССР, вызначыцца высокімі эстэтычнымі якасцямі.

**Н. АХРАМЧУК.**

# НАВЕДАЕМ „БЕЛАРУСЬФІЛЬМ“

Калі вы наведаеце кінастудыю «Беларусьфільм», то пераканаецеся, што яе калектыў жыве напружаным і цікавым жыццём.

У спецыяльнай гуканепранікальнай зале ідзе запіс чарговага нумара часопіса «Савецкая Беларусь». Рыхтуецца кароткаметражны фільм пра выпускнікоў сярэдніх школ «Яны выходзяць у жыццё». А на двары збіраецца ў экспедыцыю здымачная група кінанарыса «Партызаны сустракаюцца зноў». Ёй трэба будзе праехаць па баявых сцежках былых народных мсціўцаў.

«Сёння, у 19 гадзін, на кінастудыі адбудзецца грамадскі прагляд новага мастацкага фільма «Чырвонае лісце»,— прачыталі мы на дошцы аб'яў. І ўспомнілася, што яшчэ не так даўно, у адзін з вясновых дзён, грамадскасць Мінска тут упершыню знаёмілася з кінакарцінай «Шчасце трэба берагчы». Яшчэ не скончыліся дыскусіі па гэтаму твору, а кінастудыя прапануе гледачу ўжо новы фільм. Аўтары сцэнарыя беларускія пісьменнікі А. Куляшоў і А. Кучар, пастаноўшчык фільма рэжысёр У. Корш-Саблін, аператар Ю. Фогельман, мастакі А. Грыгар'янц і У. Белавусаў, кампазітар М. Крукаў і выканаўцы роляў шмат папрацавалі, каб новы кінатвор быў цікавым. Фільм «Чырвонае лісце» шчыра і пранікнёна расказвае пра барацьбу працоўных заходніх абласцей Беларусі ў часы панскай Польшчы. Лёс беднага сялянскага юнака Андрэя Мяцельскага, яго каханай, сціплай і мужнай вясковай дзяўчыны Стасі, не можа пакінуць абыякавым кожнага з нас. Гледачу цікава сустрэцца з многімі папулярнымі артыстамі, якія заняты ў фільме «Чырвонае лісце». У вобразе галоўнага героя мы пазнаем артыста Э. Павулса, з якім раней сустракаліся ў фільме «Сын рыбака», у вобразе яго сяброўкі Стасі — І. Арэпіну, спявачкі Ядвігі — К. Лучко. З радасцю яшчэ раз сустрэнемся мы з вядомым акцёрам М. Жаравым, беларускімі артыстамі Е. Карнаухавым, І. Бірылам, Б. Кудраўцавым і іншымі.

А зараз паспяшаемся ў павільён кінастудыі. «Цішэй! Ідуць здымкі», — абвяшчае надпіс-сігнал перад уваходам. Не парушаючы цішыні, заходзім у павільён. Адразу цяжка разгледзець, што тут адбываецца — ад моцных «юпіта-

раў» жмурацца вочы. Праз некалькі хвілін зрок прызвычайваецца, і мы бачым раздзелены на дзве часткі невялікі павільён: злева пастаноўшчык фільма «Гадзіннік спыніўся апоўначы» М. Фігуроўскі дае парады маладой артыстцы тэатра Янкі Купалы Р. Гладунко, як трымацца перад кінаапаратам, справа — здымаецца сцэна з кінаповесці «Строгая жанчына».

Аб чым раскажуць гэтыя творы? Хто іх стварае?

Асаблівасцю сучаснага савецкага кінамастацтва з'яўляецца тое, што ў ім побач з праслаўленымі майстрамі актыўна працуе моладзь. Маладыя сцэнарысты, рэжысёры, аператары, акцёры стварылі нямала сапраўды мастацкіх кінатвораў. Прыгадаем хоць бы такія фільмы апошніх год, як «Павел Карчагін», «Вясна на Зарэчнай вуліцы», «Гэта пачыналася так», «Дом, у якім я жыву». Багата маладых талентаў і на нашай кінастудыі. Пазнаёмімся з імі.

— Яшчэ калі я быў студэнтам інстытута кінематаграфіі, — гаворыць М. Фігуроўскі, — мяне цікавіла тэма гераізму савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны. Таму пасля заканчэння інстытута я з задавальненнем прыняў прапанову ставіць на студыі «Беларусьфільм» сумесна з рэжысёрам Л. Голубам карціну «Дзеці партызана».

...Потым маладога кінематаграфіста захапіла тэма таленту з народа, і ён напісаў сцэнарый «Пеўчыя людзі». Хоць сцэнарый і не быў пастаўлены, але ён сведчыў аб несумненных здольнасцях аўтара. Гэта пацвердзілася і ў часе Усесаюзнага конкурсу на лепшыя сцэнарыі, прысвечанага 40-й гадавіне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Сцэнарый М. Фігуроўскага «Вогненныя вёрсты» адзначаны на конкурсе другой прэміяй.

Больш складаным аказаўся шлях да рэжысёрскага мастацтва. Малады рэжысёр горача перажываў няўдачу з экранізацыяй кнігі Г. Нікалаевай «Аповесць пра дырэктара МТС і галоўнага аграно-ма». Неўзабаве яму разам з другім маладым рэжысёрам, выхаванцам інстытута кінематаграфіі П. Васілеўскім, была даручана пастаноўка фільма па матывах шырока вядомага апавядання В. Караленкі «Лес шуміць». У мінулым годзе карціна гэтая выйшла на экраны пад назвай «Палеская легенда». Гледачы і крытыка прынялі яе добразычліва, хоць і не без папрокаў у адрас аўтараў. Сапраўды, фільм «Палеская легенда» ўвогуле нядрэнны. Сцэнарыст А. Вітаў, рэжысёры М. Фігуроўскі і П. Васілеўскі, аператар У. Акуліч і выканаўцы роляў данеслі асноўны змест першакрыніцы фільма. Але фільм мог бы быць значна лепшым. У маладых пастаноўшчыкаў, відаць, на гэта не хапіла прафесійнага майстэрства.

— На памылках вучацца, — жартуюць маладыя рэжысёры, калі гутарка ідзе аб недахопах у іх творчай рабоце.

Не будзем папракаць М. Фігуроўскага за ранейшыя хібы ў рабоце, а пацікавімся яго працай над новым кінафільмам. Вядома, што ад таленту, майстэрства, вытворчых навыкаў пастаноўшчыкаў у значнай ступені залежыць якасць кінатвора. Адказнасць жа М. Фігуроўскага за фільм «Гадзіннік спыніўся апоўначы» тым большая, што ён выступае тут і як сцэнарыст і як пастаноўшчык. З першым этапам работы над фільмам малады кінематаграфіст справіўся паспяхова: разам з драматургам А. Кучарам ён напісаў даволі цікавы кінасцэнарый.

— У новым фільме, — гаворыць пастаноўшчык, — мы хочам паказаць ворагаў, як кажуць, знутры. Знешне гэта будуць зусім прыстойныя, «цывілізаваныя» людзі. Агідная, звярыная сутнасць гаўляйтара фон Кауніца (так называецца ў фільме гітлераўскі генеральны камісар) і яго хаўруснікаў выявіцца праз іх справы, праз канкрэтныя ўчынкі. Фашыстам супрацьпастаўляюцца простыя савецкія людзі, маладыя патрыёты. Без хістанняў аддае сваё



жыццё за радзіму юнак Мікалай, у імя яе ідуць на цяжкае выпрабаванне камсамолка Марына Казаніч, рабочы Верхаводка і іншыя.

А чаму прысвячаецца фільм «Строгая жанчына»?

— Магчыма, ён выйдзе на экраны пад іншай назвай, — сказаў нам рэжысёр-пастаноўшчык І. Шульман. «Строгай жанчынай» назваў свой сцэнарый М. Блісцінаў, калі ў мінулым годзе прадстаўляў яго на Усесаюзны конкурс. Прыступаючы да здымкаў, мы разам з аўтарам значна перапрацавалі сцэнарый, тое-сёе змянілі ў ім. Але асноўная накіраванасць твора — паказаць жыццёвы шлях простай савецкай жанчыны — засталася ранейшай. Галоўная гераіня Хрысціна Жалюк, былая калгасніца, прызначана старшынёй аднаго з сельскіх Саветаў на Палессі. Шмат цяжкасцей у працы давялося ёй пераадолець. Нямала было ў гераіні асабістых непрыемнасцей. Але нішто не зламала яе сілы, яе волі зрабіць для людзей як мага больш карысных спраў. Вялікая шчырасць, сардэчнасць і разам з тым вытрымка, сіла волі ў Хрысціны Жалюк. Хочацца верыць, што гэтыя якасці данясе да гледача артыстка аднаго з лепшых мастацкіх калектываў нашай краіны — Малага акадэмічнага тэатра СССР В. Харкова. На іншыя ролі запрошаны артысты кіно і тэатраў нашай рэспублікі. Сярод іх і выдатны майстар беларускай сцэны Г. Глебаў. Кінакарціна «Строгая жанчына» прысвячаецца 40-годдзю БССР.

А яшчэ над чым працуе сёлета кінастудыя «Беларусьфільм»?

— Нягледзячы на вытворчыя цяжкасці, здымаецца яшчэ адна — чацвёртая па ліку — мастацкая кінакарціна. Яна будзе падарункам юным гледачам. Назва яе «Дзяўчынка шукае бацьку». Аўтары сцэнарыя К. Губарэвіч і Я. Рыс праз займальны сюжэт, цікавыя вобразы апавядаюць аб незабыўных падзеях Вялікай Айчыннай вайны — аб выратаванні маленькай дачкі партызанскага камандзіра з рук фашыстаў. Пастаноўка фільма даручана рэжысёру Л. Голубу, які вядомы нам па кінакарцінах «Дзеці партызана» і «Міколка-паравоз». Здымаюць фільм «Дзяўчынка шукае бацьку» маладыя аператары А. Аўдзееў і І. Пікман.

Калі мы выйшлі з павільёна кінастудыі і спыніліся перад дзвярыма з надпісам: «Сцэнарны аддзел», нам падумалася: тут, відаць, таксама кіпіць работа. Але на гэты раз спадзяванні нашы не апраўдаліся — у сцэнарным аддзеле панавала зацішша: не чутно было спрэчак па новых сцэнарыях, не відно аўтараў. Тут не маглі назваць амаль ніводнага гатовага да пастаноўкі кінасцэнарыя.

— Нам абяцалі напісаць многія, — тлумачыць адзін з рэдактараў аддзела, — М. Лужанін. І. Шамякін, А. Макаёнак, Б. Бур'ян і іншыя аўтары, але пакуль што не напісалі. А час не чакае — спатрэбяцца сцэнарыі для новых пастановак.

З завяршэннем будаўніцтва новай кінастудыі наша рэспубліка будзе мець вытворчыя магчымасці давесці выпуск мастацкіх кінафільмаў да 6 — 7 у год. Для такой пашыранай праграмы спатрэбіцца ўдвая больш кінаспецыялістаў. Яны будуць, калі зараз смела вылучаць на самастойную работу здольную моладзь, калі клапатліва расціць яе, выхоўваць. Не зніжаючы патрабавальнасці, не робячы скідак на маладосць, кіраўнікі і старэйшыя творчыя работнікі студыі абавязаны ўважліва сачыць за работай маладых, дапамагаць ім набыць неабходны вопыт і майстэрства.

**Ф. БОНДАРАВА.**

ЗМЕСТ

**Насустрач камунізму.** (Перадавы артыкул) . . . . . . . 3
**Пятрусь Макаль.** Ільіч падпісвае дэкрэт. Верш. . . . . 6
**Пятро Прыходзька.** Мая Беларусь! Верш. . . . . . . 7
**Тарас Хадкевіч.** Красуй, Беларусь! . . . . . . . 9
**Артур Вольскі.** Скарб мой. Верш. . . . . . . . 16
**Ніл Гілевіч.** Водпаведзь. Верш. . . . . . . . . 17
**Ў адной сям'і, авеяная славай, красуйся, беларуская зямля!** Прывітанні. . . . . . . . . . . . . . . . . 19
**Юрась Свірка.** Родны край. Верш. . . . . . . . 26
**Уладзімір Паўлаў.** У адным страі. Верш. . . . . . . 27
**Усевалад Краўчанка.** Зорка Венера. Апавяданне. . . . 28
**Сяргей Грахоўскі.** Беларусь. Верш. . . . . . . . 41
**Васіль Быкаў.** Загад. Апавяданне. . . . . . . . 43
**Язэп Пушча.** Бяседная. Верш. . . . . . . . . 49
**Іван Пташнікаў.** На шчасце. Апавяданне. . . . . . 50
**Іван Сіпакоў.** Бацькаўшчына. Кожны дзень. Адгукніся. Весняе рэха. Вершы. . . . . . . . . . . . 59
**Іван Навуменка.** Прыпяцкая зона. Апавяданне. . . . . 62
**Лявон Яўменаў.** Над Таболам. Роздум. ...Вунь яна, дзяўчына невысокая. Бору. Вершы. . . . . . . . 70
**М. Шкляр.** Слаўны шлях. . . . . . . . . . 73
**Лічбы нашых перамог.** . . . . . . . . . . . . 81
**С. Кухараў.** Эстафета бацькоў. Нарыс. . . . . . . 88
**Мікола Дастанка.** Подзвігі тваіх равеснікаў. . . . . 99
**М. Марушкевіч, У. Маяровіч.** Восень юбілейная. . . . . 105
**Д. Фактаровіч.** Сусветнае гучанне беларускай літаратуры . 111
**Янка Брыль.** Партрэт старэйшага таварыша. Нарыс. . . 120

**Камсамольская трыбуна**

**Л. Смілавіцкі.** Савецкая ўлада — моладзі. . . . . . . 138
**А. Хахлоў.** У навуку ідуць маладыя. . . . . . . . 142

**З блакнота падарожніка**

**Павел Кавалёў.** Літаратурная асамблея двух вялікіх кантынентаў. . . . . . . . . 145
**П. Падбярэзскі.** На кінафестывалі. . . . . . . . 152

**У свеце мастацтва**

**Н. Ахрамчук.** Эстрада да саракагоддзя. . . . . . . . 156
**Ф. Бондарава.** Наведаем «Беларусьфільм». . . . . . 157

**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабі сам!».**





У. І. ЛЕНІН.